# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ



ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ



ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА
СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ДВАНАЦЦАТАЯ*



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1936

# І. В. СТАЛІН

## Аб праекце Канстытуцыі Саюза ССР

**Даклад на Надзвычайным VIII Усесаюзным З'ездзе Советаў 25 лістапада 1936 г.**

**(Паяўленне тав. СТАЛІНА на трыбуне сустракаецца працяглай бурнай авацыяй усёй залы. Уся зала ўстае. З усіх бакоў нясуцца крыкі: „Ура т. СТАЛІНУ!“ „Няхай жыве тав. СТАЛІН!“ „Няхай жыве Вялікі СТАЛІН!“ „Вялікаму генію тав. СТАЛІНУ ура!“ „Віват!“ „Рот фронт!“ „Тав. СТАЛІНУ слава!“)**

## I. УТВАРЭННЕ КАНСТЫТУЦЫЙНАЙ КАМІСІІ І ЯЕ ЗАДАЧЫ

Таварышы!

Канстытуцыйная Камісія, праект якой прадстаўлен на разгляд данага З'езда, была ўтворана, як вядома, па спецыяльнай пастанове VII З'езда Советаў Саюза ССР. Пастанова гэтая была прынята 6 лютага 1935 года. Яна гаворыць:

«1. Унесці ў Канстытуцыю Саюза ССР змены ў напрамку:

а) далейшай дэмакратызацыі выбарчай сістэмы ў сэнсе замены не зусім роўных выбараў роўнымі, многаступенных—прамымі, адкрытых—закрытымі;

б) удакладнення соцыяльна-эканамічнай асновы Канстытуцыі ў сэнсе прывядзення Канстытуцыі ў адпаведнасць з цяперашнімі суадносінамі класавых сіл у СССР (стварэнне новай соцыялістычнай індустрыі, разгром кулацтва, перамога калгаснага ладу, уцвярджэнне соцыялістычнай уласнасці, як асновы совецкага грамадства і т. п.).

2. Прапанаваць Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту Саюза ССР выбраць Канстытуцыйную Камісію, якой даручыць выпрацаваць выпраўлены тэкст Канстытуцыі на ўказаных у пункце першым асновах і ўнесці яго на зацверджанне Сесіі ЦВК Саюза ССР.

3. Бліжэйшыя чарговыя выбары органаў савецкай улады ў Саюзе ССР правесці на аснове новай выбарчай сістэмы».

Гэта было 6 лютага 1935 года. Праз дзень пасля прыняцця гэтай пастановы, г. зн. 7 лютага 1935 года, сабралася Першая Сесія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза ССР і, у выкананне пастановы VII З'езда Саветаў СССР, утварыла Канстытуцыйную Камісію ў колькасці 31 чалавека. Яна даручыла Канстытуцыйнай Камісіі выпрацаваць праект выпраўленай Канстытуцыі СССР.

Такавы фармальныя падставы і дырэктывы вярхоўнага органа СССР, на базе якіх павінна была разгарнуць сваю работу Канстытуцыйная Камісія.

Такім чынам Канстытуцыйная Камісія павінна была ўнесці змены ў цяпер дзейнічаючую Канстытуцыю, прынятую ў 1924 годзе, улічыўшы пры гэтым тыя зрухі ў жыцці Саюза ССР у бок соцыялізма, якія былі ажыццёўлены за перыяд ад 1924 года да нашых дзён.

## II. ЗМЕНЫ У ЖЫЦЦІ СССР ЗА ПЕРЫЯД АД 1924 ГОДА ДА 1936 ГОДА

Якія-ж тыя змены ў жыцці СССР, якія ажыццявіліся за перыяд ад 1924 года да 1936 года і якія павінна была адлюстраваць Канстытуцыйная Камісія ў сваім праекце Канстытуцыі?

У чым сутнасць гэтых змен?

Што мелі мы ў 1924 годзе?

Гэта быў першы перыяд НЭП'а, калі Савецкая ўлада дапусціла некаторае ажыўленне капіталізма пры ўсямерным развіцці соцыялізма, калі яна разлічвала на тое, каб у ходзе спаборніцтва двух сістэм гаспадаркі, капіталістычнай і соцыялістычнай, арганізаваць перавагу соцыялістычнай сістэмы над капіталістычнай. Задача заключалася ў тым, каб у ходзе гэтага спаборніцтва ўмацаваць пазіцыі соцыялізма, дабіцца ліквідацыі капіталістычных элементаў і завяршыць перамогу соцыялістычнай сістэмы, як асноўнай сістэмы народнай гаспадаркі.

Наша прамысловасць прадстаўляла тады незавідную кар-

цiну, асабліва цяжкая прамысловасць. Праўда, яна аднаўлялася патроху, але далёка яшчэ не давяла сваёй прадукцыі да даваеннага ўзроўню. Яна базіравалася на старой адсталай і небагатай тэхніцы. Вядома, яна развівалася ў бок соцыялізма. Удзельная вага соцыялістычнага сектара нашай прамысловасці складала тады каля 80 процантаў. Але сектар капіталізма меў усё-ж за сабой не менш 20 процантаў прамысловасці.

Наша сельская гаспадарка прадстаўляла яшчэ больш непрыглядную карціну. Праўда, клас памешчыкаў быў ужо ліквідаваны, але затое клас сельскагаспадарчых капіталістаў, клас кулакоў, прадстаўляў яшчэ даволі значную сілу. У цэлым сельская гаспадарка напамінала тады неабсяжны акіян дробных аднаасобных сялянскіх гаспадарак з іх адсталай сярэдневяковай тэхнікай. У гэтым акіяне ў выглядзе асобных кропак і астраўкоў існавалі калгасы і соўгасы, якія не мелі яшчэ, уласна кажучы, колькі-небудзь сур'ёзнага значэння ў нашай народнай гаспадарцы. Калгасы і соўгасы былі слабы, а кулак быў яшчэ ў сіле. Мы гаварылі тады не аб ліквідацыі кулацтва, а аб яго абмежаванні.

Тое-ж самае трэба сказаць адносна тавараабароту ў краіне. Соцыялістычны сектар у тавараабароце складаў якіх-небудзь 50—60 процантаў,—не больш, а ўсё астатняе поле было занята купцамі, спекулянтамі і іншымі прыватнікамі.

Такава была карціна нашай эканомікі ў 1924 годзе.

Што мы маем цяпер, у 1936 годзе?

Калі мы мелі тады першы перыяд НЭП'а, пачатак НЭП'а, перыяд некаторага ажыўлення капіталізма, то мы маем цяпер апошні перыяд НЭП'а, канец НЭП'а, перыяд поўнай ліквідацыі капіталізма ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі.

Пачаць хоць-бы з таго, што наша прамысловасць вырасла за гэты перыяд у гіганцкую сілу. Цяпер ужо нельга назваць яе слабай і тэхнічна дрэнна аснашчонай. Наадварот, яна базіруецца цяпер на новай, багатай сучаснай тэхніцы з вельмі развітай цяжкай індустрыяй і яшчэ больш развітым машынабудаўніцтвам. Самае-ж галоўнае ў тым, што капіталізм выгнан зусім са сферы нашай прамысловасці, а соцыялістычная форма вытворчасці з'яўляецца цяпер безраздзельна пануючай сістэмай у галіне нашай прамысловасці. Нельга лічыць дробяззю той факт, што наша цяперашняя соцыялістычная індустрыя з пункту гледжання аб'ёму прадукцыі перавышае індустрыю даваеннага часу больш чым у сем раз.

У галіне сельскай гаспадаркі замест акіяна дробных адна-

асобных сялянскіх гаспадарак з іх слабай тэхнікай і засіллем кулака мы маем цяпер самую буйную ў свеце машынізаваную, узброеную новай тэхнікай вытворчасць у выглядзе ўсеабдымнай сістэмы калгасаў і соўгасаў. Усім вядома, што кулацтва ў сельскай гаспадарцы ліквідавана, а сектар дробных аднаасобных сялянскіх гаспадарак з яго адсталай сярэдневяковай тэхнікай займае цяпер нязначнае месца, прычым удзельная вага яго ў сельскай гаспадарцы ў сэнсе размеру пасеўных плошчаў складае не больш 2—3 працантаў. Нельга не адзначыць той факт, што калгасы маюць зараз у сваім распараджэнні 316 тысяч трактароў магутнасцю ў 5 мільёнаў 700 тысяч конскіх сіл, а разам з соўгасамі маюць звыш 400 тысяч трактароў магутнасцю ў 7 мільёнаў 580 тысяч конскіх сіл.

Што датычыць тавараабароту ў краіне, то купцы і спекулянты выгнаны зусім з гэтай галіны. Увесь тавараабарот знаходзіцца цяпер у руках дзяржавы, кааперацыі і калгасаў. Нарадзіўся і развіўся новы, савецкі гандаль, гандаль без спекулянтаў, гандаль без капіталістаў.

Такім чынам поўная перамога сацыялістычнай сістэмы ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі з'яўляецца цяпер фактам.

А што гэта значыць?

Гэта значыць, што эксплаатацыя чалавека чалавекам знішчана, ліквідавана, а сацыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці ўцверджана, як непахісная аснова нашага савецкага грамадства. (Працяглыя апладысменты.)

У рэзультаце ўсіх гэтых змен у галіне народнай гаспадаркі СССР мы маем цяпер новую, сацыялістычную эканоміку, якая не ведае крызісаў і беспрацоўя, не ведае галечы і разарэння і дае грамадзянам усе магчымасці для заможнага і культурнага жыцця.

Такавы ў асноўным змены, якія адбыліся ў галіне нашай эканомікі за перыяд ад 1924 года да 1936 года.

Адпаведна з гэтымі зменамі ў галіне эканомікі СССР змянілася і **класавая структура** нашага грамадства.

Клас памешчыкаў, як вядома, быў ужо ліквідаваны ў рэзультаце пераможнага сканчэння грамадзянскай вайны. Што датычыць іншых эксплаататарскіх класаў, то яны падзялілі лёс класа памешчыкаў. Не стала класа капіталістаў у галіне прамысловасці. Не стала класа кулакоў у галіне сельскай гаспадаркі. Не стала купцоў і спекулянтаў у галіне тавараабароту.

Усе эксплаататарскія класы аказаліся, такім чынам, ліквідаванымі.

Астаўся рабочы клас.

Астаўся клас сялян.

Асталася інтэлігенцыя.

Але было-б памылкова думаць, што ў гэтых соцыяльных групах не адбылося за гэты час ніякіх змен, што яны асталіся такімі-ж, якімі яны былі, скажам, у перыяд капіталізма.

Узяць, напрыклад, рабочы клас СССР. Яго часта называюць па старой памяці пролетарыятам. Але што такое пролетарыят? Пролетарыят ёсць клас, пазбаўлены прылад і сродкаў вытворчасці пры сістэме гаспадаркі, калі прылады і сродкі вытворчасці належаць капіталістам і калі клас капіталістаў эксплаатуе пролетарыят. Пролетарыят—гэта клас, эксплаатуемы капіталістамі. Але ў нас клас капіталістаў, як вядома, ужо ліквідаваны, прылады і сродкі вытворчасці адабраны ў капіталістаў і перададзены дзяржаве, кіруючай сілай якой з'яўляецца рабочы клас. Стала быць, няма больш класа капіталістаў, які мог-бы эксплаатаваць рабочы клас. Стала быць, наш рабочы клас не толькі не пазбаўлен прылад і сродкаў вытворчасці, а наадварот, ён імі ўладае сумесна з усім народам. А раз ён імі ўладае, а клас капіталістаў ліквідаваны,—выключана ўсякая магчымасць эксплаатацыі рабочага класа. Ці можна пасля гэтага назваць наш рабочы клас пролетарыятам? Ясна, што нельга. Маркс гаварыў: для таго, каб пролетарыят вызваліў сябе, ён павінен разграміць клас капіталістаў, адабраць у капіталістаў прылады і сродкі вытворчасці і знішчыць тыя ўмовы вытворчасці, якія параджаюць пролетарыят. Ці можна сказаць, што рабочы клас СССР ужо ажыццявіў гэтыя ўмовы свайго вызвалення? Безумоўна можна і павінна. А што гэта значыць? Гэта значыць, што пролетарыят СССР ператварыўся ў зусім новы клас, у рабочы клас СССР, які знішчыў капіталістычную сістэму гаспадаркі, які ўцвярдзіў соцыялістычную ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці і які накіроўвае савецкае грамадства па шляху комунізма.

Як бачыце, рабочы клас СССР гэта—зусім новы, вызвалены ад эксплаатацыі, рабочы клас, падобнага якому не ведала яшчэ гісторыя чалавецтва.

Пяройдзем да пытання аб сялянстве. Звычайна прынята гаварыць, што сялянства—гэта такі клас дробных вытворцаў, члены якога атамізіраваны, раскіданы па твару ўсёй краіны, ка-

паюцца ў адзіночку ў сваіх дробных гаспадарках з іх адсталай тэхнікай, з'яўляюцца рабамі прыватнай уласнасці і беспакаранна эксплаатуюцца памешчыкамі, кулакамі, купцамі, спекулянтамі, ліхвярамі і т. п. І сапраўды, сялянства ў капіталістычных краінах, калі мець на ўвазе яго асноўную масу, з'яўляецца такім іменна класам. Ці можна сказаць, што наша сучаснае сялянства, совецкае сялянства, у сваёй масе паходзіць на падобнае сялянства? Не, нельга гэтага сказаць. Такога сялянства ў нас ужо няма. Наша совецкае сялянства з'яўляецца зусім новым сялянствам. У нас няма больш памешчыкаў і кулакоў, купцоў і ліхвяроў, якія маглі-б эксплаатаваць сялян. Стала быць, наша сялянства ёсць вызваленае ад эксплаатацыі сялянства. Далей, наша совецкае сялянства ў сваёй пераважнай большасці ёсць калгаснае сялянства, г. зн. яно базіруе сваю работу і сваё дастаянне не на аднаасобнай працы і адсталай тэхніцы, а на калектыўнай працы і сучаснай тэхніцы. Нарэшце, у аснове гаспадаркі нашага сялянства ляжыць не прыватная ўласнасць, а калектыўная ўласнасць, вырасшая на базе калектыўнай працы.

Як бачыце, совецкае сялянства—гэта зусім новае сялянства, падобнага якому яшчэ не ведала гісторыя чалавецтва.

Пяройдзем, нарэшце, да пытання аб інтэлігенцыі, да пытання аб інжынерна-тэхнічных работніках, аб работніках культурнага фронта, аб служачых наогул і т. п. У ёй таксама адбыліся вялікія змены за прайшоўшы перыяд. Гэта ўжо не тая старая заскарузлая інтэлігенцыя, якая прабавала ставіць сябе над класамі, а на самой справе служыла ў сваёй масе памешчыкам і капіталістам. Наша совецкая інтэлігенцыя гэта—зусім новая інтэлігенцыя, звязаная ўсімі карэннямі з рабочым класам і сялянствам. Змяніўся, па-першае, склад інтэлігенцыі. Выхадцы з дваранства і буржуазіі складаюць невялікі процант нашай совецкай інтэлігенцыі. 80—90 процантаў совецкай інтэлігенцыі—гэта выхадцы з рабочага класа, сялянства і іншых слаёў працоўных. Змяніўся, нарэшце, і самы характар дзейнасці інтэлігенцыі. Раней яна павінна была служыць багатым класам, бо ў яе не было іншага выхаду. Цяпер яна павінна служыць народу, бо не стала больш эксплаататарскіх класаў. І іменна таму яна з'яўляецца цяпер роўнапраўным членам совецкага грамадства, дзе яна разам з рабочымі і сялянамі, у адной упражцы з імі, вядзе будоўлю новага бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Як бачыце, гэта зусім новая, працоўная інтэлігенцыя, падобнай якой не знойдзеце ні ў адной краіне земнага шара.

Такавы змены, якія адбыліся за прайшоўшы час у галіне класавай структуры совецкага грамадства.

Аб чым гавораць гэтыя змены?

Яны гавораць, па-першае, аб тым, што грані паміж рабочым класам і сялянствам, роўна як паміж гэтымі класамі і інтэлігенцыяй—сціраюцца, а старая класавая выключнасць—знікае. Гэта значыць, што адлегласць паміж гэтымі сацыяльнымі групамі ўсё больш і больш скарачаецца.

Яны гавораць, па-другое, аб тым, што эканамічныя супярэчнасці паміж гэтымі сацыяльнымі групамі падаюць, сціраюцца.

Яны гавораць, нарэшце, аб тым, што падаюць і сціраюцца таксама палітычныя супярэчнасці паміж імі.

Так абстаіць справа са зменамі ў галіне **класавай структуры** СССР.

Карціна змен у грамадскім жыцці СССР была-б няпоўнай, калі-б не сказаць некалькі слоў аб зменах яшчэ ў адной галіне. Я маю на ўвазе галіну **нацыянальных** узаемаадносін у СССР. У Совецкі Саюз уваходзяць, як вядома, каля 60 нацый, нацыянальных груп і народнасцей. Совецкая дзяржава ёсць дзяржава мнoганацыянальная. Зразумела, што пытанне аб узаемаадносінах паміж народамі СССР не можа не мець для нас першаступеннага значэння.

Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік утварыўся, як вядома, у 1922 годзе на Першым З'ездзе Советаў СССР. Утварыўся ён на пачатках роўнасці і добраахвотнасці народаў СССР. Цяпер дзейнічаючая Канстытуцыя, прынятая ў 1924 годзе, ёсць першая Канстытуцыя Саюза ССР. Гэта быў перыяд, калі адносіны паміж народамі не былі яшчэ як след наладжаны, калі перажыткі недавер'я да вялікаросаў яшчэ не зніклі, калі цэнтрабежныя сілы ўсё яшчэ прадаўжалі дзейнічаць. Трэба было наладзіць у гэтых умовах брацкае супрацоўніцтва народаў на базе эканамічнай, палітычнай і ваеннай узаемадапамогі, аб'яднаўшы іх у адну саюзную многанацыянальную дзяржаву. Совецкая ўлада не магла не бачыць цяжкасцей гэтай справы. Яна мела перад сабой няўдалыя вопыты многанацыянальных дзяржаў у буржуазных краінах. Яна мела перад сабой праваліўшыйся вопыт старой Аўстра-Венгрыі. І ўсё-ж яна пайшла на вопыт стварэння многанацыянальнай дзяржавы, бо яна ведала, што многанацыянальная дзяржава, узнікшая на базе соцыялізма, павінна вытрымаць усе і ўсякія іспыты.

З таго часу прайшло 14 год. Перыяд дастатковы для таго, каб праверыць вопыт. І што-ж? Прайшоўшы перыяд з несумненнасцю паказаў, што вопыт утварэння многанацыянальнай дзяржавы, створанай на базе соцыялізма, удаўся поўнасцю. Гэта ёсць несумненная перамога ленінскай нацыянальнай палітыкі. (Працяглыя апладысменты.)

Чым вытлумачыць гэтую перамогу?

Адсутнасць эксплаататарскіх класаў, якія з'яўляюцца асноўнымі арганізатарамі міжнацыянальнай дракі; адсутнасць эксплаатацыі, якая культывіруе ўзаемнае недавер'е і распальвае нацыяналістычныя страсці; наяўнасць ва ўладзе рабочага класа, які з'яўляецца ворагам усякага парабашчэння і верным носьбітам ідэй інтэрнацыяналізма; фактычнае ажыццяўленне ўзаемнай дапамогі народаў ва ўсіх галінах гаспадарчага і грамадскага жыцця; нарэшце, росквіт нацыянальнай культуры народаў СССР, нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу,—усе гэтыя і падобныя ім фактары прывялі да таго, што змянілася ў корані аблічча народаў СССР, знікла ў іх пачуццё ўзаемнага недавер'я, развілося ў іх пачуццё ўзаемнай дружбы і наладзілася, такім чынам, сапраўднае брацкае супрацоўніцтва народаў у сістэме адзінай саюзнай дзяржавы.

У рэзультаце мы маем цяпер многанацыянальную соцыялістычную дзяржаву, якая цалкам склалася і вытрымала ўсе іспыты, моцнасці якой магла-б пазайздросціць любая нацыянальная дзяржава ў любой частцы свету. (Бурныя апладысменты.)

Такавы змены, якія адбыліся за прайшоўшы перыяд, у галіне **нацыянальных узаемаадносін** у СССР.

Такі агульны вынік змен у галіне гаспадарчага і грамадска-палітычнага жыцця ў СССР, якія адбыліся за перыяд ад 1924 года да 1936 года.

## III. АСНОЎНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ПРАЕКТА КАНСТЫТУЦЫІ

Якое адлюстраванне атрымалі ўсе гэтыя змены ў жыцці СССР у праекце новай Канстытуцыі?

Інакш кажучы: якія асноўныя асаблівасці праекта Канстытуцыі, прадстаўленага на разгляд данага З'езда?

Канстытуцыйнай Камісіі было даручана ўнесці змены ў тэкст Канстытуцыі 1924 года. У рэзультаце работы Канстытуцыйнай Камісіі атрымаўся новы тэкст Канстытуцыі, праект но-

вай Канстытуцыі СССР. Складаючы праект новай Канстытуцыі, Канстытуцыйная Камісія зыходзіла з таго, што канстытуцыя не павінна быць змешваема з праграмай. Гэта значыць, што паміж праграмай і канстытуцыяй ёсць істотная розніца. У той час як праграма гаворыць аб тым, чаго яшчэ няма і што павінна быць яшчэ здабыта і заваявана ў будучым, канстытуцыя, наадварот, павінна гаварыць аб тым, што ўжо ёсць, што ўжо здабыта і заваявана цяпер, у сучасным. Праграма датычыць галоўным чынам будучага, канстытуцыя сучаснага.

Два прыклады для ілюстрацыі.

Наша совецкае грамадства дабілася таго, што яно ўжо ажыццявіла ў асноўным социялізм, стварыла социялістычны лад, г. зн. ажыццявіла тое, што ў марксістаў называецца інакш першай або ніжэйшай фазай комунізма. Значыць, у нас ужо ажыццёўлена ў асноўным першая фаза комунізма, социялізм. (Працяглыя апладысменты.) Асноўным прынцыпам гэтай фазы комунізма з'яўляецца, як вядома, формула: «ад кожнага па яго здольнасцях, кожнаму па яго працы». Ці павінна наша Канстытуцыя адлюстраваць гэты факт, факт заваявання социялізма? Ці павінна яна базіравацца на гэтым заваяванні? Безумоўна павінна. Павінна, бо социялізм для СССР ёсць тое, што ўжо здабыта і заваявана.

Але совецкае грамадства яшчэ не дабілася ажыццяўлення вышэйшай фазы комунізма, дзе пануючым прынцыпам будзе формула: «ад кожнага па яго здольнасцях, кожнаму па яго патрэбнасцях», хоць яно і ставіць сабе мэтай дабіцца ў будучым ажыццяўлення вышэйшай фазы комунізма. Ці можа наша Канстытуцыя базіравацца на вышэйшай фазе комунізма, якой яшчэ няма і якая павінна быць яшчэ заваявана? Не, не можа, бо вышэйшая фаза комунізма ёсць для СССР тое, што яшчэ не ажыццёўлена і што павінна быць ажыццёўлена ў будучым. Не можа, калі яна не хоча ператварыцца ў праграму або дэкларацыю аб будучых заваяваннях.

Такавы рамкі нашай Канстытуцыі ў даны гістарычны момант.

Такім чынам праект новай Канстытуцыі прадстаўляе сабой вынік пройдзенага шляху, вынік ужо здабытых заваяванняў. Ён з'яўляецца, стала быць, рэгістрацыяй і законадаўчым замацаваннем таго, што ўжо здабыта і заваявана на справе. (Бурныя апладысменты.)

У гэтым першая асаблівасць праекта новай Канстытуцыі СССР.

Далей. Канстытуцыі буржуазных краін зыходзяць звычайна з пераканання аб непахіснасці капіталістычнага ладу. Галоўную аснову гэтых канстытуцый складаюць прынцыпы капіталізма, яго асноўныя ўстоі: прыватная ўласнасць на зямлю, лясы, фабрыкі, заводы і іншыя прылады і сродкі вытворчасці; эксплаатацыя чалавека чалавекам і наяўнасць эксплаататараў і эксплаатуемых; незабяспечанасць працоўнай большасці на адным полюсе грамадства і раскоша непрацоўнай, але забяспечанай, меншасці на другім полюсе; і т. д. і т. п. Яны апіраюцца на гэтыя і падобныя ім устоі капіталізма. Яны іх адлюстроўваюць, яны іх замацоўваюць у законадаўчым парадку.

У адрозненне ад іх праект новай Канстытуцыі СССР зыходзіць з факту ліквідацыі капіталістычнага ладу, з факту перамогі соцыялістычнага ладу ў СССР. Галоўную аснову праекта новай Канстытуцыі СССР складаюць прынцыпы соцыялізма, яго асноўныя ўстоі, ужо заваяваныя і ажыццёўленыя: соцыялістычная ўласнасць на зямлю, лясы, фабрыкі, заводы і іншыя прылады і сродкі вытворчасці; ліквідацыя эксплаатацыі і эксплаататарскіх класаў; ліквідацыя галечы большасці і раскошы меншасці; ліквідацыя беспрацоўя; праца, як абавязак і справа гонару кожнага працаздольнага грамадзяніна па формуле: «хто не працуе, той не есць». Права на працу, г. зн. права кожнага грамадзяніна на атрыманне гарантаванай работы; права на адпачынак; права на асвету; і т. д. і т. п. Праект новай Канстытуцыі апіраецца на гэтыя і падобныя ім устоі соцыялізма. Ён іх адлюстроўвае, ён іх замацоўвае ў законадаўчым парадку.

Такава другая асаблівасць праекта новай Канстытуцыі.

Далей. Буржуазныя канстытуцыі маўкліва зыходзяць з прадпасылкі аб тым, што грамадства складаецца з антаганістычных класаў, з класаў, уладаючых багаццем, і класаў, не ўладаючых ім, што якая-б партыя ні прыйшла да ўлады, дзяржаўнае кіраўніцтва грамадствам (дыктатура) павінна належаць буржуазіі, што канстытуцыя патрэбна для таго, каб замацаваць грамадскія парадкі, угодныя і выгадныя маёмным класам.

У адрозненне ад буржуазных канстытуцый праект новай Канстытуцыі СССР зыходзіць з таго, што ў грамадстве няма ўжо больш антаганістычных класаў, што грамадства складаецца з двух прыязных адзін аднаму класаў, з рабочых і сялян, што ва ўладзе стаяць гэтыя іменна працоўныя класы, што дзяржаўнае кіраўніцтва грамадствам (дыктатура) належыць рабочаму класу, як передавому класу грамадства, што канстытуцыя па-

трэбна для таго, каб замацаваць грамадскія парадкі, угодныя і выгадныя працоўным.

Такава трэцяя асаблівасць праекта новай Канстытуцыі.

Далей. Буржуазныя канстытуцыі маўкліва выходзяць з прадпасылкі аб тым, што нацыі і расы не могуць быць роўнапраўнымі, што ёсць нацыі поўнапраўныя і ёсць нацыі няпоўнапраўныя, што апрача таго існуе яшчэ трэцяя катэгорыя нацый або рас, напрыклад, у калоніях, у якіх ёсць яшчэ менш правоў, чым у няпоўнапраўных нацый. Гэта значыць, што ўсе гэтыя канстытуцыі ў аснове сваёй з'яўляюцца нацыяналістычнымі, г. зн. канстытуцыямі пануючых нацый.

У адрозненне ад гэтых канстытуцый праект новай Канстытуцыі СССР, наадварот,—глыбока інтэрнацыянальны. Ён выходзіць з таго, што ўсе нацыі і расы роўнапраўны. Ён выходзіць з таго, што розніца ў колеры скуры або ў мове, культурным узроўні або ўзроўні дзяржаўнага развіцця, роўна як іншая якая-небудзь розніца паміж нацыямі і расамі—не можа служыць падставай для таго, каб апраўдаць нацыянальнае няроўнапраўе. Ён выходзіць з таго, што ўсе нацыі і расы, незалежна ад іх мінулага і цяперашняга становішча, незалежна ад іх сілы або слабасці,—павінны карыстацца аднолькавымі правамі ва ўсіх сферах гаспадарчага, грамадскага, дзяржаўнага і культурнага жыцця грамадства.

Такава чацвертая асаблівасць праекта новай Канстытуцыі.

Пятую асаблівасць праекта новай Канстытуцыі складае яго паслядоўны і да канца вытрыманы дэмакратызм. З пункту гледжання дэмакратызма буржуазныя канстытуцыі можна разбіць на дзве групы: адна група канстытуцый прама адмаўляе або зводзіць фактычна на нішто роўнасць правоў грамадзян і дэмакратычныя свабоды. Другая група канстытуцый ахвотна прыемле і нават афішыруе дэмакратычныя пачаткі, але робіць пры гэтым такія агаворкі і абмежаванні, што дэмакратычныя правы і свабоды аказваюцца зусім зуродаванымі. Яны гавораць аб роўных выбарчых правах для ўсіх грамадзян, але тут-жа абмяжоўваюць іх аседласцю і адукацыйным і нават маёмасным цэнзам. Яны гавораць аб роўных правах грамадзян, але тут-жа агаварваюцца, што гэта не датычыць жанчын, або датычыць іх часткова. І т. д. і т. п.

Асаблівасць праекта новай Канстытуцыі СССР заключаецца ў тым, што ён вольны ад падобных агаворак і абмежаванняў. Для яго не існуе актыўных або пасіўных грамадзян, для яго ўсе грамадзяне актыўны. Ён не прызнае розніцы ў пра-

вах паміж мужчынамі і жанчынамі, «аселымі» і «не-аселымі», маёмнымі і немаёмнымі, адукаванымі і неадукаванымі. Для яго ўсе грамадзяне роўны ў сваіх правах. Не маёмаснае становішча, не нацыянальнае паходжанне, не пол, не службовае становішча, а асабістыя здольнасці і асабістая праца кожнага грамадзяніна вызначаюць яго становішча ў грамадстве.

Нарэшце, яшчэ адна асаблівасць праекта новай Канстытуцыі. Буржуазныя канстытуцыі звычайна абмяжоўваюцца фіксіраваннем фармальных праvoў грамадзян, не клапоцячыся аб умовах ажыццяўлення гэтых праvoў, аб магчымасці іх ажыццяўлення, аб сродках іх ажыццяўлення. Гавораць аб роўнасці грамадзян, але забываюць, што не можа быць сапраўднай роўнасці паміж гаспадаром і рабочым, паміж памешчыкам і селянінам, калі ў першых ёсць багацце і палітычная вага ў грамадстве, а другія пазбаўлены і таго і другога, калі першыя з'яўляюцца эксплаататарамі, а другія эксплаатуемымі. Або яшчэ: гавораць аб свабодзе слова, сходаў і друку, але забываюць, што ўсе гэтыя свабоды могуць ператварыцца для рабочага класа ў гук пусты, калі ён пазбаўлен магчымасці мець у сваім распараджэнні падыходзячыя памяшканні для сходаў, добрыя друкарні, дастатковую колькасць друкавальнай паперы і т. д.

Асаблівасць праекта новай Канстытуцыі заключаецца ў тым, што ён не абмяжоўваецца фіксіраваннем фармальных праvoў грамадзян, а пераносіць цэнтр цяжару на пытанне аб гарантыях гэтых праvoў, на пытанне аб сродках ажыццяўлення гэтых праvoў. Ён не проста агалашае роўнасць праvoў грамадзян, але і забяспечвае яе заканадаўчым замацаваннем факту ліквідацыі рэжыму эксплаатацыі, факту вызвалення грамадзян ад усякай эксплаатацыі. Ён не проста агалашае права на працу, але і забяспечвае яго заканадаўчым замацаваннем факту адсутнасці крызісаў у савецкім грамадстве, факту знішчэння беспрацоўя. Ён не проста агалашае дэмакратычныя свабоды, але і забяспечвае іх у заканадаўчым парадку пэўнымі матэрыяльнымі сродкамі. Таму зразумела, што дэмакратызм праекта новай Канстытуцыі з'яўляецца не «звычайным» і «агульнапрызнаным» дэмакратызмам наогул, а дэмакратызмам **сацыялістычным**.

Такавы асноўныя асаблівасці праекта новай Канстытуцыі СССР.

Такаво адлюстраванне ў праекце новай Канстытуцыі тых зрухаў і змен у гаспадарчым і грамадска-палітычным жыцці СССР, якія ажыццявіліся за перыяд ад 1924 года да 1936 года.

# IV. БУРЖУАЗНАЯ КРЫТЫКА ПРАЕКТА КАНСТЫТУЦЫІ

Некалькі слоў аб буржуазнай крытыцы праекта Канстытуцыі.

Пытанне аб тым, як адносіцца да праекта Канстытуцыі замежны буржуазны друк, прадстаўляе бясспрэчна пэўную цікавасць. Паколькі замежны друк адлюстроўвае грамадскую думку розных слаёў насельніцтва ў буржуазных краінах, мы не можам прайсці міма той крытыкі, якую разгарнуў гэты друк супроць праекта Канстытуцыі.

Першыя адзнакі рэакцыі замежнага друку на праект Канстытуцыі выразіліся ў пэўнай тэндэнцыі—замаўчаць праект Канстытуцыі. Я маю на ўвазе ў даным выпадку найбольш рэакцыйны, фашысцкі друк. Гэтая група крытыкаў палічыла за лепшае проста замаўчаць праект Канстытуцыі, прадставіць справу так, як быццам праекта не было і няма яго наогул у прыродзе. Могуць сказаць, што замоўчванне не ёсць крытыка. Але гэта няверна. Метад замоўчвання, як асобы спосаб ігнаравання, з'яўляецца таксама формай крытыкі, праўда, глупай і смешнай, але ўсё-ж формай крытыкі. (Агульны смех, апладысменты.) Але з метадам замоўчвання не выйшла ў іх. Урэшце яны аказаліся вымушанымі адкрыць клапан і паведаміць свету, што, як гэта ні сумна, праект Канстытуцыі СССР усё-ж існуе, і не толькі існуе, але і пачынае аказваць злошкоднае ўздзеянне на розумы. Ды інакш і не магло быць, бо ёсць усё-ж на свеце нейкая грамадская думка, чытачы, жывыя людзі, якія хочуць ведаць праўду аб фактах, і трымаць іх доўга ў цісках ашуканства няма ніякай магчымасці. На ашуканстве далёка не паедзеш...

Другая група крытыкаў прызнае, што праект Канстытуцыі сапраўды існуе ў прыродзе, але яна лічыць, што праект не прадстаўляе вялікай цікавасці, бо ён з'яўляецца па сутнасці справы не праектам канстытуцыі, а пустой паперкай, пустым абяцаннем, разлічаным на тое, каб зрабіць пэўны манеўр і ашукаць людзей. Яны дадаюць пры гэтым, што лепшага праекта і не мог даць СССР, бо сам СССР з'яўляецца не дзяржавай, а ўсяго-на-ўсяго—геаграфічным паняццем (агульны смех), а раз ён не з'яўляецца дзяржавай, то і канстытуцыя яго не можа быць сапраўднай канстытуцыяй. Тыповым прадстаўніком гэтай групы крытыкаў з'яўляецца, як гэта ні дзіўна, германскі афіцыёз «Дэйтшэ Дыпламатыш-Палітышэ Карэспандэнц». Гэты жур-

мал прама гаворыць, што праект Канстытуцыі СССР з'яўляецца пустым абяцаннем, ашуканствам, «пацёмкінскай вёскай». Ён без хістанняў заяўляе, што СССР не з'яўляецца дзяржавай, што СССР «прадстаўляе не што іншае, як дакладна вызначаемае геаграфічнае паняцце» (агульны смех), што Канстытуцыя СССР не можа быць з прычыны гэтага прызнана сапраўднай канстытуцыяй.

Што можна сказаць аб такіх, з дазволу кажучы, крытыках?

У адным са сваіх казак-расказаў вялікі рускі пісьменнік Шчэдрын дае тып бюракрата-самадура, вельмі абмежаванага і тупога, але да крайнасці самаўпэўненага і рэцівага. Пасля таго як гэты бюракрат навёў ва «ўверанай» яму вобласці «парадак і цішыню», знішчыўшы тысячы жыхароў і спаліўшы дзесяткі гарадоў, ён азірнуўся вакол і заўважыў на гарызонце Амерыку, краіну, зразумела, малавядомую, дзе ёсць, аказваецца, нейкія свабоды, якія муцяць народ, і дзе дзяржавай кіруюць іншымі метадамі. Бюракрат заўважыў Амерыку і абурыўся: што гэта за краіна, адкуль яна ўзялася, на якой такой падставе яна існуе? (Агульны смех, апладысменты.) Вядома, яе выпадкова адкрылі некалькі вякоў таму назад, але ці-ж нельга яе зноў закрыць, каб духу яе не было зусім? (Агульны смех.) І сказаўшы гэта, палажыў рэзалюцыю: «Закрыць зноў Амерыку»! (Агульны смех.)

Мне здаецца, што паны з «Дэйтшэ Дыпламатыш-Палітышэ Карэспандэнц» як дзве кроплі вады падобны на шчэдрынскага бюракрата. (Агульны смех, апладысменты адабрэння.) Гэтым панам СССР даўно ўжо намазоліў вочы. Дзевятнаццаць год стаіць СССР як маяк, заражаючы духам вызвалення рабочы клас усяго свету і выклікаючы шаленства ў ворагаў рабочага класа. І ён, гэты СССР, аказваецца, не толькі проста існуе, але нават расце, і не толькі расце, але нават прэўспявае, і не толькі прэўспявае, але нават стварае праект новай Канстытуцыі, праект, які ўзбуджае розумы, усяляе новыя надзеі прыгнечаным класам. (Апладысменты.) Як-жа пасля гэтага не абурацца панам з германскага афіцыёза? Што гэта за краіна, лямантуюць яны, на якой такой падставе яна існуе (агульны смех), і калі яе адкрылі ў кастрычніку 1917 года, то чаму нельга яе зноў закрыць, каб духу яе не было зусім? І сказаўшы гэта, пастанавілі: закрыць зноў СССР, аб'явіць, каб усе пачулі, што СССР, як дзяржава, не існуе, што СССР ёсць не што іншае, як простае геаграфічнае паняцце! (Агульны смех.)

Кладучы рэзалюцыю аб тым, каб закрыць зноў Амерыку, шчэдрынскі бюракрат, не гледзячы на ўсю сваю тупасць, усё-ж знайшоў у сабе элементы разумення рэальнага, сказаўшы тут-жа пра сябе: «Але, здаецца, сіе ад мяне не залежыць». (Выбух вясёлага смеху, бурныя апладысменты.) Я не ведаю, ці хопіць розуму ў паноў з германскага афіцыёза дагадацца, што «закрыць» на паперы тую ці іншую дзяржаву яны, вядома, могуць, але калі гаварыць сур'ёзна, то «сіе ад іх не залежыць»... (Выбух вясёлага смеху, бурныя апладысменты.)

Што датычыць таго, што Канстытуцыя СССР з'яўляецца нібыта пустым абяцаннем, «пацёмкінскай вёскай» і т. д., то я хацеў-бы спаслацца на рад устаноўленых фактаў, якія самі гавораць за сябе.

У 1917 годзе народы СССР звергі буржуазію і ўстанавілі дыктатуру пролетарыята, устанавілі Совецкую ўладу. Гэта факт, а не абяцанне.

Затым, Совецкая ўлада ліквідавала клас памешчыкаў і перадала сялянам больш 150 мільёнаў гектараў былых памешчыцкіх, казённых і манастырскіх зямель і гэта—звыш тых зямель, якія знаходзіліся і раней у руках сялян. Гэта факт, а не абяцанне.

Затым, Совецкая ўлада экспрапрыявала клас капіталістаў, адабрала ў іх банкі, заводы, чыгункі і іншыя прылады і сродкі вытворчасці, аб'явіла іх соцыялістычнай уласнасцю і паставіла на чале гэтых прадпрыемстваў лепшых людзей рабочага класа. Гэта факт, а не абяцанне. (Працяглыя апладысменты.)

Затым, арганізаваўшы прамысловасць і сельскую гаспадарку на новых, соцыялістычных пачатках, з новай тэхнічнай базай, Совецкая ўлада дабілася таго, што цяпер земляробства ў СССР дае ў паўтара разы больш прадукцыі, чым у даваенны час, індустрыя вырабляе ў сем разоў больш прадукцыі, чым у даваенны час, а народны даход вырас у чатыры разы ў параўнанні з даваенным часам. Усё гэта—факты, а не абяцанні. (Працяглыя апладысменты.)

Затым, Совецкая ўлада знішчыла беспрацоўе, правяла ў жыццё права на працу, права на адпачынак, права на асвету, забяспечыла лепшыя матэрыяльныя і культурныя ўмовы рабочым, сялянам і інтэлігенцыі, забяспечыла правядзенне ў жыццё ўсеагульнага, прамога і роўнага выбарчага права пры тайным





галасаванні грамадзян. Усё гэта—факты, а не абяцанні. (Працяглыя апладысменты.)

Нарэшце, СССР даў праект новай Канстытуцыі, які з'яўляецца не абяцаннем, а рэгістрацыяй і законадаўчым замацаваннем гэтых агульнавядомых фактаў, рэгістрацыяй і законадаўчым замацаваннем таго, што ўжо здабыта і заваявана.

Паўстае пытанне, да чаго зводзіцца пасля ўсяго гэтага балбатня паноў з германскага афіцыёза аб «пацёмкінскіх вёсках», калі не да таго, што яны задаліся мэтаю скрыць ад народу праўду аб СССР, увесці народ у зман, ашукаць яго.

Такавы факты. А факты, як кажуць, упартая рэч. Паны з германскага афіцыёза могуць сказаць, што тым горш для фактаў. (Агульны смех.) Але тады ім можна адказаць словамі вядомай рускай пагаворкі: «дурням закон не пісан». (Вясёлы смех, працяглыя апладысменты.)

**Трэцяя** група крытыкаў не супроць таго, каб прызнаць вядомыя вартасці за праектам Канстытуцыі, яна лічыць яго станоўчай з'явай, але яна, бачыце, вельмі сумняваецца, каб рад яго палажэнняў можна было правесці ў жыццё, бо яна ўпэўнена, што гэтыя палажэнні наогул неажыццявімы і павінны астацца на паперы. Гэта, кажучы мякка, скептыкі. Яны, гэтыя скептыкі, ёсць ва ўсіх краінах.

Трэба сказаць, што мы сустракаемся з імі не ўпершыню. Калі бальшэвікі бралі ўладу ў 1917 годзе, скептыкі гаварылі: бальшэвікі, бадай, не дрэнныя людзі, але з уладаю ў іх справа не пойдзе, яны праваляцца. На справе, аднак, аказалася, што праваліліся не бальшэвікі, а скептыкі.

У часе грамадзянскай вайны і замежнай інтэрвенцыі гэтая група скептыкаў гаварыла: Савецкая ўлада, вядома, рэч не дрэнная, але Дзенікін з Калчаком плюс іназемцы, бадай, адолеюць яе. На справе, аднак, аказалася, што скептыкі і тут пралічыліся.

Калі Савецкая ўлада апублікавала першы пяцігадовы план, скептыкі зноў выступілі на сцэну, кажучы: пяцігодка, вядома, справа добрая, але яна наўрад ці ажыццявіма, трэба меркаваць, што ў бальшэвікоў з пяцігодкай справа не выйдзе. Факты, аднак, паказалі, што скептыкам зноў не павязло: пяцігадовы план быў ажыццёўлен у чатыры гады.

Тое-ж самае трэба сказаць аб праекце новай Канстытуцыі і яе крытыцы з боку скептыкаў. Варта было апублікаваць праект, каб гэтая група крытыкаў зноў з'явілася на сцэне з яе

нудным скепсісам, з яе сумненнямі наконт ажыццявімасці некаторых палажэнняў Канстытуцыі. Няма ніякіх падстаў сумнявацца ў тым, што скептыкі праваляцца і ў даным выпадку, праваляцца цяпер таксама, як яны не раз правальваліся ў мінулым.

**Чацвертая** група крытыкаў, атакуючы праект новай Канстытуцыі, характарызуе яго, як «зрух управа», як «адмаўленне ад дыктатуры пролетарыята», як «ліквідацыю большэвіцкага рэжыму». «Большэвікі хіснуліся ўправа, гэта факт»—таворадь яны на розныя галасы. Асабліва стараюцца ў гэтых адносінах некаторыя польскія і часткова амерыканскія газеты.

Што можна сказаць аб гэтых, з дазволу кажучы, крытыках?

Калі расшырэнне базы дыктатуры рабочага класа і ператварэнне дыктатуры ў больш гібкую, стала быць,—больш магутную сістэму дзяржаўнага кіраўніцтва грамадствам трактуецца імі не як узмацненне дыктатуры рабочага класа, а як яе паслабленне або нават як адмаўленне ад яе, то дазволена запытаць: а ці ведаюць наогул гэтыя паны—што такое дыктатура рабочага класа?

Калі законадаўчае замацаванне перамогі соцыялізма, законадаўчае замацаванне поспехаў індустрыялізацыі, калектывізацыі і дэмакратызацыі называецца ў іх «зрухам управа», то дазволена запытаць: а ці ведаюць наогул гэтыя паны—чым адрозніваецца левае ад правага? (Агульны смех, апладысменты.)

Не можа быць сумнення, што гэтыя паны канчаткова заблыталіся ў сваёй крытыцы праекта Канстытуцыі і, заблытаўшыся, пераблыталі правае з левым.

Нельга не ўспомніць па гэтаму выпадку дваровую «дзяўчынку» Пелагею з «Мёртвых душ» Гогаля. Яна, як расказвае Гогаль, узялася неяк паказаць дарогу кучару Чычыкава Селіфану, але, не здолеўшы адрозніць правы бок дарогі ад левага яе боку, заблыталася і трапіла ў нялоўкае становішча. Трэба прызнаць, што нашы крытыкі з польскіх газет, не гледзячы на ўсю іх амбіцыю, усё-ж недалёка адышлі ад узроўню разумення Пелагеі, дваровай «дзяўчынкі» з «Мёртвых душ». (Апладысменты.) Калі ўспомніце, кучар Селіфан палічыў патрэбным адчытаць Пелагею за змяшанне правага з левым, сказаўшы ёй: «Эх ты, чорнаногая... не ведаеш, дзе права, дзе лева». Мне здаецца, што варта-б таксама адчытаць нашых незадачлівых кры-

тыкаў, сказаўшы ім: Эх вы, гора-крытыкі... не ведаеце, дзе права, дзе лева. (Працяглыя апладысменты.)

Нарэшце, яшчэ адна група крытыкаў. Калі папярэдняя група абвінавачвае праект Канстытуцыі ў адмаўленні ад дыктатуры рабочага класа, то гэтая група абвінавачвае яго, наадварот, у тым, што ён нічога не мяняе ў існуючым становішчы ў СССР, што ён пакідае некранутай дыктатуру рабочага класа, не дапускае свабоду палітычных партый і захоўвае ў сіле цяперашняе кіруючае становішча партыі комуністаў у СССР. Пры гэтым гэтая група крытыкаў лічыць, што адсутнасць свабоды партый у СССР з'яўляецца адзнакай парушэння асноў дэмакратызма.

Я павінен прызнаць, што праект новай Канстытуцыі сапраўды пакідае ў сіле рэжым дыктатуры рабочага класа, роўна як захоўвае без змены цяперашняе кіруючае становішча Комуністычнай партыі СССР. (Бурныя апладысменты.) Калі паважаныя крытыкі лічаць гэта недахопам праекта Канстытуцыі, то можна толькі пашкадаваць аб гэтым. Мы-ж, большэвікі, лічым гэта вартасцю праекта Канстытуцыі. (Бурныя апладысменты.)

Што датычыць свабоды розных палітычных партый, то мы трымаемся тут некалькі іншых поглядаў. Партыя ёсць частка класа, яго перадавая частка. Некалькі партый, а значыць і свабода партый можа існаваць толькі ў такім грамадстве, дзе ёсць антаганістычныя класы, інтарэсы якіх варожы і непрымірымы, дзе ёсць, скажам, капіталісты і рабочыя, памешчыкі і сяляне, кулакі і бедната і т. д. Але ў СССР няма ўжо больш такіх класаў, як капіталісты, памешчыкі, кулакі і т. п. У СССР ёсць толькі два класы, рабочыя і сяляне, інтарэсы якіх не толькі не варожы, а наадварот—прыязны. Стала быць, у СССР няма глебы для існавання некалькіх партый, а значыць і для свабоды гэтых партый. У СССР ёсць глеба толькі для адной партыі, Комуністычнай партыі. У СССР можа існаваць толькі адна партыя—партыя комуністаў, якая смела і да канца абараняе інтарэсы рабочых і сялян. А што яна не дрэнна абараняе інтарэсы гэтых класаў, у гэтым наўрад ці можа быць якое-небудзь сумненне. (Бурныя апладысменты.)

Гавораць аб дэмакратыі. Але што такое дэмакратыя? Дэмакратыя ў капіталістычных краінах, дзе ёсць антаганістычныя класы, ёсць у апошнім ліку дэмакратыя для сільных, дэмакратыя для маёмнай меншасці. Дэмакратыя ў СССР, наадварот, ёсць дэмакратыя для працоўных, г. зн. дэмакратыя для ўсіх.

Але з гэтага вынікае, што асновы дэмакратызма парушаюцца не праектам новай Канстытуцыі СССР, а буржуазнымі канстытуцыямі. Вось чаму я думаю, што Канстытуцыя СССР з'яўляецца адзінай у свеце да канца дэмакратычнай канстытуцыяй.

Так абстаіць справа з буржуазнай крытыкай праекта новай Канстытуцыі СССР.

## V. ПАПРАЎКІ І ДАДАТКІ ДА ПРАЕКТА КАНСТЫТУЦЫІ

Пяройдзем да пытання аб папраўках і дадатках да праекта Канстытуцыі, унесеных грамадзянамі пры ўсенародным абмеркаванні праекта.

Усенароднае абмеркаванне праекта Канстытуцыі дало, як вядома, даволі значную колькасць папраўак і дадаткаў. Усе яны апублікаваны ў савецкім друку. З прычыны вялікай рознастайнасці папраўак і неаднолькавай іх каштоўнасці трэба было-б іх разбіць, па-мойму, на тры катэгорыі.

Адметная рыса папраўак першай катэгорыі заключаецца ў тым, што яны трактуюць не аб пытаннях Канстытуцыі, а аб пытаннях бягучай законадаўчай работы будучых законадаўчых органаў. Асобныя пытанні страхавання, некаторыя пытанні калгаснага будаўніцтва, некаторыя пытанні прамысловага будаўніцтва, пытанні фінансавай справы,—такавы тэмы гэтых папраўак. Відаць, аўтары гэтых папраўак не ўяснілі сабе розніцы паміж канстытуцыйнымі пытаннямі і пытаннямі бягучага заканадаўства. Іменна таму яны стараюцца ўціснуць у Канстытуцыю як мага больш законаў, ведучы справу к таму, каб ператварыць Канстытуцыю ў нешта падобнае збору законаў. Але канстытуцыя не ёсць збор законаў. Канстытуцыя ёсць асноўны закон, і толькі асноўны закон. Канстытуцыя не выключае, а прадугледжвае бягучую законадаўчую работу будучых законадаўчых органаў. Канстытуцыя дае юрыдычную базу для будучай законадаўчай дзейнасці такіх органаў. Таму папраўкі і дадаткі такога роду, як не маючыя прамых адносін да Канстытуцыі, павінны быць, па-мойму, накіраваны ў будучыя законадаўчыя органы краіны.

Да другой катэгорыі трэба аднесці такія папраўкі і дадаткі, якія прабуюць унесці ў Канстытуцыю элементы гістарычных даведак або элементы дэкларацыі аб тым, чаго яшчэ не дабілася Савецкая ўлада і чаго яна павінна дабіцца ў будучым. Адзначыць у Канстытуцыі, якія труднасці перамаглі на працягу доўгіх год партыя, рабочы клас і ўсе працоўныя ў барацьбе за

перамогу соцыялізма; указаць у Канстытуцыі канчатковую мэту совецкага руху, г. зн. пабудову поўнага комуністычнага грамадства,—такавы тэмы гэтых паправак, якія паўтараюцца ў розных варыяцыях. Я думаю, што такія папраўкі і дадаткі таксама павінны быць адкладзены ў бок, як не маючыя прамых адносін да Канстытуцыі. Канстытуцыя ёсць рэгістрацыя і законадаўчае замацаванне тых заваяванняў, якія ўжо здабыты і забяспечаны. Калі мы не хочам сказіць гэты асноўны характар Канстытуцыі, мы не павінны запаўняць яе гістарычнымі даведкамі аб мінулым або дэкларацыямі аб будучых заваяваннях працоўных СССР. Для гэтай справы ёсць у нас іншыя шляхі і іншыя дакументы.

Нарэшце, да трэцяй катэгорыі трэба аднесці такія папраўкі і дадаткі, якія маюць прамыя адносіны да праекта Канстытуцыі.

Значная частка паправак гэтай катэгорыі мае рэдакцыйны характар. Таму іх можна было-б перадаць у Рэдакцыйную камісію данага З'езда, якую, я думаю, створыць З'езд, даручыўшы ёй устанавіць канчатковую рэдакцыю тэкста новай Канстытуцыі.

Што датычыць астатніх паправак трэцяй катэгорыі, то яны маюць больш істотнае значэнне, і аб іх прыдзецца, па-мойму, сказаць тут некалькі слоў.

1) Перш за ўсё аб папраўках да 1-га артыкула праекта Канстытуцыі. Ёсць чатыры папраўкі. Адны прапануюць замест слоў «дзяржава рабочых і сялян» сказаць: «дзяржава працоўных». Другія прапануюць да слоў «дзяржава рабочых і сялян» дадаць: «і працоўнай інтэлігенцыі». Трэція прапануюць замест слоў «дзяржава рабочых і сялян» сказаць: «дзяржава ўсіх рас і нацыянальнасцей, якія насяляюць тэрыторыю СССР». Чацвёртыя прапануюць слова «сялян» замяніць словам «калгаснікаў» або словамі: «працоўных соцыялістычнага земляробства».

Ці трэба прыняць гэтыя папраўкі? Я думаю, што не трэба.

Аб чым гаворыць 1-ы артыкул праекта Канстытуцыі? Ён гаворыць аб класавым складзе совецкага грамадства. Ці можам мы, марксісты, абыйсці ў Канстытуцыі пытанне аб класавым складзе нашага грамадства? Не, не можам. Совецкае грамадства складаецца, як вядома, з двух класаў, з рабочых і сялян. Першы артыкул праекта Канстытуцыі аб гэтым іменна і гаворыць. Стала быць, 1-ы артыкул праекта Канстытуцыі правільна адлюстроўвае класавы склад нашага грамадства. Могуць запытацца: а працоўная інтэлігенцыя? Інтэлігенцыя ніколі не

была і не можа быць класам,—яна была і астаецца праслойкай, рэкрутуючай сваіх членаў сярод усіх класаў грамадства. У старыя часы інтэлігенцыя рэкрутавала сваіх членаў сярод дваран, буржуазіі, часткова сярод сялян і толькі ў самай нязначнай ступені сярод рабочых. У наш, савецкі час інтэлігенцыя рэкрутуе сваіх членаў галоўным чынам сярод рабочых і сялян. Але як-бы яна ні рэкрутавалася і які-б характар яна ні насіла, інтэлігенцыя ўсё-ж з'яўляецца праслойкай, а не класам.

Ці не ўшчамляе гэтая акалічнасць праваў працоўнай інтэлігенцыі? Нікольні! Першы артыкул праекта Канстытуцыі гаворыць не аб правах розных слаёў савецкага грамадства, а аб класавым складзе гэтага грамадства. Аб правах розных слаёў савецкага грамадства, у тым ліку аб правах працоўнай інтэлігенцыі, гаворыцца галоўным чынам у дзесятым і адзінаццатым раздзелах праекта Канстытуцыі. З гэтых раздзелаў відаць, што рабочыя, сяляне і працоўная інтэлігенцыя зусім роўнаpraўны ва ўсіх сферах гаспадарчага, палітычнага, грамадскага і культурнага жыцця краіны. Стала быць, аб ушчамленні праваў працоўнай інтэлігенцыі не можа быць і гутаркі.

Тое-ж самае трэба сказаць аб нацыях і расах, якія ўваходзяць у склад СССР. У другім раздзеле праекта Канстытуцыі ўжо сказана, што СССР ёсць свабодны саюз роўнапраўных нацый. Ці варта паўтараць гэтую формулу ў першым артыкуле праекта Канстытуцыі, трактуючым не аб нацыянальным складзе савецкага грамадства, а аб яго класавым складзе? Ясна, што не варта. Што датычыць праваў нацый і рас, якія ўваходзяць у склад СССР, то аб гэтым гаворыцца ў другім, дзесятым і адзінаццатым раздзелах праекта Канстытуцыі. З гэтых раздзелаў відаць, што нацыі і расы СССР карыстаюцца аднолькавымі правамі ва ўсіх сферах гаспадарчага, палітычнага, грамадскага і культурнага жыцця краіны. Стала быць, не можа быць і гутаркі аб ушчамленні нацыянальных праваў.

Таксама няправільна было-б замяніць слова «селянін» словам «калгаснік» або словамі «працоўны соцыялістычнага земляробства». Па-першае, сярод сялян апрача калгаснікаў ёсць яшчэ звыш мільёна двароў не-калгаснікаў. Як быць з імі? Ці не думаюць аўтары гэтай папраўкі скінуць іх з рахунку? Гэта было-б неразумна. Па-другое, калі большасць сялян стала весці калгасную гаспадарку, то гэта яшчэ не значыць, што яна перастала быць сялянствам, што ў яе няма больш сваёй асабістай гаспадаркі, асабістага двара і т. д. Па-трэцяе, прыйшлося-б тады за-

мяніць таксама слова «рабочы» словамі «працаўнік социялістычнай прамысловасці», чаго, аднак, аўтары папраўкі чамусьці не прапануюць. Нарэшце, хіба ў нас ужо зніклі клас рабочых і клас сялян? А калі яны не зніклі, то ці варта выкрэсліваць з лексікона ўстанавіўшыяся для іх найменаванні? Аўтары папраўкі, відаць, маюць на ўвазе не цяперашняе, а будучае грамадства, калі класаў ужо не будзе і калі рабочыя і сяляне ператворацца ў працаўнікоў адзінага комуністычнага грамадства. Яны, стала быць, яўным чынам забягаюць наперад. Але пры складанні Канстытуцыі трэба зыходзіць не з будучага, а з сучаснага, з таго, што ўжо ёсць. Канстытуцыя не можа і не павінна забягаць наперад.

2) Далей ідзе папраўка да 17-га артыкула праекта Канстытуцыі. Папраўка заключаецца ў тым, што прапануюць выключыць зусім з праекта Канстытуцыі 17-ы артыкул, які гаворыць аб захаванні за Саюзнымі рэспублікамі права вольнага выхаду з СССР. Я думаю, што гэтая прапанова няправільная і таму не павінна быць прынята З'ездам. СССР ёсць добраахвотны саюз роўнапраўных Саюзных рэспублік. Выключыць з Канстытуцыі артыкул аб праве вольнага выхаду з СССР,—значыць парушыць добраахвотны характар гэтага саюза. Ці можам мы пайсці на гэты крок? Я думаю, што мы не можам і не павінны ісці на гэты крок. Гавораць, што ў СССР няма ні адной рэспублікі, якая-б хацела выйсці са складу СССР, што з прычыны гэтага артыкул 17-ты не мае практычнага значэння. Што ў нас няма ні адной рэспублікі, якая-б хацела выйсці са складу СССР, гэта, вядома, верна. Але з гэтага зусім не вынікае, што мы не павінны зафіксіраваць у Канстытуцыі права Саюзных рэспублік на вольны выхад з СССР. У СССР няма таксама такой Саюзнай рэспублікі, якая-б хацела падавіць другую Саюзную рэспубліку. Але з гэтага зусім не вынікае, што з Канстытуцыі СССР павінен быць выключан артыкул, які трактуе аб роўнасці праvoў Саюзных рэспублік.

3) Далей ёсць прапанова дапоўніць другі раздзел праекта Канстытуцыі новым артыкулам, змест якога зводзіцца к таму, што аўтаномныя совецкія социялістычныя рэспублікі пры дасягненні адпаведнага ўзроўню гаспадарчага і культурнага развіцця могуць быць пераўтвораны ў саюзныя совецкія социялістычныя рэспублікі. Ці можна прыняць гэтую прапанову? Я думаю, што не трэба яе прымаць. Яна няправільна не толькі з боку яе зместу, але і з боку яе матываў. Нельга матывіраваць перавод аўтаном-

ных рэспублік у разрад саюзных рэспублік гаспадарчай і культурнай іх спеласцю, таксама як нельга матывіраваць астаўленне той ці іншай рэспублікі ў спісе аўтаномных рэспублік яе гаспадарчай або культурнай адсталасцю. Гэта быў-бы не марксісцкі, не ленінскі падыход. Татарская Рэспубліка, напрыклад, астаецца аўтаномнай, а Казахская Рэспубліка становіцца саюзнай, але гэта яшчэ не значыць, што Казахская Рэспубліка з пункту гледжання культурнага і гаспадарчага развіцця стаіць вышэй, чым Татарская Рэспубліка. Справа абстаіць якраз наадварот. Тое-ж самае трэба сказаць, напрыклад, аб Аўтаномнай Рэспубліцы Немцаў Паволжа і аб Кіргізскай Саюзнай Рэспубліцы, з якіх першая ў культурных і гаспадарчых адносінах стаіць вышэй, чым другая, хоць і астаецца аўтаномнай рэспублікай.

Якія-ж тыя адзнакі, наяўнасць якіх дае падставу для пераводу аўтаномных рэспублік у разрад саюзных рэспублік?

Іх, гэтых адзнак,—тры.

Па-першае, неабходна, каб рэспубліка была акраіннай, не акружанай з усіх бакоў тэрыторыяй СССР. Чаму? Таму што калі за Саюзнай рэспублікай захоўваецца права выхаду з Саюза ССР, то неабходна, каб гэтая рэспубліка, стаўшая Саюзнай, мела магчымасць лагічна і фактычна паставіць пытанне аб яе выхадзе з СССР. А такое пытанне можа паставіць толькі такая рэспубліка, якая, скажам, мяжуе з якой-небудзь іншаземнай дзяржавай і, стала быць, не акружана з усіх бакоў тэрыторыяй СССР. Вядома, у нас няма рэспублік, якія-б фактычна ставілі пытанне аб выхадзе з СССР. Але раз астаецца за Саюзнай рэспублікай права выхаду з СССР, то трэба абставіць справу так, каб гэтае права не ператваралася ў пустую і бяссэнсную паперку. Возьмем, напрыклад, Башкірскую або Татарскую Рэспубліку. Дапусцім, што гэтыя аўтаномныя рэспублікі перавялі ў разрад саюзных рэспублік. Ці маглі-б яны паставіць пытанне лагічна і фактычна аб сваім выхадзе з СССР? Не, не маглі-б. Чаму? Таму што яны з усіх бакоў акружаны совецкімі рэспублікамі і абласцямі і ім, уласна кажучы, няма куды выходзіць са складу СССР. (А г у л ь н ы с м е х, а п л а д ы с м е н т ы.) Таму перавод такіх рэспублік у разрад саюзных рэспублік быў-бы няправільным.

Па-другое, неабходна, каб нацыянальнасць, якая дала совецкай рэспубліцы сваё імя, прадстаўляла ў рэспубліцы больш ці менш кампактную большасць. Узяць, напрыклад, Крымскую Аўтаномную Рэспубліку. Яна з'яўляецца акраіннай рэспублікай, але крымскія татары не маюць большасці ў гэтай рэспубліцы,

наадварот,—яны прадстаўляюць там меншасць. Стала быць, было-б няправільна і нелагічна перавесці Крымскую Рэспубліку ў разрад саюзных рэспублік.

Па-трэцяе, неабходна, каб рэспубліка была не вельмі маленькай у сэнсе колькасці яе насельніцтва, каб яна мела насельніцтва, скажам, не менш, а больш хоць-бы мільёна. Чаму? Таму, што было-б няправільна дапусціць, што маленькая савецкая рэспубліка, якая мае мінімальную колькасць насельніцтва і нязначную армію, магла разлічваць на незалежнае дзяржаўнае існаванне. Наўрад ці можна сумнявацца, што імперыялістычныя драпежнікі жыва прыбралі-б яе к рукам.

Я думаю, што без наяўнасці гэтых трох аб'ектыўных адзнак было-б няправільна ў сучасны гістарычны момант ставіць пытанне аб пераводзе той ці іншай аўтаномнай рэспублікі ў разрад саюзных рэспублік.

4) Далей прапануюць выкрэсліць у артыкулах 22-ім, 23-ім, 24-ым, 25-ым, 26-ым, 27-ым, 28-ым і 29-ым падрабязнае пералічэнне адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу саюзных рэспублік на краі і вобласці. Я думаю, што гэтая прапанова таксама непрыймальна. У СССР ёсць людзі, якія гатовы з вялікай ахвотай і безустанку перакройваць краі і вобласці, уносячы гэтым блытаніну і няўпэўненасць у рабоце. Праект Канстытуцыі ставае для гэтых людзей узду. І гэта вельмі добра, бо тут, як і ва многім іншым, патрабуецца ў нас атмасфера ўпэўненасці, патрабуецца стабільнасць, яснасць.

5) Пятая папраўка датычыць 33-га артыкула. Лічаць нематазгодным стварэнне двух палат і прапануюць знішчыць Совет Нацыянальнасцей. Я думаю, што гэтая папраўка таксама няправільная. Аднапалатная сістэма была-б лепш двухпалатнай, калі-б СССР прадстаўляў адзіную нацыянальную дзяржаву. Але СССР не ёсць адзіная нацыянальная дзяржава. СССР ёсць, як вядома, многанацыянальная дзяржава. У нас ёсць вярхоўны орган, дзе прадстаўлены агульныя інтарэсы ўсіх працоўных СССР незалежна ад іх нацыянальнасці. Гэта—Совет Саюза. Але ў нацыянальнасцей СССР апрача агульных інтарэсаў ёсць яшчэ свае асобыя, спецыфічныя інтарэсы, звязаныя з іх нацыянальнымі асаблівасцямі. Ці можна пагарджаць гэтымі спецыфічнымі інтарэсамі? Не, нельга. Ці патрэбен спецыяльны вярхоўны орган, які-б адлюстроўваў гэтыя іменна спецыфічныя інтарэсы? Безумоўна патрэбен. Не можа быць сумнення, што без такога органа немагчыма было-б кіраваць такой многанацыянальнай дзяржавай, як

СССР. Такім органам з'яўляецца другая палата, Совет Нацыянальнасцей СССР.

Спасылаюцца на парламенцкую гісторыю еўрапейскіх і амерыканскіх дзяржаў, спасылаюцца на тое, што двухпалатная сістэма ў гэтых краінах дала толькі мінусы, што другая палата выраджаецца звычайна ў цэнтр рэакцыі і ў тормаз супроць руху ўперад. Усё гэта верна. Але гэта адбываецца таму, што ў гэтых краінах паміж палатамі няма роўнасці. Як вядома, другой палаце даюць нярэдка больш правоў, чым першай, і затым, як правіла, другая палата арганізуецца недэмакратычным шляхам, нярэдка шляхам назначэння яе членаў зверху. Несумненна, што гэтых мінусаў не будзе, калі правесці роўнасць паміж палатамі і другую палату арганізаваць таксама дэмакратычна, як і першую.

6) Прапануюць далей дадатак да праекта Канстытуцыі, які патрабуе ўраўнання колькасці членаў абодвух палат. Я думаю, што гэтую прапанову можна было-б прыняць. Яна дае, по-мойму, яўныя палітычныя плюсы, бо падкрэслівае роўнасць палат.

7) Далей ідзе дадатак да праекта Канстытуцыі, у сілу якога прапануецца выбіраць дэпутатаў у Совет Нацыянальнасцей так сама, як і ў Совет Саюза, шляхам прамых выбараў. Я думаю, што гэтую прапанову таксама можна было-б прыняць. Праўда, яна можа стварыць некаторыя тэхнічныя нязручнасці пры выбарах. Але затое яна дасць вялікі палітычны выйгрыш, бо яна павінна павысіць аўтарытэт Совета Нацыянальнасцей.

8) Далей ідзе дадатак да артыкула 40-га, у сілу якога прапануецца прадаставіць Прэзідыуму Вярхоўнага Совета права выдаваць часовыя заканадаўчыя акты. Я думаю, што гэты дадатак няправільны і не павінен быць прынят З'ездам. Трэба, нарэшце, пакончыць з тым становішчам, калі заканадаўствуе не адзін які-небудзь орган, а цэлы рад органаў. Такое становішча супярэчыць прынцыпу стабільнасці законаў. А стабільнасць законаў патрэбна нам цяпер больш, чым калі-б то ні было. Заканадаўчая ўлада ў СССР павінна ажыццяўляцца толькі адным органам, Вярхоўным Советам СССР.

9) Далей прапануюць дадатак да 48-га артыкула праекта Канстытуцыі, у сілу якога патрабуюць, каб старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета Саюза ССР выбіраўся не Вярхоўным Советам СССР, а ўсім насельніцтвам краіны. Я думаю, што гэты дадатак няправільны, бо ён не адпавядае духу нашай Канстытуцыі. Паводле сістэмы нашай Канстытуцыі ў СССР не павінна быць аднаасабовага прэзідэнта, які выбіраецца ўсім насельніцтвам, на-

роўні з Вярхоўным Советам, і можа процістаўляць сябе Вярхоўнаму Совету. Прэзідэнт у СССР калегіяльны,—гэта Прэзідыум Вярхоўнага Совета, уключаючы і старшыню Прэзідыума Вярхоўнага Совета, выбіраемы не ўсім насельніцтвам, а Вярхоўным Советам, і падсправаздачны Вярхоўнаму Совету. Вопыт гісторыі паказвае, што такая пабудова вярхоўных органаў з'яўляецца найбольш дэмакратычнай, гарантуючай краіну ад непажаданых выпадковасцей.

10) Далей ідзе папраўка да таго-ж 48-га артыкула. Яна гаворыць: павялічыць колькасць намеснікаў старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР да адзінаццаці з тым, каб ад кожнай Саюзнай рэспублікі быў адзін намеснік. Я думаю, што гэтую папраўку можна было-б прыняць, бо яна паляпшае справу і можа толькі ўмацаваць аўтарытэт Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР.

11) Далей ідзе папраўка да артыкула 77-га. Яна патрабуе арганізацыі новага агульнасаюзнага народнага камісарыята,—Наркамата Абароннай Прамысловасці. Я думаю, што гэтую папраўку таксама варта-б было прыняць (а п л а д ы с м е н т ы), бо наспеў час для таго, каб выдзеліць нашу абаронную прамысловасць і даць ёй адпаведнае наркамацкае афармленне. Мне здаецца, што гэта магло-б толькі палепшыць справу абароны нашай краіны.

12) Далей ідзе папраўка да артыкула 124-га праекта Канстытуцыі, якая патрабуе яго змены ў тым кірунку, каб забараніць адпраўленне рэлігійных абрадаў. Я думаю, што гэтую папраўку варта адхіліць, як не адпавядаючую духу нашай Канстытуцыі.

13) Нарэшце, яшчэ адна папраўка, якая мае больш або менш істотны характар. Я гавару аб папраўцы да 135-га артыкула праекта Канстытуцыі. Яна прапануе пазбавіць выбарчых правоў служыцеляў культа, былых белагвардзейцаў, усіх былых людзей і асоб, якія не займаюцца агульнакарыснай працай, або, ва ўсякім выпадку,—абмежаваць выбарчыя правы асоб гэтай катэгорыі, даўшы ім толькі права выбіраць, але не быць выбранымі. Я думаю, што гэтая папраўка таксама павінна быць адхілена. Совецкая ўлада пазбавіла выбарчых правоў непрацоўныя і эксплаататарскія элементы не на векі вечныя, а часова, да пэўнага перыяду. Быў час, калі гэтыя элементы вялі адкрытую вайну супроць народу і процідзейнічалі совецкім законам. Совецкі закон аб пазбаўленні іх выбарчага права быў адказам Совецкай улады на гэтае процідзеянне. З той пары прайшло нямала часу. За прай-

шоўшы перыяд мы дабіліся таго, што эксплаатататарскія класы знішчаны, а Совецкая ўлада ператварылася ў непераможную сілу. Ці не прыйшоў час перагледзець гэты закон? Я думаю, што прыйшоў час. Гавораць, што гэта небяспечна, бо могуць пралезці ў вярхоўныя органы краіны варожыя Совецкай уладзе элементы, сёй-той з былых белагвардзейцаў, кулакоў, папоў і т. д. Але чаго тут уласна баяцца? Ваўкоў баяцца, у лес не хадзіць. (Вясёлае ажыўленне ў зале, бурныя апладысменты.) Па-першае, не ўсе былыя кулакі, белагвардзейцы або папы варожы Совецкай уладзе. Па-другое, калі народ сям-там і выбярэ варожых людзей, то гэта будзе азначаць, што наша агітацыйная работа пастаўлена з рук вон дрэнна, і мы цалкам заслужылі такую ганьбу, калі-ж наша агітацыйная работа будзе ісці па-большэвіцку, то народ не прапусціць варожых людзей у свае вярхоўныя органы. Значыць, трэба працаваць, а не хныкаць (бурныя апладысменты), трэба працаваць, а не чакаць таго, што ўсё будзе прадастаўлена ў гатовым выглядзе ў парадку адміністрацыйных распараджэнняў. Ленін яшчэ ў 1919 годзе гаварыў, што не далёкі той час, калі Совецкая ўлада палічыць карысным увесці ўсеагульнае выбарчае права без усякіх абмежаванняў. Звярніце ўвагу: **без усякіх абмежаванняў.** Гэта ён гаварыў у той час, калі замежная ваенная інтэрвенцыя не была яшчэ ліквідавана, а наша прамысловасць і сельская гаспадарка знаходзіліся ў адчаянным становішчы. З той пары прайшло ўжо 17 год. Ці не пара, таварышы, выканаць указанне Леніна? Я думаю, што пара.

Вось што гаварыў Ленін у 1919 годзе ў сваёй працы «Праект праграмы РКП(б)». Дазвольце зачытаць:

«Р.К.П. павінна растлумачваць працоўным масам, каб пазбегнуць няправільнага абагульнення праходзячых гістарычных патрэб, што пазбаўленне выбарчых правоў часткі грамадзян зусім не датычыць у Совецкай рэспубліцы, як гэта бывала ў большасці буржуазна-дэмакратычных рэспублік, пэўнага разраду грамадзян, пажыццёва аб'яўляемых бяспраўнымі, а адносіцца толькі да эксплаататараў, толькі да тых, хто наперакор асноўным законам соцыялістычнай Совецкай рэспублікі ўпорствуе ў адстойванні свайго эксплаатататарскага становішча, у захаванні капіталістычных адносін. Значыць, у Совецкай рэспубліцы, з аднаго боку, з кожным днём умацавання соцыялізма і скарачэння ліку тых, хто мае аб'ектыўна магчымасць аставацца эксплаататарам або захоўваць

капіталістычныя адносіны, змяншаецца само сабой працант пазбаўляемых выбарчага права. Наўрад ці цяпер у Расіі гэты процант больш чым два, тры працанты. З другога боку, у самым недалёкім будучым спыненне знешняга нашэствія і давяршэнне экспрапрыяцыі экспрапрыятараў можа, пры пэўных умовах, стварыць становішча, калі пролетарская дзяржаўная ўлада выбярэ іншыя спосабы падаўлення супраціўлення эксплаататараў і ўвядзе ўсеагульнае выбарчае права **без усякіх абмежаванняў»** (Ленін, т. XXIV, стар. 94. Выданне Партвыдавецтва. 1935 год).

Здаецца, ясна.

Так абстаіць справа з папраўкамі і дадаткамі да праекта Канстытуцыі СССР.

## VI. ЗНАЧЭННЕ НОВАЙ КАНСТЫТУЦЫІ СССР

Судзячы па рэзультатах усенароднага абмеркавання, якое прадаўжалася амаль 5 месяцаў, можна дапусціць, што праект Канстытуцыі будзе адобран гэтым З'ездам. (Бурныя апладысменты, якія пераходзяць у авацыю. Зала ўстае.)

Праз некалькі дзён Совецкі Саюз будзе мець новую, соцыялістычную Канстытуцыю, пабудаваную на пачатках разгорнутага соцыялістычнага дэмакратызма.

Гэта будзе гістарычны дакумент, які трактуе проста і сцісла, амаль у пратакольным стылі, аб фактах перамогі соцыялізма ў СССР, аб фактах вызвалення працоўных СССР ад капіталістычнага рабства, аб фактах перамогі ў СССР разгорнутай, да канца паслядоўнай дэмакратыі.

Гэта будзе дакумент, які сведчыць аб тым, што тое, аб чым марылі і прадаўжаюць марыць мільёны чэсных людзей у капіталістычных краінах,—ужо ажыццёўлена ў СССР. (Бурныя апладысменты.)

Гэта будзе дакумент, які сведчыць аб тым, што тое, што ажыццёўлена ў СССР, цалкам можа быць ажыццёўлена і ў іншых краінах. (Бурныя апладысменты.)

Але з гэтага вынікае, што міжнароднае значэнне новай Канстытуцыі СССР наўрад ці можа быць пераацэнена.

Цяпер, калі мутная хваля фашызма аплёўвае соцыялістычны рух рабочага класа і змешвае з гразёй дэмакратычныя імкненні лепшых людзей цывілізаванага свету, новая Канстытуцыя СССР будзе абвінаваўчым актам супроць фашызма, гаворачым аб тым,

што соцыялізм і дэмакратыя непераможны. (Апладысменты.) Новая Канстытуцыя СССР будзе маральнай дапамогай і рэальнай падмогай для ўсіх тых, хто вядуць цяпер барацьбу супроць фашысцкага варварства. (Бурныя апладысменты.)

Яшчэ большае значэнне мае новая Канстытуцыя СССР для народаў СССР. Калі для народаў капіталістычных краін Канстытуцыя СССР будзе мець значэнне праграмы дзеянняў, то для народаў СССР яна мае значэнне выніку іх барацьбы, выніку іх перамог на фронце вызвалення чалавецтва. У рэзультаце пройдзенага шляху барацьбы і лішэнняў прыемна і радасна мець сваю Канстытуцыю, якая трактуе аб пладах нашых перамог. Прыемна і радасна ведаць, за што біліся нашы людзі і як яны дабіліся сусветна-гістарычнай перамогі. Прыемна і радасна ведаць, што кроў, багата пралітая нашымі людзьмі, не прайшла дарэмна, што яна дала свае рэзультаты. (Працяглыя апладысменты.) Гэта ўзбройвае духоўна наш рабочы клас, наша сялянства, нашу працоўную інтэлігенцыю. Гэта рухае наперад і ўзнімае пачуццё законнай гордасці. Гэта ўмацоўвае веру ў свае сілы і мабілізуе на новую барацьбу для заваявання новых перамог комунізма. (Бурная авацыя. Уся зала ўстае. Грамавое «ура». Агульныя воклічы: «Няхай жыве таварыш Сталін!» З'езд стоячы пяе «Інтэрнацыянал». Пасля выканання «Інтэрнацыянала» авацыя аднаўляецца. Крыкі: «Ура!», «Няхай жыве наш правадыр таварыш Сталін!»)

---

# КАНСТЫТУЦЫЯ (АСНОЎНЫ ЗАКОН)
## Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік

*Раздзел I*

## ГРАМАДСКІ ЛАД (УСТРОЙСТВА)

**Артыкул 1.** Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік ёсць соцыялістычная дзяржава рабочых і сялян.

**Артыкул 2.** Палітычную аснову СССР складаюць Советы дэпутатаў працоўных, якія выраслі і ўзмацніліся ў выніку звяржэння ўлады памешчыкаў і капіталістаў і заваявання дыктатуры пролетарыята.

**Артыкул 3.** Уся ўлада ў СССР належыць працоўным горада і вёскі ў асобе Советаў дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 4.** Эканамічную аснову СССР складаюць соцыялістычная сістэма гаспадаркі і соцыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці, якія ўмацаваліся ў выніку ліквідацыі капіталістычнай сістэмы гаспадаркі, адмены прыватнай уласнасці на прылады і сродкі вытворчасці і знішчэння эксплаатацыі чалавека чалавекам.

**Артыкул 5.** Соцыялістычная ўласнасць у СССР мае або форму дзяржаўнай уласнасці (усенародны здабытак), або форму кааператыўна-калгаснай уласнасці (уласнасць паасобных калгасаў, уласнасць кааператыўных аб'яднанняў).

**Артыкул 6.** Зямля, яе нетры, воды, лясы, заводы, фабрыкі, шахты, руднікі, чыгуначны, водны і паветраны транспарт, банкі, сродкі сувязі, арганізаваныя дзяржавай буйныя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы (соўгасы, машынатрактарныя

станцыі і т. п.), а таксама комунальныя прадпрыемствы і асноўны жыллёвы фонд у гарадах і прамысловых пунктах з'яўляюцца дзяржаўнай уласнасцю, гэта значыць усенародным здабыткам.

**Артыкул 7.** Грамадскія прадпрыемствы ў калгасах і каапэратыўных арганізацыях з іх жывым і мёртвым інвентаром, прадукцыя, якая выраблялецца калгасамі і каапэратыўнымі арганізацыямі, таксама як іх грамадскія будынкі, складаюць грамадскую, соцыялістычную ўласнасць калгасаў і каапэратыўных арганізацый.

Кожны калгасны двор, апрача асноўнага прыбытку ад грамадскай калгаснай гаспадаркі, мае ў асабістым карыстанні невялікі прысядзібны ўчастак зямлі і ў асабістай уласнасці падсобную гаспадарку на прысядзібным участку, жылы дом, прадукцыйную жывёлу, птушак і дробны сельскагаспадарчы інвентар—згодна статута сельскагаспадарчай арцелі.

**Артыкул 8.** Зямля, якая займаецца калгасамі, замацоўваецца за імі ў бясплатнае і бестэрміновае карыстанне, гэта значыць навечна.

**Артыкул 9.** Побач з соцыялістычнай сістэмай гаспадаркі, якая з'яўляецца пануючай формай гаспадаркі ў СССР, дапускаецца законам дробная прыватная гаспадарка аднаасобных сялян і саматужнікаў, якая аснована на асабістай працы і выключае эксплаатацыю чужой працы.

**Артыкул 10.** Права асабістай уласнасці грамадзян на іх працоўныя прыбыткі і зберажэнні, на жылы дом і падсобную хатнюю гаспадарку, на прадметы хатняй гаспадаркі і ўжытку, на прадметы асабістага спажывання і выгоды, таксама як права наследвання асабістай уласнасці грамадзян—ахоўваюцца законам.

**Артыкул 11.** Гаспадарчае жыццё СССР вызначаецца і накіроўваецца дзяржаўным народна-гаспадарчым планам у інтарэсах павелічэння грамадскага багацця, няўхільнага ўздыму матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных, умацавання незалежнасці СССР і ўзмацнення яго абароназдольнасці.

**Артыкул 12.** Праца ў СССР з'яўляецца абавязкам і справай гонару кожнага здольнага да працы грамадзяніна па прынцыпу: «хто не працуе, той не есць».

У СССР ажыццяўляецца прынцып соцыялізма: «ад кожнага па яго здольнасці, кожнаму—па яго працы».

*Раздзел II*

# ДЗЯРЖАЎНЫ ЛАД (УСТРОЙСТВА)

**Артыкул 13.** Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік ёсць саюзная дзяржава, утвораная на аснове добравольнага аб'яднання роўнапраўных Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік:

Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі,
Украінскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі,
Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі,
Азербайджанскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі,
Грузінскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі,
Армянскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі,
Туркменскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі,
Узбекскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі,
Таджыкскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі,
Казахскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі,
Кіргізскай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

**Артыкул 14.** Веданню Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік у асобе яго вышэйшых органаў улады і органаў дзяржаўнага кіравання падлягаюць:

а) прадстаўніцтва Саюза ў міжнародных зносінах, заключэнне і ратыфікацыя дагавораў з іншымі дзяржавамі;

б) пытанні вайны і міру;

в) прыняцце ў склад СССР новых рэспублік;

г) кантроль за выкананнем Канстытуцыі СССР і забеспячэнне адпаведнасці Канстытуцый саюзных рэспублік з Канстытуцыяй СССР;

д) зацверджанне змен граніц паміж саюзнымі рэспублікамі;

е) зацверджанне ўтварэння новых краёў і абласцей, а таксама новых аўтаномных рэспублік у складзе саюзных рэспублік;

ж) арганізацыя абароны СССР і кіраўніцтва ўсімі ўзброенымі сіламі СССР;

з) замежны гандаль на аснове дзяржаўнай манаполіі;

**і) ахова дзяржаўнай бяспечнасці;**

к) устанаўленне народна-гаспадарчых планаў СССР;

л) зацверджанне адзінага дзяржаўнага бюджэту СССР, а таксама падаткаў і прыбыткаў, якія паступаюць на ўтварэнне бюджэтаў саюзнага, рэспубліканскіх і мясцовых;

м) кіраванне банкамі, прамысловымі і сельскагаспадарчымі ўстановамі і прадпрыемствамі, а таксама гандлёвымі прадпрыемствамі—агульнасаюзнага значэння;

н) кіраванне транспартам і сувяззю;

о) кіраўніцтва грашовай і крэдытнай сістэмай;

п) арганізацыя дзяржаўнага страхавання;

р) заключэнне і прадастаўленне пазык;

с) устанаўленне асноўных пачаткаў землекарыстання, а таксама карыстання нетрамі, лясамі і водамі;

т) устанаўленне асноўных пачаткаў у галіне асветы і аховы здароўя;

у) арганізацыя адзінай сістэмы народна-гаспадарчага ўчоту;

ф) устанаўленне асноў заканадаўства аб працы;

х) заканадаўства аб судабудаўніцтве і судаводзенні; крымінальны і грамадзянскі кодэксы;

ц) законы аб саюзным грамадзянстве; законы аб правах грамадзян іншых краін;

ч) выданне агульнасаюзных актаў аб амністыі.

**Артыкул 15.** Суверэнітэт саюзных рэспублік агранічаны толькі ў межах, паказаных у артыкуле 14 Канстытуцыі СССР. Па-за гэтымі межамі кожная Саюзная рэспубліка ажыццяўляе дзяржаўную ўладу самастойна. СССР ахоўвае суверэнныя правы саюзных рэспублік.

**Артыкул 16.** Кожная Саюзная рэспубліка мае сваю Канстытуцыю, якая ўлічвае асаблівасці рэспублікі і пабудавана ў поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй СССР.

**Артыкул 17.** За кожнай Саюзнай рэспублікай захоўваецца права свабоднага выхаду з СССР.

**Артыкул 18.** Тэрыторыя саюзных рэспублік не можа быць зменена без іх згоды.

**Артыкул 19.** Законы СССР маюць аднолькавую сілу на тэрыторыі ўсіх саюзных рэспублік.

**Артыкул 20.** У выпадку разыходжання закона Саюзнай рэспублікі з законам агульнасаюзным, дзейнічае агульнасаюзны закон.

**Артыкул 21.** Для грамадзян СССР устанаўляецца адзінае саюзнае грамадзянства.

Кожны грамадзянін Саюзнай рэспублікі з'яўляецца грамадзянінам СССР.

**Артыкул 22.** Расійская Савецкая Федэратыўная Соцыялістычная Рэспубліка складаецца з краёў: Азова-Чорнаморскага, Далёка-Ўсходняга, Заходне-Сібірскага, Краснаярскага, Паўночна-Каўказскага; абласцей: Варонежскай, Усходне-Сібірскай, Горкаўскай, Заходняй, Іванаўскай, Калінінскай, Кіраўскай, Куйбышэўскай, Курскай, Ленінградскай, Маскоўскай, Омскай, Орэнбургскай, Саратаўскай, Свердлоўскай, Паўночнай, Сталінградскай, Чэлябінскай, Яраслаўскай; аўтаномных савецкіх соцыялістычных рэспублік: Татарскай, Башкірскай, Дагестанскай, Бурат-Мангольскай, Кабардзіна-Балкарскай, Калмыцкай, Карэльскай, Комі, Крымскай, Марыйскай, Мардоўскай, Немцаў Паволжа, Паўночна-Осецінскай, Удмурцкай, Чэчэна-Інгушскай, Чувашскай, Якуцкай; аўтаномных абласцей: Адыгейскай, Яўрэйскай, Карачаеўскай, Ойроцкай, Хакаскай, Чэркескай.

**Артыкул 23.** Украінская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка складаецца з абласцей: Вінніцкай, Днепрапетроўскай, Данецкай, Кіеўскай, Одэскай, Харкаўскай, Чэрнігаўскай і Малдаўскай Аўтаномнай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

**Артыкул 24.** У Азербайджанскай Савецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы знаходзяцца (састаяць) Нахічэванская Аўтаномная Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка і Нагорна-Карабахская аўтаномная вобласць.

**Артыкул 25.** У Грузінскай Савецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы знаходзяцца (састаяць) Абхазская АССР, Аджарская АССР, Пaўднёва-Осецінская аўтаномная вобласць.

**Артыкул 26.** У Узбекскай Савецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы знаходзіцца (састаіць) Кара-Калпакская АССР.

**Артыкул 27.** У Таджыкскай Савецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы знаходзіцца (састаіць) Горна-Бадахшанская аўтаномная вобласць.

**Артыкул 28.** Казахская Савецкая Соцыялістычная Рэспубліка складаецца з абласцей: Акцюбінскай, Алма-Ацінскай, Усходне-Казахстанскай, Заходне-Казахстанскай, Карагандзінскай, Кустанайскай, Паўночна-Казахстанскай, Паўднёва-Казахстанскай.

**Артыкул 29.** Армянская ССР, Беларуская ССР, Туркменская ССР і Кіргізская ССР не маюць у сваім складзе аўтаномных рэспублік, таксама як краёў і абласцей.

*Раздзел III*

# ВЫШЭЙШЫЯ ОРГАНЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ САЮЗА СОВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

**Артыкул 30.** Вышэйшым органам дзяржаўнай улады СССР з'яўляецца Вярхоўны Совет СССР.

**Артыкул 31.** Вярхоўны Совет СССР ажыццяўляе ўсе правы, прысвоеныя Саюзу Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік згодна артыкула 14 Канстытуцыі, паколькі яны не ўваходзяць, па Канстытуцыі, у кампетэнцыю падсправаздачных Вярхоўнаму Совету СССР органаў СССР: Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР, Совета Народных Камісараў СССР і Народных Камісарыятаў СССР.

**Артыкул 32.** Законадаўчая ўлада СССР ажыццяўляецца выключна Вярхоўным Советам СССР.

**Артыкул 33.** Вярхоўны Совет СССР складаецца з двух палат: Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей.

**Артыкул 34.** Совет Саюза абіраецца грамадзянамі СССР па выбарчых акругах па норме: адзін дэпутат на 300 тысяч насельніцтва.

**Артыкул 35.** Совет Нацыянальнасцей абіраецца грамадзянамі СССР па саюзных і аўтаномных рэспубліках, аўтаномных абласцях і нацыянальных акругах па норме: па 25 дэпутатаў ад кожнай саюзнай рэспублікі, па 11 дэпутатаў ад кожнай аўтаномнай рэспублікі, па 5 дэпутатаў ад кожнай аўтаномнай вобласці і па аднаму дэпутату ад кожнай нацыянальнай акругі.

**Артыкул 36.** Вярхоўны Совет СССР абіраецца тэрмінам на чатыры гады.

**Артыкул 37.** Абедзве палаты Вярхоўнага Совета СССР: Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей роўнаправаўны.

**Артыкул 38.** Совету Саюза і Совету Нацыянальнасцей у аднолькавай меры належыць законадаўчая ініцыятыва.

**Артыкул 39.** Закон лічыцца зацверджаным, калі ён прыняты абодвума палатамі Вярхоўнага Совета СССР простай большасцю кожнай.

**Артыкул 40.** Законы, прынятыя Вярхоўным Советам СССР, публікуюцца на мовах саюзных рэспублік за подпісамі старшыні і сакратара Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР.

**Артыкул 41.** Сесіі Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей пачынаюцца і закончваюцца адначасова.

**Артыкул 42.** Совет Саюза абірае старшыню Совета Саюза і двух яго намеснікаў.

**Артыкул 43.** Совет Нацыянальнасцей абірае старшыню Совета Нацыянальнасцей і двух яго намеснікаў.

**Артыкул 44.** Старшыні Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей кіруюць пасяджэннямі адпаведных палат і загадваюць іх унутраным распарадкам.

**Артыкул 45.** Сумесныя пасяджэнні абодвух палат Вярхоўнага Совета СССР вядуць па чарзе старшыні Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей.

**Артыкул 46.** Сесіі Вярхоўнага Совета СССР склікаюцца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета СССР два разы ў год.

Нечарговыя сесіі склікаюцца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета СССР па яго погляду ці па патрабаванню адной з саюзных рэспублік.

**Артыкул 47.** У выпадку рознагалосся паміж Советам Саюза і Советам Нацыянальнасцей пытанне передаецца на вырашэнне камісіі па ўзгадненню, утворанай на парытэтных пачатках. Калі камісія па ўзгадненню не прыходзіць да згоднага рашэння або калі яе рашэнне не задавальняе адну з палат, пытанне разглядаецца другі раз у палатах. Пры адсутнасці згоднага рашэння двух палат, Прэзідыум Вярхоўнага Совета СССР распускае Вярхоўны Совет СССР і назначае новыя выбары.

**Артыкул 48.** Вярхоўны Совет СССР абірае на сумесным пасяджэнні абодвух палат Прэзідыум Вярхоўнага Совета СССР у складзе: старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР, адзінаццаці яго намеснікаў, сакратара Прэзідыума і 24 членаў Прэзідыума.

Прэзідыум Вярхоўнага Совета СССР падсправаздачны Вярхоўнаму Совету СССР ва ўсёй сваёй дзейнасці.

**Артыкул 49.** Прэзідыум Вярхоўнага Совета СССР:

а) склікае сесіі Вярхоўнага Совета СССР;

б) дае тлумачэнне дзейнічаючых законаў СССР, выдае ўказы;

в) распускае Вярхоўны Совет СССР на падставе 47 артыкула Канстытуцыі СССР і назначае новыя выбары;

г) праводзіць усенароднае апытанне (рэферэндум) па сваёй ініцыятыве або па патрабаванню адной з саюзных рэспублік;

д) адмяняе пастановы і распараджэнні Совета Народных Камісараў СССР і Советаў Народных Камісараў саюзных рэспублік у выпадку, калі яны не адпавядаюць закону;

е) у перыяд паміж сесіямі Вярхоўнага Совета СССР вызваляе ад пасады і прызначае асобных Народных Камісараў СССР па прадстаўленню старшыні Совета Народных Камісараў СССР з наступным унясеннем на зацверджанне Вярхоўнага Совета СССР;

ж) узнагароджвае ордэнамі і надае ганаровыя званні СССР;

з) ажыццяўляе права памілавання;

і) назначае і змяняе вышэйшае камандаванне ўзброеных сіл СССР;

к) у перыяд паміж сесіямі Вярхоўнага Совета СССР абвяшчае становішча вайны ў выпадку ваеннага нападу на СССР або ў выпадку неабходнасці выканання міжнародных дагаворных абавязацельстваў па ўзаемнай абароне ад агрэсіі;

л) абвяшчае агульную і частковую мабілізацыю;

м) ратыфікуе міжнародныя дагаворы;

н) назначае і адклікае паўнамоцных прадстаўнікоў СССР у замежных дзяржавах;

о) прымае верыцельныя і адзыўныя граматы акрэдытаваных пры ім дыпламатычных прадстаўнікоў замежных дзяржаў.

**Артыкул 50.** Совет Саюза і Совет Нацыянальнасцей абіраюць мандатныя камісіі, якія правяраюць паўнамоцтвы дэпутатаў кожнай палаты.

Па прадстаўленню мандатнай камісіі палаты рашаюць або прызнаць паўнамоцтвы, або касіраваць выбары асобных дэпутатаў.

**Артыкул 51.** Вярхоўны Совет СССР назначае, калі ён палічыць неабходным, следчыя і рэвізійныя камісіі па любому пытанню.

Усе ўстановы і службовыя асобы абавязаны выконваць патрабаванні гэтых камісій і прадстаўляць ім неабходныя матэрыялы і дакументы.

**Артыкул 52.** Дэпутат Вярхоўнага Совета СССР не можа быць прыцягнут да судовай адказнасці або арыштаваны без згоды Вярхоўнага Совета СССР, а ў перыяд, калі няма сесіі Вярхоўнага Совета СССР,—без згоды Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР.

**Артыкул 53.** Па сканчэнні паўнамоцтваў або пасля датэрміновага роспуску Вярхоўнага Совета СССР Прэзідыум Вярхоўнага Совета СССР захоўвае свае паўнамоцтвы аж да ўтварэння новаабраным Вярхоўным Советам СССР новага Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР.

**Артыкул 54.** Па сканчэнні паўнамоцтваў або ў выпадку датэрміновага роспуску Вярхоўнага Совета СССР Прэзідыум Вярхоўнага Совета СССР назначае новыя выбары ў тэрмін не больш двух месяцаў з дня сканчэння паўнамоцтваў або роспуску Вярхоўнага Совета СССР.

**Артыкул 55.** Новаабраны Вярхоўны Совет СССР склікаецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета СССР ранейшага складу не пазней, як праз месяц пасля выбараў.

**Артыкул 56.** Вярхоўны Совет СССР утварае на сумесным пасяджэнні абодвух палат Урад СССР—Совет Народных Камісараў СССР.

*Раздзел IV*

## ВЫШЭЙШЫЯ ОРГАНЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ САЮЗНЫХ РЭСПУБЛІК

**Артыкул 57.** Вышэйшым органам дзяржаўнай улады Саюзнай рэспублікі з'яўляецца Вярхоўны Совет Саюзнай рэспублікі.

**Артыкул 58.** Вярхоўны Совет Саюзнай рэспублікі абіраецца грамадзянамі рэспублікі тэрмінам на чатыры гады.

Нормы прадстаўніцтва ўстанаўляюцца Канстытуцыямі саюзных рэспублік.

**Артыкул 59.** Вярхоўны Совет Саюзнай рэспублікі з'яўляецца адзіным заканадаўчым органам рэспублікі.

**Артыкул 60.** Вярхоўны Совет Саюзнай рэспублікі:

а) прымае Канстытуцыю рэспублікі і ўносіць у яе змены ў адпаведнасці з артыкулам 16 Канстытуцыі СССР;

б) зацвярджае Канстытуцыі аўтаномных рэспублік, якія знаходзяцца ў яе складзе, і вызначае граніцы іх тэрыторыі;

в) зацвярджае народна-гаспадарчы план і бюджэт рэспублікі;

г) карыстаецца правам амністыі і памілавання грамадзян, асуджаных судовымі органамі Саюзнай рэспублікі.

**Артыкул 61.** Вярхоўны Совет Саюзнай рэспублікі абірае Прэзідыум Вярхоўнага Совета Саюзнай рэспублікі ў складзе: старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Совета Саюзнай рэспублікі, яго намеснікаў, сакратара Прэзідыума і членаў Прэзідыума Вярхоўнага Совета Саюзнай рэспублікі.

Паўнамоцтвы Прэзідыума Вярхоўнага Совета Саюзнай рэспублікі вызначаюцца Канстытуцыяй Саюзнай рэспублікі.

**Артыкул 62.** Для вядзення пасяджэнняў Вярхоўны Совет Саюзнай рэспублікі абірае свайго старшыню і яго намеснікаў.

**Артыкул 63.** Вярхоўны Совет Саюзнай рэспублікі ўтварае Ўрад Саюзнай рэспублікі—Совет Народных Камісараў Саюзнай рэспублікі.

*Раздзел V*

## ОРГАНЫ ДЗЯРЖАЎНАГА КІРАВАННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

**Артыкул 64.** Вышэйшым выканаўчым і распарадчым органам дзяржаўнай улады Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік з'яўляецца Совет Народных Камісараў СССР.

**Артыкул 65.** Совет Народных Камісараў СССР адказны перад Вярхоўным Советам СССР і яму падсправаздачны, а ў перыяд паміж сесіямі Вярхоўнага Совета—перад Прэзідыумам Вярхоўнага Совета СССР, якому падсправаздачны.

**Артыкул 66.** Совет Народных Камісараў СССР выдае пастановы і распараджэнні на аснове і ў выкананне дзейнічаючых законаў і правярае выкананне.

**Артыкул 67.** Пастановы і распараджэнні Совета Народных Камісараў СССР абавязковы да выканання на ўсёй тэрыторыі СССР.

**Артыкул 68.** Совет Народных Камісараў СССР:

а) яднае і накіроўвае работу агульнасаюзных і саюзна-рэспубліканскіх Народных Камісарыятаў СССР і іншых падпарадкаваных яму гаспадарчых і культурных установаў;

б) прымае меры па ажыццяўленню народна-гаспадарчага плана, дзяржаўнага бюджэту і ўмацаванню крэдытна-грашовай сістэмы;

в) прымае меры па забяспечанню грамадскага парадку, абароне інтарэсаў дзяржавы і ахове правоў грамадзян;

г) ажыццяўляе агульнае кіраўніцтва ў галіне зносін з замежнымі дзяржавамі;

д) вызначае штогадовыя кантынгенты грамадзян, якія падлягаюць прызыву на сапраўдную вайсковую службу, кіруе агульным будаўніцтвам узброеных сіл краіны;

е) утварае, у выпадку неабходнасці, спецыяльныя Камітэты і Галоўныя Кіраўніцтвы пры Совеце Народных Камісараў СССР па справах гаспадарчага, культурнага і абароннага будаўніцтва.

**Артыкул 69.** Совет Народных Камісараў СССР мае права па галінах кіравання і гаспадаркі, аднесеных да кампетэнцыі СССР, прыпыняць пастановы і распараджэнні Саветаў Народных Камісараў Саюзных рэспублік і адмяняць загады і інструкцыі Народных Камісараў СССР.

**Артыкул 70.** Совет Народных Камісараў СССР утвараецца Вярхоўным Советам СССР у складзе:

Старшыні Совета Народных Камісараў СССР;
Намеснікаў старшыні Совета Народных Камісараў СССР;
Старшыні Дзяржаўнай планавай камісіі СССР;
Старшыні Камісіі совецкага кантролю;
Народных Камісараў СССР;
Старшыні Камітэта загатовак;
Старшыні Камітэта па справах мастацтваў;
Старшыні Камітэта па справах вышэйшай школы.

**Артыкул 71.** Урад СССР або Народны Камісар СССР, да якіх звернута запытанне дэпутата Вярхоўнага Совета СССР, абавязаны не больш як у трохдзённы тэрмін даць вусны або пісьмовы адказ у адпаведнай палаце.

**Артыкул 72.** Народныя Камісары СССР кіруюць галінамі дзяржаўнага кіравання, якія ўваходзяць у кампетэнцыю СССР.

**Артыкул 73.** Народныя Камісары СССР выдаюць у межах кампетэнцыі адпаведных Народных Камісарыятаў загады і інструкцыі на падставе і ў выкананне дзейнічаючых законаў, а таксама пастаноў і распараджэнняў Совета Народных Камісараў СССР і правяраюць іх выкананне.

**Артыкул 74.** Народныя Камісарыяты СССР з'яўляюцца або агульнасаюзнымі або саюзна-рэспубліканскімі.

**Артыкул 75.** Агульнасаюзныя Народныя Камісарыяты кіруюць даручанай ім галіной дзяржаўнага кіравання на ўсёй тэрыторыі СССР або непасрэдна або праз органы, якія імі назначаюцца.

**Артыкул 76.** Саюзна-рэспубліканскія Народныя Камісарыяты кіруюць даручанай ім галіной дзяржаўнага кіравання, як правіла, праз аднайменныя Народныя Камісарыяты саюзных рэспублік і кіруюць непасрэдна толькі пэўнай абмежаванай колькасцю прадпрыемстваў па спісу, які зацвярджаецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета СССР.

**Артыкул 77.** Да агульнасаюзных Народных Камісарыятаў адносяцца Народныя Камісарыяты:

Абароны;

Замежных спраў;
Замежнага гандлю;
Шляхоў зносін;
Сувязі;
Воднага транспарта;
Цяжкай прамысловасці;
Абароннай прамысловасці.

**Артыкул 78.** Да саюзна-рэспубліканскіх Народных Камісарыятаў адносяцца Народныя Камісарыяты:

Харчовай прамысловасці;
Лёгкай прамысловасці;
Лясной прамысловасці;
Земляробства;
Зернавых і жывёлагадоўчых соўгасаў;
Фінансаў;
Унутранага гандлю;
Унутраных спраў;
Юстыцыі;
Аховы здароўя.

*Раздзел VI*

## ОРГАНЫ ДЗЯРЖАЎНАГА КІРАВАННЯ САЮЗНЫХ РЭСПУБЛІК

**Артыкул 79.** Вышэйшым выканаўчым і распарадчым органам дзяржаўнай улады Саюзнай рэспублікі з'яўляецца Совет Народных Камісараў Саюзнай рэспублікі.

**Артыкул 80.** Совет Народных Камісараў Саюзнай рэспублікі адказны перад Вярхоўным Советам Саюзнай рэспублікі і яму падсправаздачны, а ў перыяд паміж сесіямі Вярхоўнага Совета Саюзнай рэспублікі—перад Прэзідыумам Вярхоўнага Совета Саюзнай рэспублікі, якому падсправаздачны.

**Артыкул 81.** Совет Народных Камісараў Саюзнай рэспублікі выдае пастановы і распараджэнні на аснове і ў выкананне дзейнічаючых законаў СССР і Саюзнай рэспублікі, пастаноў і распараджэнняў Совета Народных Камісараў СССР і правярае іх выкананне.

**Артыкул 82.** Совет Народных Камісараў Саюзнай рэспублікі мае права прыпыняць пастановы і распараджэнні Советаў Народных Камісараў аўтаномных рэспублік і адмяняць рашэнні і

распараджэнні выканаўчых камітэтаў Советаў дэпутатаў працоўных краёў, абласцей і аўтаномных абласцей.

**Артыкул 83.** Совет Народных Камісараў Саюзнай рэспублікі ўтвараецца Вярхоўным Советам Саюзнай рэспублікі ў складзе:

Старшыні Совета Народных Камісараў Саюзнай рэспублікі;
Намеснікаў старшыні;
Старшыні Дзяржаўнай планавай камісіі;
Народных камісараў:

Харчовай прамысловасці;
Лёгкай прамысловасці;
Лясной прамысловасці;
Земляробства;
Зернавых і жывёлагадоўчых соўгасаў;
Фінансаў;
Унутранага гандлю;
Унутраных спраў;
Юстыцыі;
Аховы здароўя;
Асветы;
Мясцовай прамысловасці;
Комунальнай гаспадаркі;
Соцыяльнага забяспечання;

Упаўнаважанага Камітэта загатовак;
Начальніка Кіраўніцтва па справах мастацтваў;
Упаўнаважаных агульнасаюзных Народных Камісарыятаў.

**Артыкул 84.** Народныя Камісары Саюзнай рэспублікі кіруюць галінамі дзяржаўнага кіравання, якія ўваходзяць у кампетэнцыю Саюзнай рэспублікі.

**Артыкул 85.** Народныя Камісары Саюзнай рэспублікі выдаюць у межах кампетэнцыі адпаведных Народных Камісарыятаў загады і інструкцыі на падставе і ў выкананне законаў СССР і Саюзнай рэспублікі, пастаноў і распараджэнняў Совета Народных Камісараў СССР і Саюзнай рэспублікі, загадаў і інструкцый саюзна-рэспубліканскіх Народных Камісарыятаў СССР.

**Артыкул 86.** Народныя Камісарыяты Саюзнай рэспублікі з'яўляюцца саюзна-рэспубліканскімі або рэспубліканскімі.

**Артыкул 87.** Саюзна-рэспубліканскія Народныя Камісарыяты кіруюць даручанай ім галіной дзяржаўнага кіравання, падпарадкуючыся як Совету Народных Камісараў Саюзнай рэспуб-

лікі, так і адпаведнаму саюзна-рэспубліканскаму Народнаму Камісарыяту СССР.

**Артыкул 88.** Рэспубліканскія Народныя Камісарыяты кіруюць даручанай ім галіной дзяржаўнага кіравання, падпарадкуючыся непасрэдна Совету Народных Камісараў Саюзнай рэспублікі.

*Раздзел VII*

## ВЫШЭЙШЫЯ ОРГАНЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ АЎТАНОМНЫХ СОВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

**Артыкул 89.** Вышэйшым органам дзяржаўнай улады Аўтаномнай рэспублікі з'яўляецца Вярхоўны Совет АССР.

**Артыкул 90.** Вярхоўны Совет Аўтаномнай рэспублікі абіраецца грамадзянамі рэспублікі тэрмінам на чатыры гады па нормах прадстаўніцтва, якія ўстанаўляюцца Канстытуцыяй Аўтаномнай рэспублікі.

**Артыкул 91.** Вярхоўны Совет Аўтаномнай рэспублікі з'яўляецца адзіным законадаўчым органам АССР.

**Артыкул 92.** Кожная Аўтаномная рэспубліка мае сваю Канстытуцыю, якая ўлічвае асаблівасці Аўтаномнай рэспублікі і пабудавана ў поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй Саюзнай рэспублікі.

**Артыкул 93.** Вярхоўны Совет Аўтаномнай рэспублікі абірае Прэзідыум Вярхоўнага Совета Аўтаномнай рэспублікі і ўтварае Совет Народных Камісараў Аўтаномнай рэспублікі, згодна сваёй Канстытуцыі.

*Раздзел VIII*

## МЯСЦОВЫЯ ОРГАНЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ

**Артыкул 94.** Органамі дзяржаўнай улады ў краях, абласцях, аўтаномных абласцях, акругах, раёнах, гарадах, сёлах (станіцах, вёсках, хутарах, кішлаках, аулах) з'яўляюцца Советы дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 95.** Краявыя, абласныя, аўтаномных абласцей, акруговыя, раённыя, гарадскія, сельскія (станіц, вёсак, хутароў, кішлакоў, аулаў) Советы дэпутатаў працоўных абіраюцца адпаведна працоўнымі края, вобласці, аўтаномнай вобласці, акругі, раёна, горада, сяла тэрмінам на два гады.

**Артыкул 96.** Нормы прадстаўніцтва ў Советы дэпутатаў працоўных вызначаюцца Канстытуцыямі саюзных рэспублік.

**Артыкул 97.** Советы дэпутатаў працоўных кіруюць дзейнасцю падпарадкаваных ім органаў кіравання, забяспечваюць ахову дзяржаўнага парадку, выкананне законаў і ахову правоў грамадзян, кіруюць мясцовым гаспадарчым і культурным будаўніцтвам, устанаўляюць мясцовы бюджэт.

**Артыкул 98.** Советы дэпутатаў працоўных прымаюць рашэнні і даюць распараджэнні ў межах правоў, якія ім належаць па законах СССР і Саюзнай рэспублікі.

**Артыкул 99.** Выканаўчымі і распарадчымі органамі краявых, абласных, аўтаномных абласцей, акруговых, раённых, гарадскіх і сельскіх Советаў дэпутатаў працоўных з'яўляюцца выканаўчыя камітэты, якія абіраюцца імі ў складзе: старшыні, яго намеснікаў, сакратара і членаў.

**Артыкул 100.** Выканаўчым і распарадчым органам сельскіх Советаў дэпутатаў працоўных у невялікіх паселішчах, у адпаведнасці з Канстытуцыямі саюзных рэспублік, з'яўляюцца старшыня, яго намеснік і сакратар, якія абіраюцца імі.

**Артыкул 101.** Выканаўчыя органы Советаў дэпутатаў працоўных непасрэдна падсправаздачны як Совету дэпутатаў працоўных, які іх абраў, так і выканаўчаму органу вышэйстаячага Совета дэпутатаў працоўных.

*Раздзел IX*

## СУД І ПРАКУРАТУРА

**Артыкул 102.** Правасуддзе ў СССР ажыццяўляецца Вярхоўным Судом СССР, Вярхоўнымі Судамі саюзных рэспублік, краявымі і абласнымі судамі, судамі аўтаномных рэспублік і аўтаномных абласцей, акруговымі судамі, спецыяльнымі судамі СССР, якія ствараюцца па пастанове Вярхоўнага Совета СССР, народнымі судамі.

**Артыкул 103.** Разгляд спраў ва ўсіх судах ажыццяўляецца з удзелам народных засядацеляў, апрача выпадкаў, спецыяльна прадугледжаных законам.

**Артыкул 104.** Вярхоўны Суд СССР з'яўляецца вышэйшым судовым органам. На Вярхоўны Суд СССР ускладаецца нагляд за судовай дзейнасцю ўсіх судовых органаў СССР і саюзных рэспублік.

**Артыкул 105.** Вярхоўны Суд СССР і спецыяльныя суды СССР абіраюцца Вярхоўным Советам СССР тэрмінам на пяць гадоў.

**Артыкул 106.** Вярхоўныя Суды саюзных рэспублік абіраюцца Вярхоўнымі Советамі саюзных рэспублік тэрмінам на пяць гадоў.

**Артыкул 107.** Вярхоўныя Суды аўтаномных рэспублік абіраюцца Вярхоўнымі Советамі аўтаномных рэспублік тэрмінам на пяць гадоў.

**Артыкул 108.** Краявыя і абласныя суды, суды аўтаномных абласцей, акруговыя суды абіраюцца краявымі, абласнымі або акруговымі Советамі дэпутатаў працоўных або Советамі дэпутатаў працоўных аўтаномных абласцей тэрмінам на пяць гадоў.

**Артыкул 109.** Народныя суды абіраюцца грамадзянамі раёна на аснове ўсеагульнага, прамога і роўнага выбарчага права пры тайным галасаванні—тэрмінам на тры гады.

**Артыкул 110.** Судавядзенне праводзіцца на мове саюзнай або аўтаномнай рэспублікі або аўтаномнай вобласці з забяспечаннем для асоб, якія не ўладаюць гэтай мовай, поўнага азнаямлення з матэрыяламі справы праз перакладчыка, а таксама права выступаць на судзе на роднай мове.

**Артыкул 111.** Разгляд спраў ва ўсіх судах СССР адкрыты, паколькі законам не прадугледжаны выключэнні, з забяспечаннем абвінавачваемаму права на абарону.

**Артыкул 112.** Суддзі незалежны і падпарадкуюцца толькі закону.

**Артыкул 113.** Вышэйшы нагляд за дакладным выкананнем законаў усімі Народнымі Камісарыятамі і падпарадкаванымі ім установамі, роўным чынам як паасобнымі службовымі асобамі, а таксама грамадзянамі СССР ускладаецца на Пракурора СССР.

**Артыкул 114.** Пракурор СССР прызначаецца Вярхоўным Советам СССР тэрмінам на сем гадоў.

**Артыкул 115.** Рэспубліканскія, краявыя, абласныя пракуроры, а таксама пракуроры аўтаномных рэспублік і аўтаномных абласцей прызначаюцца Пракурорам СССР тэрмінам на пяць гадоў.

**Артыкул 116.** Акруговыя, раённыя і гарадскія пракуроры прызначаюцца пракурорамі саюзных рэспублік з зацверджання Пракурора СССР тэрмінам на пяць гадоў.

**Артыкул 117.** Органы пракуратуры ажыццяўляюць свае функцыі незалежна ад якіх-бы то ні было мясцовых органаў, і падпарадкуюцца толькі Пракурору СССР.

*Раздзел X*

## АСНОЎНЫЯ ПРАВЫ І АБАВЯЗКІ ГРАМАДЗЯН

**Артыкул 118.** Грамадзяне СССР маюць права на працу, гэта значыць права на атрыманне гарантаванай работы з аплатай іх працы ў адпаведнасці з яе колькасцю і якасцю.

Права на працу забяспечваецца соцыялістычнай арганізацыяй народнай гаспадаркі, няўхільным ростам вытворчых сіл совецкага грамадства, устараненнем магчымасці гаспадарчых крызісаў і ліквідацыяй беспрацоўя.

**Артыкул 119.** Грамадзяне СССР маюць права на адпачынак.

Права на адпачынак забяспечваецца скарачэннем рабочага дня для пераважнай большасці рабочых да 7 гадзін, устанаўленнем штогадовых водпускаў рабочым і служачым з захаваннем заработнай платы, прадастаўленнем для абслугоўвання працоўных шырокай сеткі санаторыяў, дамоў адпачынку, клубаў.

**Артыкул 120.** Грамадзяне СССР маюць права на матэрыяльнае забяспечанне ў старасці, а таксама—у выпадку хваробы і страты працаздольнасці.

Гэтае права забяспечваецца шырокім развіццём соцыяльнага страхавання рабочых і служачых за кошт дзяржавы, бясплатнай медыцынскай дапамогай працоўным, прадастаўленнем у карыстанне працоўным шырокай сеткі курортаў.

**Артыкул 121.** Грамадзяне СССР маюць права на асвету.

Гэтае права забяспечваецца ўсеагульна-абавязковай пачатковай асветай, бясплатнасцю асветы, уключаючы вышэйшую асвету, сістэмай дзяржаўных стыпендый пераважнай большасці навучаючыхся ў вышэйшай школе, навучаннем у школах на роднай мове, арганізацыяй на заводах, у соўгасах, машынатрактарных станцыях і калгасах бясплатнага вытворчага, тэхнічнага і агранамічнага навучання працоўных.

**Артыкул 122.** Жанчыне ў СССР прадастаўляюцца роўныя правы з мужчынай ва ўсіх галінах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага і грамадска-палітычнага жыцця.

Магчымасць ажыццяўлення гэтых правоў жанчын забяспечваецца прадастаўленнем жанчыне роўнага з мужчынай права на працу, аплату працы, адпачынак, соцыяльнае страхаванне і асвету, дзяржаўнай аховай інтарэсаў маці і дзіцяці, прадастаўленнем жанчыне пры цяжарнасці водпускаў з захаваннем утрымання, шырокай сеткай радзільных дамоў, дзіцячых ясляў і садоў.

**Артыкул 123.** Роўнаправае грамадзян СССР, незалежна ад

іх нацыянальнасці і расы, ва ўсіх галінах гаспадарчага, дзяржаўнага, культурнага і грамадска-палітычнага жыцця з'яўляецца непарушным законам.

Якое-б то ні было прамое або ўскоснае абмежаванне правоў або, наадварот, устанаўленне прамых або ўскосных пераваг грамадзян у залежнасці ад іх расавай і нацыянальнай прыналежнасці, таксама як усякая пропаведзь расавай або нацыянальнай выключнасці, або нянавісці і пагарды—караюцца законам.

**Артыкул 124.** У мэтах забяспечання за грамадзянамі свабоды сумлення царква ў СССР аддзелена ад дзяржавы і школа ад царквы. Свабода правіць рэлігійныя культы і свабода антырэлігійнай прапаганды прызнаецца за ўсімі грамадзянамі.

**Артыкул 125.** У адпаведнасці з інтарэсамі працоўных і ў мэтах умацавання соцыялістычнага ладу грамадзянам СССР гарантуецца законам:

а) свабода слова,

б) свабода друку,

в) свабода сходаў і мітынгаў,

г) свабода вулічных шэствіяў і дэманстрацый.

Гэтыя правы грамадзян забяспечваюцца прадастаўленнем працоўным і іх арганізацыям друкарняў, запасаў паперы, грамадскіх будынкаў, вуліц, сродкаў сувязі і іншых матэрыяльных умоў, неабходных для іх ажыццяўлення.

**Артыкул 126.** У адпаведнасці з інтарэсамі працоўных і ў мэтах развіцця арганізацыйнай самадзейнасці і палітычнай актыўнасці народных мас грамадзянам СССР забяспечваецца права аб'яднання ў грамадскія арганізацыі: прафесіянальныя саюзы, кааператыўныя аб'яднанні, арганізацыі моладзі, спартыўныя і абаронныя арганізацыі, культурныя, тэхнічныя і навуковыя таварыствы, а найбольш актыўныя і свядомыя грамадзяне з радоў рабочага класа і іншых слаёў працоўных яднаюцца ва Ўсесаюзную комуністычную партыю (большэвікоў), якая з'яўляецца перадавым атрадам працоўных у іх барацьбе за ўмацаванне і развіццё соцыялістычнага ладу і якая з'яўляецца кіруючым ядром усіх арганізацый працоўных, як грамадскіх, так і дзяржаўных.

**Артыкул 127.** Грамадзянам СССР забяспечваецца недатыкальнасць асобы. Ніхто не можа быць арыштаваны інакш як па пастанове суда або з санкцыі пракурора.

**Артыкул 128.** Недатыкальнасць жылля грамадзян і тайна перапіскі ахоўваюцца законам.

**Артыкул 129.** СССР прадастаўляе права прытулку замежным грамадзянам, якія праследуюцца за абарону інтарэсаў пра-

цоўных, або навуковую дзейнасць, або нацыянальна-вызваленчую барацьбу.

**Артыкул 130.** Кожны грамадзянін СССР абавязан выконваць Канстытуцыю Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, выконваць законы, захоўваць дысцыпліну працы, сумленна адносіцца да грамадскага абавязку, паважаць правілы соцыялістычнага агульна-сумеснага жыцця.

**Артыкул 131.** Кожны грамадзянін СССР абавязан берагчы і ўмацоўваць грамадскую, соцыялістычную ўласнасць, як свяшчэнную і недатыкальную аснову совецкага ладу, як крыніцу багацця і магутнасці радзімы, як крыніцу заможнага і культурнага жыцця ўсіх працоўных.

Асобы, якія пасягаюць на грамадскую, соцыялістычную ўласнасць, з'яўляюцца ворагамі народу.

**Артыкул 132.** Усеагульны вайсковы абавязак з'яўляецца законам.

Вайсковая служба ў Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі прадстаўляе пачэсны абавязак грамадзян СССР.

**Артыкул 133.** Абарона бацькаўшчыны ёсць свяшчэнны абавязак кожнага грамадзяніна СССР. Здрада радзіме: парушэнне прысягі, пераход на бок ворага, нанясенне шкоды ваеннай магутнасці дзяржавы, шпіянаж—караюцца па ўсёй строгасці закона, як самае цяжкае злачынства.

*Раздзел XI*

## ВЫБАРЧАЯ СІСТЭМА

**Артыкул 134.** Выбары дэпутатаў ва ўсе Советы дэпутатаў працоўных: Вярхоўны Совет СССР, Вярхоўныя Советы саюзных рэспублік, краявыя і абласныя Советы дэпутатаў працоўных, Вярхоўныя Советы аўтаномных рэспублік, Советы дэпутатаў працоўных аўтаномных абласцей, акруговыя, раённыя, гарадскія і сельскія (станіцы, вёскі, хутара, кішлака, аула) Советы дэпутатаў працоўных,—праводзяцца выбаршчыкамі на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

**Артыкул 135.** Выбары дэпутатаў з'яўляюцца ўсеагульнымі: усе грамадзяне СССР, дасягнуўшыя 18 гадоў, незалежна ад расавай і нацыянальнай прыналежнасці, веравызнання, асветнага цэнзу, аселасці, соцыяльнага паходжання, маёмаснага становішча і мінулай дзейнасці, маюць права ўдзельнічаць у вы-

барах дэпутатаў і быць абранымі, за выключэннем страціўшых розум і асоб, асуджаных судом з пазбаўленнем выбарчых правоў.

**Артыкул 136.** Выбары дэпутатаў з'яўляюцца роўнымі: кожны грамадзянін мае адзін голас; усе грамадзяне ўдзельнічаюць у выбарах на роўных падставах.

**Артыкул 137.** Жанчыны карыстаюцца правам абіраць і быць абранымі роўна з мужчынамі.

**Артыкул 138.** Грамадзяне, якія знаходзяцца ў радах Чырвонай арміі, карыстаюцца правам абіраць і быць абранымі роўна з усімі грамадзянамі.

**Артыкул 139.** Выбары дэпутатаў з'яўляюцца прамымі: выбары ва ўсе Советы дэпутатаў працоўных, пачынаючы ад сельскага і гарадскога Совета дэпутатаў працоўных аж да Вярхоўнага Совета СССР, праводзяцца грамадзянамі непасрэдна шляхам прамых выбараў.

**Артыкул 140.** Галасаванне пры выбарах дэпутатаў з'яўляецца тайным.

**Артыкул 141.** Кандыдаты пры выбарах выстаўляюцца па выбарчых акругах.

Права выстаўлення кандыдатаў забяспечваецца за грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных: комуністычнымі партыйнымі арганізацыямі, прафесіянальнымі саюзамі, кааператывамі, арганізацыямі моладзі, культурнымі таварыствамі.

**Артыкул 142.** Кожны дэпутат абавязан рабіць справаздачу перад выбаршчыкамі аб сваёй рабоце і аб рабоце Совета дэпутатаў працоўных і можа быць у любы час адкліканы па рашэнню большасці выбаршчыкаў ва ўстаноўленым законам парадку.

*Раздзел XII*

## ГЕРБ, СЦЯГ, СТАЛІЦА

**Артыкул 143.** Дзяржаўны герб Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік складаецца з сярпа і молата на зямной кулі, выяўленай у праменнях сонца і абкружанай калоссямі, з надпісам на мовах саюзных рэспублік: «Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!». На версе герба ёсць пяцікантовая зорка.

**Артыкул 144.** Дзяржаўны сцяг Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік складаецца з чырвонага палотнішча, з выяўленнем на яго верхнім кутку каля дрэўка залатых сярпа і мо-

лата і над імі чырвонай пяціканцовай зоркі, абкружанай залатой каймой. Адносіны шырыні да даўжыні 1 : 2.

**Артыкул 145.** Сталіцай Саюза Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік з'яўляецца горад Масква.

*Раздзел XII*

## ПАРАДАК ЗМЕНЫ КАНСТЫТУЦЫІ

**Артыкул 146.** Змена Канстытуцыі СССР робіцца толькі па рашэнню Вярхоўнага Совета СССР, прынятаму большасцю не менш $^{2}/_{3}$ галасоў у кожнай з яго палат.

*Прэзідыум Надзвычайнага VIII З'езда Советаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік:*

Н. АЙТАКОЎ
І. АКУЛАЎ
А. АНДРЭЕЎ
Ю. АХУН-БАБАЕЎ
В. БЛЮХЕР
С. БУДЗЁННЫ
К. ВАРАШЫЛАЎ
Н. ЕЖОЎ
А. ЖДАНАЎ
Л. КАГАНОВІЧ
М. КАЛІНІН
А. КІСЕЛЁЎ
С. КАСІОР
М. ЛІТВІНАЎ
П. ЛЮБЧЭНКА
А. МІКАЯН
В. МОЛАТАЎ
Г. МУСАБЕКАЎ
Г. ОРЖАНІКІДЗЕ
Г. ПЕТРОЎСКІ
П. ПОСТЫШЭЎ
А. РАХІМБАЕЎ
Я. РУДЗУТАК
І. СТАЛІН
Д. СУЛІМАЎ
Н. ХРУШЧОЎ
А. ЧАРВЯКОЎ
В. ЧУБАР
Н. ШВЕРНІК
Р. ЭЙХЕ

**Масква, Крэмль.**
**5 снежня 1936 г.**

*Янка Купала*

## НА СМЕРЦЬ ТАВ. КІРАВА

Калісь... О, не... Зусім нядаўна было гэта...
І як сабраць тут думкі ў сумнай галаве...
Малюнак дзіўны змешчан быў у газетах,
Малюнак, што ў жывых у памяці жыве.
Плывуць па Беламорскаму канале...
А лес шуміць... вазёры ў хвалях па бакох...
Плывуць таварыш Кіраў і таварыш Сталін,
Прад імі даль Зямлі Совецкай і вякоў.
А сёння... Сёння што?.. Ад рання і да рання,
Калышучы абняты жудасцю прастор,
Плыве з Масквы жалобнае пянне,
Аж рэха далятае да Каўказскіх гор.
... Не стала Кірава... Без часу смерць скасіла...
Герой загінуў ад варожай здрадніцкай рукі...
Таварышы! Зняць шапкі над жывой магілай!
Хаваюць, ведайце, бальшэвіка бальшэвікі.
Іграйце гучна музыку геройскую, музыкі,
Каб слухаў і дрыжэў ад музыкі ўвесь свет!
Дзяўчына, кветкамі абсып курган высокі,
А песню вечную зложы, пясняр—паэт.
Гнеў пролетарскі мог і зможа сцерці
З зямлі ўсіх падкалодных яшчарыц, гадзюк,
І ворагам за смерць адплацім грознай смерцю,
Вышэй падымем сцяг упаўшы з слаўных рук.

1934 год.

*Александр Суркоў*

## НЯНАВІСЦЮ ПРЫСЯГАЕМ

Стрэлам кінуты выклік варожы,
Сударгай болі пальцы сцяло.
Друг мой,
Таварыш ты мой харошы,
Цяжка. Не знойдзеш слоў...

Вестка на сэрца ўзвалілася жвірам,
Гневу і гора пеніцца крык.
Куляй забойцы падкошаны Кіраў,
Забіт гераічны большэвік.

Сэрцу не біцца, загінуў прамоўца,
Ранак не прыдзе, не ўзбудзіць яго...
Ведаем, подлы найміт-забойца,
Імя гаспадара твайго.

Нікчэмны затраўлены вораг заўзята
Зноў аскаляе гнілыя клыкі.
Слухай, наш слаўны калонаважаты,
Ненавісцю прысягаюць палкі.

Ленінец справаю, моцы і смелы!
Стрэлам забойца ўзбудзіў дынаміт,
І над яшчэ не астылым целам
Гнеўная клятва наша грыміць.

Росквіт жыцця ў нашай слаўнай краіне
Вораг учынкам не спыніць сваім.
Мы прысягаем сваёй айчыне
Імем слаўным і дарагім.

Болем сэрцаў сочыцца рана.
Правады гудуць у цёмнай начы.
І варанёная сталь нагана
Зноўку пра пільнасць крычыць.

Провад гудзе над першай парошай,
Белымі снягамі шляхі перамяло.
Друг мой,
Таварыш ты мой харошы,
Цяжка! не знойдзеш слоў!

*Пераклаў*
*М. ХВЕДАРОВІЧ*

*Нікалай Остроўскі*

# НАРОДЖАНЫЯ БУРАЙ

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

Лёгкі стук у дзверы. Людвіга адвяла позірк ад кнігі і прыслухалася. Мяккі, але настойлівы стук паўтарыўся. Так стукае толькі Юзэф—асцярожна і лісліва, як-бы загадзя просячы прабачэння за неспакой. Людвіга мімаволі зірнула на стрэлкі старыннага гадзінніка.

„Першая гадзіна... Што прымусіла старога прыйсці так позна?“.

Том Жэромскага сазлізнуў па коўдры на дыван і, трапіўшы ў круг святла ад настольнай лямпы, заблішчэў на вокладцы золатам літар. Ледзь адчувальны халадок, ці то ад шоўку кімано, накінутага на адкрытыя плечы, ці то ад нэўяўнай трывогі, прымусіў яе ўздрыгануцца.

— Гэта ты, Юзэф?

— Я, яснавяльможная пані!

Нават па тым, што стары—лакей увайшоў у спальню, забыўшыся нізка скланіцца, і па яго разгубленаму твару Людвіга зразумела: здарылася нешта незвычайнае.

— Пан граф Эдвард прыехаў, графіня...

— Што ты сказаў?.. Эдвард?.. Дзе-ж ён?—ледзь не шэптам запытала Людвіга, хоць ёй здавалася, што яна закрычала.

Людвіга чакала ўсяго, толькі не звароту мужа. Некаторы момант яна не магла нават што-небудзь сказаць. Як непрытомная яна выбегла з пакою. У вялізнай гасціннай—цмянае святло ад свечкі, пастаўленай на раялі. Чалавек у шэрым салдацкім шынялі знімаў з плеч паходную сумку. Ён шпарка павярнуўся, пачуўшы грукат адчыненых дзвярэй. Людвіга інстынктыўна захінула кімано—перад ёю, засцячы святло, стаяў незнаёмы мужчына з насунутай да вачэй пакамечанай папахай. Позірк Людвігі здзіўлена спыніўся на шырокай барадзе незнаёмага. Схапіўшы Людвігу за рукі, салдат прыцягнуў яе да сябе. Яна адхінулася, але мужчынскія рукі трымалі моцна.

Калі чужы барадаты твар наблізіўся да яе вачэй, спалох знік так-жа раптоўна, як і з'явіўся. Цяпер ні папаха, ні брыдкая барада не маглі падмануць. Вочы Эдварда яна распазнала-б між тысячы другіх вачэй—яго ледзь прыжмураныя вочы і вузкія, выгінастыя бровы над імі. І ўсё ж гэта не быў яе Эдзі, заўсёды такі элеганцкі, які пабліскваў золатам эпалет, палкоўнік.

Цяпер ад яго вусоў і барады, ад бруднай вопраткі патыхала ўедлівым пахам махоркі і гідкімі выпарэннямі мокрага шыняля.

Могельніцкі зразумеў настрой жонкі. Пацалаваўшы пушысты локан каля скроні, а не дрыготкія пухлявыя губы, ён адпусціў яе. Побач стаяў Юзэф.

— Гэта ён вінаваты, што я сустракаю цябе ў такім выглядзе. Юзэф не павінен быў гаварыць табе пра мой прыезд, пакуль я не вымыўся і не пераапрануўся,—ціха, як-бы просячы прабачэння, сказаў Эдвард, знімаючы папаху. Ён стомлена правёў рукою па зблытаных валасах. Гэты знаёмы рух абудзіў у Людвігі пачуццё ранейшай блізкасці да мужа. Яна з болем падумала, што брудная вопратка і несамавіты выгляд дарагога чалавека на момант абудзілі ў яе агіду. Забыўшыся на прысутнасць Юзэфа, яна прытулілася да мужа і, абхапіўшы рукамі яго галаву, цалавала родныя, непарайначаныя вочы. Цяпер ужо ён адхіляў яе ад сябе асцярожна, але рашуча:

— Пасля, Людвісь, пасля... Я павінен зняць з сябе ўсю гэту брыдасць, а галоўнае—памыцца. Мне здаецца, што я ўвесь набрак брудам: апошнія два дні я ехаў на паравозе і спаў на вугаллі, праўдзівей—зусім не спаў...

Калі праз гадзіну Эдвард увайшоў у спальню жонкі, яна зноў здзівілася: барада знікла, але таксама былі збрыты і яго кучаравыя валасы. Вялікая, правільнай формы галава з цвёрдымі вугламі ілба здавалася адпаліраванай. Ён зноў не быў падобны на сябе, бо ніколі раней не брыў галавы, ведаючы, што гэта да яго не пасавала. Шэры гарнітур, які Юзэф дастаў з старога графскага гардэроба, нагадваў Людвізе першыя месяцы пасля іх жаніцьбы, якія яны пражылі ў Ніццы. Там упершыню ўбачыла яна яго ў штацкім...

— Ну, цяпер мяне можна не баяцца, радасць мая, і нават пацалаваць,—сказаў ён.

Раніца крадкам прабралася ў спальню шэрай палоскай святла праз няшчытна захінуты занавес. Людвіга прачнулася, але, асцерагаючыся каб не абудзіць мужа, не шавялілася, разглядаючы яго соннага. Эдвард глыбока дыхаў, і ў тахт яго дыханню шоўкавая сарочка ўзнімалася на шырокіх валасатых грудзях. Упарты, з жорсткімі маршчынамі па кутках рот быў крыху адкрыты. Бяссонныя ночы, няспыннае чаканне небяспекі—усё дало сябе адчуць адразу. Зморааны, ап‘янёны ад моцнага віна, багатай ежы і яе пяшчот, ён заснуў, ледзь паспеўшы расказаць ёй пра самае галоўнае.

Ён тут таму, што яна тут. Вядома, ніколі ён на яе не забываўся. І гэты доўгі і небяспечны шлях з Парыжа праз два франты пройдзены з-за яе. Праўда, яму далі такія-сякія даручэнні... Але хіба пакінуў-бы ён Парыж, працу ў ваенным міністэрстве і пайшоў на рызыку і нягоды, каб яго не чакала тут самая прыгожая жанчына Польшчы? Апошнія словы ён праказаў засынаючы. З таго нямногага, што паспеў расказаць ёй муж, Людвіга зразумела, што насоўваецца нейкая небяспека—руйнуючая, страшная, з пагрозай раздушыць увесь побыт, усе асновы яе жыцця. І ўсё-ж яна была шчаслівая.

Што-б ні здарылася, пакуль тут ён, баяцца няма чаго. Усё, што трэба, будзе вырашана і зроблена ім, як гэта заўсёды было раней. За яго шырокія плечы яна хавалася ад неабходнасці вырашаць самой якія-небудзь сур'ёзныя практычныя пытанні.

Эдвард прачнуўся гэтак-жа нечакана, як і заснуў. Іх позіркі сустрэліся, і абое ўсміхнуліся.

— Як ты думаеш, ці добра прачнуцца якраз у той момант, калі адчуваеш, што цябе рэжуць тупым нажом, і раптам заместа бандыцкай морды ўбачыць цябе? . Але і позна ўжо, час уставаць.

— Закрый вочы, Эдвард, я зараз апрануся.

Ён патворліва ўсміхнуўся.

Падняў з дывана кнігу, зрабіў выгляд, што чытае. Жэромскі! „Верная рака“. Рамантыка паўстанняў, самавыракання, вернасці... Яна засталася нязменнай. Усё так-жа просіць закрыць вочы. Дарослае дзіця! Рамантычная істота...

У старынным палацы графаў Могельніцкіх, у ва ўсіх яго дваццаці сямі пакоях, пачалося звычайнае ранішняе жыццё. Ніжні паверх, частку якога займала прыслуга, ужо даўно праснуўся. У кухні рыхтавалі снеданне. Дзве пакаёўкі і малады лакей прыбіралі вестыбюль і вялікую гасцінную. Наверсе ўсе яшчэ спалі. Пакаёўка Людвігі, прыгожанькая шаснаццацігадовая Хэля, унучка старога Юзэфа, хацела прыбраць у будуары сваёй гаспадыні, але дзверы былі замкнёны. Яна сказала пра гэта дзеду. Стары забараніў трывожыць пані графіню і прыбіраць сёння ў яе пакоях.

Разглядаючы знаёмыя дарагія цацкі на туалетным століку жонкі, Эдвард чакаў звароту Людвігі. Яна хутка ўвайшла разам з Юзэфам. Сівая галава старога нізка скланілася. Пад сінім казакінам выразна вырысоўваліся яго худыя лапаткі. Юзэф услугоўваў Эдварду, калі ён быў яшчэ дзіцем. Стары быў адданы графскай сям'і, як адданы бываюць толькі старыя дваровыя сабакі, гатовыя рынуцца на кожнага, хто паспрабуе ўвайсці ў дом гаспадара. Нельга было ўявіць палац без Юзэфа. Могельніцкія прызвычаіліся да яго так, як і да двох сярэдневяковых рыцараў у латах, што стаялі каля ўваходу ў вестыбюль. Фігуры рыцараў, як і Юзэфа, пераходзілі па спадчыне ад пакалення да пакалення.

Стары быў лакеем. І яго сыны і ўнукі, быццам па спадчыне, рабіліся лакеямі графаў Могельніцкіх. Пятнаццацігадовым хлапчуком Юзэф пачаў услугоўваць дзеду Эдварда. Вось чаму ў адносінах да гэтага прыслужніка, якому Эдвард зусім давераў, ён дапускаў поўную блізкасць.

— Ты ўсё зрабіў, Юзэф, як я табе сказаў?

— Так, аб прыездзе яснавяльможнага пана ніхто не ведае. Я сам прыбяру ў пакоях графа. Вось, калі ласка, ключ ад тых дзвярэй габінета, якія выходзяць у спальню яснавяльможнай пані. З таго дня, як вы былі паехалі, туды ніхто, апрача мяне і графіні, не заходзіў... Калі Хэля будзе прыбіраць у пакоях, няхай яснавяльможны пан пабудзе ў сваім габінеце. Вядома, унучка нікому не скажа, але так будзе лепш...

Юзэф гаварыў ціха, са старэчай хрыпотай. Узіраючыся ў яго

худы, з доўгімі сівымі бакенбардамі твар, Эдвард толькі цяпер заўважыў, як пастарэў ён за апошнія тры гады.

— Вельмі добра, Юзэф Цяпер раскажы мне пра гэтага нямецкага маёра? Як яго завуць?

— Адольф Зоненбург, яснавяльможны пане. Маёр займае пакой гувернера. У яго ёсць дзяншчык. Гэты лайдак заўсёды круціцца на кухні і начуе разам з Адамам у лакейскай. Пан маёр дваранскага роду і, адважуся вам сказаць, прыстойны чалавек. Ён забараніў сваім салдатам рабіць бясчынствы ў птушніку, а то яны рэзалі нашых гусей і курэй...

— Колькі немцаў у маёнтку?—перапыніў яго Эдвард.

— Цэлы эскадрон. Ужо месяц як іх коні ядуць наш авёс, яго светласць спярша недазваляў, тады немцы арыштавалі пана ўпраўляючага, і давялося адчыніць свірны. Цяпер, калі ў нас пасяліўся пан маёр, немцы хоць сена пачалі здабываць у вёсках, а то ўсё наша...

— Дзе размешчаны салдаты?

— У фальварку.

— Добра. Ты калі паедзеш да айца Іероніма? Я хочу сёння-ж з ім пабачыцца.

— Зараз паеду. Больш ніякіх загаданняў не будзе?

— Не.

У дзвярах Юзэф затрымаўся.

— Айцу Іероніму можна сказаць аб прыездзе яснавяльможнага пана?

Эдвард некалькі часу вагаўся, потым сцвярджальна кіўнуў галавою.

Могельніцкія засталіся адны. Эдвард падышоў да жонкі.

— Даруй мне, Эдзі, але я не разумею, навошта табе спатрэбіўся айцец Іеронім? Не магу-ж я на самай справе паверыць, што ты рашыў паспаведацца яму пра свае грахі!—яна гучна засмяялася.

Эдвард пяшчотна абняў яе.

— Хіба для цябе непрыемны айцец Іеронім?

— Не, але крыху дзіўна. Аб тваім прыездзе не ведаюць ні бацька, ні брат, ні Стэфанія.

— А айцец Іеронім атрымлівае асобае запрашэнне. Няхай цябе гэта не здзіўляе. Я не мог ноччу бударажыць усіх. Бо ў доме-ж немцы, а я... французскі афіцэр. Ты-ж разумееш, Людвісь? Заўтра я павінен выехаць у Варшаву, і што менш будуць ведаць прамой прыезд, тым лепш.

— Як, зноў паедзеш?

— Я хутка вярнуся, Людвісь.

— І вось замест таго, каб правесці са мною гэты час—ты запрашаеш гэтага працўнага іезуіта.

Эдвард усміхнуўся.

— Айцец Іеронім мне патрэбен для аднаго даручэння. Гэта нецікавая для цябе справа. Ты прабач мне, але, калі айцец Іеронім прыедзе, нам трэба будзе пагаварыць з ім сам-насам. Ён штосьці там прасіў у кардынала. Так, царкоўныя справы... Гэта яго сак-

рэт, і яму непрыемна, калі хто будзе прысутнічаць. А пакуль дазволь даць табе некалькі пытанняў.

— Я слухаю, Эдзі...

— Скажы, гэты маёр абедае разам з вамі?

— Так, папа і Стэфанія запрашаюць яго да стала. Ён трымаецца бездакорна. Досыць добра гаворыць па-французску... Толькі часамі ён прыводзіць з сабою яшчэ аднаго афіцэра, обер-лейтэнанта Шмультке. Такі грубы баварац. Калі-б ты чуў яго вульгарныя няўклюдыя кампліменты! І заўсёды дае зразумець, што не мы тут гаспадары, а яны. Тата кажа, што Шмультке робіць яму вялікія паслугі, але для мяне—ён усё-ж непрыемны...

Эдвард угадваў за яе словамі штосьці большае, як тое, што яна сказала, і бровы яго павольна сыйшліся. Людвіга пераняла настрой мужа і кранулася кончыкамі пальцаў да яго брывей згладжваючы рэзкую папярэчную зморшчыну на лобе. Гэты маўклівы дотык заўсёды міръў іх без слоў. Калі следам за гэтым яе пальцы наблізіліся да яго губ, ён мімаволі захапіўся пераліўным бляскам камянёў яе пярсцёнка.

— Людвісь, дзе ты хаваеш свае каштоўнасці?

Яе пушыстыя бровы здзіўлена ўзняліся.

— Дзіўна, Эдзі! Ты не пытаеш пра тое, як жыла я гэтыя тры гады, а цікавішся...

— Ты дзіця, Лю... Я запытаўся пра гэта таму, што мне патрэбна ведаць, якія каштоўнасці ў нас ёсць. Потым я скажу табе, для чаго гэта патрэбна Ты не памятаеш, колькі каштавалі на залатыя рублі твае брыліянты?

— Аднойчы мама казала цётцы, што каштоўнасці, якія далі мне ў пасаг, каштуюць каля ста сямідзесяці тысяч. А колькі каштуюць брыліянты, якія ты падарыў мне,—гэта ты ведаеш.

Эдвард моўчкі палічыў: „сто семдзесят ды сто дваццаць—дзвесце дзевяноста тысяч. Бачонак з залатымі дзесяцірублёўкамі, закапаны ў парку,—яшчэ дзвесце тысяч. Шэсцьсот тысяч франкаў у французскім банку. Дванаццаць тысяч фунтаў на імя Людвігі ў лонданскім банку. Ды семнаццаць тысяч нямецкіх марак у маёй кішэні... Вось усё, што можна лічыць грашымі. Прыблізна каля мільёна залатых рублёў. З гэтага Людвізе і мне належыць толькі палова. І гэта ўсё, што засталося ад сямі мільёнаў майго асабістага багацця!.. Бо цяжка цяпер лічыць за капітал дзевяць тысяч дзесяцін зямлі эканоміі і фальваркі, паравы млын, скураны завод і тысячу шэсцьсот дзесяцін леса, калі ўсё трашчыць па швах і пагражае развалам. За ўсё гэта яшчэ трэба змагацца.. А пакуль што мы ўладаем паўмільёнам залатых рублёў, і гэта як-бы дрэнна не было, усёж—лепш, чым нічога“.

За дзвярмі пачуліся нейчыя галасы і смех.

— Уладэк, навучыся, нарэшце, трымацца прыстойна!—упрашваў некага жаночы голас.

У адказ пачулася хіхіканне.

— Гэта Стэфа і Уладыслаў,—трывожна зашаптала Людвіга,— Юзэф сказаў ім, што я хворая, а яны ўсё-ж прышлі.

Эдвард увайшоў у спальню жонкі, цягнучы яе з сабою. Хутка адчыніў дзверы ў свой габінет.

— Пакуль нічога ім не кажы і пастарайся выправадзіць,— сказаў ён, зачыняючы дзверы.

— Што з табою, дарагая? Ты, кажуць, хворая?—балбатала Стэфанія, уваходзячы ў пакой.

Следам за ёю, быццам на каньках, укаціўся Уладыслаў Могельніцкі.

— Але. яна, як заўсёды чараўная, клянуся гонарам!—закартавіў ён і лоўка крутнуўшыся каля Стэфаніі, падляцеў да Людвігі.

Калі яго прыліпістыя губы дакрануліся да яе рукі, Людвіга, як заўсёды, адчула гідлівасць. Яна і сама не ведала, чаму гэты белабрысы юнак з цягам часу, як ён з хлапчука вырастаў у мужчыну, рабіўся для яе усё больш і больш гідкім.

— Як бачыш, Людвісь,—безліч грошай, патрачаных на выхаванне нашага швагра, прапала дарма. Ён, быццам, жакей на скачках, заўсёды імкнецца выскачыць наперад!—з пагардлівай усмешкай сказала Стэфанія.

Уладэк самаздаволена папраўляў свой гальштук—матылёк.

— Шпаркасць і націск—дэвіз вялікіх палкаводцаў!—і, перавёўшы непрыемную гутарку на іншую тэму, Уладыслаў прапанаваў Стэфаніі паказаць Людвізе толькі што атрыманае ёю ад мужа пісьмо.

— Што піша Станіслаў?—зацікавілася Людвіга і, абняўшы Стэфанію за плечы, села побач з ёй на канапу.

Уладэк усеўся насупраць і, з выглядам знаўцы, пазіраў на поўныя, абцягнутыя шоўкавымі панчохамі ногі Стэфаніі і стройныя ножкі Людвігі.

— Любая мая Стэфачка,—чытала Людвіга наўмысля моцна, каб Эдвард з свайго габінету мог усё чуць,—наш штаб знаходзіцца цяпер у Кіеве. Гэта вялікі і досыць культурны горад, ёсць не благая опера. Учора, напрыклад, мы слухалі „Фауста“ і наш палкоўнік, старыкашка Беклендорф, дзівіўся: „Зусім, як у Мюнхене!“ А гэта ж варварская краіна, у якой поўна бандытаў. Я пісаў ужо табе, што калі мы займалі Вострог, я атрымаў двухтыднёвы водпуск і паехаў у наш валынскі маёнтак у малых Баравіцах. Ты не можаш уявіць, як я раззлаваўся ад усяго, што я там застаў. Дом разграблены—пакоі пустыя, шыбы выбіты. Нават бляха сарвана з дахаў. Усе машыны расцягнуты. У фальварку коні і скаціну пазабіралі сяляне, свірны паразбіваны. І нічога, апрача абадраных будынкаў. Вакол гразь і заняпад. Упраўляючы забіты, служачыя разбегліся. Пры дапамозе ўзвода франкфурцаў, якія занялі Баравіцу, я правёў следства і вобыскі. Айцец Паісі, рускі свяшчэннік, у якога я спыніўся, расказаў мне, хто і як грабіў маёнтак. Па яго парадзе мы зрабілі ў вёсцы пагалоўны вобыск. Вядома, тое, што мы знайшлі,—мізэрныя астаткі. Усё змясцілася ў трох пакоях. Я прапанаваў франкфуртцам перабрацца ў наш дом. Начальнік гэтманскай варты (памятаеш сына карчмара Мазурэнкі?) са сваёю сям'ёю таксама перабраўся ў наш дом. Я прызначыў яго часовым упраўляючым маёнтка. Ён вельмі карысны і паслужлівы хлопец. Ён дакляраваў мне вярнуць у маёнтак усё — да

рэшты. Лепшага ўпраўляючага мне зараз за трыццаць марак не знайсці. У вёсцы ён усіх ведае і ўсё, што можна вярнуць, верне. Франкфуртцам і яму больш выгодна жыць у старане ад вёскі,— тут яны ўсе разам, і, у выпадку нападу, ім лягчэй абараняцца. Да рэчы, вакол поўна партызанскіх банд. На жаль, усе, на каго мне паказаў свяшчэннік, перад нашым прыходам пашлі ў лясы. Засталося толькі „быдла“. Каб гэтым нягоднікам не было ахвоты больш грабіць, я загадаў Мазурэнку найбольш шкодных адлупцаваць. Вядома, я пры экзекуцыі не прысутнічаў...“

— Які жах!—прашаптала Людвіга, апускаючы руку з пісьмом на калені.

— Так, ад гэтага Станіслаў і Стэфа зусім збяднелі. У Баравіцах хоць будынкі засталіся, а галіцыйскі маёнтак зусім спалены. Я толькі не разумею, чаго ён там разміндальнічаўся? Я перавешаў-бы поўвёскі, забраў-бы ўсю скаціну, коней і хлеб у гэтага быдла,—падхапіў Уладыслаў.

— Я кажу, гэта жахліва, калі збіваюць плёткамі людзей, магчыма, ні ў чым невінаватых. І гэта робіць Станіслаў! Я не ведаю... Але гэта не да твару сапраўднаму арыстакрату,—усхвалявана перарвала яго Людвіга.

— Табе добра так разважаць! У вас з Эдвардам усё цэлае, а мы з Станіславам цяпер ледзьве не жабракі,—успыхнула Стэфанія.

— Цікава ведаць, што ты хацела сказаць словамі „сапраўдныя арыстакраты“,—ускіпеў Уладыслаў.—Няўжо толькі вы, Чарнецкія, варты такога гонару.

— Хопіць, Уладэк, хопіць!—замахала рукамі Стэфанія.—Я бачу, вы не хочаце слухаць пісьмо.

Яна была дачкою лесапрамыслоўца, якому яго мільёны не дрэнна замянялі дваранскі герб, і задзірыстасць гэтага пеўня Уладыслава, якая заўсёды здавалася для яе смешнаю, цяпер раздражняла яе.

Уладыслаў яшчэ нешта хацеў сказаць, але ў дзверы пастукалі, увайшоў здаравенны слуга і далажыў, што яго светласць хоча бачыць яснавяльможную пані. Пачціва адступіўшы ў бок, слуга даў дарогу тлустаму азызламу старому, які павольна, ледзьве цягнучы ногі, увайшоў у пакой.

„Зараз прыдзе Юзэф з айцом Іеронімам, а тут, як наўмысля, усе сышліся раптам і, відаць, не хутка выйдуць. Трэба папярэдзіць Юзэфа, каб ён правёў айца проста ў габінет Эдзі. Ды наогул, неяк дзіўна ўсё гэта: Эдзі прыехаў, а ніхто не ведае! Няўжо гэта так небяспечна для яго? А тут яшчэ гэты брыдкі хлапец!“—раздражнена падумала Людвіга.

— Праклятая восень! У мяне зноў усё разбалелася, і я чамусьці ўсё мерзну. Адам, укрый мне ногі і можаш ісці. Падрыхтуй пасцель,—цяжка вымаўляючы словы, прахрыпеў стары. Яго душыла астма, і ён дыхаў цяжка, са свістам.

Адам выйшаў.

— Мы чыталі ліст, тата,—сказала Стэфанія, сядаючы каля старога.

Бескаляровыя вочы графа ажывіліся.

— Ну, і што там? Раскажыце.

Першую палову ліста давялося паўтарыць для старога. Пасля Стэфанія працягвала чытаць.

— „Я не магу пісаць пра ўсё, хоць пісьмо і пасылаецца ваеннай поштай. Нічым усцешыць, на вялікі жаль, не магу. Украіна стала падобнай на пчаліны вулей, у які ўсунулі некалькі палак. І адна з гэтых палак—наша нямецкая армія. Пчолы ўсё часцей пачалі джаліць. Без стальной сеткі небяспечна выходзіць за вароты. Хто ведае, магчыма, я хутка з вамі спаткаюся. Будзем спадзявацца, што лёс не рыхтуе нам трагедыі і мы ўбачымся жывымі і цэлымі. Што чуваць пра Эдуарда? Ці ўсе вы здаровы? Вітанне вам усім, дарагія мае Людвіга, айцец і Уладэк. А цябе, Стэфачка, цалую і...“ Ну, тут ужо асабіста да мяне.—Стэфанія засмяялася.— Я вельмі рада, што Станіслаў прыедзе. А то да смерці нудна. Гэтая бясконцая вайна пачынае прыядацца, асабліва ў апошнія гады. Было ўсяго нейкія два невялікія балы за ўвесь сезон. Самыя цікаўныя людзі на франтах. Куды ні пойдзеш, усюды гэта салдатчына. Асабліва тут, у мужычай Украіне. Я думаю, што ў Берліне і ў Парыжы жывуць сапраўдным жыццём, а тут ад нуды звар'яцець можна.

— Не бачу, чаму тут радавацца,—з'едліва сказаў стары.

— Як чаму? А Стась прыедзе.

Казімір Могельніцкі нездаволена паглядзеў на Стэфанію.

— Усяк можна прыязджаць. Пісьмо выразна гаворыць, што становішча немцаў вельмі няўстойлівае. І не цяжка ўявіць, што атрымаецца, калі яны пакінуць Украіну. Бо за імі сюды прыдуць бальшэвікі.

Уладыслаў палічыў неабходна пагардліва фыркнуць.

— Ну, што ты, тата! На Украіне трыста тысяч нямецкіх салдат. Гэта лепшая армія ў свеце, а бальшэвікі—гэта натоўп мужыкоў, узброеных вінтоўкамі, гэта стада, якое разбягаецца, убачыўшы бронеаўтамабіль. Шмультке мне расказваў, як яны гналі гэтую жывёлу ад Брэст-Літоўска да Растова. Лейтэнант пераконаны, што немцы хутка зоймуць Баку, а потым і Маскву.

Стары махнуў рукою.

— Ах, сціхні ты, калі ласка, са сваім Шмультке! Ён у сябе пад носам не можа справіцца з гэтымі мужыкамі! Калі ў Зайнчкоўскіх сяляне захапілі сена на лугу, то што зрабілі твае Шмультке і Зоненбург? Сказалі, што з адным эскадронам небяспечна туды ехаць. А на цукраварным заводзе Баранкевіча што было? Смешна! Нейкая група хлапчукоў з кулямётам не падпускала іх на працягу трох гадзін да завода. А табе ўсё здаецца пусцякамі! У любы дзень мы можам прачнуцца ў агні. Я не магу спаць спакойна. Я ведаю, да чаго гэтыя звяры здольныя, яны ўжо навучыліся забіваць. Іх можа стрымаць толькі сіла. Мне страшна падумаць, што будзе, калі гэтай сілы не стане. Немцы—адзіная наша апора. Калі яны пойдуць, мы загінулі!

Стары ледзьве дыхаў. На скронях, як сінія чарвякі, набухлі жылы. Ён пакутліва закашляў, калоцячыся ўсім целам.

Усе прыціхлі.

Людвіга падышла да акна.

Каля пад'езда стаяла каляска.

— Прабачце, я вас на хвілінку пакіну,—сказала Людвіга, ідучы да дзвярэй.

— Я ўвесь да вашых паслуг, пане Эдвард!—ціха праказаў айцец Іеронім, калі Людвіга пакінула іх адных.

Яны сядзелі ў глыбокіх крэслах за пісьмовым сталом адзін супроць другога. Маленькія чорныя зыркія вочы айца Іероніма, хаваючыся за прыжмураныя расніцы, асцярожна абмацвалі Могельніцкага. Эдвард адчуваў гэта, хоць яму здавалася, што айцец Іеронім звычайна стаміўся і крыху дрэмле.

— Вы трохі здзіўлены, айцец Іеронім, з майго прыезду?—Эдвард сачыў за цапкімі пальцамі свайго субяседніка, які торгаў чорны кутас кручанага пояса.

— Здзіўлены? Хм... Магчыма!

Іх позіркі спаткаліся. Гэта быў маўклівы паядынак, які цягнуўся некаторы момант; Эдварду здавалася, што ён даткнуўся да ляза брытвы.

— Я думаю, што мы з вамі будзем гаварыць адкрыта і пярэйдзем адразу да справы,—перарваў маўчанне Эдвард.

Айцец Іеронім выпрабавальна зірнуў на яго.

— Яго святасць, кардынал Камарыні, прасіў перадаць вам вітанне і маленькую запісачку. Вось яна.

Айцец Іеронім некалькі разоў прачытаў шматок паперкі, на якой па латыні было напісана нешта падобнае на рэцэпт.

„А з яго мог бы выйсці не благі боксэр“,—падумаў Эдвард, пaглядаючы на айца Іероніма. Сапраўды, у айца Іероніма была ладная галава з магутнымі чатырохкутнімі сківіцамі і тоўстая шыя. Пад чорнай сутанаю адчувалася гладкае, дужае цела.

— Як я зразумеў, яго святасць жадае, каб я дапамог вам, нават больш—выконваў усё, што вы палічыце патрэбным мне даручыць,—праказаў, нарэшце, айцец Іеронім.

— Вы правільна зразумелі. Але для вас, як мне вядома, не зусім ясная новая арментацыя Ватыкана. Пазней вы атрымаеце падрабязнае тлумачэнне гэтага, а пакуль што я вам раскажу, у якім стане справа,—адказаў Эдвард.

— Так, гэта мяне вельмі цікавіць.

— Ну, дык вось, айцец Іеронім,—ледзь не шэптам пачаў Эдвард.—Вы, пэўна, ведаеце пра размяшчэнне нямецкай арміі?

— Так, у агульных рысах...

Эдвард вынуў з бакавой кішэні геаграфічную карту і разгарнуў яе на стале. Абодва схіліліся над ёю. Палец Эдварда павольна поўз ад Чорнага мора да Балтыйскага.

— Вось, прыкладна, граніца нямецкай акупацыі: Растоў-на-Дану, Харкаў, увогуле ўся Украіна... сюды, да Польшчы, пасля Беларусь, Літва, Латвія і канчаецца Эстоніяй. Гэта ледзь не ў тры разы больш за тэрыторыі самой Германіі. Я кажу толькі пра Германію,—гаварыў далей Эдвард,—бо Аўстра-Венгрыя адыгрывае тут другарадную ролю. Па вестках французскага генеральнага штаба, зусім дакладных, аўстра-германскае камандванне мае на гэтым абшары

дваццаць дзевяць пяхотных і дзве кавалерыйскіх дывізіі. Агульная колькасць іх арміі—дзвесце дваццаць тысяч чалавек.

Айцец Іеронім ледзь прыкметна ўсміхнуўся.

— Я разумею, чаму вы ўсміхаецеся, айцец Іеронім: вы думаеце, што не варта было пакідаць Парыж, каб падлічваць, колькі сот тысяч салдат мае Германія на тэрыторыі, дзе Францыя пакуль што не мае ніводнага. Я кажу—пакуль што таму, што вайна працягваецца. А вайна, айцец Іеронім, не толькі стварае новыя граніцы, але і новыя дзяржавы. Зараз я выкрываю для вас тое, што з'яўляецца ваенна-аператыўнай таямніцай і што выклікала мой прыезд сюды. Па-першае, Германія прайграла ўжо вайну...

— Прайграла вайну?—з несхаваным здзіўленнем запытаў айцец Іеронім.—Няўжо Антанта разграміла яе на заходнім фронце?

— Не, фронт яшчэ трымаецца, але гэта ўжо агонія. Іх пагібель ідзе знутры. Наша ваенная разведка паведамляе пра рад выступленняў рабочых і салдат у Аўстрыі, таксама ў Берліне, Гамбургу. На адным з браненосцаў успыхнула паўстанне. З кожным днём бунты робяцца ўсё часцей і кайзераўскі ўрад не мае сілы з імі справіцца. Не можа быць сумнення, што ў бліжэйшыя дні мы пачуем пра рэвалюцыі ў Аўстрыі і Германіі. Немцы выдыхаліся. Нішто ім не дапамагло: ні захват самых ураджайных абласцей Расіі, ні вываз хлеба і жывёлы з Украіны ў згаладалую Германію; нацыя больш не здольна прадаўжаць вайну таму, што яе тыл у агні. Аўстрыя-ж наогул трымаецца толькі пры дапамозе Германіі. Як бачыце, з Германіяй атрымліваецца тое-ж, што і з Расіяй. Было б неразумна думаць, што рэвалюцыйная зараза не пранікне з Расіі ў Еўропу. Яна пранікла ужо. Сам Людэндорф прызнаўся, што нямецкія часці, якія перакідаюцца з Украіны на французскі фронт, заражаны бальшэвізмам і не здольны да бою, нават небяспечны, таму што разлагаюць другія...

— Скажыце, пане Эдвард, гэта тычыцца толькі Германіі?—перапыніў яго айцец Іеронім.

Некалькі секунд маўчання. Эдвард толькі цяпер адчуў холад у няпаленым габінеце. Было чутно, як у гасціннай іграла на раялю Людвіга. Ён цяжка пасунуўся у крэсле, змрачнеў і, адганяючы ад сябе ўсё цёплае, пяшчотнае, навеянае музыкай, загаварыў глуха і жорстка:

— Бальшэвізм можа зжэрці ўвесь цывілізаваны свет, калі яго не знішчыць у зародку.—У голасе Эдварда гучэла і жорсткая рашучасць і тое, што толькі вострым чуццём улавіў іезуіт, які перад ім сядзеў,—страх. Эдвард устаў, ступіў некалькі крокаў і, спыніўшыся перад айцом Іеронімам, прадаўжаў:—Развальваецца ўвесь будынак Германскай імперыі... Што будзе там далей, цяжка сказаць. Калі Берлін паўторыць Маскву і створыць у сябе советы, то гэта будзе страшнай пагрозай. Бо ўводзіць саюзныя войскі ў ахопленую рэвалюцыяй краіну—значыць паўтарыць лёс немцаў на Украіне. Калі-ж соцыял-дэмакраты—я кажу аб правых—утрымаюць у сваіх руках уладу, тады дэмакратычная курыца зменіць імператарскіх арлоў, і Германія на цэлы рад год перастане адыгрываць ролю вялікай дзяржавы.

У вачах айца Іероніма Эдвард угадаў маўклівае пытанне.

— Вы пытаецеся, навошта я прыехаў сюды, дзе немцы могуць расстраляць мяне, як французскага шпіёна?

— Я, здаецца, пра гэта не казаў. Але, прызнаюся, гэта мяне цікавіць.

— Цудоўна. Прабачце за доўгі ўступ. Дык чаму я тут?.. Як толькі ў Берліне пачнецца пажар, нямецкая армія на Украіне і ў Польшчы разваліцца. Гэта пэўна. Немцы пойдуць, і ўся тэрыторыя, якую яны займаюць, пяройдзе да Чырвонай арміі. Вы ўяўляеце, што тады атрымаецца? Чырвоная Масква—чырвоны Берлін! Гэта—канец Еўропы. Ні Францыя, ні Англія дапусціць гэтага не могуць. Сітуацыя рэзка мяняецца. Раней аўстра-нямецкая армія служыла бар'ерам, які аддзяляў Еўропу ад комуністычнай Расіі. Цяпер гэты бар'ер развальваецца. Калі мы заместа яго не пабудуем другога, советы захліснуць усё...

— Як-жа можна перашкодзіць гэтаму?—запытаў айцец Іеронім, які напружана слухаў.

Эдвард узяў у рукі карту.

— Стварыць Польскую рэспубліку з нацыянальнай арміяй, якая перапыніць чырвоным шлях на захад. Латвія і Эстонія атрымаюць „самастойнасць" і разам з Польшчай і Румыніяй створаць узброены буфер між Расіяй і Захадам, пад пратэктаратам Францыі. Англія-ж займецца Мурманам і Архангельскам. Саюзныя дэсанты будуць цясніць чырвоных з поўначы, флот—з Балтыйскага мора. Другая англійская зона—паўночны Каўказ, Баку, Сярэдняя Азія. Французскі-ж флот пры першай магчымасці ўваходзіць у Чорнае мора і займае Одэсу і іншыя парты. Японцы захватваюць Уладывасток і пасоўваюцца ў Сібір. У тым-жа кірунку дзейнічае армія Калчака і чэхаславацкі корпус. Польшча ў гэты час паспрабуе заняць правабярэжную Украіну, Літву і Беларусь, а калі гэта не ўдасца,—стварыць там варожыя для советаў дзяржавы. Заціснутая ў гэта кальцо Масква задыхнецца. Але нам, палякам, трэба спяшаць, пакуль хаос не ахапіў і нашы краі. Трэба падрыхтаваць узброеныя сілы, якія-б маглі апячы агнём усіх, хто надумаецца пасля ўхода немцаў стварыць у Польшчы советы, ці што падобнае да іх. Для нас важна выйграць у часе, сабраць сілы, узброіць іх, стварыць органы ўлады, жандармерыю. Францыя дасць нам у крэдыт амуніцыю, зброю, прышле тысячы паўтары афіцэраў. І тады мы пачнем гаварыць інакш. Але цяпер неабходна дзейнічаць і пры тым самым рашучым чынам. Тым больш, бо гэта пытанне не толькі агульнай палітыкі, але і нашага з вамі лёсу: калі мы не знішчым польскіх большэвікоў, дык яны знішчаць нас!

Эдвард змоўк, углядаючыся на карту. Потым, быццам успомніўшы штосьці, дадаў:

— Да рэчы, яго святасць кардынал даручыў мне перадаць вам, што калі ваша работа выйдзе ўдачнай, дык больш падыходзячага генеральнага вікарыя на Валыні, як вы, яму не знайсці.

Вочкі айца Іероніма не змянілі свайго звычайнага выразу.

— Я чакаю вашых загадаў, пане Эдвард.

— Цудоўна, айцец Іеронім!—Эдвард сеў.

— І так, будзем дзейнічаць... Дні праз два я выяэджаю ў Варшаву на нараду. За гэты час паэнаёмце сваіх калег у акрузе з абстаноўкай. Рабіце гэта асцярожна.—Заўважыўшы як нецярпліва варухнуў іезуіт пальцамі, Эдвард зразумеў, што апошнія словы не трэба было гаварыць.—Пра мой прыезд і маю місію— пакуль што ні слова. Праз тры тыдні дзень нараджэння маёй жонкі. Пад выглядам гэтага мы збярэм тут радавітых дваран акругі і найбольш сур'ёзных людзей, зацікаўленых у нашых дзеяннях. Адначасова вы збераце ў сябе нараду ксяндзоў. Потым вы асабіста пастарайцеся спаткацца з мясцовымі палітыканамі. Хто там у іх верхаводзіць?

— Пэпээсавец—адвакат Сладкевіч.

— Ён ужо соцыяліст? Хутка! Прайдзісвет! Вы з ім будзьце асцярожны, айцец Іеронім! Пакуль сітуацыя высветліцца, гэты здолеп тройчы прадаць нас немцам. Я прывязу з Варшавы некалькі афіцэраў, якіх трэба размясціць у прыстойных сем'ях. Пачнем адбор людзей, будзем пацiху ўзбройваць іх... Няхай хто-небудзь з вашых калег выступіць на пропаведзі з заклікам да барацьбы за айчыну і вялікую Польшчу. Калі яго нават арыштуюць, не важна,—выратуем! Я прывязу грошай. Пакуль вось пятнаццаць тысяч марак. Да рэчы, папярэдзьце каго трэба пра хуткі крах нямецкай маркі. У Варшаве я спаткаюся з панскім нунцыем*) і папрашу ў яго парады, як нам дзейнічаць далей. А цяпер асноўная задача—збіранне сіл... Вось, здаецца, усё, што я хацеў вам сказаць. Цяпер я вас прашу паехаць да князя Замойскага і перадаць яму гэта пісьмо.

Абодва ўсталі.

## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

Францыска заглядзелася на хлопца, які калоў дровы. Вось ён размахнуўся, ударыў і далёка ў бок адляцела палова плашкі. Другі ўдар, трэці...

Хутка расла гара паленняў. І ў тым, як лёгка ўзлятаў тапор, адчувалася ўпэўненасць і маладая сіла.

— Ты адпачыў-бы крыху. Куды спяшаеш?—сказала Францыска, згортваючы выбіты дыван.

Хлопец здзіўлена зірнуў на пакаёўку. Вочы ў яго сінія, над імі чорныя бровы, быццам крыллі ў палёце. Неслухмяны кудзёр валасоў навіс над вачыма.

„Прыгажун хлапчына, бясспрэчна, хаця гэтага яшчэ не ведае. Губы яшчэ некранёныя, нецалаваныя“,—вопытным жаночым позіркам адзначыла Францыска.

Усміхнулася яму. У гэтым хлапцу, высокім і дужым, штосьці харошае, некранёнае. І дзіўна, што голас у яго не юнацкі, з надломам, а моцны, мужчынскі.

— Можа, я вам перашкаджаю?

*) Паслом.

— Ды не!—запярэчыла Францыска.—Але-ж ты ад самае раніцы працуеш без адпачынку, як быццам цябе хто падганяе. Ты палуднаваў?

— У мяне... таго... палуднаваць няма чым. Ды і не хочацца.

— Ну, гавары! Глупства! Дапамажы дыван унесці, потым пойдзем у кухню, паядзім. Я таксама не палуднавала.

Хлопец у нерашучасці.

— Такое ўмовы не было... Старшы ваш, у сіняй світце, які наймаў, пра полудзень не казаў.

— Гэта мой свёкар... Бяры дыван! Пад'ясі, там у іх не толькі на цябе, на дзесяцёх хопіць. Не бойся, ад гэтага не пабяднеюць!—Францыска нецярпліва папрaвіла пярэднік.

Юнак падняў дыван і, узваліўшы на плечы вялізны скрутак, пайшоў за пакаёўкаю ў палац.

— Дай нам, Варвара, чаго-небудзь з'есці. Ды пабольш! Трэба хлапца накарміць, ды і я згаладалася,—сказала Францыска, увайшоўшы ў кухню.—Ад гэтага свята ў доме ўсё дагары дном! А што будзе, калі яно настане... Прыём на сто гасцей, аркестр з горада... Матка боская! Гэткага ўжо даўно не было,—гаварыла Францыска, усаджваючы хлапца за стол, на які Варвара ўжо ставіла талерку з буракамі.

— Як цябе завуць?—наліваючы другую талерку, запытала Францыска.

— Раймонд.

— А прозвішча?

— Раеўскі.

— Ты гарадскі? У цябе ёсць бацька і маці?

— Ёсць.

— Што-ж, відаць, дрэнна жывецца, калі ў заработкі ходзіш? Бацька на вайне?

— Не.

— А дзе-ж?—Не сунімалася Францыска.

Юнак змаўчаў.

Францыска здагадліва ўздыхнула.

— Кінуў вас напэўна?

У кухню ўбегла Хэля. Стральнуўшы вочкамі ў незнаёмага хлапца, зашчабятала:

— Панства едзе да Замойскіх... Графіня ў калясцы, а малады граф конна. Цяпер Анэля завівае графіню Стэфанію, а я бягу на канюшню, каб праз гадзіну падавалі коней.

Дзверы зноў адчыніліся. Увайшоў Юзэф.

— У кухні зноў староннія? Што я казаў, Францыска? І потым—чутчэй еш, цябе клікалі на верх,—раздражнена сказаў ён.

— Ды што гэта такое? Пад'есці спакойна не дадуць! З ранку да позняй ночы бегаеш, бегаеш і ўсё мала! Усё яшчэ чагосьці чэпяцца,—агрызнулася Францыска.

— Ну-ну, падкараці свой язык!—усчуў Юзэф.—А ты, хлопча, канчай работу, потым прахлаждайся, колькі хочаш, тут няма табе чаго рабіць... Дровы скласці там-жа, на заднім двары, у хляве.

Двор падмесці. Тады прыдзеш па грошы. Ну, пашлі па месцах!— падвысіў голас Юзэф.

Юнак падняўся так імкліва, што стары адступіўся.

— Дзякуй за пачастунак,—ні то да Францыскі, ні то да Юзэфа, прыглушана праказаў Раймонд і хутка накіраваўся да дзвярэй.

Калі апошняе бярэмя дроў было складзена, а двор—падмецены, Раймонд адзеў сваю фуфайку, узяў пад паху тапор і пайшоў да параднага пад'езда.

Палац стаяў на ўзгорку, у нізе якога цякла рака. Да ракі спушчаліся дзве шырокія гранітныя лесвіцы Там, дзе пачынаўся круты абрыў, дугой выгіналіся клумбы і драцяная сетка на метр вышыні. Каля лесвіц—круглы басейн занядбанага фантана. Даўней тут быў умацаваны замак графаў Могельніцкіх. Рэшткі крэпасці з боку ракі яшчэ захаваліся.

Лепшым сваім бокам палац выходзіў у парк. Каля парадных пад'ездаў—вялізны поўкруг, заліты бетонам. Шырокая, пасыпаная чырвоным пяском алея вяла да галоўных варот парка. Фруктовы сад адцісnуў ад палаца флігелі, канюшні і іншыя будынкі.

Каля пад'езда стаяла адкрытая каляска. Здаравенны фурман ледзьве стрымліваў порсткіх коней. Застоены прыгожы жарабец нецярпліва біў капытом аб бетон. Скасавурыўся на Раймонда раз'ятраным вокам і пагрозна захрапеў.

— Ну, не дурэй, чорт!—напінаючы лейцы, крыкнуў на жарабца фурман.

Пачуліся лёгкія крокі. Раймонд павярнуўся і сустрэўся з позіркам Людвігі. Яна глядзела на яго толькі момант. Але ён пазіраў на яе неадрыўна і здзіўлена, як пазіраюць дзеці.

Яна лёгка паднялася ў каляску.

— А дзе Стэфанія? І мой конь? Ян, бяжы ў канюшню, каб мне зараз-жа прывялі Ласку. Колькі разоў я павінен загадваць!— рэзка закартавіў нехта за спіною Раймонда.

Фурман цяжка злез з козлаў.

— Трэба каб хто коней патрымаў, яснавяльможны пане.

— Эй, ты! Як цябе там? Патрымай коней!—загадна крыкнуў Раймонду, пагардліва выпучыўшы тоўстую губу, малады чалавек у кавалерыйскай куртцы і крагах, нецярпліва круцячы ў руках стэк. Ён быў бязвусы, яшчэ каротканогі і тоўсты.

— Я вам не лакей!—вырвалася ў Раймонда.

Уладыслаў на момант ашаламанеў. Пасля ў шаленстве ўзмахнуў стэкам, але не ўдарыў: учуў здагадліва, што за ўдар гэты хлапец здольны раскрышыць яму галаву тапаром.

— Дык пашоў вон адсюль. Хто цябе сюды пусціў? Эй, Юзэф, ці хто там! Куды вас чорт падзеў?—крычаў уззлаваны Уладыслаў, вырываючы лейцы з рук фурмана.

Раймонд павольна пайшоў у бок ад пад'езда, накіроўваючыся ў кухню за разлікам.

У гэты час выйшла Стэфанія.

За некалькі крокаў ад сеткі, якая аддзяляла палянку ад абрыва, Раймонд прыпыніўся. Яго ўвагу заняў матацыкл, які ім-

чаўся па алеі, ім кіраваў нямецкі салдат з кароткім карабінам за плячыма. Матацыкл выкырнуў перад самой каляскай і ад аглушальнага трэску яго матора, коні рвануліся у бок. Жарабец ускруціўся на дыбкі, затрашчаў дышаль. Уладэк, кінуўшы лейцы, рынуўся да пад'езда, ратуючыся ад капытоў. Салдат, каб не стыкнуцца, даў поўны газ і пад вострым кутом павярнуў матацыкл у бок. Ад гэтага коні рынуліся наперад і паляцелі да абрыва. Роспачлівы крык Стэфаніі толькі падагнаў іх. Яшчэ некалькі крокаў і ўсё паляціць уніз. Коні не адчувалі абрыва, замаскаванага кустамі. Раймонд кінуўся на пярэймы ашалелых коней і ў гэты-ж момант зразумеў, што ён не спыніць аслепленую спалохам жывёлу. Яна растопча яго раней, чым ён што-небудзь зробіць... І толькі ў апошні момант ён адчуў у сваёй руцэ тапор. Вось ужо яна, дзікая морда жарабца, перад ім!.. Страшны ўдар тапаром у лоб абваліў каня. І ў гэты-ж момант хлапец сам упаў ад удару акаванага дышла. На яго паваліўся, спатыкнуўшыся, другі конь.

На крык збягалася ўся дворня. Пабляднеўшую Людвігу выхапілі з каляскі і толькі тады кінуліся да каня, які парываўся на зямлі і пад якім ляжаў Раймонд. Калі яго, нарэшце, змаглі вызваліць, ён быў як нежывы. Яго паклалі на зямлю і ён ляжаў тварам угару, зусім збялелы і, здавалася, моцна спаў.

Мужчыны стараліся каля коней. Жарабец ляжаў так-жа нерухома, як і той, хто яго забіў.

— Ды ён-жа разбіў яму галаву! Такога дарагога каня загубілі,—загаварыў, апамятаўшы, нарэшце, Уладыслаў.

— Дзякаваць богу, што графіня няўшкоджана! Езус Хрыстус! Што-б там было! І граф Эдуард паехаў,—прашамкаў сасмаглымі ад хвалявання губамі Юзэф.

Нядаўні спалох Уладыслава змяніўся шаленствам і ён накінуўся на прысутных слуг.

— Гэта ўсё праз вас, дармаедаў чортавых! Разлянаваліся, нягоднікі! Дзе вы ўсе былі, калі падалі каляску? І як смее розная салдатня бадзяцца тут са сваімі трашчоткамі?

Гэта ўжо тычылася Зоненбурга, які толькі што вышаў з дому. Маёр папрасіў прабачэння ў Людвігі за ўчыненую ёй прыкрасць. Уладыслаў хутка падышоў да яго.

— Пане маёр, я патрабую арыштаваць гэтага балбеса, які ледзь не загубіў графіню.. Апрача таго, конь каштуе некалькі тысяч марак, якія гэты ваш ідыёт за ўсё сваё жыццё не заробіць. Потым вы павінны растлумачыць вашым салдатам, што тут не заезджы двор,—па-нямецку, каверкаючы словы, гаварыў Уладыслаў.

Высокі, сухі, як таран, маёр ветліва казырнуў Людвізе і павярнуўся да Уладыслава.

— Што вам ад мяне патрэбна, малады чалавек.

— Я для вас не малады чалавек. а граф Могельніцкі! Прашу не забывацца на гэта. пане фон Зоненбург.

— Вельмі добра. Але калі вы будзеце гаварыць і далей гэткім тонам, то я адмаўляюся вас слухаць. Матацыкліст выконваў свае

абавязкі і не павінен адказваць за тое, што вы кінулі лейцы, і пакінулі графіню на волю лёсу,—адрэзаў Зоненбург і пайшоў з салдатам у дом, на хаду разрываючы канверт з надпісам: „Зусім сакрэтна, вельмі тэрмінова“.

У гэтай сумятні на Раймонда забыліся. Людвіга першая заўважыла гэта.

— О, божа, што-ж вы пакінулі яго без дапамогі!—крыкнула яна.—Зараз-жа нясіце яго ў дом! Стэфа, папрасі маёра пасладь за фэльчарам...

Маёр у сваім пакоі чытаў:

... „Перадаю шыфраваную радыёграму—дзве кропкі... У Аўстра-Венгрыі страшнейшае хваляванне... Яго імператарская і каралеўская вялікасць адмовіўся ад прастола... Загадваю ўсімі сродкамі, не спыняючыся перад расстрэлам агітатараў, захаваць дысцыпліну ў войсках. Кропка. Падначальвацца толькі загадам вярхоўнага камандвання.

Людэндорф.

Дадатковыя ўказанні будуць пасля... Прачытаўшы, спаліць...“—шаптаў Зоненбург.

— Глыбокі вобмарак. Гэта—шок, пераломаў няма. Адзяваць пакуль не трэба. Зараз мы ўспрыснем яму камфару,—гаварыў немец-фэльчар, з павязкай чырвонага крыжу на рукаве мундыра.

Раймонд ляжаў на шырокай канапе ў курыльным пакоі, укрыты цёплай коўдрай. Даглядалі яго лакей Адам і Францыска. Стэфанія таксама брала чынны ўдзел у іх старанні.

Калі да Раймонда пачала варочацца свядомасць, у пакой увайшла Людвіга.

— Вось... Пульс робіцца больш выразным... Малады чалавек трымаецца добра. Зараз яму патрэбен спакой... Што гэта? Іграюць збор? Я павінен ісці. Праз гадзіну я вярнуся. Але яго не трэба пакідаць аднаго,—сказаў фэльчар, устаючы з канапы.

— Вы можаце ісці,—звярнулася Стэфанія да Францыскі і Адама,—мы з графіняй пабудзем крыху тут. Усё добра, да яго варочаецца свядомасць,—ціха адказала Стэфанія на маўклівае пытанне Людвігі, калі яны засталіся адны.—Ці не знаходзіш ты, Людвіга, што ён прыгожы?

— Стэфа, як табе не сорам?!

Раймонд ледзь падняў пацяжэўшыя павекі. Стэфанія, якая сядзела каля падушкі, ласкава схілілася да яго. Хлапец доўга глядзеў затуманеным позіркам на незнаёмую ўбраную даму, на яе хітрыя вочы, на яркія ад карміна губы, не разумеючы, дзе ён і што з ім.

Стэфанія асцярожна расказала яму пра здарэнне. Ён паспрабаваў устаць, але Стэфанія стрымала яго.—Ляжыце спакойна.

Людвіга, заўважыўшы яго рух, падышла да канапы і ўзяла Раймонда за руку:

— Чым я магу аддзякаваць вам?—ціха праказала Людвіга.

За акном зноў затрашчаў матацыкл, які адвозіў маёра. Толькі цяпер Раймонд успомніў яе. Яму зрабілася холадна і няўтульна.

— Дзе мая вопратка? Я хачу пайсці,—прашаптаў ён.

— Зараз вам прынясуць адзенне і дапамогуць апранучца. Але вы не павінны ісці, пакуль не вернецца да вас сіла,—сказала Стэфанія, выходзячы следам за Людвігай з пакою.

Хістаючыся ад галавакружэння, ледзьве не падаючы, Раймонд апранаўся. Калі ў пакой увайшоў Юзэф, нясучы суконны гарнітур, боты і паляўнічую куртку, ён ужо застаў Раймонда апранутым.

— Гэта табе прыслала яснавяльможная пані,—і Юзэф паклаў прынесеныя рэчы на крэсла.—Апрача таго, яна загадала перадаць табе дзвесце марак,—працягнуў ён хлапцу пачак крэдытак.—Таксама загадана пакарміць цябе і адвезці ў горад.

Пакой павольна кружыўся ў ваччу Раймонда. Ён слаба павадзіў рукою, каб захаваць роўнавагу.

— А за дровы колькі мне належыць?— запытаў ён.

— За дровы—тры маркі, як дамовіліся. Але-ж табе далі дзвесце, што яшчэ?

Раймонд дастаў з пачкі крэдытак тры маркі, астатнія паклаў на стол і моўчкі вышаў.

За варотамі парка азірнуўся і доўга глядзеў на сядзібу. Пасля павольна пайшоў да горада. Вецер сцябаў яму ў твар, забіраўся пад фуфайку. А ён усё ішоў, спатыкаючыся і хістаючыся, як п'яны...

— Пане обер-лейтэнант, у гэтых двух прапускі не ў парадку. Як загадаеце?—узяўшы пад казырок, рапартаваў нізкі вахмістр.

Шмультке зірнуў на затрыманых. Адзін з іх, ссутулены, увесь аброслы калючым шчаціннем, у патрапанай форме аўстрыйскага салдата, злосна пазіраў на яго, часта міргаючы, бо цыгарэтны дым ад афіцэрскай папяросы раз'ядаў яму вочы. Другі высокі, з доўгімі, сівымі, як папялок сігары, вусамі, у чорнай паддзёўцы, у кароткіх салдацкіх ботах, стаяў спакойна, абыякава пазіраючы на пасажыраў, якія выходзілі з вагона.

— Чаму ў вас няма візы на пропуску?—строга запытаў Шмультке.

— Там ужо тры ёсць, а чацвертай не паставілі—няма каму. Усе пруць дахаты, ім не да візы,—з нейкім зларадствам агрызнуўся першы.

—Як стаіш? Стаць смірна! Я цябе навучу, брыдота, як размаўляць з афіцэрамі! Якога палка? Чаму без пагон і какарды? Дэзертыруеш, брыдасць?—закрычаў Шмультке, знайшоўшы, нарэшце, на кім сарваць злосць, за трохдзённае нязменнае дзяжурства на станцыі, дзе яго эскадрон лавіў у паяздах дэзертыраў аўстра-венгерскай арміі.

— Які я дэзертыр? Быў у палоне ў Расіі, цяпер варочаюся на радзіму. Калі ласка, гляньце,—прыцішаючы голас, адказаў салдат.

Шмультке праглядаў дакументы затрыманых. На пакамечаным брудным пасведчанні, выдадзеным ваеннапалоннаму Мечыславу Пшыгодскаму, стаяў штамп кіеўскай камендатуры з кароткай адзнакай „Праверан. Інвалід. Дазволен праезд да месца пражыцця". Другое пасведчанне было на імя Сігізмунда Раеўскага, манцёра варшаў-

скага вадаправода, якому таксама быў дазволен праезд да. мясцовасці, дзе жыла яго сям'я.

— Што ты рабіў у Расіі пасля семнаццатага года?

— Капаў бульбу, пане обер-лейтэнант.

У адказе салдата Шмультке падлавіў захаваны здзек.

— Нічога, ты ў мяне пасядзіш, пакуль мы разбярэмся ва ўсім гэтым... А ў вас чаму няма візы?—звярнуўся Шмультке да высокага, мімаволі называючы яго на „вы".

— Я не гавару па-нямецку,—адказаў той на польскай мове.

— Ён паляк і не разумее вас,—пераклаў салдат,—мы з ім ехалі разам. Ён таксама хадзіў у камендатуру па візу, але там не было каму яе паставіць. Мы з ім землякі, тутэйшыя.

Тлумачэнні не памаглі. Усе гэтыя дні Шмультке быў такі ўзлаваны, што ледзве стрымліваўся ад рэзкіх выхадак. Зараз яму вельмі хацелася даць па мордзе гэтаму хаму, які яшчэ тыдзень таму назад дрыжэў перад кожным афіцэрам, а цяпер, калі ў гэтай ідыётскай Аўстра-Венгрыі заварылася каша, так абнаглеў, што размаўляе такім тонам... Што-ж будзе далей? Сёння знята з поезда пяцьдзесят сем дэзертыраў, з іх—адзінаццаць са зброяй. А тэлеграмы папярэджваюць, што пачынаюцца пагалоўныя ўцёкі. Калі гэта хваля дакоціцца сюды... Чорт вазьмі!

— Накіруйце іх у камендатуру! Заўтра праверым, ці праўда, што яны жывуць у гэтым горадзе.

— Ну вось, прыехалі, называецца!... Парся ў гэтым клапоўніку ўсю ноч... Раніцою ён разбярэцца!.. Цэлы месяц ехаў, да дому дабраўся, а тут на самым парозе пад замок цябе! Але не дай, божа, каб вось такі трапіўся ў цёмным завулку ў мае рукі!—скрыгатнуў зубамі Пшыгодскі і раз'ятрана кінуў свой клунак на драўляныя нары, калі іх замкнулі ў пустой арыштантскай.

— Ты сам крыху вінаваты, дружака: трэба было лягчэй з ім абыходзіцца. Ты дзе, уласна, жывеш?

— Ды тут, недалёка ад горада, у маёнтку Могельніцкіх.

— А хто там у цябе?

— Ды жонка, бацька, брат... Увогуле, народу да чорта. Нябось жывуць сабе прыпяваючы! Уся наша парода ў Могельніцкіх спрадвеку на лакейскім становішчы. Бацька—дварэцкі, брат лакей, жонка мая пакаёўка. А я ў іх конюхам быў. У лакеі не ўзялі—з твару не ўдаўся. Ды і сам-бы я не пайшоў. Сабачая прафесія! Стой на задніх лапках і віляй хвастом, калі цябе гаспадар па носе шчоўкае. З коньмі больш прыемна.

Раеўскі паслаў сваю падзёўку на нарах, зняў шапку і лёг, павярнуўшыся тварам да салдата. Той пазіраў на срабрыстыя ад сівізны валасы суседа.

— Колькі вам год, пане Раеўскі?

— Сорак пяць. А што?

— Ды вось, гляджу, сівы ўвесь. Ад чаго-б гэта?

Суровыя, калматыя бровы Раеўскага шавяльнуліся.

— Бывае, што пасівееш і ў дваццаць.

Некалькі хвілін абодвы маўчалі.

— Сукрыты вы чалавек, пане Раеўскі,—сказаў нарэшце Пшыгодскі.—Я ўжо даўно да вас прыглядаюся. Вось немцу сказалі, што не разумееце, а гэта-ж няпраўда!

Раеўскі ўважліва паглядзеў на яго. Пшыгодскі супакоіў яго ўсмешкай.

— Можаце не турбавацца, пане Раеўскі! Я хоць і з пароды выжлаў, але яшчэ душы чорту не прадаваў. У мяне таксама ёсць над чым падумаць. Калі-б гэта кілбаса нямецкая ведала, якую я „бульбу капаў“ увесь гэты год, дык ён-бы са мною інакш размаўляў. Калі цікавіцеся, магу расказаць што-небудзь з свайго жыцця. Усёроўна-ж рабіць нам няма чаго. Так хутчэй час пройдзе...

Раеўскі сачыў за неспакойнымі рухамі салдата.

— Ведаеце, што я вам скажу, Пшыгодскі?—не адразу адказаў ён.—Не заўсёды варта расказваць усё, што хочацца расказаць. Вы мне здаецеся харошым чалавекам. Але цяпер не такі час, каб гаварыць лішняе там, дзе без гэтага можна абыйсціся. Вось, напрыклад, каб не наступілі вы немцу на мазоль, мы з вамі былі-б цяпер ужо дома...

Салдат падсеў да яго на нары.

— Што праўда, то праўда! Але, ведаеце, бывая такая часіна, калі душы сумна. І патрэбна расказаць некаму пра гэта. Асабліва, калі адчуваеш, што ён разбярэцца ва ўсім па-чалавечаму. Вось я зараз ледзьве не дома, а радасці вялікай ад гэтага ў мяне няма...

— Чаму?

— Ды вось як усё гэта здарылася. Раскажу спачатку, з далёку... Ажаніўся я перад самай вайною. Знайшоў сабе на вёсцы дзяўчыну харошую, як трэба, прыгожую нават, праўда, гуллівую крыху. Зажылі мы з Французыскай на фальварку, што побач з графскай сядзібай... Пачалася вайна. А ў графаў так вышла: самы старэйшы сын Эдуард (у яго маёнтак пад Варшавай) служыў у рускай гвардыі, а сярэдні, Станіслаў (у яго маёнткі ў Галіцыі і на Украіне) пасля мабілізацыі зрабіўся аўстрыйскім афіцэрам. Калі немцы занялі гэтыя месцы, ён стаў ад‘ютантам тутэйшага начальніка гарнізона. Выходзіла так: хто-б вайну ні выйграў, а Могельніцкія не прайграюць. Па просьбе бацькі граф Станіслаў узяў мяне за дзяншчыка. І ўсё-б было нічога. Але вось запрымецілі паны Французыску. Спадабалася ім, зрабілі яе пакаёўкай. Яна перабралася ў флігель каля палаца. Прыстроілі яе даглядаць старога графа. Той усё хварэе. Усю ноч за ім трэба наглядаць. Тут я пачаў заўважаць, што з ёю штосьці нядобрае. Нічога яна мне не кажа, але бачу—пакутуе ад нечага. Прыходзіў я да яе з горада кожны вечар. Гляджу аднойчы раніцою (яна яшчэ спала), на грудзях яе сінякі, быццам яе хто пакусаў. Запалала маё сэрца. Ледзьве не задушыў. Тады яна прызналася, што да яе чэпіцца стары граф. Змучыў усю. Няма ёй ад яго паратунку. Калі яна адбівацца пачала, ён прыгразіў ёй, што мяне назаўтра-ж на фронт пагоняць, а яе з двара вон... І такое мне расказала, што я зусім здзічэў. Яму, гаду ста-

рому, здохнуць даўно час! Мяшок з трыбухамі! Ні да чога нездольны... Але хоць не можа, а да бабы лезе. Зубамі грызе... Увесь дзень я хадзіў як звар'яцелы. Ноччу прыйшоў—яе няма. Кінуўся ў дом. Пачаў ламацца ў дзверы да старога. Што потым вышла, чорт яго ведае! Не памятаю... Але ўсе збегліся, не пусцілі, хоць я і біўся, як шалёны! Граф Станіслаў, як ламянуў мне рэвальверам па галаве, дык мяне як няжывога выцягнулі на двор. Арыштавалі „за буянства ў п'яным выглядзе". А на другі дзень у эшалон і на фронт. Тут я пры першым выпадку і здаўся рускім. Загналі нас у Сібір, у канцэнтрацыйныя лагеры. Было гэта ў канцы пятнаццатага. Папакутвалі мы там! Трыццаць пяць капеек на салдацкую душу ў дзень! А афіцэрам—сем рублёў Салдаты гінулі ад тыфу і голаду, а афіцэр'ё і ў вус не дзьме... Тут прышла рэволюцыя. У семнаццатым годзе мы ні туды, ні сюды. А вось калі большэвікі ўзялі каго трэба за жабры, тут мы, пленныя, і зашавяліліся. Знайшоўся сярод афіцэраў адважны хлапец—вянгерац, лейтэнант Шайно. Дык ён нам сказаў проста: „Разбівай, братва, склады, бяры прадукты і абмундыраванне!" Мы так і зрабілі. Толькі большэвіцкая рэволюцыя яшчэ не дайшла туды. Дык нас і распатронілі. Шайно і нас, завадатараў салдацкіх, заперлі ў турму, сабраліся судзіць ваенна-палявым. Але зараз-жа пачалася завaруха! Дабраліся большэвікі і да нашых лагераў. Усіх вызвалілі. Пачаліся мітынгі. І вось частка пленных рашыла падтрымаць большэвікоў. Сабралася нас тысячы паўтары, калі не больш—мад'яры, венгеры, галічане... Усе кавалерысты больш. Узброіліся, дасталі коней. Захапілі горад. Адчынілі турму. Знайшлі Шайно і адразу яму пытанне рубам: „Калі ты сапраўды чалавек сур'ёзны і простаму народу спачуваеш, дык прыймай каманду і дзейнічай". Лейтэнант доўга не разважаў: „Рад старацца. Дайце,—кажа,—каня і пару маўзераў!" І пашлі мы біць паноў рускіх афіцэраў. І так гэта мне спадабалася, што я ўвесь год з каня не злазіў. Лейтэнант Шайно з ваеннапленнымі застаўся партызаніць на Далёкім Усходзе, а мяне пацягнула бліжэй к дому. Перабраўся я на Украіну. Тут для мяне таксама знайшлася работа. Ваяваў, пакуль не трапіў немцам у лапы. Паслалі разведваць у вёску. Нарваўся на раз'езд. Добра, што не ўзяў зброі. Выдаў сябе за ваеннапленнага—старыя дакументы выратавалі. Цягалі, мяне, цягалі. Нарэшце адпусцілі дахаты...

Пшыгодскі змоўк і сядзеў нерухома, стомлена апусціўшы галаву.

— Навошта ты расказваеш мне пра свае справы ў большэвікоў? Чалавек я табе чужы, толькі ўсяго, што тры дні едзем разам. Нарвешся ты калі-небудзь з такімі размовамі на нягодніка і сам сябе да сценкі паставіш,—ціха сказаў Раеўскі.

— Гэта я вам, каб не пазіралі скоса...

— А што табе да мяне? Гляджу я, дзіўны ты нейкі. Пад'язджаеш быццам, не з таго боку. Давай кінем і будзем спаць.

У арыштантскую пракраўся змрок. Заціхаў гул галасоў за сценамі. Чуваць было, як сячэ дождж па шыбах...

— Я вас, таварыш Раеўскі, толькі цяпер пазнаў, калі шапку

зняλі. Тры дні думаў, дзе гэта я вас бачыў? Вельмі падобны вы на камісара зводнай інтэрнацыянальнай брыгады. Толькі месца для вас тут нязручнае і прозвішча іншае—таго звалі таварыш Хмуры. А прыгледзішся да вас—выходзіць адно і тое-ж... Вось я і расказаў, каб не пазіралі скоса. Бачыце, не такія мы ўжо чужыя.

Раеўскі ўсміхнуўся ў сівыя вусы.

— Бывае-ж такое падабенства! Толькі гэта падабенства небяспечнае, могуць пачапіць на шыбеніцы ні за што, ні пра што...

Пшыгодскі паклаў руку на плячо Раеўскага.

— Можаце быць упэўнены, таварыш Хмуры... выбачайце, таварыш... Не, пане Раеўскі. Я недарма прабыў год у Чырвонай арміі—таму-сяму навучыўся...

За сцяной пачуўся грукат поезда. Зноў загудзелі людскія галасы. Нехта адмыкаў дзверы. У калідоры—рэзкія покрыкі каманды. У арыштантскую ўваліўся натоўп аўстрыйскіх салдат усіх родаў зброі. Калі пакой быў увесь набіты, нямецкія драгуны замкнулі дзверы. Адразу зрабілася шумна і цесна. Салдаты размяшчаліся на нарах, на падлозе, на падваконніку, на скрыні, якая служыла замест стала.

Удалы кавалерыст, з ордэнам жалезнага крыжа на грудзях, падміргнуў Пшыгодскаму.

— Таксама адступаеш, камрад? Ты што, сам пагоны зняў, ці іх у цябе гэты обер-сукін сын абарваў?

— Я ваеннапленны. А вы што, хлопцы, да хаты?—мімаволі ўсміхаючыся, запытаўся Пшыгодскі.

За кавалерыста адказаў здаравяка з ефрэйтарскімі нашыўкамі.

— Так, у бестэрміновы водпуск.

Вакол засмяяліся.

— Дахаты, карасёў лавіць.

— Жонкі падалі ультыматум; калі не вернемся, дык пойдзем у адстаўку. Вось мы і спяшаемся.

З кутка нехта нездаволена буркнуў.

— Відаць, што пасняшаліся. Палкавы совет казаў—рушыць усім палком! Тады-б ад гэтых драгун толькі мокрае месца засталося!

— Не бядуй! Нашы падыйдуць—выбавяць.

— Калі грэблю прарве, дзіркі шапкай не заткнеш...

— Наваяваліся, хопіць!

Зусім сцямнела. Салдаты запалілі свечку, развязалі сумкі і пачалі вячэраць.

— Падсоўвайцеся, камрады! Нябось, галодныя?—запрасіў Раеўскага і Пшыгодскага, кавалерыст, адкрываючы нажом бляшанку кансерваў.

Раеўскі падзякаваў. Пшыгодскі ахвотна згадзіўся: ён ужо два дні, як не еў.

— Дык ты з Расіі, камрад? Ну, як там? Кажуць, жыццё немагчымае. Праўда?—запытаўся пажылы пехацінец.

— Некаторым там сапраўды горача—фабрыкантам, памешчыкам і ўсім тым, хто пры цары верхам ездзіў на такіх, як мы з та-

бою. Іх большэвікі прыціснулі так, што яны ледзьве дыхаюць. Ну, а рабочыя і сяляне, дык тыя ваююць. Сам ведаеш, лезуць на іх з усіх бакоў,—забываючыся, дзе ён знаходзіцца, адказаў Пшыгодскі.

— А гэта праўда, што большэвікі адабралі ў памешчыкаў зямлю і раздалі сялянам?

— А як ты думаеш, ці пайшоў-бы селянін без гэтага ваяваць за совецкую ўладу?

— А ці праўда, што большэвікі здзекваюцца з пленных?

— Бабскія плёткі! Афіцэрскія выдумкі. А пра тое, што ў большэвікоў ёсць інтэрнацыянальныя брыгады з адных пленных, вам не казалі?

— Казалі там пра розных здраднікаў... Нас гэты обер таксама здраднікамі назваў.

— Як думаеце, нам у Венгрыі зямлі таксама дадуць?

— Атрымаеш... два метры глыбіні...

— Чаму гэта не атрымаю? А за што-ж я ваяваў?

— Хутка-ж ты вайсковы статут запамятаў! „За імператара, за...

— Ну, імператара, вядома, ужо шпігнэрам намазалі!—весела хмыкнуў кавалерыст, кладучы ў рот ладны кавалак хлеба.

Пшыгодскі не адстаў ад яго і ўвесь час здаволена ўсміхаўся, слухаючы салдацкія размовы. Калі бляшанка ўжо была пустая, Пшыгодскі выцер рукавом вусы, падзякаваў кавалерыста і, быццам ні да каго не звяртаючыся, запытаў:

— А чаму вы, камрады, без зброі дахаты едзеце? Так вас групкамі жандармы ўсіх пераловяць. Рушылі-б разам некалькі эшалонаў, без афіцэраў. Тут адзін камрад ужо казаў пра гэта. Вінтоўка дома заўсёды спатрэбіцца, калі прыдзе час шавяльнуць каго патрэбна. А то вось.

Раеўскі неўзаметку таргануў яго за рукаў:

— Асцярожна!—па-польску шапнуў ён.

Досвіткам іх абудзіла вінтовачная страляніна. Усе ўсхапіліся, трывожна перагаварваючыся:

— Што гэта?—запытаўся Пшыгодскі ў Раеўскага.

Той здзіўлена варухнуў плячымі. Хвілін праз дваццаць усё высветлілася. У дзверы, высаджаныя прыкладамі, уціснулася некалькі салдат, і з усіх бакоў пачуліся радасныя воклічы:

— А-а-а! Ды гэта-ж нашы—трыццаць сёмага стралковага!

Здаравенны артылерыст з цесяком на поясе загрымеў густым басам:

— Збірай ранцы, камрады! Хутка! Паедзем далей. Мы гэтых драгунішак крышку пашчыпалі. Ледзьве не мінулі, але даведаліся, што вы тут. Ну, ну, спяшайцеся!

На гарадскім пляцы яны развіталіся. Пшыгодскі моцна паціснуў руку спадарожніка.

— Усяго лепшага! Калі я для вас калі-небудзь буду патрэбен, дык вы ведаеце, дзе мяне знайсці. Усяго лепшага, пане Раеўскі.

Адышоўшы, некалькі крокаў, ён азірнуўся і прывітальна махнуў рукою.

Раеўскі ў адказ кіўнуў галавою...

Каля знаёмага ўваходу ў сутарэнне Раеўскі спыніўся. Ён адчуваў, што хвалюецца. Адзінаццаць год таму назад яго вывелі адсюль тры жандармы. Вось тут, на ступеньках, стаяла Ядвіга, трымаючы Раймонда за ручку. Чацверты жандарм загарадзіў ёй дарогу... Што з імі? Ці жывыя яны? Неяк дзіўна—няма рашучасці сыйсці ўніз і пастукаць у дзверы.

Але вось яны адчыніліся: па ступеньках шпарка ўзыходзіць дзяўчына ў простым вязаным жакеце. Дзверы зноў крыху адчыніліся. Выглянула дзіцячая галоўка.

— Цёця Сара, прынясеш цукерку?

— Вядома, мой рыжанькі, прынясу! Зачыні дзверы.

— Скажыце, ці тут жыве Ядвіга Раеўская?—стараючыся не хвалявацца, запытаў Раеўскі.

Дзяўчына спынілася.

— Раеўская? Не.. Яна то тут жыла некалькі год таму назад. Цяпер тут жыве шавец Міхельсон. А Раеўскія жывуць у Кракаўскім завулку.

— Значыць, яна і яе сын жывыя?

— Ядвіга Багданаўна і Раймонд? Вядома, жывы. А вы што, даўно іх не бачылі?

— Так, даўно... Вы не скажаце нумар дома?

— Калі вы да іх, дык хадзем разам. Я заўсёды заходжу раніцою па Ядвігу Багданаўну—мы з ёю ў адной майстэрні працуем. Пойдзем...

Побач з сабою Раеўскі чуе стук каблучкоў.

Ён ішоў, не пазіраючы на яе, але краем вока падлавіў яе цікаўны позірк. Ён запамінаў людзей адразу, а гэта дзяўчына, якую малы назваў Сарай, запомнілася выразней за іншых. Асабліва яе вялізныя, цёмныя вочы, у якіх выраз халоднай абыякавасці ў момант знік, як толькі яна загаварыла з малым. Калі-б яна не была вельмі маладая (ёй, напэўна, не больш семнаццаці),—можна-б было падумаць, што гэта маці карапуза.

Яму хацелася даведацца пра Ядвігу і сына больш, чым яна сказала, але прывычная асцярожнасць не дазволіла распытваць. Хаця самае цяжкое звалілася з плеч,—ён ведае, што яны жывы, але хваляванне ад надыходзячай сустрэчы нарастала. Які ў яго сын? Хлапцу-ж цяпер васемнаццаць год. Гэта ўжо сапраўдны мужчына... А Ядвіга? А што калі ў яе другі муж? Бо мінула адзінаццаць год! Як даўно гэта было! Немагчыма зняць з плеч цяжар гэтых доўгіх год, як не ўцячы ад сівізны...

— Ну, вось мы і прыйшлі!

Голас дзяўчыны меладычна-пявучы.

Ён яшчэ раз зірнуў на яе. Шэрая, пад колер жакета, вязаная шапачка адзета без какецтва. Правільнай формы носік, рашучая лінія прыгожага роту.

Яна ўсміхнулася, няўцямна пра штосьці здагадваючыся.

— А, Сарачка! Зараз іду...

— Я не адна, Ядвіга Багданаўна, да вас госць. Добры дзень Раймонд.

Раеўскі ледзь не кранаўся галавою нізкай столі ў маленькім пакоі. Адзінае акно знаходзілася насупроць сцяны нейкага хлява. Было цёмна і цесна.

Ядвіга, апранаючы паліто, азірнулася.

Сігізмунд зняў пацяжэлай рукою шапку і сказаў ціха:

— Добры дзень, Ядзя!..

Некалькі секунд Ядвіга пазірала шырока адкрытымі вачмі.

— Зыгмунд!..

Яна рыдала, сударгава абняўшы яго, быццам асцерагаючыся, што яго зноў адбяруць ад яе.

— Чаго-ж плакаць, мая любая, чаго? Вось мы і зноў разам... Не трэба, Ядзя..—упрашваў яе Раеўскі.

Раймонд неадрыўна глядзеў на бацьку. Гэта пра яго з глыбокай пяшчотай і любоўю расказвала яму маці ў доўгія вечары. У сваім уяўленні Раймонд стварыў цудоўны вобраз бацькі, мужнага, дужага, справядлівага і сумленнага.

У сэрцы хлапца, разам з любоўю да бацькі, расла нянавісць да тых, хто яго праследваў, закаваў у кайданы, саслаў на катаргу.

Хлопчык не мог ясна ўявіць, што такое „катарга". Ен толькі адчуваў, што гэта штосьці змрочнае, бязвыходнае. Маці гаварыла пра далёкую, дзесьці на краі свету краіну—Сібір, дзе люты холад, непраходныя лясы або мёртвыя палі, укрытыя снегам. На сотні кілометраў вакол—ні адной жывой душы. І вось там, у гэтай змрочнай краіне, людзі ў кайданах капаюць глыбока ў зямлі золата для цара. Іх вартуюць салдаты. Гэта і ёсць катарга. І там яго бацька...

А колькі слёз праліў хлопчык, слухаючы сумныя расказы маткі пра таго, хто хацеў толькі аднаго—шчаслівага жыцця для жабракоў і абяздоленых.

Каму, як не сыну, магла расказваць маці аб сваім незажыўным горы, пра маладое пакалечанае жыццё, пра таго, каго яна няспынна кахала і чакала ўсе гэтыя доўгія гады? Усе свае нястрачаныя пяшчоты аддавала маці сыну.

Хлопчык рос чулы і адзыўны да чужых пакут і гора. Ён быў для мацеры адзінай радасцю, яна толькі ім і жыла. Гады ішлі. Хлопчык вырас у дужага мужчыну. Часта, пазіраючы на яго, яна ўспаміналала сваю маладосць, той час, калі Сігізмунд прыходзіў на спатканне з ёю, гэтакі-ж малады і прыгожы. Як наздзеквалася з яе жыццё...

Самыя лепшыя гады пражыць без друга, адчуваць кожную гадзіну, як ён пакутуе... І вось ён вярнуўся, бацька і муж. Сівы і суровы. На ілбу, быццам два сабельныя шрамы, глыбокія маршчыны...

Бацька вышэйшы за яго. Ён дужы. Раймонд адчувае гэта ад рукі, якая абняла яго за плечы.

— Тата, любы!—ціха шэпча ён.

Сара збянтэжана пазірала на тое, што адбывалася. Ёй было няёмка ад сваёй тут прысутнасці. „Дык вось які ён, гэты таямнічы

бацька Раймонда! А гэта-ж я амаль угадала",—радуючыся, што ў яе такія сябры, думала яна.

— Ядвіга Багданаўна, я пабягу, а выаставайцеся. Я скажу, што вы захварэлі,—ціха сказала яна. Ядвіга апамяталася.

— Ах, так майстэрня... Пачакай, Сарачка! Мне нельга аставацца.— Шпільман-жа загадаў нам з табой ехаць да Могельніцкіх. Калі я не прыду, ён мяне выганіць...—Яна павярнулася да мужа і прашаптала, быццам-бы апраўдваючыся:—Прабач, Зыгмунд, я павінна пайсці. Мне самой патрэбна прымераць і здаць дарагі заказ. Я пастараюся вярнуцца раней... Ну.. Раймонд табе ўсё раскажа... Божа мой! Няўжо гэта праўда, што ты вярнуўся?

У парозе яна яшчэ раз абняла мужа і зачыніла дзверы.

— Гэта дзяўчына—ваша сяброўка?—шпарка запытаў Сігізмунд у сына.

— Так, бацька.

— Дагані іх і скажы матцы, каб пра мой прыезд ні яна, ні гэта дзяўчына нікому не казалі.

Раймонд зразумеў і хутка вышаў з пакою.

Калі ён вярнуўся, бацька задуменна сядзеў каля стала, схіліўшы на руку сівую галаву. Ён зірнуў на сына і ўсміхнуўся з суровай пяшчотай. Раймонд стаяў перад ім, не ведаючы, што сказаць.

— Вы напэўна хочаце есці?—нарэшце запытаўся ён ціха.

— Хачу. Толькі не кажы мне „вы".

Зноў маўчанне. Яны прыглядаліся адзін да аднаго. Сын ведаў пра бацьку шмат што, але бацька пра сына не ведаў нічога. Сігізмунда Раеўскага трывожыла гэта невядомасць. Чым жыў і да чаго імкнуўся гэты юнак? Як складуцца іх адносіны? Ці будзе ён яго другам і саратнікам, або застанецца напоўчужым, пабочным, ад якога трэба хавацца, як ад абываталяў суседзяў? Як і заўсёды, Раеўскі павярнуўся тварам да небяспекі.

— Садзіся, сынок, раскажы, як вы жылі...

Раймонд, сарамліва ўсміхаючыся, сеў за стол. Бацька пазіраў на яго прыгожы з дзявоцка-пяшчотнымі рысамі твар і хмурыўся.

Ён шукаў мужнасці на гэтым твары і толькі ў сініх вачах на момант зглядзеў штосьці жаданае.

— З чаго пачынаць, тата?

— Ты вучышся?

— Не, ужо тры гады, як скончыў я гарадскую школу. Далей вучыцца не мог—у нас не было грошай. Мама хацела, але я не мог згадзіцца, каб яна шыла па дванаццаць гадзін у суткі. І я пачаў працаваць на цукраварным заводзе Баранкевіча...

Ціха ў пакоі. Чутно толькі, як вызначае сваю роўную хаду гадзіннік.

— Ты праз мяне не пайшоў сёння на завод?

— Не... Я ўжо некалькі месяцаў, як не працую там...

— Чаму?

— Мяне прагналі з завода.

— За што?

Вочы Раймонда павузелі.

— Яны выдалі мне пасведчанне, што я зволен за ўдзел у грабяжы складаў...

Раймонд змоўк, убачыўшы, як рашуча ссунуліся ў бацькі бровы.

— Але гэта няпраўда, бацька! Гэта подлая хлусня! Мы толькі патрабавалі заплаціць нам за шэсць месяцаў працы. Рабочыя абралі дэпутацыю да Баранкевіча, моладзь паслала мяне. Баранкевіч крычаў на нас, як на сабак, і выгнаў. Перад домам нас чакаў увесь завод. Мы расказалі, як прыняў нас гаспадар. Ну, тут і пачалося.

Калі нямецкая варта пачала нас разганяць, мы абязброілі яе і адабралі кулямёт. Прымусілі касіра выплачваць пенсію па спісах. Калі грошай у касе не хапіла, дык мы адкрылі склад і загадалі кладаўшчыку выдаваць кожнаму па тры мяшкі цукру замест грошай. Ніякага грабяжа не было! Мы з старымі салдатамі абаранялі вуліцу ад нямецкіх драгун. Баранкевіч паспеў выклікаць іх з горада па тэлефону. Калі мы павыстрэльвалі ўсе патроны, дык разбегліся. Але кулямёт не дастаўся немцам, мы яго схавалі ў надзейным месцы...

Раймонд замоўк. Бацька задуменна торгаў сівы вус і ўсміхаўся:

— А што было пасля?

Пасля немцы ў ва ўсіх цукар адабралі. Шмат каго арыштавалі, а астатніх Баранкевіч прагнаў, не заплаціўшы ні капейкі. Мне і іншым, хто быў у дэлегацыі, адміністрацыя завода выдала воўчыя білеты. Але, я, бацька, не ўзяў нават і фунта цукру. А Баранкевіч не заплаціў мне сто восемдзесят марак. Гэта за цэлага поўгода.

— Добра, сынок. Ты мяне з гэтым тваім кулямётчыкам як-небудзь пазнаёміш. А цяпер давай з'ядзім, калі што ёсць.

— Прабачай, тата, толькі селядзец...

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

Вялізныя чыгунныя вароты парка не зачыняліся—у іх адзін за адным уязджалі экіпажы. Каля пад'езда ярка асветленага палаца Могельніцкіх няспынны рух—прыбывалі запрошаныя госці. У вестыбюлі лакей знімаў з іх верхняе адзенне.

Пры ўваходзе ў гасцінную прыезджых сустракалі Стэфанія і Уладыслаў. Чорнае бальнае плацце аблягала поўную фігуру Стэфаніі, пакідаючы адкрытымі плечы і рукі. Яе твар быў у радасным узрушэнні. Яна сустракала гасцей з такой ветлівай усмешкай, з такой любезнасцю, што дробныя шляхцічы, якія ў першую хвіліну губляліся ад пышнасці графскага дома і радавітай знаці, рабіліся смялейшыя і ўпэўненыя.

Уладыслаў быў чырвоны ад хвалявання і жадання ўразіць сапраўдным арыстакратызмам, каб гэтая драбнота, дапушчаная сюды з палітычных меркаванняў, адразу адчула ў ім графа Могельніцкага. Дробнапамесным дваранам ён няўважна працягваў два пальцы, буйным памешчыкам—гаварыў некалькі прывітальных слоў. І толькі калі з'явіўся князь Замойскі з сям'ёю, ён кінуўся насустрач.

З вялікай залы чуліся гукі настрайваемых інструментаў.

— А вось і пан Баранкевіч з жонкай!—шапнуў Уладыслаў Стэфаніі.

Да іх падыходзіў вялізны, вельмі тоўсты чалавек з вельмі худою жонкаю, якую ён вёў пад руку. З-пад цеснага накрахмаленага каўнера выпучвалася тлустая шыя. Яго як у рака выпучаныя вочкі з крывянымі жылкамі спыніліся на Стэфаніі.

— О-о-о! Вяльможная пані сёння надзвычай чароўная! Каб я быў на дзесятак год маладзейшы... гэ... умм... так!—загрымеў ён прапітым басам.

Яго жонка, пані Анэля, кісла ўсміхалася. Уладыславу здавалася, што гузікі ў жылеце цукразаводчыка зараз адляцяць, не вытрымаўшы націску вялізнага жывата.

Баранкевічы прайшлі ў гасцінную. Лакей далажыў Стэфаніі, што прыбыў аўтамабіль з панамі нямецкімі афіцэрамі. Уладыслаў многазначна паглядзеў на Стэфанію.

— Ты не забылася, Стэфа, што Эдвард прасіў цябе не выпускаць немцаў з-пад увагі? Іх трэба прыстроіць у малай гасціннай. Сабраць там паненак, якія гавораць па-нямецку, а галоўнае—не шкадаваць віна,—шпарка праказаў ён.

— Ведаю... Вось і яны. Я іх спаткаю, а ты ідзі на верх да Эдварда і папярэдзь аб іх прыездзе... І няхай Людвіга прыдзе дапамагчы мне. Ужо ўсе пытаюцца пра яе...

Уладыслаў знік. Стэфанія спаткала немцаў чароўнай усмешкай. Побач з Зоненбургам ішоў не стары яшчэ палкоўнік, начальнік гарнізона горада. За ім тры афіцэры, сярод іх—Шмультке. Зоненбург пазнаёміў іх са Стэфаніяй.

Палкоўнік крануўся выпешчанымі вусамі яе рукі.

— Надзвычай удзячны, графіня за гасціннае запрашэнне і вельмі рад бачыць у вашай асобе жонку аднаго з афіцэраў нямецкай арміі,—сказаў ён.

— Спадзяюся, ваша прэвасхадзіцельства, што вам не будзе сумна ў нашым таварыстве.

— О, што вы, што вы!—запярэчыў палкоўнік.

Стэфанія, акружаная афіцэрамі, накіравалася ў залу.

Зоненбург затрымаў Шмультке.

— Пане лейтэнант, вы паставілі варту вакол сядзібы?

— Так точна, пане маёр!

У габінеце Эдварда сядзела некалькі чалавек. Тут былі: Эдвард, які напярэдадні вярнуўся з Варшавы, айцец Іеронім, князь Замойскі, Баранкевіч, вікарны біскуп Бенедыкт і яшчэ трох маладых людзей у штацкім.

Пры ўваходзе ў апартаменты сядзеў Юзэф. Калі з'явіўся стары князь Могельніцкі, якога падтрымліваў лакей, Юзэф пачціва расчыніў перад ім дзверы і зараз-жа іх зачыніў перад самым носам лакея.

— Можаш ісці. Я паклічу, калі будзеш патрэбен.

Сын здзіўлена варухнуў плячыма і пачаў сыходзіць з лесвіцы.

— А дзе гэты валацуга, Мечыслаў? Ты за ім наглядай, Адам. Вось яшчэ кара боская!..

Адам спыніўся і нявесела паглядзеў на бацьку.

— Ад учарашняга дня, пасля таго, як ён збіў Францыску, я яго не бачыў. Кажуць, што ён пайшоў у фальварак да салдат.

Як толькі з'явіўся бацька, Эдвард устаў.

— Ну, цяпер, здаецца, усе сабраліся. Пакуль там, унізе, будуць весяліцца, мы пра тое-сёе паспеем пагаварыць. Будзь знаёмы, айцец,—сказаў Эдвард, калі Казімір Могельніцкі прыпыніўся перад маладымі людзьмі, якія ўсталі.

— Капітан Врона,—адрэкамендаваўся адзін з іх, бледны, з залысінамі на лбу, з зачасаннем у ваччу.

— Лейтэнант Варнеры,—праказаў другі, стройны, сінявокі.

— Паручык Зарэмба,—панура азваўся басам трэці, каржакаваты, з коратка падстрыжанымі вусамі.

У пакой торапка ўвайшоў Уладыслаў.

— Эдвард, прыехалі немцы—палкоўнік, некалькі афіцэраў... Людвіга, сыйшла ўніз.—Чуеш, іграюць тут? Усе твае загады выкананы. Ты дазволіш мне застацца тут?

— Не. Ідзі ўніз займаць гасцей. Праз поўгадзіны прыдзеш,—суха адказаў Эдвард.

Уладыслаў нездаволена паморшчыўся, але павярнуўся па-ваеннаму і вышаў. Сёння раніцою ён быў „узвышаны" ў падпаручыкі і прызначан камандзірам узвода у фармуемым Эдвардам польскім легіёне.

— Ітак, калі панства дазволіць, я пачну,—сказаў Эдвард, калі ўсе селі.

Знізу даходзілі гукі мазуркі.

— Паслязаўтра мы рашылі выступаць. Далей адцягваць нельга. Аўстрыйцы бягуць на радзіму, кідаючы ўсё. Сёння мы даведаліся пра рэволюцыю ў Германіі. Наша становішча надзвычай цяжкае. Адыходзячых немцаў праследуюць партызанскія атрады. Яны хутка ўварвуцца сюды. Пан Зайончкоўскі кажа, што ў іх па вёсках пачынаецца ўжо... Як вам вядома, сёмага лістапада ў Любліне арганізаваны польскі ўрад, з пэпэасаўцам Дашынскім на чале...

Баранкевіч рашуча махнуў рукою.

— Гэта не так страшна,—супокоіў яго Эдвард.—Праўда, Дашынскі наабяцаў у сваіх дэкларацыях усеагульнае, прамое, тайнае і роўнае выбарчае права, васьмігадзінны рабочы дзень і нават перадачу зямлі сялянам,—здзекліва казаў Эдвард,—але гэта неабходныя на сёнешні дзень дэкарацыі. Іх мы лёгка адкінем, калі будзем мець сілу. Пакуль што, дзякуючы дэкларацыям Дашынскага, мужыкі самі ахоўваюць маёнткі: як-жа, гэта-ж народнае багацце. Важна адно: каб узброеная сіла была ў нашых руках. У нас пакуль што сотня чалавек. Гэтага хопіць, каб заняць горад. Аўстрыйскі гарнізон горада растаў. Адзіная сіла—эскадрон нямецкіх драгун... Але з немцамі мы дамовімся. Тым больш, што ў іх саміх не застанецца хутка ніводнага салдата.

— Адкуль вы ўзялі гэтыя сто чалавек?—зацікавіўся біскуп, высахлы, як мошчы, стары, механічна перабіраючы пальцамі чоткі.

Да гэтага часу ён трымаўся нямецкай арыентацыі і цяпер хацеў выведаць, наколькі рэальная ўся гэтая справа, у якую гэтак узмоцнена цягнуў яго айцец Іеронім.

— Гэта—частка салдат расфарміраванага польскага легіёна аўстрыйскай арміі і члены польскай ваеннай мясцовай арганізацыі. Ну, яшчэ—моладзь з прыстойных сем'яў... На другі дзень, як зоймем горад у нас будзе ўтрая больш... Пан Дашынскі абяцае прысласць, калі будзе патрэба, атрад арганізаванай ім народнай міліцыі.

— Гэ... умм... так!—пагрозна закашляў Баранкевіч —Ненавіжу ўсіх гэтых соцыялістаў і іншых мазурыкаў!.. „Народная міліцыя"! Скажыце, калі ласка! Што да мяне, дык мне больш спадабаецца слова „жандарам".

— Дзякую за камплімент,—абазваўся з свайго кутка капітан Врона, пакарэжыўшы твар грымасай, якая замяняла яму ўсмешку.

Калі Врона ўсміхаўся, дык здавалася, што выскаляе зубы мярцвяк—такія нерухомыя былі яго твар і мутныя вочы. Пасля перавароту Врона павінен быў стаць шэфам жандармаў.

— Хто-ж будзе гарадскім галавою?—запытаў біскуп.

Эдвард патворліва ўсміхнуўся

— Улада будзе ў нас, у штаба акругі. А ў магістраце будуць сядзець марыянеткі, падобныя на адваката Сладкевіча... Тыдні праз тры мы збярэм паўтары—дзве тысячы салдат. Гэта будзе ўжо маленькая армія...

Біскуп мякка перапыніў яго:

— Вы мяркуеце. што гэтага досыць?

Капітан Врона ціха шапнуў Варнеры:

— Гэты высушаны гліст не такі ўжо дурны...

Старык Зайончкоўскі рэзка ўстаў з крэсла.

— Мне здаецца, што яго прэвасвяшчэнства не разумее ўсёй сур'ёзнасці моманту. Калі вы, што жывяце ў горадзе, дзе заўсёды вмяшчаецца які-небудзь гарнізон, адчуваеце сябе параўнаўча ў небяспецы, дык нам у нашых маёнтках даводзіцца не спаць праз усе ночы! Бо вакол мужыкі. На дзесятак украінцаў—адзін паляк. Гэтыя хлопы спяць і сняць, як бы ім далучыцца да партызан...

— Праўдзівей, адабраць ад нас зямлю,—дадаў Замойскі.— Нацыянальнае пытанне тут толькі ў прыдачу.

— Зямля—сялянам, заводы рабочым, паноў—да сценкі, а ксяндзоў—на шыбеніцу... Здаецца, так у іх?—спакойна праказаў Врона.

— Не будзем адхіляцца, панове!—прыпыніў яго Эдвард.—Значыць, паслязаўтра мы займаем гарадскую камендатуру, управу і вакзал. Абвяшчаем ваеннае становішча і набор добраахвотнікаў. А пасля паглядзім, як павернуцца справы.

Біскуп з'едліва ўсміхнуўся.

— Няхай пан прабачыць, што я яго перапыняю! Але я хачу тое-сёе ўдакладніць,—ціха праказаў ён і, пакінуўшы чоткі ў спакоі, утаропіўся сваімі пацуковымі вочкамі ў Эдварда.—Толькі што пан Зайончкоўскі сказаў, што я не ўлічваю ўсёй сур'ёзнасці моманту...—у ліслівым тоне гэтых слоў было крыху атруты.—Але я думаю, што гэтым грашу не я. Я трыццаць пяць год служу богу ў гэтым краю, і мне час ведаць сапраўднае становішча рэчаў. Я не воін, а толькі пакорлівы прапаведнік боскага слова. І мне з айцом Іеронімам нават не месца на гэтай нарадзе. Але служкі царквы прыходзілі часам на ваенныя нарады, каб папярэдзіць

порсткіх ваявод аб небяспецы, якая перад імі паўстане ў іх паходах... Вы ўсе палкія католікі. Я, як пастыр ваш, павінен сказаць маю думку пра ўсё гэта.—Біскуп зрабіў многазначную паузу.— Не забывайцеся, панове, што мы з вамі жывем на самай руска-аўстрыйскай граніцы. Зараз гэтая граніца сцёртая. Тыя украінцы, якія пабылі ў Расіі, ужо ведаюць, што такое рэволюцыя. Вы, спадзяюся, не забыліся, як яны палілі сваіх памешчыкаў? Нямецкая акупацыя часова прыдушыла іх. Другія украінцы, якія жывуць тут побач, у Галіцыі, не зрабілі гэтага толькі з-за таго, што з боскае волі панаваў аўстрыйскі імператар і ў яго была армія, якая падтрымлівала парадак... Цяперака-ж няма ні імператара, ні арміі. Вы збіраецеся ўзяць у свае рукі ўладу ў краі, дзе дзевяць дзесятых насельніцтва—украінцы. Пан Эдвард чытаў мне пісьмо графа Патоцкага і князя Радзівіла. Іх маёнткі і заводы раскіданы па ўсёй Валыні і Падоліі. Яны таксама ствараюць свае атрады і збіраюцца захапіць уладу. Яны чакаюць вашай дапамогі... Што гэта значыць, панове? Гэта значыць, што польская дзяржава, яшчэ ненарадзіўшыся, ужо думае пра вайну з Украінай і Беларуссю. Вам-жа там давядзецца ваяваць з усім насельніцтвам, якое будзе змагацца супроць вас, як супроць чужаземных акупантаў і як супроць памешчыкаў... Цяпер мяркуйце, ці можа маладая дзяржава пайсці на гэтую, прабачце за рэзкае слова, авантуру, не рызыкуючы загінуць? Калі мы ў самай Польшчы маем нацыянальную большасць, якую можна ўзняць на абарону сваёй айчызны ад маскалёў і хлопаў, то як вы ўзнімеце украінцаў і беларусаў супроць украінцаў і беларусаў за польскіх памешчыкаў? Сведкаю бог, што мая мара—гэта перамога каталіцкай царквы ва ўсім свеце! Але, панове, мы не дзеці. І мы павінны ведаць, што немцам для акупацыі Украіны патрэбна было трыста дваццаць тысяч салдат! А вы толькі праз месяц спадзяецеся мець дзве тысячы... Я думаю, панове, што нам трэба афяраваць інтарэсы Патоцкіх, Радзівілаў, Сангушко і іншых пяці-шасці магнатаў і ўзмацняць польскае каралеўства там, дзе ў нас ёсць апора...

Князь Замойскі, імя якога біскуп дыпламатычна не назваў у ліку магнатаў, прыкусіў губу.

— Гэ... ум... так...—хрыпнуў Баранкевіч, стукнуўшы кулаком па сваім калене (ён ледзьве стрымліваў сваю злосць). Баранкевіч звычайна палохаў субяседнікаў сваім аглушальным кашляннем, якое ён нязменна заканчваў воклічам „так!“—Прашу прабачэння, ваша прэвасвяшчэнства! Выходзіць, як вы раіце, што мне трэба кінуць свой завод і ўцякаць у Варшаву? І гэтае-ж самае павінны зрабіць і тыя, што тут сядзяць? Пакінуць нашы маёнткі, усё багацце, прыехаць жабракамі ў Варшаву і „ўзмацняць“ там польскае каралеўства? Дзякую! Але мы мяркуем іначай! Мы будзем змагацца да апошняга ўздыху... Але каб мы дабраахвотна аддалі ўсё сваё багацце звар'яцелай шэрай жывёле! За каго-ж вы нас тады лічыце?

Біскуп пагардліва сцяў губы.

— Пан Баранкевіч глядзіць на падзеі з вышыні сваёй завадской трубы, з якой відаць усяго на пяць кілометраў вакол, а інтарэсы Польшчы, як нацыі, яму чужыя.

— А хіба не ідэал кожнага шляхціча—вялікая Польшча ад мора да мора?—крыкнуў Зарэмба, ускакваючы з крэсла. Біскуп нават не павярнуўся ў яго бок.

— Благі прыклад, пане паручык! Вялікая Польшча тысяча семсот семдзесят другога года, калі яна ўладала часткай Украіны, Літвою і Беларуссю (да рэчы, граніцы Польшчы нават тады былі далёка ад Чорнага мора) і загінула ад таго, што кожны павет думаў толькі пра сябе, кожны ваявода захватваў як мага больш зямель, каб прырэзаць іх да сваіх уладанняў, таму, што ні адзін магнат не думаў пра дзяржаву, як такую, а толькі пра свае ўласныя інтарэсы... Нешта падобнае вы збіраецеся паўтарыць,—холадна адказаў біскуп Зарэмбу.

— Дзіўна, але яго прэвасвяшчэнства не пярэчыў, калі немцы акупіравалі Украіну,—сярдзіта буркнуў князь Замойскі.

— Гэта была рэальная сіла... Цяпер развальваюцца імперыі, падаюць кароны... Расія ў агні. І нам, калі мы не хочам загубіць сябе, трэба асцерагацца. Я за тое, каб умацоўвацца там, дзе ёсць апора! Я—за асцярожнасць! Бог сведка, што калі-б у вас была сіла, дык я блаславіў бы вас на знішчэнне праклятых большэвікоў не толькі ў Польшчы... Я пайду, але няхай панства памятае, што ў нас тут, дома, ёсць не мала людзей, якія ўжо капаюць для нас магілу. Памятайце, што нават у Польшчы, апрача ўраду Дашынскага, ўжо ёсць дзе-ні-дзе і советы!

Біскуп устаў і, пакланіўшыся ўсім разам, выйшаў. Айцец Іеронім, які за ўвесь час не сказаў і слова, таксама ўстаў і вышаў следам за ім. Яны сыйшлі па чорнай лесвіцы, стараючыся, каб іх незаўважылі. Моўчкі прайшлі ў парк, дзе стаяла закрытая каляска біскупа, моўчкі селі ў экіпаж. Толькі як пад'язджалі ўжо да горада, біскуп павярнуўся да айца Іероніма і ціха сказаў:

— Вы, вядома, вернецеся туды, айцец Іеронім? Ну, дык вы заўтра заязджайце да мяне і раскажыце пра ўсё. Старайцеся падзейнічаць на графа, каб ён не захапляўся прапановамі Замойскага і Патоцкага. Усе створаныя ім атрады павінны аставацца тут, а не ісці ў глыб Украіны. Потым я чуў, што ў вас збіраліся мясцовыя ксяндзы... Я думаю, што другім разам вы зберэцеся пры мне. Я прабуду ў горадзе дзён дзесяць. Вы, вядома, ведаеце, што я пераводжуся ў кракаўскае біскупства? Але пакуль я тут, прашу без мяне нічога не рабіць... Памятайце, айцец Іеронім, калі ўся гэтая справа правалiцца, то вам не быць вікарным біскупам. Таму не трэба абыходзіць маёй дапамогі і парадаў... Не забывайцеся, што асцярожнасць—сястра мудрасці!

Айцец Іеронім кусаў губы. Ён адчуваў сябе як школьнік, якога цягаюць за вушы, зляўшы яго на месцы злачынства. Адкуль гэты стары ліс усё ведае? Так, з гэтым д'яблам у сутане трэба быць асцярожным!"

Экіпаж прыпыніўся каля дому мясцовага ксяндза. Айцец Іеронім адчыніў дзверцы, дапамог біскупу выйсці.

— Ды блаславіць вас бог!—сказаў той, развітваючыся.—Фурман адвязе вас назад.

* * *

А ў сталовай лілося віно, звінелі бакалы.

Тут шмат пілі і елі. Гаварылі ўсе разам, не слухаючы адзін аднаго Узгараліся, спрачаліся, даказвалі.

Лакеі збіваліся з ног.

Юзэф, сціснуўшы сэрца, пазіраў, як з'ядаюцца пятнаццаць тысяч марак, выдадзеных графам Эдвардам.

Пажылыя дамы размясціліся на канапах у гасцінных і нястомна перамывалі костачкі сваіх блізкіх.

У спартыўным пакоі вакол Уладыслава сабралася мужчынская моладзь. Паручык Зарэмба пасля прамовы, поўнай патрыятычных заклікаў, распачаў запіс добраахвотнікаў. Усе кандыдаты былі вызначаны загадзя. Кожны завербаваны атрымліваў прызначэнне і інструкцыю. Скрынкі са зброяй ужо былі прывезены і назаўтра, вечарам уся зброя павінна быць раздадзена. Той-сёй трусіў, але выгляду не паказваў. Уладыслаў пахваляўся выцягнутым з шафы мундырам з афіцэрскімі нашыўкамі, перарobленым для яго з братавага мундыра. Пасля запісу праспявалі для падвышэння духа „Ешчэ Польска не згінела" і натоўпам рушылі ў залу.

Немцы гулялі ў карты ў габінеце старога графа. Іх старанна частавалі віном. Стэфанія часта з'яўлялася там, каб праверыць ці досыць на стале віна і ці па ранейшаму захоплены афіцэры гульнёю. Заўважыўшы, што віна асталося мала, яна сказала Уладыславу:

— Загадай падаць у габінет бургундскага.

Уладыслаў ужо шмат выпіў і быў вельмі ўзрушаны. Першая служанка, якая трапіла яму на вочы, была Хэля.

— Бяжы хутчэй у склеп і прынясі кошык бургундскага! Хутка!

— Я не разумею ў вінах, яснавяльможны пане. Я папрашу бацьку, ён прынясе.

Некалькі секунд Уладыслаў аглядаў фігуру дзяўчыны.

— Патрэбна зараз-жа! Хадзем, я сам выбяру.

Апусціўшыся ў склеп, Уладыслаў асцярожна зачыніў дзверы. Хэля, якая ішла са свечкаю наперадзе, нічога не заўважыла.

Напоўніўшы кошык бутэлькамі, яна нагнулася, каб падняць яго. Але Уладыслаў штурхнуў дзяўчыну на падлогу.

Святкаванне наверсе прадаўжалася.

Уладэк асцярожна адчыніў дзверы—нікога. Ён выцягнуў кошык з бутэлькамі на лесвіцу, прыхлопнуў дзверы і, трусліва азіраючыся, пачаў замыкаць іх ключом. На версе, здалося яму, ён учуў нейчыя крокі. Праз бакавыя дзверы ён праслізнуў на двор, пакінуўшы ключ у замку. Як нарабіўшы шкоды сабака, ён прабраўся ў буфетную і адным махам выпіў шклянку партвейну.

*(Працяг будзе)*

*Пятрусь Броўка*

# ПАСІОНАРЫЯ

На ворага ішлі, на бой, высока сцягі нясучы.
Ён паў. Зямлю сваю прыкрыў прабітымі грудзямі...
Над паміраючым байцом дрыжэлі зоры уначы,
І скалы падалі ў гарах Сіера-Гвадарамы.

Над ім стаяў шалёны гул, і заміраў прастор увесь,
І вецер кулі раскідаў смяротнымі шляхамі.
Баец кранууся, паглядзеў... і ён убачыў: Даларэс
Стаіць, схіліўшыся над ім, з глыбокімі вачамі.

Яны задумлівым цяплом і ласкай матчынай гарэць,
І серабрыцца галава, любімая такая!
Няўжо сюды яна прышла? Прышла пакуты, боль суняць...
— Пасіонарыя!..—шаптаў ён,—маці дарагая!.

Я паміраю... мы на бой тут з генераламі ішлі,
Цябе прашу я аб адным, нястомная між намі!—
Там, у Валенсіі маёй, напэўна бачыла калі,
Стаіць хаціна ля гары над белымі садамі.

Там неба сіняе... Адсюль яно, прыгожае, відно,
Там сонца ў поўдзень з вышыні далінай ярка свеціць.
Там кожнай раніцай ўстаюць і паглядаюць праз акно
І жонка—друг мой, і сястра і любыя мне дзеці.

Калі прыедзеш ты туды, табе насустрач пабяжыць
Мой сын дазнацца пра мяне, аб лёсе маім страшным...
Цябе прашу я аб адным—Пасіонарыя, скажы,
Што за рэспубліку памёр я мужна і адважна.

Што хай жыццём аберагуць яны рэспубліку сваю,
Няхай ідуць у барацьбе заўсёды разам з вамі,
Хай возьме родная сястра вінтоўку гэтую маю
І хай ідзе яна на бой з праклятымі панамі.

Пасіонарыя, бывай!.. Я мушу цвёрда смерць сустрэць,
Любіў жыццё, свабоду я—душой сваёй агністай...
І супакоіўся баец... Руку узняла Даларэс
Вялікай клятваю сваёй жанчыны-комуніста.

І зноў у першыя рады! З адважнай, мудрай галавой.
Чырвоны сцяг узнесла ўвысь магутнымі рукамі,
І чуўся, голас зваў, каб жыць—ісці на смерць, ісці на бой!..
І скалы падалі ў гарах Сіера-Гвадарамы.

Верасень, 1936 г.

*Мікола Хведаровіч*

# РЭСПУБЛІКАНСКІ МАРШ

У дыме пажараў блакітны прастор,
Над краем павіснуў фашысцкі тэрор.
Пятою бандытаў растоптаны край,
Палай-жа, Іспанія, гневам палай!
Над спаленай нівай, над плачам сірот;
Рэспубліканцы: Рот-фронт!

Атрутнай, смяротнай разліўся ракой
Ачумленых маўраў раз'юшаны вой.
Не плач мацярок, і не слёзы дзяцей,—
То нашай адплаты часіна расце!
Краіна, твой гнеў закіпеў цераз край,
Палай-жа, Іспанія, гневам палай!
Твой голас гучыць пераможнай вясной;
Рэспубліканцы: на бой!

Палае Толедо ярчэй і ярчэй,
Чысцейшая кроў комуністаў цячэ.
Распластаны крылля, ашчэраны жах,
Фашысцкае зграі ў крывавых палях.
Але паднімаецца струджаны край;
Палай-жа, Іспанія, гневам палай.
Хай крок твой грыміць батальёнаў і рот;
Рэспубліканцы: Рот-фронт!

У Овіедо фашыстаў палкі,
І шахты пакінулі ўжо гарнякі.
Не вытруціць горад ачумлены гад,
Бярэ Овіедо гарняцкі атрад.
Надзейная зброя—сухі дынаміт,
І песня гарняцкая вольна грыміць,—
Сплываюць „Капроні“ блішчыць небакрай;
Палай-жа, Іспанія, гневам палай!
Грыміць твая слава планетай усёй;
Рэспубліканцы: На бой!

Збірае Франко пад Мадрыдам ганню,
Шчанюк Балаховіч з Варшавы катнуў.
Фашысцкі з усюль сабіраецца зброд;
Ды моцны ў Іспаніі вольны народ.

Уласнай крывёй захлябнецца бандыт,
Фашызму магілаю будзе Мадрыд.
Вясна не далёка, квітнеючы май;
Палай-жа, Іспанія, гневам палай!
Кіпіць барацьба ля Мадрыдскіх варот;
Рэспубліканцы: Рот-фронт!

Ёсць сонца, і свеціць яно нам святлей,
Ёсць край, і ад краю таго нам цяплей.
На Поўнач, на Захад, на Поўдзень, на Ўсход,
Жыве там шчаслівы свабодны народ;
Там сталінскіх воч палымнее агонь,
І сэрца гарачае з намі яго.
Яно паднімае разбураны край,
Палай-жа, Іспанія, гневам палай!
І горда грымі над крывавай зямлёй;
Рэспубліканцы: на бой!

29-X 36 г.
Межек.

*Усевалад Краўчанка*

# РАДАСЦЬ

## I

Грышка стаяў каля варот новай хаты цёткі Хрысціны і не ведаў, што яму рабіць. Цётцы Хрысціне прышло тэрміновае пісьмо, і ён, як лістаносец кваліфікаваны, які разумее ўсе тонкасці сваіх складаных абавязкаў, перш чым разнесці па сялу простую пошту, прыбег сюды. А калі яшчэ прыняць пад увагу тую акалічнасць, што за прынесеную два тыдні таму назад паштоўку цётка Хрысціна пачаставала яго надзвычай смачнымі варэнікамі, то паспешнасць яго стане зусім зразумелай. Але, як і ў мінулы раз, каля самых варот Грышку сустрэў Тузік—невялічкі чорны сабака, па сутнасці сваёй міралюбівае добрадушнае стварэнне, такое-ж не небяспечнае як і рыжы нязграбны певень, што выступаў побач з Тузікам. Але па сабачай сваёй звычцы, Тузік, трымаючы верчыкам хвост, час ад часу, каб паказаць што і ён не абы што, а вартаўнік дома—рабіў некалькі крокаў наперад і няцвёрда брахаў: „гаў, гаў“. І гэтага „гаў, гаў“ хапала для таго, каб трымаць Грышку за варотамі. Толькі зрэдку ён прачыняў іх з надзеяй убачыць у дзвярах хаты добрую цётку Хрысціну. Але, прастаяўшы так тую колькасць хвілін, якую адпусціла яму для гэтага цярплівасць, Грышка парашыў дзейнічаць больш актыўна.

— Цётка Хрысціна. А, цётка Хрысціна!—крыкнуў ён.

„Гаў, гаў, гаў“,—стараўся Тузік.

— А, цётка Хрысціна.

І вось у дзвярах хаты паказалася цётка Хрысціна. Гэта была высокая, худая жанчына, з доўгімі па-мужчынскі жылаватымі рукамі. З-пад касынкі выбіваліся пасмы сівых валасоў. Твар яе, укрыты слядамі маршчынак, здаваўся суровым, але, відаць, гэтая суровасць была толькі вонкавай. Вочы светлыя, мягкія паглядалі цёпла і прыветна.

Адчыніўшы дзверы, яна з нейкай нецярплівасцю і хваляваннем паглядзела за вароты.

— Гэта я, цётка Хрысціна, пісьмо вам спешнае... ды вось Тузік...

— Грышачка, сыночак мой,—працягнула радасна рукі і кінулася да варот Хрысціна,—пісьмо... Пайшоў вон!—тупнула яна на Тузіка, і той, не вельмі цікавячыся тым, чаму гаспадыня крычыць на яго ў час, калі ён добрасумленна выконвае свае сабачыя абавязкі, пабег пад павець.

— Сыночак!..—уся забыўшыся ад радасці, паўтарала Хрысціна,— хадзі-ж хутчэй ў хату, хадзі, мілы мой...

Яна схапіла Грышку за руку і амаль падбежкі пацягнула яго ў хату. Нервова пасадзіла Грышку на лаву. Яна стала перад ім крыху сагнуўшыся, нібы ад гэтага ямчэй было слухаць, усёй сваёй постаццю выяўляючы нецярплівасць і хваляванне. На твары ў яе адбівалася то радасць, то непакой, то трывога, гэтыя пачуцці ў міг чаргаваліся, знаходзілі адбітак на яе суровым твары.

— Ад каго-ж... хутчэй, Грышка?

Грышка, адчуваючы ўсю важнасць моманту, не валаводзіў, хуценька нырнуў у сваю паштальёнскую сумку і дастаў адтуль сіві лёганькі канверт.

— Во,—падаў ён пісьмо Хрысціне. Тая міжвольна выхапіла пісьмо з грышкавых рук і толькі тады ўспомніла, што яна непісьменная.

— Чытай... ды не марудзь Грышка...

Грышка разарваў канверт і выняў адтуль складзены напал лісток.

— Ад Міколкі... ведаем мы яго почарк.

Хрысціна ўся ператварылася ў слых. Яна яшчэ больш падалася да Грышкі.

— Ад Міколкі? Ад сынка майго?!

— Ну, чытаю,—важна сказаў Грышка і пачаў чытаць:

„Дарагая маці!

Даруй, што не пісаў такі доўгі час. Быў вельмі заняты, у нас былі іспыты. Цяпер можаш мяне вітаць— школу скончыў на „выдатна“. Мне надалі званне лётніка. Але аб усім гэтым пазней. Справа ў тым, што 4 верасня мне давядзецца ляцець выканаць адно невялікае заданне і маршрут палёту ляжыць над нашай мясцовасцю. То я папрасіў дазволу свайго начальніка крыху звярнуць і заляцець на некалькі гадзін праведаць цябе. Начальнік дазволіў мне зрабіць гэта. Кажучы карацей, гадзін у 17 4 верасня я буду ў Рудні. Сяду я напэўна на палянцы, каля Дорахава дуба. А калі не зааралі пад зяб загуменне, то я там сяду.

Ну, усяго добрага, маці! Цалуе цябе твой сын Міколка.

Можа я прылячу раней, чым ты атрымаеш гэты ліст, бо ведаю-ж я вашу вясковую пошту. Першага верасня“.

— Вось і ўсё,—закончыў Грышка.

У першую хвіліну Хрысціна стаяла не кранаючыся з месца. Яе свядомасць ледзь успрыймала сэнс прачытанага Грышкам. Раптоўную радасць чалавеку таксама цяжка асэнсаваць, як і раптоўнае няшчасце.

— Усё!—сказаў яшчэ раз Грышка,—так як сёння ў нас трэцяе, то чацвертае будзе заўтра.

І тады Хрысціна ачнулася.

— Міколка... заўтра прыляціць Міколка!

Хрысціна абняла сваю галаву, выпрасталася ўся, ступіла крок да абразоў, што віселі ў куточку пад беленькім вышываным ручніком, хацела перахрысціцца. Але ўсумніўшыся ў тым, што правільна зразумела ліст, Хрысціна хутка павярнулася да Грышкі.

— Чытай яшчэ раз...

Грышка спачатку да канца прачытаў ліст у другі раз. Тады Хрысціна хуценька перахрысцілася. Радасць лёгкая, як павуцінне „бабінага лета“, увайшла ў яе. Цяпер яна змагла падумаць пра сябе і пра Грышку. Яна выцягнула з печы талерку наліснікаў у смятане, беленькіх і пульхных, і паставіла на стол. Ёй хацелася абняць Грышку, абняць усіх людзей. Яна не дарэмна верыла ў жыццёвую праўду.

Грышку прасіць доўга не трэба было. Прыцмокваючы і аблізваючыся, ён умінаў налісьнік за наліснікам.

— Заўтра прыляціць,—шапялявіў ён, набіўшы повен рот смачных аладак,—прыляціць! Мы яго сустракаць будзем. Загумення яшчэ не аралі, гэта я добра знаю, бо ў Лёшкі-балабошкі ўчора жывот балеў. Хіба вы не ведаеце Лёшку? Гэта-ж трактарыст з эмтээса, што ў нас на кватэры. То мой бацька яго „балабошкай“ празваў. Гультай! То жывот у яго баліць, то спіна. Ах, наліснікі якія вашы смачныя! Як вы іх нарабілі? Я вам буду часта пісьмы насіць. Добра?

Ён еў і гаварыў, а цётка Хрысціна сядзела на лаве, склала на каленях рукі і, схіліўшы набок галаву, хісталася па ціху. Яна глядзела на Грышку, але думала не пра яго.

Грышка спыніўся толькі тады, калі на яго глянула дно талеркі.

— Я пабягу,—сказаў ён і Хрысціна правяла яго да дзвярэй. Тузік цяпер спакойна пазіраў на Грышку, але-ж той, усёроўна баязліва скасіўшы вочы ў бок сабачкі, датуль не лічыў сябе ў бяспецы, пакуль не спыніўся за варотамі. Ужо выскачыўшы на вуліцу, Грышка абярнуўся, прыадкрыў вароты і, прасунуўшы на двор галаву, паказаў Тузіку язык. І мала таго, што паказаў, ён яшчэ і перакрывіў Тузіка.

— Ме-ме-ме...

Верх, значыць, быў на баку Грышкі.

Хрысціна вярнулася ў хату і села на лаву. Яна засталася сам на сам з сваімі думкамі. Яна глядзела ў акно і з гародчыка ў хату глядзела на Хрысціну чырвоная рабіна. Рабіна хіліла долу свае абцяжараныя плодам голлі. Клён па адным губляў жоўтыя лісты, губляў сваю прыгожасць. У небе свяціла сонца, і плыло срабрыстае павуцінне? У сінім і бяскрайнім небе шнурочкам цягнуліся качкі, ляцелі ключамі гусі. Неадчувальна цёк час вялізнай і непрыкметнай рэчкай. А куды ляцелі гусі? А якімі шляхамі ўецца чалавечы лёс?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

II

... Чацвертага свайго сына, Міколку, Хрысціна нарадзіла ў полі. Быў гарачы спякотлівы дзень. Пад капою жыта стаяў гляк з халоднаю вадою. Ахопленая смагай, яна ляжала на посцілцы і ад слабасці не магла дацягнуцца рукою да гляка. Ціха застагнаўшы ад нясцерпнага болю, яна згубіла прытомнасць. Суседка цераз мяжу ўбачыла гэта і прыбегла на дапамогу. Міколка ўжо быў жыхаром на зямлі, новы незнаёмы свет пазіраў на яго. На ігрушы каркала варона. Яна каркала на бяду. Суседка перавязала Міколку пупок, і кінула каменем на варону. Мягка ўзмахваючы крыллем, варона павольна праляцела над імі. З жахам у вачах Хрысціна правяла яе позіркам і папрасіла піць. Вада канчаткова прывяла яе ў свядомасць. Над галавой стаяла, як ніколі, чыстае неба. У далёкіх прасцягах яго сваім жыццём жыў сусвет, невядомы, чужы. Хрысціна не ведала пра далёкі сусвет. Яна ведала другое: Міколка быў шостым ротам у сям'і. Яна ведала другое: недажатаю засталася палоса...

Захар, яе чалавек, прыехаў па Хрысціну толькі пад канец дня. Ён ішоў да яе і стараўся здавацца радасным.

— Ну, што прывяла, хваліся.

Ён нагнуўся над ёю і ўсміхаўся крывою, жаласліваю усмешкай. Каб не глядзець Захару ў вочы, яна закрыла рукою твар. Захар скінуў шапку.

— Хлопчыка... Спраўная ты ў мяне... Як табе... Не баліць нічога?—асцярожна крануў ён Хрысціну за руку.

— Едзем,—адказала Хрысціна. Тады Захар паклаў на воз некалькі снапоў і дапамог узабрацца на іх Хрысціне. Ціхі і абыякавы Гнеды павольна пацягнуў воз. Апусціўшы галаву, збоку, як за труною, ішоў Захар. Рыпнулі вароты. З прызбы насустрач возу скочыў сухі, калматы кот. Ён пруцяком трымаў свой аблезлы хвост. Міколка прыехаў на сваю бацькаўшчыну. Каля пахіленых маленькіх дзвярэй хаты, апранутыя ў рызманы, стаялі чатыры яго браты—старэйшы з іх меў 10 гадоў. Яны сустрэлі Міколку абыякава, не здзівіліся яго паяўленню, не адзначылі яго ні радасцю, ні смуткам. У іх былі тоненькія шыі і бледныя дробненькія твары. Яны моўчкі з аднолькавай цікавасцю глядзелі на матку, на Гнедага, на бацьку, на калматага ката і на яго, Міколку.

Ужо на другі дзень Хрысціна пашла дажынаць жыта. У яе балела ў паясніцы, і дзень ад гэтага здаўся годам. Людзі не дапамагалі і не спачувалі ёй. Ці вінаваты яны у гэтым? У кожнага з іх было сваё гора, свае хваробы—гэтага хапала на ўсіх. Людзі былі чужыя адзін аднаму, яны цураліся адзін аднаго. Абапіраючыся на плечы суседа, кожны імкнуўся крыху вылезці ў гару, выбіцца з галечы і бяды. Такою была жыццёвая логіка. І сашчапіўшы ад болю зубы, Хрысціна дажала палосу.

Захар не губляў надзеі паставіць на ногі гаспадарку. Ён хацеў зрубіць новую хату. У старой напоўразваленай хаце жыць было ўжо немагчыма. Ён кідаўся ва ўсе бакі, ішоў на ўсё, абы толькі здзейсніць сваю мару. Яму здавалася, што ад гэтай хаты залежыць

яго будучыня, дабрабыт яго сям'і. А зараз сям'я недаядала, сам ён зімою вазіў у горад панскі лес, улетку наймаўся да багатых у касары, ратаі—так ён збіраў грошы, каб купіць лесу. Частку лесу ён купіў, але ў яго не хапіла грошай на ўсю хату. Захар аблюбаваў месца для новай хаты, і пачаў рубіць. Ён паклаў ужо тры вянцы. Ён глядзеў на аснову сваёй новай хаты і смяяўся, і плакаў ад шчасця, гэты чалавек, жыццё якога, не адстаючы ні на крок, суправаджалі няўдачы.

Яму не давялося пераступіць парог сваёй новай хаты. Міколка не доўга жыў пад апекаю бацькі. Захару непашанцавала. Уночы ён паехаў у панскі лес, меркаваў украсці адну хваіну на хату. Усё-ж менш прышлося-б купляць. У лесе нікога не было. Скінуўшы світу, ён смела пачаў секчы высокую, гонкую хвою. Хвоя доўга не хацела падаць, не хацела пакідаць жыццё, але калі ўпала, то рашыла жыццё і Захару. Ён спатыкнуўся, упаў і не паспеў адскочыць у бок, як цяжкі камель хваіны падабраў яго. Ён напружваў астаткі сіл, каб вылезці з-пад дрэва, але не мог нават узняць рукі, спрабаваў клікаць на дапамогу, але з грудзей вылятаў адзін хрып. У лесе было ціха і па асенняму холадна. Стромкія хвоі ўзнімалі свае вяршыні над лесам, нібы яны сябравалі з Вялікай Мядзведзіцай. У прагале паміж дрэў Захар бачыў толькі тры зоркі, але хутка яны патухлі.

Ён жыў да раніцы. Раніцою ляснік натрапіў на яго мёртвага і зразумеў усё. Вызваліўшы з-пад хвоі Захара, ляснік узваліў яго на воз і давёз у сяло, дахаты. Хрысціна сустрэла чалавека, галосячы наўзрыд. У Захара быў сіні твар і з роту маленькімі пухіркамі выступала пена. Пэд вечар яго хавалі. За труною ішло не больш дзесятка людзей. Каго хвалявала смерць Захара? Толькі тых, каго яна непасрэдна датычылася. Хрысціна галасіла, нават забіваючы крыкам сваім літанні папа.

На хвою, пад якою хавалі Захара, падалі апошнія промні сонца. Глуха стукала зямля аб века труны. Сумна спяваў бацюшка. А Хрысціна стаяла прыпёршыся спіною да хвоі і ўжо моўчкі пазірала ў яму. Яна змарылася плакаць і галасіць, у яе не было слёз, чым плакаць. Паціху прышла яна дадому. Яна глядзела на пусты двор, на пахіленую хату, на чатыры вянцы новай хаты побач, на Гнедага, які спакойна жаваў у канцы двара лебяду, і толькі цяпер адчула, наколькі яна асірацела.

... І пацягнуліся гады цяжкія і нудныя. Гэтыя гады і падарвалі былі ў Хрысціны веру ў жыццёвую праўду. Яна тады не верыла нікому—ні людзям, ні богу, ні жыццю, яна верыла толькі адной сабе. У яе жыцці тады стаяла адна мэта: выгадаваць чатырох сваіх сыноў. Яна калацілася над імі, вырывала ў сябе з роту кусок, каб накарміць дзяцей. Што-ж акрамя дзяцей аставалася ў Хрысціны, для каго-ж, як не для іх было ёй жыць? Вёснамі арала яна зямлю, засявала раллю, увосень збірала ўраджаі. Яна ніколі не бачыла светлай гадзіны, не разгінала спіны ад работы. Адзінай радасцю і ўцехай яе былі дзеці. Яна ведала, для чаго жыла.

І вось яна выгадавала свайго старэйшага сына. Яна парашыла пусціць яго ў жыццё. Яму ўжо было 13 год. Ён сплёў сабе лы-

кавыя лапці і перакінуў цераз плечы радзюжную торбу. Ён наняўся ў падпасычы да вясковага пастуха. У першы вясенні дзень ён выйшаў на вуліцу і затрубіў у рог. Насустрач, з поўдня плылі гусі, яны, як і людзі, рады былі вясне. Хлопчык адчуў сябе самастойна, ён сам сабе ўжо зарабляў на хлеб. Ён вярнуўся ўвечары змораны, бледны, ап'янёны пахкім водырам вясенняга паветра, але цвёрда, па-гаспадарску сказаў матцы.

— Нічога, мама, мы і хату з табой паставім. Вот няхай зараблю!

— Паставім...—падтрымала, уціраючы слёзы, Хрысціна.

І за лета яны нанялі цесляра дзеда Архіпа і той памаленьку палажыў яшчэ два вянцы на зруб. Зруб рос, і весялілася сэрца хлопчыка—яму здалося, што яны зрабілі нямаведама як многа. Ён ляскаў доўгай, з белага карэньчыку, пугай, адварочваючы з шкоды кароў, і спяваў песні, не зважаючы на тое, што ў яго торбе ляжаў толькі хлебны акраец. Пастух вучыў яго граць на хваёвай жалейцы. І рад быў свайму жыццю гэты невялічкі хлопчык.

Але лёс па-здрадніцку паступіў з ім. Халодным асеннім днём—гусі ключамі ляцелі на поўдзень—прывязлі на возе на двор Хрысціны яе дарагога падпасыча, акрываўленага і нежывога, як і Захара. Раз'юшаны стаднік, бугай, прыпёр хлопчыка да дуба, узняў высока на рогі і кінуў вобзем. Ён вымясціў на хлопчыку нейкую сваю сляпую звярыную злосць.

... Час ведае, чаму так рана пасівела галава Хрысціны. Ен не мала падрыхтаваў для яе ўдараў. Хрысціна пахавала сына побач з бацькам. Цяпер ужо сваю мацярынскую любоў яна дзяліла на трох дзяцей. Памалу з часам яна загаіла ў сэрцы рану ад панесенай страты. І яна зноў з надзеяй пачала глядзець на жыццё. І нават жыццё неяк выраўнялася і палягчэла.

Екацерынінскім шырокім трактам прыляцела ў вёску чутка аб рэвалюцыі. Яна ўсхвалявала вёску. Хваляваліся вясковыя багацеі. Была вайна. Але калі чуткі прынеслі рэвалюцыю, вайна скончылася. Як бы на крыллях гэтых чутак прыляцеў у вёску худы бязногі Амелька. На вайне знарадам адарвала яму нагу. Ён быў першым, які вярнуўся з фронту, і таму на яго глядзелі як на дзіва. А ён ужо звыкся з тым, што ў яго толькі адна нага, смяяўся, жартаваў і нават падміргваў палінялым ад жыццёвых нягод брывом вясковым салдаткам. У першы ж дзень ён даволі спрытна прашкандыбаў па ўсёй вёсцы, не мінуў ні аднай знаёмай хаты. Заходзіў, гаварыў мала і відаць не ўсё, аб чым ведаў. Мінаў ён толькі двары з моцнымі дубовымі варотамі, з цяжкімі жалезнымі запорамі. І да Хрысціны зайшоў. Прыжмурыўшы вока, ён паглядзеў на зруб.

— Хату залажылі?

— Залажылі...

— Та-ак...

Сагнуўшыся, улез у старую хату. Азірнуў яе, паглядзеў на дзяцей.

— Памёр Захар? Цяжка? Та-ак... Ну, што-ж—усім цяжка... Усім! Цярпі, Хрысціна, скора палягчэе...

Амелька стаяў сярод хаты, абапершыся на сваю пабітую дзеравяную нагу. Дзеці спалохана глядзелі на аднаногага чалавека.

— А галоўнае—дзяцей гадуй: людзі скора нам вельмі патрэбны будуць, ой, як патрэбны. Нашы людзі.

І Амелька спрытна пашкандыбаў па вуліцы далей.

... А яна і не даглядзела сваіх дзяцей. Скора ў вёсцы аб'явіўся тыфус. Людзі лажыліся ў ложкі сем'ямі. Дзед Архіп рабіў труны. Але нядоўга ён іх рабіў, хутка і сам ён лёг у труну, апошнюю, якую ён зрабіў.

Першаю ў хаце захварэла Хрысціна. Яна, калі адчула хваробу, заплакала, але не ад таго, што захварэла сама. Сэрцам яна адчула, што пагінуць дзеці. Яна ў гарачцы клікала на дапамогу, не да сябе, да дзяцей. А потым захварэлі і дзеці. Яны ўпокат ляжалі на палку. І не было каму падаць ім нават вады. Смага паліла іх маленькія грудзі. А калі Хрысціна ачнулася, адыйшла, дваіх ужо не было. Целы іх былі ўжо халодныя. Астаўся адзін Міколка. Яму тады было 4 гады. Ён чапляўся за жыццё, хаўкаў, як рыба, выкінутая на бераг. Хрысціна сядзела на ложку слабая, забітая горам і нават не магла ўзняцца, каб паглядзець на Міколку. Яна ў беспрытомнасці ўпала на ложак. Але Міколка быў жывучы, ён перамог смерць.

І вось застаўся ў яе адзін Міколка. Але цяпер жыццё павярнулася другім бокам да Хрысціны. Міколка вырас моцным, жыццерадасным хлопчыкам. І ён ніколі нават не хварэў. Цэлымі днямі ён бегаў па палях, па лясах, бесклапотны і вясёлы.

З той пары, калі Хрысціна закапала дзве апошнія труны, уцякло многа вады. Яна даўно змірылася з гэтаю згубай. Чалавек здолен мірыцца з тым, чаго нельга ўнікнуць. Цяпер яна радавалася ўжо толькі аднаму сыну, але гэта радасць была ў чатыры разы большаю. І, вось тры гады таму назад, вырасшы і ўзмужэлы, Міколка пайшоў добраахвотнікам у Чырвоную Армію. Яго прынялі ў паветраны флот і паслалі ў школу. А цяпер ён скончыў яе і прыляціць праведаць матку...

## III

— Хрысціна!—паціханьку пастукаў нехта ў акно. Хрысціна ледзь ачнулася і павярнула галаву да акна, на двор. Каля акна стаяла яе суседка Базыліха.

— Хрысціна, ці можна цябе на хвілінку?

— Сарафімка, дарагая, заходзь,—замітусілася, адразу ажывіўшыся, Хрысціна. Суседка не паспела яшчэ за сабой зачыніць дзверы, як спыталася.

— Ці то праўду Цімахоў блазнюк баяў, што да цябе сынок ляціць у госці?

— Праўду, Сарафімка, праўду! Пісьмо, вось, атрымала.

— Вой, якая-ж ты шчаслівая, Хрысцінка! Толькі я не зайздрошчу табе, не. У мяне, ты-ж сама ведаеш, сыны таксама не абібокі якія. Вось толькі не піша нічога малодшы, той што ў горадзе, кажа часу мала, але хіба я не ведаю аб гэтым, ці што? Няхай ужо і не піша. Вой, Хрысцінка, балбачу я без толку,

а зачым ішла і не кажу. То-ж я прышла табе сказаць, што можа ў цябе няма чаго-небудзь, можа мукі няма свежанькай пшанічнай, то мой чалавек учора толькі змалоў, тонкая такая, беленькая! А ты ўжо напячы Міколку булак на сустрэчу... Вой, мне і самой неяк не верыцца, што Міколка ўжо такі! То-ж я яго і прымала ў цябе, памятаеш, у Зазер'і. От-жа, як часы бягуць, а? То ты, Хрысцінка, кажы, мо не мукі, дык чаго другога табе трэба. Дзякаваць богу, цяпер-жа ўжо... Ды ты не махай рукамі, ведаю я, што і ў цябе ёсць чым спаткаць сына, але-ж не адмоў, Хрысцінка...

Суседка гаварыла, не даючы нават адказаць што-небудзь Хрысціне. А тая стаяла ўзрушаная праяўленнем такога шчырага ўдзелу і ўсхвалёваная ўспамінамі аб мінулым. Базыліха хацела гаварыць далей. Раптам з сянец расчыніліся дзверы.

— Добры дзень, Хрысціна Паўлаўна!

На парозе стаяў старшыня калгаса Клімянок, малады гадоў трыццаці мужчына.

— Грышка паштальён казаў, нібы Міколка прыляціць да вас у госці. Ці праўда гэта? Вы можаце паказаць мне пісьмо? Трэба вырашыць пытанне наконт яго пасадкі.

Клімянок разгарнуў паданы Хрысцінаю ліст. Прабегшы пісьмо, ён заклапочна нахмурыў бровы.

— Так-с... заўтра прыляціць. Каля Дорахавага дуба яму сядаць нявыгадна. Далёка, дый малая палянка. Алешка загуменне араць пачаў ужо, але-ж... ну, так і зробім. Няхай загуменне яшчэ пару дзён паляжыць неўзараным. Гэта-ж, Хрысціна Паўлаўна, не для вас адных радасць,—усім нам радасць, што вось Міколка, галота былая, лётнікам стаў. Гэта-ж... а, да што і гаварыць. Пайду лепш скажу, каб араць пакінулі, ды знак пасадачны пашылі. Я-ж у арміі служыў, ведаю. Выкінем знак, тады ён спакойненька сядзе сабе.

Ужо з парога Клімянок абярнуўся і дадаў.

— Ага! Забыў яшчэ аб адным. Я пайду вось і заадно на ферму зазірну. Скажу, каб парсюка невялікага закалолі. Дык вы, Хрысціна Паўлаўна, пастарайцеся, каб яго як-небудзь прыгатаваць да прыезду Міколкі.

Клімянок пайшоў. Збіралася ісці за ім і Сарафіма. Хрысціна правяла суседку аж на вуліцу, трымаючы яе пад руку як сваю родную. Яна закрыла за ёй вароты, азірнула свой двор, паглядзела на новую хату. Тыя шэсць вянцоў, што паклаў Захар з сынамі і за якія яны пагінулі, пацямнелі ад часу. Чыстаю белаю смаліною канчаў калгас Хрысціне хату. Калгасныя цесляры дружна ў адзін тыдзень зрубілі яе, а столяр Агей павыразаў на акяніцах такіх пеўнікаў, што на іх адно паглядзіш, і то весела робіцца. Цесляры канчалі хату і спявалі вясёлыя песні. На сходзе Клімянок сказаў: „Мы зрабілі табе, Хрысціна Паўлаўна, хату за тое, што ты добрасумленна працуеш. Ні адна матка не скардзілася на тое, каб яе дзіця на пляцоўцы было недагледжана табою. Ты да іх, як родная матка, а таму і калгас да цябе, як родны бацька".

Хрысціна вярнулася ў хату і ўспомніла, што ёй трэба прынесці вады. Яна ішла да калодзежа і кожны сустрэчны чытаў у вачах яе незвычайную радасць. І кожны хацеў прыняць удзел

у яе радасці, выказваў Хрысціне што-небудзь прыемнае. Дзяўчына Настася крычала ад калодзежа, хуценька, выцягваючы вядро.

— Чакайце, цётка Хрысціна, чакайце!—і крыху засароміўшыся дадала:—З поўным я перайду.

Яна перабегла Хрысціне дарогу, прытка трымаючы поўнае вядро. Настася не верыла ў „поўнае вядро“—гэта бабскія забабоны, яна ўжо трэці год як комсамолка, але яна хацела зрабіць што-небудзь прыемнае Хрысціне.

— Міколка ваш прыляціць? Цётка Хрысціна, папрасіце, каб ён пакатаў мяне на самалёце. Добра?

— Добра, галубка, добра, папрашу,—адказала Настасі Хрысціна, і ад радасці ў яе пакаціліся па шчацэ сляза.

Яна набірала ваду і хацела плакаць, сама не ведала ад чаго: ці то ад смутку, навеянага цяжкімі ўспамінамі, ці ад радасці за сёнешняе жыццё.

Па вуліцы бег Лёшка трактарыст. На руцэ ён трымаў кожанку, і ўвесь ён з галавы да ног быў вымазаны ў мазуту. Твар яго блішчэў і ільсніўся ад здароўя і паўнаты жыцця. Убачыўшы Хрысціну, ён уподбежкі кінуўся да калодзежа з усмешкай бесклапотнага і вясёлага хлапца.

— Хрысціна Паўлаўна! Зняў мяне з ворыва Клімянок, кажа сын ваш прыляціць, дык каб поле неараным было. То я, вядома, згадзіўся. А Клемянок сказаў, каб я Зазер'е ехаў араць. То я, канешне, не згадзіўся. Трактар буду яму ганяць... Ды, галоўнае, жывот у мяне нешта... Хай напарнік арэ ў Зазер'і. Правільна, цётка Хрысціна?

— Правільна, галубок, правільна,—нават не асэнсоўваючы пытання, пацвердзіла Хрысціна, і глядзела на Лёшку вачамі, у якіх свяцілася мацярынская ласка. Яна выцягла ваду.

— Дайце, мамаша, паднясу.

І пакуль Хрысціна паспела згадзіцца, ці не згадзіцца, Лёшка падхапіў ужо вядро і панёс яго, пасвістваючы, да хаты. Яна ледзь паспявала ісці ўслед за Лёшкам. Паставіўшы ля варот вядро, той паімчаўся ўсцяж вуліцы далей. А яна паглядала ўслед яму замілаваным позіркам.

Ужо калі хацела ісці ў двор, яе нехта гукнуў. З другога боку па вуліцы шкандыбаў бязногі Амелька. Гэтага старога як-бы і час не браў. Ён як калісьці ў першыя гады свайго калецтва, жыва шкандыбаў па зямлі, энергічна чыкільгаў па калгаснай пчалінай пасецы паміж вулляў і выхваляўся перад калгаснікамі, што ведае па імені кожную пчалу. Праўда, ён крыху пастарэў, асунуўся, але-ж волас яго быў чорны, як галчына крыло, моцны быў яго голас і меў ён маладыя вочы.

— Хрысціна, пачакай часінку, дачыкільгаю да цябе, спытаю нешта.

— Амелька? Чакаю, родненькі, чакаю,—абярнулася Хрысціна.

— Твой Міколка сапраўды да цябе прыляціць, ці то так чуткі ходзяць?

— Сапраўды, пісьмо атрымала.

— То вот-жа, браце, я падаруначак яму прынёс. Ад Амелькі' скажаш, пчаляра калгаснага.

Амелька адхіліў крысо світкі і падаў Хрысціне гладыш светлага мёду.

— Свежанькі, як раса, чысценькі...—пахваліў Амелька мёд і хутка пашкандыбаў па вуліцы.

Увечары Хрысціна доўга не магла заснуць. Заўтра яна ўбачыць свайго сына! Хрысціна патушыла лямпу і запаліла на комінку. Агонь лучыны, ад якога з часам адвыкала Хрысціна, абуджаў у яе ўспаміны аб мінулым. Патрэсквалі смалякі і па хаце ад няроўнага агню лятали фантастычныя цені. У куточку за лавай пілікаў цвыркун, яго песня была аднастайная і роўная, як работа спакойнага сэрца. І пакуль не дагарэў апошні смаляк, Хрысціна сядзела на ложку і думала, паглядаючы на агонь, аб тым, як змянілася жыццё, як змяніліся людзі.

## IV

Дзень назаўтра выдаўся ясны і прыгожы. Невялічкі марозік за ноч пакрыў інеем апаўшыя лісты, але іней знік, як толькі паднялося сонца. Халоднае, здаровае паветра было празрыстым, як крышталь. Кляновыя лісты, адрываючыся ад галін, хоць і вельмі старанна круціліся ў паветры, усё-ж не маглі далёка адляцець, бо не было нават подыху ветра. На блакітным небе не відаць ніводнай хмаркі, і ад гэтага неба здавалася неабсяжным, бяскрайным. Такім прыгожым бывае неба толькі ўвосень.

На загуменне, куды павінен быў сесці Міколка, пасля абеду высыпала ўсё сяло. Была нядзеля, выходны дзень у калгасе, і таму мужчыны, жанкі, а асабліва калгасная моладзь прыадзеліся ў сваю лепшую святочную вопратку. Клімянок з комсамольцамі выкладваў сярод поля пасадачны знак. У групе мужчын, апрануты ў вышываную кашулю, пабрыты, падцягнуты стаяў Амелька.

— Вось, адтуль будзе ляцець,—паказваў ён бярозавым кіёчкам на захад,—з-за лесу.

Амелька, як заўсёды, жвава круціўся на сваёй здаровай назе. Цераз плячо ў яго вісеў палявы ваенны бінокль, прынесены ім з арміі. Ён расказваў мужчынам свае ўспаміны аб вайне.

Хрысціна стаяла сярод жанчын. Кожная жанчына, якая падыходзіла да іхняй групы, перш за ўсё вітала Хрысціну.

— Сына твайго прышлі сустракаць.

І жанчыны станавіліся збоку, каб не засціць Хрысціне выглядаць сына. Яна была апранута ў чыстую, доўгую спадніцу і дабротны суконны сак. Хустку яна развязала і закінула на плечы. Сухімі, бліскучымі вачамі яна паглядала на захад. Па небу ляцелі два крумкачы. Яна перахрысцілася, бо яшчэ баялася, каб лёс не вырваў радасці яе з самых рук. Але вясёлая Настася падбегла да яе з усмешкай і румянцам на шчоках. Яна не бачыла крумкачоў і не цікавілася імі. Настася махала цёплым, шарсцяным шалікам і паказвала ў другі бок.

— Цётка Хрысціна, вунь гусі ляцяць! Міколка, калі-б захацеў, напэўна мог-бы абагнаць іх. Ай! От добра! Абагнаў-бы!

Настася была ў захапленні. Яна радзілася і расла ў час, калі людзі ўжо верылі адзін у аднаго, і верылі ў свае сілы. Ёй прыемна было адчуваць, што чалавек можа, калі захоча, абагнаць нават птушку. Ад гэтага яна паўней адчувала і свае сілы, Міколку-ж яна лічыла роўным сабе.

— Сакатуха,—з любоўю паглядаючы на рухавую Настасю, адказалі за Хрысціну жанкі,—дзе-ж гэта відана, каб за гусямі ганяцца.

І Хрысціна забыла на крумкачоў. Яна стаяла сярод гэтых жанчын, цяпер блізкіх і родных ёй, і ў грудзях у яе было дзве радасці. Хрысціна—маці радавалася, што скора абніме і прытуліць да грудзей адзінага сына. Хрысціна—чалавек была рада, што яе радасцю жыве не адна яна, ёй рады ўсе людзі. І яна не магла нават ўзважыць, якая з іх была большай, ці мацярынская радасць, ці радасць члена адной дружнай сям'і.

Клімянок паглядзеў на гадзіннік. Да семнаццаці гадзін не хапала некалькіх мінут. Клімянок паківаў галавою і хацеў зазначыць, што Міколка нечага спазняецца, але раптам з самага вільчыка бліжэйшага гумна пачуўся дзіцячы крык.

— Ляціць!

Ад гумна да натоўпу калгаснікаў сыпанула стайка дзяцей, і паперадзе імчаўся—ляцеў Грышка.

— Ляціць!—крычала услед за Грышкам у разнабой уся дзетвара. І сапраўды з-за лесу паказаўся самалёт. Пабліскваючы на сонцы металёвымі часткамі, ён хутка набліжаўся да вёскі. Самалёт вырастаў на вачах, і разам з ім мацнеў і набліжаўся шум матора. Тонкі і стройны, як птушка, ён адзін неспакойна ляцеў па шырокіх і ціхіх прасцягах неба, і, здавалася, гнаўся напярэймы тым гусям, што ляцелі за сваім важаком на поўдзень зімаваць у далёкіх цёплых краях.

Натоўп узрушана замітусіўся. Настася хлопала ад радасці далонямі. Поўная жыццёвых сіл, яна актыўна ўспрыймала прыгажосць відовішча.

— Як хораша! Ой, як хораша!..

Жанкі пад рукі падтрымлівалі Хрысціну. Аслабелая ад хвалявання за дарагую ёй істоту, яна ўпілася поглядам у самалёт. Амелька ўрачыста ўзяўся за бінокль і, не адрываючыся, пазіраў у яго. Шырокі і плаўны круг зрабіў самалёт над полем. Клімянок махаў рукой, паказваючы на знак. Але самалёт, моцна зароўшым маторам, нечага крута паляцеў уверх. Вось ён пачаў ляцець угору, амаль прастастаўна да зямлі. Перакуліўся на спіну... і з заглушаным маторам паляцеў проста ўніз. Натоўп замёр: самалёт падаў. Хрысціна закрыла вочы. Але гэта была звычайная пятля, зрабіць якую можа нават малады вучлёт. Каля самай зямлі самалёт выраўняўся, і паляцеў на пасадку.

— Ура!—закрычаў нехта ў захапленні. Здзіўленыя майстэрствам маладога пілота, калгаснікі дружна падхапілі вокліч. З крыкам усе рынуліся да самалёта, які ўжо каціў па неараным полі.

Міколка вылез з пілоцкай кабіны, крыху збянтэжаны ад такога пышнага прыёму—ён не чакаў, што яго будзе сустракаць цэлае сяло.

— Міколка! Здароў, Міколка! Мікалай Захаравіч!

З усіх бакоў віталі яго сябры, знаёмыя і блізкія. Разгублены і расчулены, ён паціскаў працягнутыя рукі, адказваў на прывітанні і адначасова шукаў у натоўпе маці. Тая-ж бегла ўжо да яго, радасная, і перад ёю хуценька расступаўся натоўп...

...Па дарозе абнімаючы маці, Міколка ў адказ на яе роспыты гаварыў:—Дома, аб усім пагаворым дома.

Шырокаплечы, павольны ў гэстах, Міколка намнога змяніўся за гады, у якія не бачыла яго Хрысціна. Яна не магла наглядзецца на яго, мужнага, спакойнага. Хрысціна ведала, што яна і не нагледзіцца на яго ўдосталь сам-на-сам: у новай Хрысцінінай хаце ўвішныя бабы ўжо расстаўлялі на сталах пачастункі. Следам за Міколам ішлі і мужчыны, жанкі, Клімянок, моладзь. Дзяўчаты спявалі песні. Дзетвара бегла наперадзе, пазіраючы на Міколку, як на героя. Амелька, які нечага быў адстаў, цяпер старанна шкандыбаў, даганяючы Міколку.

— Міколка! Сынок, дай я хацяабніму цябе!—крыкнуў Амелька, наблізіўшыся да натоўпу.

Яны пацалаваліся, як родныя, і Амелька, закінуўшы за плечы непатрэбны цяпер бінокль, неўзаметку выцер рукавом набегшую слязу.

Міколка сам адчыніў вароты свайго двара. Ен спыніўся і паглядзеў на новую хату.

— Хата добрая. Вось бацьку майму не давялося пажыць у ёй.

І Міколка шырока расчыніў дзверы. Ен ужо ведаў аб тым, што да яго прыезду падрыхтавалі банкет.

— Заходзьце!

У прасторнай хаце за доўгімі сталамі расселіся разам і старыкі і моладзь. Міколка сеў побач з шчаслівою маткай. Амелька быў па другую руку ад яго. Тут быў і Клімянок і Настася, якая час ад часу кідала сарамлівыя позіркі на Міколку. Сядзелі за сталамі і Базыліха з мужам, і ўсе былыя сябры Міколкі, Лёшка-балабошка і дзяўчаты аднагодкі Міколкі, і равеснікі Хрысціны.

Першаю захацела сказаць некалькі слоў Хрысціна. Усе змоўклі. Яна ўстала, трымаючы ў руцэ чарку, і ў яе памаладзелых вачах гарэў агонь радасці. Сівыя косы яна старанна захавала пад касынку.

— На двары ўжо восень, лісты вунь асыпаюцца. І жыццё маё к канцу падыходзіць. Але, госцейкі мае, у мяне цяпер такая радасць—сорак год яшчэ жыць буду! Хоць аднаго выгадавала, выхадзіла ў пакуце, ды ў бядоце. Самі-ж ведаеце! А цяпер вось прыляцеў ён да мяне... прыляцеў...

Слёзы радасці залілі ёй твар. Левай рукой яна паднесла да вачэй хустачку і змоўкла. Госці з усіх канцоў стала пацягнуліся да яе з чаркамі.

— Што вы, што вы, Хрысціна Паўлаўна! Навошта плакаць? Давайце лепш вып'ем за ваша здароўе...—загаманілі адусюль.

— Будзеш, будзеш яшчэ сорак год жыць, Хрысціна,—гукнуў Амелька,—і я не менш буду чыкільгаць па свету. А Міколку дзяўчыну высватаць трэба,—кінуў ён хітрым позіркам на Міколку.

Гэта быў вечар чалавечай еднасці. Людзі дзялілі сваю радасць за шчаслівае жыццё. Калектыўнай у іх была не толькі праца. Пачуццё таго, што яны адна дружная сям'я, што ў іх калектыўныя інтарэсы, радасць яднала іх за гэтым сталом, багата ўстаўленым пачастункамі.

## V

А назаўтра сінім марозным ранкам у пяць гадзін яна адна праводзіла Міколку ў далёкую пуць-дарогу, няведамую для яе. Так і не паспела яна наглядзецца на сына, так і не паспела распытаць аб чым хацела. Яна ішла следам за ім па пожні, і пасля іх заставалася дарожка, бо яны ступалі па інею. Сярод поля, развінуўшы ў бакі крыллі, стаяла росная ад інею блакітная птушка. Скора ўзнімецца яна ў неба і панясе на сабе Міколку, дарагога яе сына. Панясе на ўсход, насустрач сонцу, спакойнага і адважнага.

— Ну, маці, да пабачэння! Засумуеш—напішы, забяру цябе ў горад. Толькі бачу я, моцна здружылася ты з людзьмі, не захочаш пакідаць сяло. А?

Міколка абняў і пацалаваў маці некалькі раз. Хрысціна гладзіла яго валасы і маўчала.

— Маці, чаго маўчыш?

Яна апусціла рукі і ціха сказала:—ляці.

Вось яна і не наглядзелася на яго і не нагаварылася з ім, а ўсёроўна была спакойная і адчувала сябе лёгка, радасна. Міколкава ўпэўненасць і спакойства перадаліся ёй—яна цяпер не баялася, што згубіць сына.

І Міколка паляцеў. Прабегшы з двое ганей па зямлі, самалёт ірвануўся ў неба. Смела і крута ён набіраў вышыню, разрэзваючы грудзямі лёгкую дымку тумана. Ён зрабіў развітальны круг над сялом, хістануўся з крыла на крыло („усё у парадку") і паляцеў на ўсход. Вось і няма Міколкі. Ён паляцеў далёка выконваць даручаную яму справу. Толькі няма і смутку ў сэрцы Хрысціны. Калісьці яна адна калацілася над сваімі дзецьмі, гадавала іх. Але ці-ж можна было адной, былінцы прыдарожнай, устаяць супроць жыццёвых нягод. Не даглядзела, пагінулі сыны. Толькі адзін Міколка дажыў да часу, калі і жыццё стала нябачана светлым і людзі зрабіліся членамі адной вялікай сям'і. Ён паляцеў, але, яна ведала, не на чужыну, а да сваіх, да блізкіх, да сяброў. Яна была спакойнай за яго. Хіба не з любоўю і клопатамі гадавала яна чырвонашчокіх і бесклапотных дзяцей аднавяскоўцаў калгаснікаў? Хіба не радавалася яна, разам з імі, іх дзіцячай радасцю, хіба не дзяцінела часамі, забываючы ў гульні на тое, што галава ў яе сівая ад старасці і пераЖытых цяжкіх гадоў? Хіба не з болем яна пераносіла кожную, хоць-бы якую маленечкую хваробу гэтых дарагіх дзяцей?..

... Ужо і гук матора перастаў быць чутны, ужо і сам самалёт, вялікі і стромкі прыгажун, ператварыўся ў чорную невялічкую кропку, а Хрысціна ўсё стаяла і паглядала на ўсход. Над новым светам узыходзіла сонца. Нараджаўся дзень.

---

— Цётка Хрысціна, пачакайце! Я баюся вашага Тузіка. Вам пісьмо,—каля самых варот спыніў Хрысціну Грышка. Ён бег па вуліцы і размахваў сінім канвертам.

— Пісьмо? Ад каго-ж мне можа быць пісьмо?

— Ад сына, мусіць. Другога сына. У вас-жа ёсць дзе-небудзь другі сын? А, цётка Хрысціна?—спытаўся Грышка.

— У мяне сын?

Хрысціна замоўкла. Яна паглядзела на Грышку. Той хуценька апусціў вочы. Тады яна ледзь-ледзь пачала здагадвацца аб нечым. Яна засмяялася і прыкінулася вельмі зацікаўленай і ўсхвалёванай.

— Хадзем-жа, Грышка, у хату хутчэй, прачытай мне пісьмо.

Грышка разарваў канверт і памалу ў яго чырванелі вушы, шчокі. Калі ён пачаў чытаць, то ён хваляваўся і ўвесь гарэў ад нечага ўжо, як ў агні.

— „Дарагая маці...

Хрысціна паставіла на стол мёд, дастала з скрыні мяшочак з сушанымі арэхамі. Яна сур'ёзна слухала Грышку.

... Можна сказаць, жадаю табе...

Грышка асцярожна ўскінуў вочы ад пісьма на Хрысціну. Тая ўважліва лавіла кожнае яго слова. Грышка нечага ўсхвалёвана круціўся, шморгаў без патрэбы носам.

— ... добрага здароўя"... Цётка Хрысціна,—раптам узмаліўся Грышка,—я больш не буду!

— А мой-жа ты галубок,—засмяялася на ўсю хату Хрысціна.

Яе меркаванні пацвердзіліся: Грышку так спадабаліся яе пачастункі за пісьмы, што ён, не дачакаўшыся, покуль хто-небудзь напіша, парашыў сам скласці ёй пісьмо. А можа Грышка хацеў парадаваць яе, старую, вестачкай ад другога сына? Грышка-ж не ведаў, што Міколка быў адзіным сынам у яе.

— Пакаштуй, вось, мядку, давай кішэньку, арэшкаў табе ўсыплю,—гаварыла ласкава Хрысціна. І яна, цёпла смяючыся, пагладзіла па галаве збянтэжанага і нашчэнт выкрытага Грышку.

Гомель,
Кастрычнік 1936 г.

# ЖНІЎНАЯ ПЕСНЯ

Пячэ сонца спёкатам
  Верасы, верасы.
Пераспелі ў полі ўжо
  Каласы, каласы.
Выйду, выйду раніцай
  На зажын, на зажын,
Дзе жняяркі песнямі
  Будзяць шыр, будзяць шыр.
Снапы перавясламі
  Павяжу, павяжу,
Ды прысяду вечарам
  На мяжу, на мяжу.
Покі сонца скоціцца
  За гару, за гару
Я снапы ў мэдлікі
  Падбяру, падбяру.
А як сонца ўздымецца
  З-за гары, з-пад гары—
Скалыхнуцца ветрамі
  Ды бары, ой, бары.
Зноў у поле выйду я—
  Не адна, не адна.
Зноў снапы вязаць буду
  Да цямна, да цямна.
А як сонца горача
  Запячэ, запячэ,
Каля гаю рэчанька
  Ды цячэ, ой, цячэ...
Увайду ў халодную
  У ваду, у ваду,
Цела загарэлае
  Спаласну, спаласну.
Эй ты, вецер, вольніцай
  Загуляй, загуляй,
А я выйду сцежкаю
  Ды пад гай, аж пад гай.
Ў поле каласістае
  Я прыду, зноў прыду.
Колькі любай радасці
  Там знайду... Ой, знайду.

*Запісаў у Адама Русака (калгас „Чырвоны Араты", Капыльскі раён)*

*АСТРЭЙКА Я. П.*

# ВЯСЕЛЬНАЕ ВІНШАВАННЕ МАЛАДЫХ

Бывайце здаровы,
Жывеце багата.
Ужо-ж мы паедзем
Да свае хаты.
Ў зялёнай дуброве
Начавацъ будзем,
Вашае чэсці
Павек не забудзем.
У вашым калгасе
Шырокае поле.
Няхай-жа для шчасця
Цвіце ваша доля.
На рэчках на вашых
Муціліся-б воды,
Каб плавалі з крыкам
Гусей карагоды.
Хай кожны з вас будзе
У працы дзябёлым.
Хлявы былі-б поўны
Усякай жывёлы.
Кароў шмат і коней,
Свіней і авечак,
А куры, каб неслі
По возу яечак.
Нядарма-ж калгас ваш,
Каб зваўся багатым,
Здабыткам усякім
Паўнела ў вас хата.
Варыце наедку
Бацвінне, капусту
Ї з бульбай гароху,
Заскварвайце тлуста.
Каб жыта ў полі
Трубою вілося,
А ў хаце каб сала
Кублямі вялося.
Штодзень у капусце
Каб плавала скварка,

А к скварцы часінай
Вялася-б і чарка.
Каб вам шанцавала
Ды часта на госці,
Ніхто-б ды ніколі
Не меў на вас злосці.
Не толькі, каб людзі
Ад вашай брыгады,
Каб вашаю працай
Мы ўсе былі рады.
Жадаем яшчэ вам
Прыбытку ў хаце,
Ні мала, ні многа—
Штогод па дзіцяці.
Не будзе вам крыўды
Яшчэ і за тое,
Калі пашанцуе
На год і па двое.
Дарогу-ж мы знаем
Да вас, ягамосці,
І ездзіць мы будзем
Да вас часта ў госці,
То на адведы,
То на радзіны,
Вазіць караваю
Па дзве па васьміны.

*Запісаў у Адама Русака (калгас „Чырвоны Араты“, Капыльскага раёна)*
*Астрэйка Я. П.*

# ДАГЕСТАНСКАЯ ПЕСНЯ ПРА СТАЛІНА *

Рэкі імкнуцца ў мора,
Сталь да магніта імкнецца,
Травы імкнуцца да сонца,
На поўдзень імкнецца птах.
Людзі-ж імкнуцца да шчасця.
Яны імкнуцца да праўды,
Іх сэрцы імкнуцца да дружбы,
Думкі імкнуць да цябе.

Ластаўкай быць жадаў-бы,
Ластаўкай легкакрылай,
Спрытнай і стройнай целам,
Каб пабываць у Крэмлі,
Каб хаця раз убачыць,
Як усміхаецца Сталін,
Чуўшы прамовы новых,
Створаных ім людзей.
Лісце трапечуць у гаях,
Зоркі трапечуць у небе,
Хвалі трапечуць у рэчках,
Калі устае зара,
Так у людзей трапечуць
Рукі ў апладысментах,
Калі яны ў меджлісе
Чуюць тваё імя.

Быў я жабрак, батрачыў,
Быў чаляднікам, бачыў.
Гаспадара толькі руку
А у майстэрні парог.
Сталін! Ты даў нам радасць,
Радасць і сілу ў рукі,
Радасць і праўду ў сэрца,
Радасць і шчасця шлях.

* Гэта песня запісана ў адной з саматужных арцельных майстэрняў г. Дэрбента (Дагестан). Паводле слоў спевака, яе склаў стары лудзільшчык Муртузалі.

* З матэрыялаў для тома „Народная творчасць“, прысланых у рэдакцыю „Двух пяцігодак“.

*Пераклаў Віт. ВОЛЬСКІ.*

*В. Кудзімаў*

# ГЛІНКА

*Урывак з рамана*

У смаленскім гарадскім садзе імя Серафімовіча стаіць помнік. Нізкарослы чалавек у гарнітуры, якія насілі ў першай палове мінулага стагоддзя, прыўзняў дырыжэрскую палачку. Ледзь схіліўшы на бок галаву, ён нібы ўслухоўваецца ў штосьці. Магчыма, яго чулае вуха ловіць ледзь чутны далёкі гук, магчыма ён прыслухоўваецца да паступова заміраючага шуму глядзельнага зала і вось зараз, у гэтую-ж хвіліну, разгорнецца заслона, узляціць дырыжэрская палачка і аркестр пачне уверцюру... На ліцавым баку помніка надпіс: „Глінку—Расія“.

У гэтым годзе спаўняецца роўна 100 год з моманту пастаноўкі першай рускай оперы „Іван Сусанін“, а ў 1937 годзе—восемдзесяцігоддзе з дня смерці стваральніка яе Міхаіла Іванавіча Глінкі.

У XVIII стагоддзі ў Расіі было некалькі кампазітараў, якія, засвайваючы заходнюю музычную культуру, спрабавалі таксама скарыстаць і рускі народны песенны матэрыял. Гэта Пашкевіч, Мацінскі, Бартнянскі, Фамін, пазней Кацерыно Кавос і А. Н. Берстоўскі. Але ў творчасці гэтых кампазітараў яшчэ не было сапраўды народнага песеннага пачатку, а толькі матывы гарадской, ужо змененай і сапсаванай песні. Для гэтага 20 мая 1804 года ў сяле Новаспаскім, былога Ельнінскага павета Смаленскай губерні, патрэбна было нарадзіцца М. І. Глінку, які і лічыцца па праву заснавальнікам нашай народнай рускай музыкі.*

* Да рэчы, у 70-х гадах мінулага стагоддзя маёнтак Новаспаскае быў прададзен з абстаноўкай ды інвентаром фабрыканту Рыбакову. Апошні разабраў дом і па рацэ Дзесне сплавіў яго ў горад Калугу, дзе пераабсталяваў пад гасцініцу. Дом, у якім нарадзіўся вялікі кампазітар, захаваўся і да нашых дзён. Адзін час у цэнтральным друку ўзнікла пытанне аб перанясенні яго ў Новаспаскае, рэстаўрацыі і адкрыцці ў ім музычнага тэхнікума. Пры наяўнасці плана дома і рысункаў, рэстаўрацыя безумоўна магчыма.

Лепшы тлумач Глінкі, музыкальны крытык Ларош, супастаўляючы Глінку з вялікім рускім паэтам Пушкіным, кажа: „Як Пушкін стварыў рускі верш, так Глінка стварыў рускае голасазнаўства, выяўляючы народнасць не толькі ў агульным духу сваіх тварэнняў, але і ў тэхнічнай пабудове“.

Адсюль мы бачым, што музычная спадчына кампазітара ніколі не ўстарэла і ў нашы дні, з'яўляючыся школай майстэрства для ўсякага музыканта, з'яўляючыся крыніцай велізарнай асалоды для слухача. Толькі опера „Жыццё за цара“ чужая нам, але аб гэтым ніжэй.

Жыццё Глінкі не бліскае знешнім багаццем падзей. У яго жыцці не знойдзем мы нічога гераічнага і незвычайнага, як, скажам, у жыцці вялікага музыканта Ніколо Паганіні. Але будучы жыццёапісальнік яго павінен быць выдатным псіхолагам і ведаць гісторыю, каб здолець адшукаць элементы трагічнага, якія несум-

* * *

Казённая кватэра ў спявацкім корпусе аказалася няўтульнай.

У пярэдняй дзьмуў заўсёды скразняк. Не гледзячы на нядаўны рамонт, падлога ў зале карабацілася, а ў куце, дзе стаяла простакутнае фортэп'яна, завялася нават вільгаць. Пра лесвіцу-ж і казаць не прыходзіцца—там сапраўдашняя брыда: пад нагамі вечна сноўдаюць чыесьці адкормленыя нахабныя каты, тхне кухонным чадам, ад парадных дзвярэй нясе пецербургскім холадам, а швейцар—адстаўны салдат з трымя медалямі на пашарпаным мундзіры—заўсёды падвыпіўшы.

---

ненна ёсць у гэтай фігуры. „Народная песня, вярней сам народ, які жывіў вытокі яго музычнай творчасці, не мог чуць і ацаніць кампазітара. Вялікасвецкае грамадства, у якім адзін час бытаваў ён, не зразумела яго і засталося роўнадушным да гэтай „кучарскай музыкі". „Ён апераджіў сучасную яму публіку і застаўся незразуметым".

На пастаноўцы оперы „Жыццё за цара" вялікасвецкае грамадства апладыравала не музыцы, а сюжэту і велічнаму афармленню, якое вытрымана ў шчыранацыянальных рускіх тонах. Абласкаўлены царом, знаходзячыся ў чадзе сцэнічнага поспеху, Глінка не разумеў гэтага і ў гэтым ёсць немалая доля яго трагізма, як майстра. У 1861 годзе Стасаў у лісце да Балакірава пісаў:

„Ніхто, быць можа, не зрабіў такой ганьбы нашаму народу, як Глінка, выставіўшы пры дапамозе геніяльнай музыкі на вечныя часы рускім героем подлага халопа Сусаніна, вернага як сабака, абмежаванага як сава ці глухі цецярук, і ахвяруючы сабой для ратавання хлапчаняці, якога ратаваць зусім няварта было і якога ён нават, здаецца, і ў вочы не бачыў. Гэта—апатэоза рускай жывёліны маскоўскага тыпу і маскоўскай эпохі... А будзе-ж час, калі ўся Расія стане тым, чаго хацелі калісьці адны лепшыя. Тады і музычнае разуменне ўзнімецца, з прагнасцю прыхінецца тады Расія да Глінкі—і адхіснецца ад твора, у часе стварэння якога ў таленавітую натуру сябры і параднікі—нягоднікі нікалаеўскага часу падлілі сваю подлую атруту".

Нікалаеўскі рэжым душыў усё жывое і светлае, і вось мы бачым, як гэты заўсёды хворы чалавек, не зразуметы нават блізкімі сваякамі, знадворна спакойны, але разам з тым спапяляемы ўнутраным агнём, кідаецца з краіны ў краіну і не знаходзіць спакою. З невялікімі перарывамі 15 год жыў ён у добраахвотным выгнанні; кінута служба пры двары, парваны свецкія сувязі, не ўдалося і асабовае жыццё—яму бліжэй асяроддзе артыстычнай багемы і разам з тым ён адчувае, як спее яго самаўсведамленне мастака. Ён разумее, што неабходна стварыць нешта большае, чым „Жыццё за цара", і стварае „Руслана і Людмілу". Але кампазітара чакае правал, а ва ўмовах пратухлай атмасферы таго часу трэцяй оперы ён стварыць не здольны. Ён уласнаручна знішчае нават першапачатковыя накіды яе.

У сваіх лістах да сваякоў ён скардзіцца, што не можа працаваць у Расіі; яго плявок роднай зямлі пры апошнім ад'ездзе з Пецербурга—красамоўны доказ гэтаму. Хворы мастак, які працуе над стварэннем нацыянальнага мастацтва—адзінокі, ён задыхаецца. І ўсё гэта на фоне жыццёрадаснага гучання геніяльных мелодый, якія часта нават у гадзіны фізічных пакут ён нястомна стварае.

Мы жывем у надзвычайны час, калі краіна наша і ўсе мы перажываем велізарнейшы творчы ўздым. Гэту жыццёрадаснасць і народнасць у творчасці майстра мы павінны ўзяць цалкам і поўнасцю і, як культурную спадчыну, асвоіць іх. Бо не трэба забывацца, што руская музыка аказала ўплыў на развіццё сусветнай, і значэнне Глінкі падкрэсліваецца па-за нацыянальным характарам.

Вышэй я сказаў пра рысы трагічнасці ў вобразе Глінкі як майстра і як чалавека. Я задаўся мэтай выявіць і паказаць гэтыя рысы ў біяграфічным рамане пра жыццё і творчасць кампазітара. Прапануемы ўвазе чытачоў урывак ёсць частка главы, што ахапляе перыяд пасля стварэння першай оперы. Паступова наспяваючы сямейны канфлікт з жонкай блізкі да развязкі; адзінай уцехай служыць для Глінкі „брація"—кампанія Кукольніка, ды канцэрты прыезджых музыкантаў. Набліжаюцца цяжкія дні правалу „Руслана" і Глінку страсна да пакуты хочацца прэч з Расіі.

Ох, як не салодка дома! Які маркотны гэты пануры вялікапосны звон, што прасачваецца праз высокія прадоўжныя вокны з запацелымі шыбамі. Ах, ці вернецца той час, які быў у Новаспаскім? Бывала яшчэ з ранку Мар'я Пятроўна абавязкова прасочыць, каб у час яму падалі кофе і ўлюбёныя грэнкі. У доме толькі пачынаюць прачынацца, а ён ужо ідзе ў зал да свайго вялікага хваёвага стала. Там чакаюць яго: фортэп'яна, вялікая чатырохкутная чарніпьніца, гусіныя пер'і, алоўкі і сшытак нотнай парцітурнай паперы—незвычайна вялікага падоўжнага фармату. У расчыненыя вокны ўрываецца аджыўная свежасць роснага саду, тонкі водыр кветак,—і гукі, гукі раслі тады, нараджаючыся ў гарманічным спалучэнні. Яны кружылі галаву, як пахі кветак, яны ўпісваліся чорнымі знакамі на нотную паперу, і як лёгка было і радасна. Бо тады стваралася першая расійская опера „Іван Сусанін". Вакол былі мілыя сэрцу асобы: матуля, сястра, маладая пяшчотная жонка, было ўсё прызвычаенае, знаёмае з дзяцінства. А цяпер: жонка Мар'я Пятроўна, узняўшыся ў ранні, апранае адзін з мужніх халатаў і, нямытая, нечасаная, у туфлях на босую нагу, з цыбуком у зубах, прахаджваецца па пакоях і лайма лае пакаёвак. На кухні шыпіць цешча. Фортэп'яна месяцы два ўжо не раскрываецца, і лень кранупца, лень устаць і апрануцца, каб ісці на заняткі ў тэатральную школу. Нейкая жудасная хандра аўладала ўсёй істотай. Ах, ці вернецца той час, які быў у Новаспаскім?

Глінка з жалем пакідае нагрэтую пасцель і хлопае ў далоні. На парозе спальні вырастае ахайная фігура камердынера Якуба.

— Апранацца, Яша! І загадай, каб запрэглі сані.

Камердынер мнецца, нібы важачыся нешта сказаць, але пан глядзіць запытальна, пранікліва, і слуга моўчкі знікае. Глінка моршчыцца: зноў з Мар'яй Пятроўнай будзе скандал за коні. Але думку гэту засціць другая, трывожная: божа мой, гэта-ж два дні ўжо, як Кацярына Ермалаеўна хворая, а ён і не зайшоў. Як-жа гэта так? Можа, яна ўжо пры смерці?

У напоўадчыненыя дзверы раптам далятае раздражнены голас жонкі і „самаварападобнае"—як называе ён—шыпенне цешчы. Глінка цяжка ўздыхае і чуе побач такі-ж уздых. Якаў, дапамагаючы пану апранацца, апускае погляд і ўсёй істотай выказвае смутак, непадробны, шчыры. Ен старэйшы за свайго пана і смуткуе, шкадуючы гэтага нервовага, нізкарослага чалавека, а потым-жа Якаў і сам музыкант. Пан разумее гэта і раптам нечакана ласкава:

— Зараз у Берлін-бы, Яша, а?

Якуб пазірае на пана і ціха, як цяжка хвораму, адказвае:

— У Берлін-бы не дрэнна, Міхаіл Іванавіч.

— А то ў Парыж, Яша?

— Ну, у Парыж і зусім-бы не кепска,—згаджаецца слуга і падае хустку. Глінка, нахмурыўшыся, выходзіць са спальні і, падышоўшы да дзвярэй сталовай, яшчэ больш хмурыцца—зараз сустрэча з „панямі". А за акном па-ранейшаму нудны, вялікапосны звон.

* * *

Не дапіўшы шклянку, ён нездаволена адсоўвае прастыўшае кофе. Прыдзецца зноў пачаць гэту непрыемную размову. Летам пaў адзін конь з чацвёркі выяздных і больш разумна трымаць пару. Ен узнімае на жонку бледны твар і ціхім, але цвёрдым голасам абвяшчае пра сваё рашэнне. Але, відаць, у Мар'ю Пятроўну сёння ўсяліўся бес. Яна падскочыла ўраз і, прытопнуўшы нагою, падбачэнілася:

— Хіба я купчыха, каб ездзіць на пары? Калі вы мяне не кахаеце, дык я вас пакіну!

Нервова шчыпануўшы бахраму абруса, ён коратка адказаў:

— Мар'я Пятроўна, не паўтарайце слоў вашых,—вы мяне пакінеце, справа для мяне абыйдзецца, а калі-б я вас пакінуў, дык-бы не зусім вам было ёмка...

Жонка нечакана ўсхліпнула, а цешча яшчэ мацней зашыпела, крыўляючы рускія словы—чорт яе ведае і не разабраць ужо, бо гнеў пачынае сціскаць грудзі і хочацца, ах, як да болю хочацца рвянуць са стала абрус, каб паляцелі са звонам на падлогу ўсе талерачкі, вазачкі, хлопнуць дзвярамі і бегчы з гэтага пекла куды вочы глядзяць. Але не. Ен чынна ўстае з-за стала і, захоўваючы глыбокае маўчанне, пачынае мерна, узад і ўперад, хадзіць па пакоі. На кожным павароце ён, абапіраючыся на правую нагу, дбайна абрысоўвае наском левай поўкруг, што невыказна ўзрушае цешчу, але з-за чаго яна хутка змаўкае. Іменна ў гэту хвіліну ён заўсёды падыходзіць да яе і, напоўсхіліўшыся, ветліва пытаецца па-нямецку:

— Вы ўсё сказалі, мадам?

І, нібы чакаючы гэтага запытання, цешча зноў упадае ў шаленства і шыпіць, як раз'ятраная гусыня, а ён знарок павольна ўсцягвае пальчаткі, бярэ капялюш і, пачціва раскланяўшыся з дамамі, выходзіць у пярэднюю. „Ну, цяпер дні тры і воч не пакажу сюды“,—рашае ён і, убачыўшы вернага Якова, ціха просіць:

— Яша, пакліч возніка, дружа!

Дапамагаючы апрануць шынель, Якуб крадкам выцірае слязу і стрымгалоў ляціць па лесвіцы паперадзе пана, каб гукнуць на рагу знаёмага „Ваньку“. На вуліцы ён дапамагае Глінку ўсесціся ў пашарпаныя сані і ідзе на гору, у зал, каб любоўна змахнуць пыл з фортэп'яна і парцітуры, што пакінута сіратліва ляжаць на стале.

Конь паволі затрусіў, і сані нырнулі ва ўхаб на рагу завулка. Са валавянага пецербургскага неба сыплюцца нейкія дробныя, мокрыя снегавыя крупы. Гледзячы ў панура сагнутую спіну возніка, Глінка згорбіўся і схаваўся з галавой у каўнер шынеля. Ен і сядзеў так, не мяняючы стану, да самага цэнтра. Калі-ж сані павярнулі на Неўскі, недалёка ад крамы Смірдзіна, ён убачыў згорбленую постаць Кукольніка. Той, відаць, таксама заўважыў яго і прывітальна махнуў рукой. Калі вознік спыніўся, Кукольнік падбег да саней. Левай рукой ён прыціскаў да грудзей вязанку кніг, а з абодвух кішэняў шубы тырчэлі аркушы карэктур. Мілы

конепадобны твар яго расплыўся ад усмешкі, а вочы з хітрынкай блізарука шчурыліся паверх запацелых акуляраў.

— Дружа Міхаська, прыязджае Ліпінскі. Ты разумееш,—„татуля“ Ліпінскі?

— Я чуў учора ў Гедыонавых, Несцер.

— Вось да нас-бы яго, Міхаська, а? Глінка высунуў галаву з каўняра шынеля і ажыў:

— Уяві, я толькі падумаў пра гэта. Дык даручы Платону.

— Абавязкова, сёння-ж даручу.

— Толькі з Кнехтам—у канцэртах я чуў яго, гэта не тое, а ў цеснай кампаніі...

— Так, так. Ты што-ж, дружа любы, не вясёлы? Крый бог, зноў ці не захварэў?—Глінка памаўчаў і горкотна ўсміхнуўся.

— Ах, разумею, зноў Мар'я Пятроўна?

Цыліндр зноў схаваўся ў каўнер, і толькі рэзкі ўзмах рукі— і нельга было зразумець, ці гэта знак развітання, ці загаданне возніку ехаць. Сані нырнулі ва ўхаб і толькі застаўся ціхі голас:

— Увечары буду, Несцер. Месца маё на канапе, на тры дні абаніраю.

* * *

А бываюць-жа і рэдкія прасветы сярод цмяных жыццёвых будняў. Вось, напрыклад, два дні таму назад. Уласна, вечар гэты ў Гедыонава і перашкодзіў наведаць Кацюшу. Але затое што за здавальненне для сэрца, як весела і поўнацэнна праляцеў гэты вечар!

У багата прыбраных пакоях шмат гасцей, сярод іх нямала артыстаў: Алоны, Брэсан, Верне, Голанд, Леонаў, Пятрова і іншыя. Вось натоўп рассоўваецца, і ён ідзе сур'ёзны, без найменшай усмешкі, да раяля і за руку вядзе Пятрову. Ён маленькі, бледнасмуглявы, з задуменным тварам, атуленым вузкімі чорнымі, як смала, бакенбардамі, чынна ідзе праз натоўп у чорным, зашпіленым даверху, фраку і белых пальчатках.

Не збалованы ўвагай, многімі незразуметы, адзінокі, хворы і фізічна і маральна, ён адчуў сэрцам, што сёння яго вечар. Сціхлі размовы, погляды ўсіх накіраваліся на яго і на Пятрову. І як толькі дакрануўся ён да клавішаў і загучала цудоўнае кантральта спявачкі, настала мёртвая цішыня. У плаўнай, цягучай мелодыі чуліся: і італьянская пяшчота, і млявасць, і штосьці тужлівае, чыста славянскае, і было штосьці такое, што не выкажаш простымі словамі. У гэты вечар раманс „Сумненне“ гучаў неяк па-іншаму. Другім нумарам артыстка праспявала яго-ж „Калыханку“. Глінка, як ніколі, быў задаволены і сваёй музыкай і майстэрскім яе выкананнем. Пазней, пасля некалькіх бакалаў шампанскага (чым заўсёды яго частавалі ў антрактах), пасля танцаў, у якіх удзельнічаў і ён, пад гукі свайго паланеза з оперы „Жыццё за цара“, дамы абкружылі яго і папрасілі праспяваць. Ён спрабаваў адмовіцца, але цесны, бліскучы натоўп замкнуў яго ў сваё кола, і, неўпрыметна, ён апынуўся ля раяля. Ад выпітага шампанскага

крыху кружылася галава, але разумныя вочы блішчэлі яркім агнём. Ён усміхаўся і жартаваў, яму было надзвычай лёгка і радасна, і ўсе гэтыя людзі здаваліся такімі прыгожымі і мілымі, такімі дасціпнымі, што сэрца яго рвалася насустрач іх жаданняў. Ен запеў свой улюбёны раманс „Не называй яе нябёснай“. Праўда, на адзіны момант прад яго духоўным поглядам прадстала тая, да каго імкнуўся ён увесь дзень, але так і не трапіў у сумятні сталічнага жыцця. Але ці не да яе ён у думцы звяртаўся ў той момант?

Яго тэнар, не асабліва высокі, не асабліва прыгожага тэмбра, але чыста грудны, гучны, надзвычайна гнуткі ва ўсім рэгістры, здавалася, быў створан для страснага драматычнага выяўлення. Так яно і было. Не ведаў-жа гэты бліскучы натоўп, што было ў той момант у яго на душы:

С ней мир другой, но мир прелестный...
С ней гаснет вера в лучший край...
Не называй ее небесной
И у земли не отнимай!..
Вглядись в пронзительные очи:
Не небом светятся они:
В них есть неправедные ночи,
В них есть мучительные дни.

Так, гэта быў вельмі ўдалы вечар, які не паўторыцца.

Глінка ачнуўся. Сані спыніліся ля тэатральнага вучылішча. Заплаціўшы возніку, ён стуліўся і ўвайшоў у пад‘езд. Ён нават не заўважыў глыбокага паклона швейцара, які зняў з яго шынель. Глінка спяшаўся на ўрок, які вёў ён па просьбе Гедыонава з чатырмя вучаніцамі. Гэтыя напоўдзеці, напоўкакеткі, усе надзвычай прыгожанькія, чакалі яго ў зале. Урок пачаўся, як заўсёды, проста і весела. З гэтымі было лёгка—усе яны паважалі маэстра. У асаблівасці-ж Караліна (Ліначка, як у думцы ён называў яе). Яна была не такая прыгожая, як іншыя, але менавіта яна хвалявала паэтычныя пачуцці ў душы яго. Гэта яе жвавая балбатня, гучны, шчыры смех, прастата скромнага ўбрання, якому яна так умела надавала асаблівую чароўнасць,—вабілі яго. Усё гэта было нова, захапляюча, а ў асаблівасці тое, што, як толькі з‘яўляўся ён на ўроку, яркі румянец успыхваў на яе свежых дзявочых шчоках; ды і апранацца яна пачала лепш за другіх, і прычоску неяк міла змяніла па-іншаму. Хто ведае, можа іменна жадаючы спадабацца? У гэты цяжкі дзень яму асабліва было прыемна пабачыць Ліначку і ў канцы ўрока ён нават крыху спяваў. Хандра амаль пакінула яго, бо спяваў ён самы ўдалы свой юнацкі раманс „Не спакушай“, і дуэтам спявала Ліначка. У дзвярах згрудзіліся малагоднія дзяўчынкі, выхаванніцы малодшых класаў. Яны прагна слухалі яго і непадробнае захапленне застыла на дзіцячых тварыках. А, калі пасля ўрока ішоў ён па калідоры да выйсця, гэтыя мілыя малюткі забягалі наперад і, пацешна робячы кніксен, казалі:

— Дзень добры, мусье Глінка!

Таго-ж дня і ў дырэкцыі таксама яму паведамілі прыемную

навіну. Было амаль дапраўды вядома, што гасудар-імператар намерваецца пасляць яго ў Маларосію для вярбоўкі спевакоў у прыдворную спявацкую капелу.

Ах, гэты добры і вялікадушны манарх! Як здагадліва, аднак, паступіў Глінка, прысвяціўшы яму оперу „Жыццё за цара“. Нездарма-ж аб гэтым было выказана жаданне „вышэйшых сфер“. А як тады за кулісамі гасудар падышоў да яго і міласціва гутарыў. Божа, як ён збянтэжыўся, якое было прыемнае замяшанне! Ён не мог нічога адказаць і толькі пачціва кланяўся...

Глінка сышоў уніз і апрануўся. Цяжкія дзверы за ім ужо зачыніліся, калі ён успомніў, што нічога не даў швейцару. Зноў гэта непрыемная забыўчывасць. Ён хацеў ужо гукнуць праязджаўшага міма возніка, але, спусціўшы руку ў кішэню, з жахам успомніў, што няма ні граша. Бог мой, няўжо давядзецца цягнуцца пехатой да Фанарнага завулка, да Кукольніка? Аднак, як непрыемна безграшоўе. А, здаецца, чаго-б лепш—дзесяць тысяч у год прысылае маці (хоць і піша яна, што сёлета зноў недарод у Новаспаскім), ды пенсія. А дзе яна? Два месяцы ён не атрымліваў гэтай пенсіі і напамінаць няёмка. А тут штотыднёвыя рауты, адчынены дом, прыслуга, уласны выезд. Не, памыліўся ён, ой, як памыліўся, ажаніўшыся на Мар'і Пятроўне.

Бедны Глінка! Чакаеш ты міласцей абажаемага манарха, каб паслалі ў службовую камандыроўку, а пакуль што бяздомны пляцешся пехатой у Фанарны завулак, да Кукольніка, каб з гора выпіць.

Ды лёсу, відаць, было да спадобы дагаджаць сёння Глінку. Нягледзячы на тое, што валавяна-цёмны пецербургскі надвячорак спускаўся ўжо на змену шэранькаму дню, не гледзячы на тое, што падала неўявімай велічыні хлоп'е мокрага снегу—удача пільнавала Глінку тут-жа, на павароце ў наступную вуліцу. Толькі ён вышаў на асветлены Неўскі, як убачыў Кукольніка, што сядаў у возніцкія сані.

— Несцер, галубчык, падвязі!

— Ах, Мішанька, а я, уяві, еду цябе шукаць. „Татуля“ Ліпінскі выступае ў нас, хутчэй едзем.

Глінка ледзь не заплакаў з радасці—такой прыемнай была яму ўвага сяброў, якія наладзілі гэты канцэрт славутага скрыпача.

— Душа мая, як я хочу есці і выпіць бакал шампанскага.

— Усё будзе, Мішанька, усё будзе. Платон паклапаціўся. Я урваў у Плюшара такія-сякія грошы.

— А ведаеш, Несцер, гасудар, здаецца, пашле мяне ў Маларосію набіраць спевакоў.

— Ды што ты? Ну віншую, брат, ад душы віншую. Ах, ды пашоў, фурман! Паганяй, браток—на гарэлку заробіш.

Палазы саней прарэзліва скавытнулі, і абодвы яны засмяяліся, падтрымліваючы адзін другога ад нечаканага рыўка. Праз снегавую заслону ярка бліснулі плямы вулічных ліхтароў. Нібы само жыццё імчалася насустрач, альбо радасць сёнешняга вечара вабіла да сябе стомленага Глінку.

* * *

Кватэра ў доме Мерца ў Фанарным завулку быда невялікая— тры пакоі. У адным з іх платон Кукольнік загадаў разабраць сцяну, што аддзяляла зал ад цёмнага пакоя. Апошні ўтварыў нешта падобнае да алькова. Там зрабілі шырокую канапу з кляёнкі і прадоўжылі яе ўсцяж адной са сцен зала. Кватэра на мове насельнікаў называлася „камітэт“. На канапе мелі сталы прытулак для спачывання: Несцер Кукольнік, Глінка, рыцар Кока (Неміровіч-Данчэнка, сваяк Кукольнікаў) і рыцар Боба (Багаеў). Апрача іх былі заўсёдныя наведнікі, якія заходзілі „на аганёк“: Карл Брулаў, Лодзі і шмат іншых. Калі-ні-калі заходзілі артысты—Пятроў і Каратыгін. Для ўсіх знаходзілася месца, дзе можна было прыхіліць галаву. Позна, за поўнач кіпела тут жвавая сяброўская гутарка. Спрэчкі, спевы змяняліся музычнай імправізацыяй і наадварот. Жарты саступалі месца літаратурнаму чытанню. Суму тут не было месца. Плёткі і сваркі былі незнаёмы насельнікам „камітэта“. Вось таму ад „сямейнага ачага“, ад велікасвецкіх салонаў, ад душэўнай хандры і трывогі і рваўся сюды Глінка. Тут любілі і разумелі яго, тут былі сапраўдныя сябры—непадкупныя, некрывадушныя. Праўда, у пецербургскіх салонах мянцілі пра ўсякае. Пляткар Фадзей Булгарын распускаў розныя чуткі пра непатрэбствы „брацii“. На нудных раутах у Мар'і Пятроўны старыя княгіні і розныя барыні пырхалі і паводзілі плячамі, але што за справа да ўсяго гэтага?

Калі Глінка і Кукольнік прыехалі, усе ўжо былі ў зборы. Староннiх у той вечар не было нікога, а толькі свае. Чакалі гасцей: „татулю“ Ліпінскага і партнёра яго, віяланчэліста Кнехта.

Усе сядзелі за вялікім круглым сталом, які быў устаўлены нямудрымі, але спажыўнымі стравамі і вінамі. Як „галадаючаму пабрацiму“ Глінку далі „замарыць чарвяка“ і паднеслі бакал улюбёнага шампанскага. Ад яды і віна ён ажыў, пачырванеў і заўсёдную хмурнасць яго і панурасць як рукою зняло. Артыст Пятроў падсеў да яго на канапу і толькі пачалі яны размаўляць пра нейкі раманс Глінкі, як прыехаў Ліпінскі і Кнехт. Іх сустрэлі апладысментамі і ўзнёслымі воклічамі. Ім дапамагалі распранудца, скрыпку і віяланчэль сцеражліва прынялі і аднеслі на раяль. Старыкоў пасадзілі за стол і напярэймы пачалі частаваць, а тыя, уласкаўленыя і расчуленыя цёплым прыёмам моладзі, вельмі бянтэжыліся. Пасля пачастунку пачаўся канцэрт.

У той вечар час для ўсіх, у асаблівасці для Глінкі, ляцеў неўзаметку. Здавалася, славуты скрыпач—супернік Паганіні—задаўся мэтай перавысіць сябе самога. За ўсё яго доўгае артыстычнае жыццё яму не даводзілася бачыць такога захаплення, чуць такіх апладысментаў, і старык быў расчулены. Ён у хваляванні апусціў скрыпку і, пакланіўшыся, абвясціў ламанай рускай мовай, што сыграе зараз канцэрт Бетховена. Гэта быў апафеоз, самы вышэйшы пункт напружання для Глінкі у той вечар.

Скрыжаваўшы рукі на грудзях, ён сядзеў на канапе, схіліўшы бледны твар свой, і буйныя слёзы адна за другой каціліся з вачэй. Гэтыя слёзы ўзрушання ад незвычайнай ігры чараўніка Ліпінскага, якія салодкія, якія чыстыя яны для таго, у чыёй уласнай музыцы

і захапляючых песнях жыве невычэрпная радасць быцця. Заўзятая „брацiя“ сядзела, апусцiўшы галовы—крадкам выцiраючы слёзы. Але цi-ж саромецца было ўдзячных слёз гэтых Глiнку? Як толькi зацiхнуў апошнi акорд, ён iмклiва падскочыў з канапы i, падбегшы да музыканта, стаў бурна абнiмаць i цалаваць старыка.

— Божа мой, як добра мне!—шапталi ягоныя вусны.—Больш не трэба, прашу вас, не трэба зараз! Ён бярэжлiва прыняў з рук Лiпiнскага скрыпку i пацалаваў дэку, а потым, прыцiскаючы скрыпку да грудзей, аднёс на раяль. Дзiкае захапленне i неўцямная радасць апанавала ўсiх. Падалi вячэру. Усе пiлi за здароўе старыка i знатна адкалолi „многiя леты“. Данчэнка агалашаў за дзьякана.

А калi бутэлька шампанскага аглушальна стрэлiла ў столь i вiно заiскрылася ў бакалах, калi ўсталi ўсе, узняўшы высока бакалы, Данчэнка i Платон Кукольнiк падхапiлi старыка на рукi i ў трыумфе панеслi вакол стала. Глiнка сеў за раяль i зайграў урачысты марш. Але фiнал быў яшчэ больш блiскучы. Старыка выйшлi праводзiць на лесвiцу ўсе. Шумным натоўпам рушылi яны па цёмнаму калiдору з запаленымi кандэлябрамi. Скрыпку Лапiнскага неслi наперадзе на атласнай падушцы, за ёй следвала вiяланчэль Кнехта на плячах Лодзiя i Харытонава. Зусiм п‘яны Кнехт раз-поразу мармытаў:

— Абэр дзiзэ руссэн! Абэр зо айн энтузiязмус...

Было чатыры гадзiны ранiцы. Але не адчуваючы стомы, узрушаны да глыбiнi душы, Глiнка яшчэ не мог заснуць, лежачы на кляёнчастай канапе. У памяцi яго жылi, гучэлi генiяльныя бетховенскiя мелодыi. А быццё, агучанае iмi, здавалася цудоўным i радасным, як нiколi. Радасць, поўная нястрымная радасць аўладала ў той вечар сэрцам яго. I з гэтай радасцю не страшна было памерцi. Але цi надоўга прыемнае гэта пачуццё? Можа быць, да першага скандала з Мар‘яй Пятроўнай, але хутчэй за ўсё да таго жаданага моманту, калi ад матулi ён атрымае грошы i сядзе ў каляску. Хто ведае? Але пройдзе яшчэ два цяжкiх жудасных гады.

* * *

Ад Смаленска да Варшавы ехалi на паштовых. Уласная каляска была куплена яшчэ ў 1840 годзе, але паездка тады не ўдалася. Можа быць, што перашкодзiла? I не i так. Божа мой, як хацелася тады паехаць, як патрэбна было iменна тады, тады паехаць. Былi атрыманы i грошы з Новаспаскага, закончаны ўсе падрыхтаваннi, але... магчыма ў глыбiнi душы, у таямнiцах яго сэрца была надзея? Хутчэй за ўсё, што так. Другi раз ён бяжыць ад гэтых панурых палёў, ад гэтых пералескаў i бярозавых гаёў, але зноў i зноў незразумелая туга будзе гнаць яго няўмольна назад.

... Расiя... Радзiма... Пецербург... Новаспаскае... Дзе вы, мiлыя сэрцу твары сяброў i сваякоў? Бывайце, бывайце ўсе...

Цi можна праклiнаючы любiць, што хвалюе думы i сэрца?

Ах, цi не ўсё роўна! мiма, мiма... Вочы засцяць слёзы, горкiя думкi зноў i зноў узнiкаюць, як надакучлiвыя матыў. Цяпер ужо не хутка, можа быць, нiколi ён не вернецца сюды. Неразумна

зрабіў ён, што не паехаў тады, яшчэ ў саракавым годзе. Па-сапраўднаму гэта трэба было зрабіць пасля прэм'еры „Руслана“. Якраз у пятым акце, калі паехала імпэратарская радня. Вось гэта быў-бы нумар...

Глінка адхінуўся на сядзенне каляскі і засмяяўся. Высока ў сонечным небе заліваўся жаўранак, паўз дарогу мільгалі палеткі шчуплага жыта з безліччу васількоў. Была цяплынь і рабілася лягчэй на сэрцы.

... А ён, дурніца, замест ад'езду, застаўся да канца, і калі спусцілі заслону, калі раздаліся нядружныя апладысменты і пахаплівае шыканне (будзь пракляты гэты вечар і час), ён звярнуўся да быўшага ў дырэктарскай ложы генерала Дубельта:

— Здаецца, што шыкаюць; ці ісці мне на выклік?

— Ідзі,—адказаў генерал,—хрыстос пакутваў больш за цябе.

Хаваючы крыўду, яны з матуляй ласкава прынялі нямногіх сяброў, што прыехалі вячэраць, тыя ў меру пахвалілі оперу, матуля за працу падаравала яму сталовага срэбра на 12 кувертаў— і ўсё. Амаль паўнейшае забыццё, поўнае роўнадушша—калі не лічыць злосных артыкулаў Булгарына ды французскага сказу графа Вельегорскага: „Гэта няўдалая опера“. І як фінал—заява Лісту вялікага князя Міхаіла Паўлавіча: „Замест таго, каб пасылаць маіх афіцэраў пад арышт на гаўптвахту, я іх пасылаю на оперу Глінкі“. Праведны божа, за што гэта ганьба, за што? І нашто князь Шахаўскі падаў тады думку пра гэты сюжэт?

Вядома, непараўнана лепш было-б, калі-б смерць Пушкіна не перашкодзіла скласці план па яго ўказанню. А то нейкі паэт і драматург трэцяга рангу Бахтурын „намахаў“ за чверць гадзіны ўвесь план і прытым пад п'яную руку. А тут развод з Мар'яй Пятроўнай, выхад з прыдворнай спявацкай капелы, хвароба, няшчаснае каханне да Кацярыны Ермалаеўны... Што-ж яшчэ, што? І нічога, і ўсё. Толькі роўная пыльная дарога сярод бедных смаленскіх палёў, ды ківаючыя на развітанне блакітныя васількі.

— Стой, фурман! Ці далёка станцыя?

— Хуценька, мілы пане, бадай, вярстоў дзесяць з гакам.

— Ну, калі так, спыні коней, я нарву васількоў.

І нічога-ж нічагусенькі адзаду, апрача п'янай бязладнай кампаніі Кукольнікаў, вялікапоснага звону, пецербургскіх туманаў, „кісласалодкіх“ усмешак знаёмых ды бясконцых хвароб.

— Паганяй, фурман, паганяй хутчэй, браток, спознімся ў Парыж!

— Слухаю, пане.

І зноў успаміны—горкія, як сама ростань. Што-ж рабіць у дальняй дарозе, як не ўспамінаць? Хтосьці сказаў, што „успаміны— адзіны рай, з якога нас не прагоняць“, але што з таго? Ці не падобны гэтыя ўцёкі на выгнанне? Ах, ці не ўсё роўна.

— Паганяй, фурман, паганяй!..

*Пераклаў*
*з рускае мовы* Р. Л.

*Еф. Са доўск*

# УСТОЙЛІВАСЦЬ

Жнівеньскім ранкам, калі ў горадзе ўжо даўно пачаўся грымаючы грузавікамі і трамваямі шумны дзень, у 24-месцавы аўтобус з шырокімі дзвярамі і сядзеннямі, абабітымі саф'янавай скурай, увайшоў пасажыр сярэдніх год у гарнітуры замежнага пакрою. У адной руцэ ён трымаў чамадан, а цераз другую было перакінута пальто.

Аўтобус быў поўны, і новы пасажыр доўга аглядаўся па баках, пакуль, нарэшце, адшукаў сабе вольнае месца ля акна са спушчаным шклом. Паставіўшы чамадан і павесіўшы на кручок пальто, ён стаў чакаць адпраўлення машыны.

Аўтобус быў пастаўлен на лінію нядаўна, як і сама лінія, што злучала цэнтр з невялікім мястэчкам, далёка закінутым ад чыгункі, была адкрыта не больш года назад. Людзі, якія карысталіся гэтай лініяй, добра ведалі адзін аднаго ў твар і з'яўленне незнаёмага мімаволі прыцягнула іхную ўвагу.

Засталося 20 хвілін да адпраўкі аўтобуса і шофер, каржакаваты мужчына з густымі рыжаватымі вейкамі, выконваючы адначасова абавязкі кандуктара, абыходзячы пасажыраў, стаў перадаваць ім білеты.

Шофер быў з таго-ж мястэчка, куды ехала большасць пасажыраў. Усе ведалі яго і, атрымоўваючы білеты, перакідваліся з ім жартамі, смяяліся:

— Мендэле, як сёння,—на пяць хвілін пазней, ці на пяць хвілін раней?

— У тэрмін, таварышы, секунда ў секундачку.

— Прашу без рэшты, 6 рублёў 28 капеек, без рэшты...

У старыя часы ў Мендэля Дрэйцэра не было прозвішча і нават на імя ніхто не называў яго.

— А, Бяздзельнік! Бяздзельнік, у цябе яшчэ не адваліліся рукі?.. Глядзіце, глядзіце—Бяздзельнік не лянуецца галаву пачухаць...

Мянушку прыляпіў уласнік свечкавай фабрыкі Борух-Гірша Іцковіч. Мендэль працаваў у яго. Працаваў, як вол. Ад зары да зары... Фармаваў свечкі, набіваў кнаты, сартаваў гатовы тавар. Раз'язджаў па гарадах і быў камвіваяжэрам, а меў капейкі, грашы. На яго ўтрыманні была маці—сляпая Рэйзеле. Працуючы па 20 гадзін у суткі, ён не мог сабраць ёй грошы, каб купіць хусту.

... Аднаго разу Мендэль забаставаў. Забаставаў ён па-свойму—же вышаў на працу дзень, другі. Іцковіч пасылае аднаго за другім трох пасланцоў. Мендэль сустрэў гасцей на парозе.

— Чаму ты не ідзеш на працу?

— Перадайце, што за яго „балячкі" нават карабка сярнічак не купіш, не то што хусту маёй маме.

— Дык ты не прыдзеш на працу, Мендэле?—здзіўляліся пасланцы:—Што-ж ты, скажы нам, будзеш рабіць?

— Што? Вось мае рукі, бачыце?—ён выставіў далоні:—Да працы ім не прывыкаць. Да пабачэння!

На другі дзень была субота і важны фабрыкант Борух-Гірша Іцковіч скарыстаў сінагогу, каб закляйміць Мендэля прыліпчывым словам—бяздзельнік. З таго і пайшло... Бяздзельнік, у якога мазалі на руках, нібы пухліны... А вы пакажыце вашы рукі, пане Іцковіч! Ад-жа, што размаўляць з ценем.

Шофер абыйшоў усіх пасажыраў і, нарэшце, спыніўся прад чужаземцам:

— Прашу білет, шэсць рублёў 28 капеек—прамовіў ён спачатку па-руску, а потым чамусьці паўтарыў гэта-ж па-яўрэйску.

На дзіва, незнаёмы таксама загаварыў па-руску:

— Калі ласка,—адказаў ён, прычым па вымаўленню адчувалася, што ён гаворыць гэтыя словы з вялікім напружаннем, бязлітасна, да смешнага блытаючы націскі. Потым, адразу-ж перайшоўшы на яўрэйскую мову, ён перапытаў:

— Колькі вы сказалі—6 рублёў 28 капеек? Прашу вас, вазьміце...

Шофер хацеў ужо быў ісці, як раптам незнаёмы азадачыў яго пытаннем:

— Я вас, сябра, ледзь-ледзь прыпамінаю. Скажыце, а вы мяне зусім не памятаеце?

У Мендэля ад напружання надзьмуўся твар, нібы яму трэба было затармазіць машыну на крутым спуску. Ён бездапаможна развёў рукамі:

— Хоць забі, не памятаю...

— Мендэле-бяздзельнік,—сказаў незнаёмы, узнімаючыся з месца і працягваючы яму руку.

— О, вы, відаць, наш забалоценскі,—радасна прамовіў Мендэль, усё яшчэ не здагадваючыся, хто з ім гаворыць.

— Стойце, стойце,—гэта-ж Фішкін, сын каваля,—умяшалася Двойра—птушніца, якая гасцявала месяц у сына ў горадзе і вярталася зараз дадому.

Мендэль хлопнуў сябе па ілбу:

— Вось чорт,—вядома Фішкін!—і шофер з усіх сіл стаў трэсці яго руку.

Пасажыры ўзняліся са сваіх месцаў і шчыльным колам абступілі госця.

Да чужаземца пацягнуліся дзесяткі рук.

Старая Двойра ніколі не памылілася. Гэта быў сапраўды сын каваля. Яна толькі не ведала, што па-новаму завуць яго не, як раней, Арон Фішкін, а Анры Фіш... Людзі, пра якіх ён ужо даўно

забыўся альбо якіх зусім не ведаў, віталіся з ім зараз так, нібы яны расталіся месяц ці, самае большае, два назад.

Старая Двойра падсядае бліжэй да гасця і краем хусткі выцірае слёзы, што заблішчэлі на вачах. У яе там за акіянам, сын— худзенькі Велвеле. Яшчэ падлеткам галеча адарвала яго ад дома і маці.

Фіш заўважае слёзы і супакойвае старую:

— Не трэба, не трэба, я бачыў вашага сына, я вязу вам ліст.

Ужо даўно час адправіць машыну, але пасажыры нікольні не выказваюць свайго нецярпення. Нарэшце, шофер ідзе ў сваю кабінку.

— Арон,—кажа ён, звяртаючыся да Фіша,—запрашаю да сябе. Чорт пабяры,—сын закройшчыка хоча пагутарыць з сынам каваля! Столькі зім, столькі лет...

— Дзякую,—адказвае Фіш, ёмка ўладжваючыся на мяккім сядзенні,—я з ахвотай прымаю тваё запрашэнне.

Старая Двойра не зводзіць вачэй з гасця. Яна нібы застыгла ў адной позе. Хвілінамі ёй здаецца, што гэта яе Велвеле такі вялікі і непазнаваемы. Яны паехалі за акіян амаль у адну пару. Арон на месяц ці на два пазней.. Слёзы не перастаюць цячы па маршчакаватаму твару старой. Фіш бярэ яе за руку і заспакойвае:

— Памятаеце, як вы марылі пра заакіянскае шчасце... Велвеле прыедзе, ён вам раскажа, ці ўзвышаюцца там залатыя горы да воблакаў, ці не, а пакуль кіньце плакаць. Кіньце, слёзы тут зусім не да рэчы... Старая насміхаецца і краем каляровай хусты зноў выцірае вільготныя вочы.

З тае хвіліны, як Фіш пазнаў аднасельцаў і загаварыў з імі, у яго ад хвалявання ўчашчона закалацілася сэрца. Адно пытанне мучыць яго. Баючыся задаць яго, ён прагна шукае ў позірках немага адказу. Яму здаецца, што на яго глядзяць шкадуючы, што ў той па-сяброўску цёплай сустрэчы, якая была некалькі хвілін назад аказана яму, ёсць нейкае незахоўваемае спачуванне.

Нарэшце, ён адважваецца задаць трывожачае пытанне, але ў якімсьці ўнутраным страху зноў адкладвае яго.

Тры гады назад ён атрымаў апошні ліст ад бацькі... Яго здзіўляла тое, што стары каваль на сконе год навучыўся так спрытна выкладаць свае думкі. Ён насіўся з гэтым лістом, як са свяшчэннай рэліквіяй, і ледзь не вывучыў яго напамяць.

— Глядзі, Велвеле, хіба ў гэтым лісце можна пазнаць майго Ошэра,—казаў ён свайму сябру.

І раптам перапіска перарвалася...

Спачатку Фіш цярпліва чакаў. Ён быў беспрацоўным, жыццё яго шкандыбала цягучым злым днём, поўным безуважнасці да ўсяго. Не было лішняга пэнса на марку. Але аднаго разу, калі яму трапілася невялікая работа, ён урваў са свайго мізернага заработку на ліст і паслаў яго бацьку. Адказу не было. Яму здалося, што бацька апынуўся ў ягоным-жа становішчы і яму зараз таксама не да перапіскі з сынам. Так прайшоў першы год, другі, трэці... Ці жывы яго Ошэр? Зараз, калі засталіся лічаныя гадзіны да прыезду ў мястэчка, у яго займае дух ад хвалявання, стыне сэрца і ён адчувае сябе бяссільным спытацца пра бацьку.

Мендэль Дрэйцер, адзін з сямі шофераў мястэчка Забалотнае стараецца сёння, нібы яму даводзіцца трымаць экзамен перад вялікімі людзьмі. Ён вядзе машыну без найменшых штуршкоў і яна птушкай ляціць па гладкай, нядаўна забрукаванай дарозе.

Фіш не адрываецца ад акна. Родныя мясціны навейваюць успаміны пра дзяцінства...

Аднаго разу, недзе ў гэтых мясцінах, у восеньскай гразі загруз па калені конь Хаіма-балагола. Арону было неяк год каля дзесяці, ён з цёткай Златай упершыню ехаў у горад.

... Горад здаваўся сном і ён, палахліва азіраючыся па баках, шукаў першыя цудоўныя адзнакі яго. Хаім балагол, худзенькі яўрэй, ростам з хлапчука, у даўгой карычневай світцы, падперазанай папругай, разгублена скочыў з вазка, трапіў адной нагой у гразь і, сціраючы пырскі яе, што патрапілі ў твар, адпрог вазок. Спачатку ён стаў пяшчотнымі словамі ўгаварваць каня крануцца з месца:

— Н-но, мой карміле, н-но, стары...

Гразь усё далей засмоктвала каня, і перапалоханы балагол некалькі разоў задаў яму пугаўём па кастлявых баках.

Конь уздрыгнуў ад болю, страціў устойлівасць, заваліўся ў ліпкую гразь і стаў тануць. Усё гэта адбылося на працягу некалькіх секунд. Няшчасны вознік, які ў гэтыя хвіліны гора яшчэ больш палізарнеў, з адубянелым ад жаху тварам глядзеў, як гразь закрывала разадзьмутыя бакі яго каня, нарэшце не вытрымаў і сам—паваліўся на зямлю ў істэрычных рыданнях.

Мінула шмат год з таго дня, але ў памяці Фіша яшчэ жыве гэта сцэна з першай паездкі ў губернскі горад.

— Арон Ошэравіч, аб чым вы задумаліся?

— Прабачайце, Двойра Давідаўна, мне ўзыйшло на памяць здарэнне з канём Хаіма-балагола, што патануў недзе ў гэтых мясцінах... Скажыце, ён сам яшчэ жыве?

— Не, светлая памяць гэтаму пакутніку. Мы яго пахавалі з дзесятак ці нават больш год назад. А сына яго Іцыка вы не памятаеце?

— Цьмяна. Ён быў зусім дзіцё, калі я ад'язджаў.

— Іцык у абласным цэнтры—гарадскі інжынер. Ён абяцае правесці каналізацыю ў Забалотным... Падумайце, каналізацыю на нашых балотах. Ужо прывезлі першыя трубы. Часамі мне хочацца спытаць самую сябе: Двойра, ці разумееш ты, да чаго дажыла?

Фіш не зводзіць вачэй са старой. У тыя хвіліны, калі яна гаворыць, стары маршчакаваты яе твар неяк маладзее.

На птушніцы чорная шаўковая сукенка, пашытая хоць і не па модзе, але з густам. Відаць, што яна сочыць за сабой, за сваёй вопраткай.

Яму не верыцца, што гэты аўтобус, што гэтыя людзі, якія стрэліся яму на шляху, што старая Двойра ў добрай сукенцы, усе яны—з яго роднага мястэчка Забалотнае.

II

Палявы вецер з шумам урываецца ў адчыненыя вокны аўтобуса. Анры прагна убірае ў сябе ап'яняючы пах палёў—блізкае і разам з тым нешта далёкае-далёкае адчувае ён у ім... Фіш не адрывае вачэй ад акна. Зараз павінны быць дзве пахілыя хацінкі—„дзве карчмы"—так называлі ўскраіну Забалотнага.

Ён прыпамінае, як у дні прызыву хлапчукамі яны бегалі ўпотайкі сюды цешыцца з безшабашнай гульбы будучых салдатаў... Але, што за чорт—ад карчмы ні следу. Воддаль ля дарогі велізарны драўляны дом, у баку ад яго доўгія на ўвесь квартал склады. Чужаземец паспеў запомніць тры літары, маляўніча разрысаваныя над уваходам: „МТМ".

„МТМ". Што-б гэта магло азначаць?"—здзіўлена падумаў ён і хацеў быў спытацца ў цёткі Двойры, але ў гэты час Мендэль, крута завярнуўшы, павёў аўтобус па былой Сляпой вуліцы.

На гэтай зрытай вуліцы, пры самым канцы, тулілася закапцелая кузьня бацькі. Перакошаныя дзверы, паржавелая бляха замест акон, прадзіраўленыя трубы, патрэсканая конавязь... Гэта карціна запомнілася яму з дзяцінства. Ён і зараз уявіў сабе бацьку,—калі толькі ён жывы,—згорбленага, пастарэлага, над накавальняй.

— А дзе-ж кузня?—мімаволі сарвалася ў Фіша трывожнае пытанне, калі аўтобус праскочыў ускраіну і ён не заўважыў пракапцелай хацінкі бацькі.

Цётка Двойра зразумела ягоную трывогу:

— Ці-ж вы, Арон, не ведаеце, што Ошэр ужо трэці год не жыве ў Забалотным?

— Ён памёр?—спужана спытаўся Фіш, адчуваючы, як ад хвалявання ў яго перасыхае ў роце.

— Што вы, што вы,—замахала рукамі старая птушніца,—ён, дзякаваць богу, жывенькі і здаровенькі і ўжо трэці год кіруе намі. Ваш Ошэр член ураду і працуе ў прыёмнай у старшыні ЦВК.

— Член ураду, у прыёмнай у главы рэспублікі...—машынальна паўтарыў Фіш і адразу не зразумеў, жартуюць над ім, ці гавораць сур'ёзна.

— Цёця Двойра, я прашу вас, скажыце праўду дзе мой Ошэр?

— Пацвердзіце яўрэі,—звярнулася яна да бліжэйшых, прыўзнімаючыся з месца,—пацвердзіце, што каваль Ошэр—яго бацька—жывы, здаровы і працуе ва ўрадзе...

Яна вымавіла гэты сказ з адценнем пяшчотнай клапатлівасці і Фіш адчуў у яе словах штосьці незвычайнае і вялікае. Недавер'е і баязлівасць, якія таіліся дзесьці ўнутры, неяк адразу, самі па сабе адсеяліся. Яму стала лёгка, ён захацеў падзякаваць цётку Двойру і папрасіць выбачэння ў яе за недавер'е, але Мендэль Дрэйцэр у гэту хвіліну затармазіў машыну ля месца стаянкі і пасажыры натоўпам падаліся да выйсця.

Фіш застаўся адзін.

— Алло, сябра!—гукнуў яго Мендэль, выходзячы з сваёй кабінкі:—Ты яшчэ жывы? Бяры чамадан і пойдзем да мяне. Гаспа-

дыня, у якой я сталуюся, абяцала сёння смачны боршч, ты штонебудзь разумееш у ім, пойдзем-ка праверым, ці стрымала яна сваё слова.

III

Бацька прыехаў у Забалотнае на трэці дзень пасля таго, як з тэлеграмы даведаўся пра зварот сына.

Ледзь-ледзь займалася восенская зара... Першым пачуў стук у дзверы Арон. Ён не спаў. Ускінуў на плечы пальто, прасунуў ногі ў мяккія шлёпанцы і ціха пайшоў у калідор... Бацька ўпацьмах не заўважыў яго і, падумаўшы, што адчыняе дзверы гаспадар кватэры, гучна паздароўкаўся:

— Як вам падабаецца, Мендэле, гэткі фунт?—Нарэшце-ж ён зноў на роднай зямлі...

— Тата!

— Арончык!..

Высветлілася, што бацька пісаў яму і нават зусім нядаўна паслаў ліст, але па забыўчасці блытаў нумары вуліц і замест „181 стрыт“ пісаў „18“... Лісты не даходзілі.

Бацька пісаў пра сябе, пра Забалотнае. Ён праклінаў хвіліну ад'езду сына і з прыкрасцю ўспамінаў тыя дні, калі сам марыў пра ўцёкі ў чужы, нязведаны край:

— За морам цялушка—капейка!.. Гэту прыказку, без сумнення, прыдумалі яўрэі: ад гора і галечы заўсёды іх куды-небудзь цягнула і вабіла!—казаў стары.

За тры дні знаходжання ў Забалотным Анры прызвычаіўся ледзь не на кожным кроку стыкацца з нечаканасцямі. Але бацька ўразіў яго больш за ўсё.

Ен, канешне, пастарэў. Гады заўсёды робяць сваё. Белая, нібы з мяккай ваты, пушыстая барада, зачасаныя ўгору валасы. Але бацька не горбіўся, трымаўся проста і ад усёй яго фігуры павявала якойсці невычэрпнай энергіяй.

Некалькі хвілін яны зачаравана трымаліся за рукі і пазіралі адзін другому ў вочы, нібы спрабуючы прачытаць у іх пражытае і перажытае.

Спачатку загаварыў сын:

— Ведаеш, тата,—гэта казка. Нават калі-б ты напісаў мне, я не паверыў-бы... Ошэр-каваль, які з пяці гадзін раніцы горбіўся над накавальняй... Ошэр-каваль, які пахаваў трох дзяцей ад голаду, які на апошнія грашы выправіў старэйшага сына некуды за акіян, на пошукі зданнёвага яўрэйскага шчасця. Татачка...—не стрываў Арон і абняў бацьку.

Праз гадзіну ўсяму мястэчку стала вядома спатканне старога Ошэра са сваім сынам і ў сталовую Мендэля Дрэйцэра набілася поўна людзей.

Прыйшоў Пінхус Зальцман, старшыня местачковага інтэрнацыянальнага калгаса „Кола рэволюцыі“. Арон доўга ўзіраўся ў ягоны твар і ніяк не мог пагадзіцца з тым, што гэта і ёсць той няшчасны, забіты конюх, якога граф Бадзецкі, былы ўладар мясцовых абшараў, аднойчы засек ледзь не да смерці; прыйшоў Янкель

Шавель—глава мясцовай арцелі шаўцоў, які ў свой час таксама плыў па акіяну за шчасцем, але вельмі хутка вярнуўся назад на грошы, што сабралі жаласлівыя аднасельцы...

Управіўшыся з ранішнім кармленнем птушыны, прыбегла Двойра, якой не цярпелася разведаць навіны пра яе Велвеля. Зараз яна была ў шэрай спецоўцы з фартухом поверху... Паціскаючы яе руку, Фіш заўважыў на грудзях старой нейкі бліскучы значок:

— Што гэта ў вас, Двойра Давідаўна?

Старая птушніца збянтэжылася і Пінхус Зальцман адказаў за яе:

— Гэта наша першая ордэнаноска. Птушкі, якіх гадуе яна, вядомы на ўвесь свет і ўрад год назад узнагародзіў яе ордэнам... Не саромцеся, Двойра Давідаўна. Дай бог кожнаму такі гонар...

Фіш паглядзеў на старую, потым на бацьку, нібы шукаючы ў іх вачах пацвярджэння сказанаму.

— Ну, што вы нам раскажаце,—звяртаецца Пінхус Зальцман да Арона, закурваючы папяросу.

— Пінхус Натанавіч, перш за ўсё, што робіць ваш Бора?

— О, мой Бора, ён у Маскве дырэктарам аднаго буйнага скургалантарэйнага трэста. Інжынер.

— А што робіць ваш Грыша, вы ведаеце?

— Гэта-б я хацеў у вас запытаць. Мы трэці месяц не маем ад яго ліста.

— Грышу вашага я нядаўна бачыў. Ён таксама пайшоў па скур-галантарэйнай часці, але, нажаль, спецыяльнасці інжынера покуль не атрымаў і наўрад ці набудзе яе наогул. Ён працуе прадаўцом у гузікавым магазіне. Вам лепш, Пінхус Натанавіч, чым яму... І, можа быць, нават багата лепш. І Бору вашаму таксама лепш... Паверце, я гэта кажу ад чыстага сэрца.

Зальцман, прыціхнуўшы, слухае гэтыя словы.

Усё жывей і шматлюдней у сталовай Мендэля Дрэйцэра. У гаспадара сёння выходны. Ён у сінім гарнітуры, у жоўтых камашах, па белай сарочцы падвязаны чорны гальштук. Ён сядзіць каля Ошэра і штосьці з вялікім захапленнем тлумачыць старому. Зрэдку з іх боку далятае смех:

— Ха-ха-ха! Падумайце,—кажа Мендэль, нахіляючыся да старога:—і прыдумаў-жа слова: бяздзельнік!

— А ведаеш,—апавядае стары каваль, час ад часу кідаючы погляд па канапу, дзе сядзіць яго сын,—брат нашага караля свечак Іцковіча, гэты рыжанькі, з вяснянкамі—як яго, Бенямі, здаецца, звалі?..

— Ну-ну, Беня...

— ...Той, што трымаў у Залучыне млын?..

— Ведаю, ведаю,—падтаквае Мендэль.

— ... Уяві, прыслаў старшыні ЦВК заяву з просьбай дазволіць яму адкрыць у Залучыне—супроць новапабудаванага маслабойнага завода краму „з мэтай абслугоўвання рабочых..."

— Што вы кажаце, Ошэр! Не магу...—і Мендэль трасецца ад смеху, закідваючы галаву на спінку стула.—З мэтай абслугоўвання рабочых... Ой, не магу...

— Яму на заяве напісалі,—прадаўжае стары Фішкін, які сам

ледзь стрымлівае смех: „Кааперацыя не мае патрэбы ў вашай дапамозе і наўрад ці будзе яна калі-небудзь патрэбна ёй“...

— Ой, не магу, Ошэр Натанавіч,—не спыняе заліваццa смехам Мендэль Дрэйцэр і ад смеху ў яго на вачах з'яўляюцца кропелькі слёз.

... Калі адчыняюцца дзверы і ў сталовую ўваходзяць усё новыя і новыя людзі, Арон на момант перастае слухаць субяседніка і пільна ўглядаецца.

„Пазнае ён яе ці не?“

У кожным лісце да бацькі ён нібы незнарок пытаўся, што парабляе Блюмачка Рыўкіна. У дзяцінстве ён сябразаў з ёю. Ранняя сірата, яна, застаўшыся на выхаванне ў цёткі, расла маўклівым, запужаным зверанём. Калі ён семнаццацігадовым хлопцам ад'язджаў за акіян, яна была ўжо дзяўчынай. Цётка працавала краўчыхай, таму-ж рамяству яна вучыла і скромную Блюмачку.

Паміж Аронам і Блюмай была ранняя змова, якая так і засталася нікому невядомай. Ён абяцаў ёй стаць па крайняй меры мільянерам і тады выклікаць яе да сябе.

„Але, дзе-ж яна? Спытацца?..“ Нехапае адвагі. І Арон з трымценнем пазірае на дзверы і нецярпліва чакае.

## IV

Мендэль і Ошэр па-ранейшаму сядзяць асобна і аб чымсьці гутараць з вялікім запалам.

— Можна да вас?—пытаецца Арон, падыходзячы да шофера.

— Садзіся, садзіся, Арончык. Мы ўспамінаем розныя забалоцкія гісторыі...

— У Ошэра Натанавіча ўзнікла цудоўная думка,—перабівае Мендэль старога:—Ці не пахадайнічаць, каб нам замянілі гэта брыдотнае слова—Забалотнае. Ты яшчэ не аглядаў, Арон, мястэчка. Балотаў у нас амаль што няма ўжо. Соўгас „Маяк“ даўно зрэзаў балотныя абшары каналамі і спусціў ваду. У жніўні ў пшаніцы можна схавацца з рукамі. Не пшаніца, а таполі...

— Мендэле, як ты думаеш, доўга мне давядзецца блукаць па мястэчку беспрацоўным?—задае Арон хвалюючае яго пытанне, падсядаючы бліжэй да бацькі.

— Прабач, сябра, але я нават не ведаю, чаму ты навучыўся там?

— У мяне, Мендэле, твая прафесія. Я таксама, як і ты, шофер.

— Шофер?—і ў Мендэля раптам заззяў твар:—маўчы, ні-пікні пра гэта, маўчы, бо цябе праз гадзіну парвуць на кавалкі...

— Як гэта на кавалкі? Нельга быць шоферам?—падскочыў Фіш, не зразумеўшы жарту.

— Ой, не тое, не тое,—замахаў рукамі Мендэль.—Ты не ведаеш, што творыцца ў Забалотным... Калгас нядаўна атрымаў новую машыну, соўгас—тры, аўто-станцыя—два аўтобусы... І ўсім ім да зарэзу патрэбны шоферы. Я баюся, што цябе заўтра-ж пасадзяць за руль!

Мендэль праказаў гэта зусім сур'ёзным тонам, але Ошэр і Арон мімаволі засмяяліся. Пінхус Зальцман стаяў ля акна. Як толькі Мендэль закончыў апошні сказ, ён падскочыў да Арона і стаў трэсці яго за плечы:

— Я нічога не ведаю. Два дні адпачынку—і за машыну! Разумееце, атрымалі машыну і ламаем сабе галаву: дзе-ж раздабыць шофера. А тут шофер сам валіцца на галаву! Паўтара працадня... Гэта, па крайняй меры, два кіло збожжа, пяць кіло бульбы, агуркі, памідоры, рэдзька, сланечнік...—скарагаворкай прамовіў Пінхус, Мендэль, назіраючы гэту сцэну, гучна зарагатаў:

— Ага, што я казаў? Шофер для Забалотнага—гэта значна важней, чым некалі губернатар.

Арон зноў не можа зразумець: жартуюць над ім, ці гавораць сур'ёзна? Ён пазірае на Мендэля, потым пераводзіць вочы на Пінхуса і не знаходзіць слоў. Яго выручае Мендэль, які цяжка—праз смех—вымаўляе:

— Пінхус, растлумачце-ж яму, што гэта значыць—працадні. Гэта самая ўстойлівая валюта ў свеце—дай бог яе кожнаму бедняку за-граніцай,—дадае ён, нарэшце, стрымліваючы смех. і

Ошэр, які маўчаў да гэтага часу, узнімаецца з крэсла падыходзіць да Пінхуса:

— Дарагі старшыня! Арон застанецца ў Забалотным. Няхай папрацуе на калгаснай машыне... Ты згодзен, Арон?

— Тата, я не веру сабе, што заўтра магу прыступіць да працы, не блытаючыся, як там, па цэлых месяцах без справы.

— Бачыце, Пінхус,—кажа стары, кладучы яму руку на плячо:— яшчэ адзін чалавек далучаецца да вашага калектыва. Я заўсёды марыў пра тую хвіліну, калі нарэшце „людзі паветра" спусцяцца на зямлю. Мендэль, я сказаў гэта і паглядзеў на цябе... Па-мойму, хвіліна такая настала. Цудоўная хвіліна!..

Хрыпаты голас радыёрупара перапыніў жвавую гутарку. Мендэль падышоў да чорнага радыёдыска і крыху падрэгуляваў яго.

— Слухайце апошнія паведамленні...

У сталовай сціхлі.

Густы бас, падкрэсліваючы кожнае слова і робячы паузы паміж сказамі, перадаваў:

— Сёння, а 10 гадзіне раніцы, зрабілі дзесяты прыжок з вышыні 7000 метраў нашы слаўныя парашутысткі Ніна Калашкіна, Оля Бабкіна, Дуся Вадзецкая... Самалёт пілаціравала ордэнаноска Блюма Рыўкіна...

„Блюма"—пачуў Арон і, не могучы стрымацца, нібы чакаючы паўтарэння, падскочыў да рупара. Па сталовай нібы прайшоўся вецер.

— Блюма... Ого, наша Блюма!—сказаў Пінхус і чамусьці зірнуў на Арона.

— Бачыце, я казаў,—падтрымаў яго Ошэр:—нават у паветры мы набылі „устойлівасць".

І гэта слова маляўніча выявіла тое, пра што падумаў кожны.

*А. Бурдзель*

## ПЕСНЯ

Кулан быстраногі знаходзіць сабе крыніцу,
Арол выбірае і лашчыць адну арліцу,

І ты, мой жаданы, калісьці ой побач сядзеш
Пад вечар спаткаўшыся з мною ў кішлачным садзе.

Хай месяц глядзіць на вочы мае і губы,
Ты ласкава будзеш глядзець, незнаёмы, любы.

Я хочу, каб ты малады быў, ты мой адзіны,
Як молада воля мая і маёй радзімы.

Каб доўгая дружба мацнела ў цяпле спагады,
Не поўзала ў брудзе халоднай змяёю здрады.
Згніе хай кібітка, згарыць паранджа старая,
Я хочу каб разам мы бачылі сонца мая,

Я хочу ісці па дарозе жыцця з табою
І радасць і гора дзяліць піалой адною.

Калі-ж пустацвет закрасуе з надзей дзявочых.
Тады не сустрэнуцца ў позірку нашыя вочы.

Хай гэтая песня гучыць, аб усім вяшчуе,
Прыходзь-жа каханы, жадаю цябе, ты чуеш?

Ташкент, 35 г.

---

Тлумач. слоў:
Піала—пасудзіна для піцця чаю.

*Рыгор Кручок*

## ВЯСНОВЫ ПАЛЁТ

Вясна ў карагодзе. Вясну не абняць.
І зелень вылазіць з-пад кожнага пня.

На беразе лопух палёг жаўцізной,
Для нерасту рыбы гуртуюцца зноў.

Па дрэвах угору ўзнімаецца сок—
Змяняюць адзенне абшары лясоў.

Дупляны над рэчкай разносіцца стук—
То дачны цягнік праімчаў па масту.

У сонечнай пене—блакітная даль,
Малочнае мора ў шырокіх садах.

З ангара выводзяць крылатых машын
Разведчыкі зорных далёкіх вышынь.

Ўзнімаецца рокат, прапеллер раве,
І вецер насустрач імчыць па траве.

Здаецца, зрываюцца з месца дамы:
Пад сонца ў вышыні спяшаемся мы.

Вось сонца... Рукою падаць... Прыпякло...
Давай-жа мы выйдзем з табой на крыло.

Давай-жа, сяброўка, кульнёмся уніз,
На чорнае поле яшчэ раз зірні.

І раптам блакітны ўзвіваецца шоўк,
У даль самалёт ад мяне адышоў.

І сонца на купал, пад купалам—я,
Пад ногі шумлівая мчыцца зямля.

І вузіцца сонца, як зорка мігціць,
І вецер, і поле пад ногі ляціць...

Шукаю знаёмых. Зварачваю шоўк,
Кладу за плячо у зялёны мяшок.

А там, у вышынях, дзе воблака спіць,
Сяброўка з-пад сонца адважна ляціць.

*М. Цэлеш*

# ЖЫЦЦЁ АБО СМЕРЦЬ

## (Апавяданне чырвонаармейца)

I

Гэта было ў 1920 годзе. Наша часць стаяла ў адным з сёл недалёка ад г. Умані, на Кіеўшчыне. Мы павінны былі правесці ў гэтым сяле такія сякія аперацыі па рамонту арміі. Для аховы нашай часці быў дан узвод кавалерыі з адным кулямётам на тачанцы.

Сяло, у якім мы стаялі, было вялікае, тысяч пад пяць жыхароў і падзялялася Дняпром на дзве роўныя часткі. Каб папасці з адной часткі сяла ў другую, трэба было перабірацца праз раку паромам.

Мы прыехалі ў сяло падвечар. Была зіма, дзень выдаўся пахмурны. З рання сыпаў дробны, як мак, дожджык. Пасля поўдня сівы туман густой сцяной засланіў усё наперадзе і на пяць крокаў не было відаць чалавека. Снегу яшчэ не было і тлусты чарназем ліпкім цестам расплываўся пад нагамі, цэлымі пудамі чапляючыся за боты.

Увечары, калі жоўтыя агенчыкі, як воўчыя вочы, заблішчэлі на гладкай паверхні ракі, аднекуль пачуліся кулямётныя і вінтовачныя стрэлы. Я некалькі разоў выходзіў на двор, прыслухоўваўся, урэшце рашыў легчы спаць, на ўсякі выпадак не тушачы лямпы. Раптам нехта загрукаў у акно. Я спытаў:

— Хто?

— Патруль.

— Ну?

— Нічога. Так, адчыні!

Я адчыніў.

Барабанячы шабляй, з вінтоўкай за плячмі, у хату увайшоў чырвонаармеец Іван Асанаў.

Гэта быў высокі, яшчэ малады мужчына. Паставіўшы вінтоўку каля дзвярэй і расправіўшы шырокія, магутныя плечы, ён азірнуўся вакол сябе і выцер хустачкай свой грушападобны, трохі скрыўлевы на правы бок, нос. Ваня меў звычку перад тым, як пачаць гаварыць, рухам роту прыпадымаць неяк уверх левы вус і, падміргнуўшы левым вокам, паўтараць: „гэткі ты, браце“...“, ад чаго яго твар набываў дабрадушна-смяшлівы выгляд. Паклаўшы

хустачку ў кішэню і яшчэ раз азірнуўшыся на чыстую хату, на маю маладую і прыгожую гаспадыню, ён падміргнуў мне і потым загаварыў:

— Гэткі ты, браце мой, спрытны. Так добра ўсталяваўся? А я ўбачыў у вас у хаце агонь ды і думаю: дай зайду да людзей. Запалак у мяне няма!

— Што чуваць?

— Недзе пастрэльваюць!—адказаў абыякава Ваня, прыкурваючы папяросу ад лямпы, якая стаяла на стале.—Камандзір толькі што глядзеў карту: тут, вёрст за дванаццаць, ёсць нейкая банда—Жалезняка, ці як яго!?

Ён азірнуўся на гаспадыню кватэры.

— Сядайце!—папрасіла тая.—Ногі-ж не казённыя?

— Самі казённыя, а ногі не казённыя. Але за пастой не плаціць,—згадзіўся Ваня і сеў. Потым, праз хвіліну дадаў, зацягваючыся папяросай і барабанячы аб падлогу шабляй: - Чорт ведае, колькі іх тут напладзілася: Жалезняк, Хмара, Бацько: *) і яшчэ з дзесяць якіх знойдзецца больш далёкіх ім сваякоў, унукаў якіх, ці праўнукаў. А з-за іх, праклятых, ні прайсці, ні праехаць такім вось мірным людзям, як мы...

І ён зноў стукнуў шабляй і зноў, зірнуўшы на гаспадыню, якая ў гэты час у новай мяккай кофтачцы прыбірала са стала пасуду, падміргнуў ёй левым вокам. Гаспадыня ўсміхнулася і сказала:

— Можа вып'етэ шклянку чаю з дарогы, та слывамі з мэдком закусітэ? Садытэся, выпейтэ! Самавар шчэ нэ астыў!

І гаспадыня падсунула да самавара шклянку і пачала наліваць чай. Потым паставіла каля Вані слой сліў, залітых мёдам. Ваня спыніў гаспадыню за руку і далікатна падзякаваў. Потым ускудлачыў сваёй вялікай рукой, з срэбраным пярсцёнкам на сярэднім пальцы, белую галаву хлапчука, які ўвіваўся каля спадніцы гаспадыні, і пачаў з ім жартаваць:

— Гэткі, ты братка ты мой! А дзе твой бацька—можа да Махно ўцёк?

— Не,—адказаў хлопчык, усміхаючыся і косячыся на Ваню.

— А дзе-ж?

— Не скажу.

Матка засмяялася і звярнулася да сына.

— Ну, скажы, Паўлык, а то, бачыш, што дзядзя думае?

Хлопчык зноў усміхнуўся.

— У Махно га?

— Мой татка ў чырвоных камандзірах,—урэшце, утаропіўшы ў падлогу вочы, сур'ёзна адказаў малы —Ён партызан!

— Ну, малайчына, малайчына! Але ўсё-ж такі я вазьму тваю матку з сабой!

— А от не возьмеце!

— Вазьму.

І Ваня паклаў сваю моцную руку на стан гаспадыні. Гаспадыня пачырванела, але рукі не прымала. Раптам—грукат у дзверы.

---

*) Хмара, Жалезняк, „бацько“ Махно—важакі банд украінскіх нацыяналістаў

Ваня прыняў сваю руку і падняўся з лавы.
— Ну, выбачайце! Няма часу. Там мяне таварыш чакае. Служба—не дружба!
І ён вышаў. Гаспадыня кінула яму наўздагон:
— Заходзьце-ж?
— Ээ, калі вы ўсёроўна не частуеце,—пажартаваў Ваня.
— Вы калі паедзеце?
— Заўтра, мусіць, выступім.
— Ну, дык заходзьце раніцой на бліны. Праўда!
І яна прыемна ўсміхнулася і пачырванела, і вочы яе заблішчэлі. І Ваня таксама ўсміхнуўся і пачырванеў.
— Прыду,—адказаў ён.
Праз мінут некалькі гаспадыня з хітрай ухмылкай спытала:
— Адкуль ён?
Я адказаў.
— Які прыгожы мужчына!?—дадала яна.—І добры, відаць, які! Во дзе мусіць жонка чакае, не дачакаецца...
І дапытліва глядзела мне ў вочы. Я падумаў: „чаму гэта жанчыны перш за ўсё цікавяцца ведаць: ці жанаты мужчына“?

II

Як толькі Ваня вышаў, я лёг спаць. Уся ноч прайшла ў кашмары. Снілася, нібы наступаюць белыя, нібы забіраюць у палон, нібы хочуць забіць.
Я крычу і прачынаюся.
— Што такое? Што такое?
Каля мяне стаіць гаспадыня і тармошыць мяне за нагу.
— Уставайце! Уставайце!—гаворыць яна ціха, але неяк трывожна.—У сяле вораг! Вам трэба ўцякаць.
Я ўскакваю, як ашпараны. З вуліцы чуюцца громы стрэлаў. Праз перапынкі даносяцца крыкі: „Ура!“
Пасля я даведаўся, што гаспадыня сапраўды рашыла пачаставаць чырвонаармейцаў смачнымі блінамі і запрашала Ваню не дарма.

Устаўшы рана, яшчэ як толькі развіднелася, яна ўзяла вёдры і пайшла да Дняпра па ваду. Раптам, не даходзячы да рэчкі, яна начула стрэл, потым другі, трэці і хутка цэлы ўжо залп. Гаспадыня была не палахлівая. Услед за тым пачуўся конскі тупат. Стрэлы пасыпаліся яшчэ часцей і кулі сталі сыпацца на вуліцу, узбіваючы пырскамі зямлю. Гаспадыня зразумела, што завязваецца бой і схавалася за вугал хаты. Раптам яна ўспомніла, што ў яе ў хаце ёсць чырвонаармеец, а там недзе другі, і трэці, і іх многа. Яны—спяць! Што з імі станецца?
— А божачка, божачка!—крыкнула яна сама сабе і, кінуўшы вёдры на вуліцы, хаваючыся за будынкамі ад граду куль, пабегла дахаты. Яна бегла і думала:
— Хаця-б паспець дабегчы!
Яна прыбегла да хаты якраз ў той час, калі я сніў страшэнны сон і пачала тармашыць мяне за нагу.
Учора я не распранаўся. Каб быць „начаку“, яскінуў толькі

боты і зняў цёплую гімнасцёрку. Зараз я схапіў гэтыя рэчы, з-пад падушкі выцягнуў наган і кінуўся да дзвярэй. Але з вуліцы ў двор ішлі бандыты з вінтоўкамі. Перастрэлка ўзмацнялася і было чуваць, як за вокнамі ляскаюць кулі. Я стаў за вушак дзвярэй і узвёў курок нагана. Але тут прыбегла гаспадыня, пачала мяне адцягваць ад дзвярэй і прасіць, каб я не рабіў гэтага. Яна гаварыла, што не перажыве, калі мяне будуць забіваць у яе кватэры. Але ўцякаць было зусім некуды. Адусюль нёсся грукат і шум. Сяло танула ў дыме. Пахла порахам. Раптам гаспадыня кінулася ў спальню, клічучы мяне за сабой, і ўдарыла кулаком па раме. Акно расчынілася.

За хатай быў сад, а далей—шэрыя гароды з голымі цырубалкамі ад сланечніку.

Трымаючы ў адной руцэ гімнасцёрку і абутак, а ў другой наган, я выскачыў праз акно і пабег паміж дрэў. Мяне заўважылі з вуліцы і пачалі страляць. Я сагнуўся і папоўз, хаваючыся за дрэвамі садоў, стагамі саломы і будынкамі. Хутка я выскачыў у поле і далей не ведаў, што рабіць. Тут было ціха і мёртва. Густым полагам вісеў над зямлёю туман. Са мной быў толькі наган. Я быў адзін і не ведаў, куды ісці, таксама, як не ведаў: дзе вораг і дзе нашы?

Раптам на дарозе пачуўся тупат коней. Гэты тупат несся ад сяла, адтуль, дзе быў бой. Ён набліжаўся. Было чуваць, што коні скачуць галопам. Але нашы гэта ці вораг? Схавацца было некуды і я лёг, як быў—не паспеўшы адзець гімнасцёркі і ботаў—у баразну. Падумаў:

— Заўважаць ці не?

Зямля была халодная і мокрая, але я не адчуваў ні таго ні другога. Вось тупат ужо зусім блізка, вось ён побач са мной.

Раптам:

— Ша-а-гам!

Сэрца спачатку адарвалася і некуды паляцела, а потым—стала лёгка-лёгка: ды гэта-ж голас нашага камандзіра! Я выскачыў з баразны.

— Таварышы! Таварышы!

І я цяпер адчуваў сябе героем! Але на сэрцы было неяк непрыемна, нібы сорамна. Гэта была сапраўды наша маленькая частка. Зараз яна здавалася мне вялікай і непераможнай.

Коні ўсе былі ўзмылены. Твары чырвонаармейцаў—чырвоныя, успацелыя. Адзін конь, без сядака, з пустым сядлом, быў прывязаны да павозкі. На тачанцы з-пад кулямёта ляжала цэлая куча растраляных лент ад патронаў. На павозцы, прыкрыты брэзентавай буркай, стагнаў чалавек...

## III

Цяпер стала вядома, што так ганебна ўцякаў адзін толькі я. Мае таварышы зрабілі якраз наадварот. Там рашылі: жыццё або смерць!

Вышаўшы ўчора ад мяне, Ваня знайшоў свайго таварыша пад вакном. Гэта быў яшчэ малады хлапец з той самай станіцы, адкуль і Ваня.

Разважаючы—аб жанчынах, потым аб знаёмых, аб станіцы, у якой яны ўжо год, як не былі, потым аб гарадах, якія ім даводзілася займаць з боем, успамінаючы сутычкі з ворагам і сваіх слаўных таварышоў, камандзіраў, яны абыйшлі некалькі разоў вуліцу, на якой размясцілася наша часць.

Пачало развідніваць. Трэба было разыходзіцца па хатах. Ваня, як старэйшы, адпусціў свайго таварыша і пайшоў на двор, дзе ўчора ён пакінуў свайго любага каня.

Калі ён увайшоў, у хаце яшчэ спалі. Паставіўшы вінтоўку і шаблю ў кутку каля дзвярэй, ён вышаў з хаты, вывеў з пуні свайго гнедага і пачаў яго чысціць. Рабіў ён гэта з любоўю, шчыра, нешта вясёлае насвістваючы сабе пад нос, і конь пырскаў у ноздры, нібы нанюхаўшыся тытуну, хмыліўся і пераступаў з нагі на нагу.

Сяло яшчэ толькі абуджалася: там сям спяваў певень, яму адзываўся другі; недзе рыкала карова, скрыпелі вароты, аднекуль даходзіў віск свінчаці, гаворка людзей, брэх сабакі.

Спяшыць было некуды. Раніца была хацяя і сырая, туманная, як і ўчора, але ціхая. Ваня ласкава асадзіў каня, пахлопаўшы яго па шыі, і паехаў па вуліцы крокам, задаволены і сабою, і канём і тым, што ён сёння запрошан на бліны. Да рэчы, ён ужо марыў, як зноў сустрэнецца з гэтай ветлівай жанчынай.

Дняпро ляжаў ціхі, чорны як дзёгаць. Толькі дзе-нідзе каля берагу ціха булькала вада, круцячыся на віры. Ад вады падымалася пара і здавалася, што Дняпро дыхаў. Конь набраў вады ў рот, падняў галаву і, паглядаючы на паром, пачаў стрыгчы вушамі. Ваня прыслухаўся. Паром скрыпеў: на ім нехта ехаў на гэты бок. Чуваць была і гутарка, але з-за густога тумана нікога на было відаць.

Раптам за спіною Вані, у тумане, паказаўся сілуэт конніка. Ён выехаў аднекуль з закрайніх хат, каля рэчкі. Пад'ехаўшы да Вані, ён таксама злез з каня і стаў побач з ім. Пераглянуліся, памаўчалі, не цікавячыся адзін адным. Ваня раптам заўважыў, што коннік не з нашай часткі і неяк дзіўна апрануты: шынель ангельскі, жоўты, як і ў чырвонаармейцаў, але белая зашмальцаваная папаха без зоркі, камашы вайсковага ўзору, чорныя, нібы матроскія штаны на выпуск. Той таксама з цікавасцю пачаў глядзець на Ваню. Раптам ён спытаў па украінску:

— А вы з якой часці?

— Я?—Ваня павярнуўся тварам да конніка і ў гэты час на яго чорнай кубанцы бліснула чырвоная зорка.

І не паспеў Ваня што-небудзь адказаць, як коннік выхапіў з-за пояса наган:

— Рукі ўгору!

Спачатку Ваня атарапеў і не ведаў, што рабіць. Але гэта працягвалася ўсяго толькі адзін момант. Спрытным рухам, як кошка, Ваня скочыў на ворага і адной рукой схапіў за наган, а другой за раменны пояс на жываце.

Сціснуўшы сваёй моцнай рукой, наколькі хапіла сілы, руку бандыта з рэвальверам, ён звычайным рухам падняў уверх вус, падміргнуў і спакойна, як заўсёды сказаў:

— Гэткі, ты браце мой... гарачы! Ты-ж мог бы забіць чалавека!?

Стрэл прайшоў міма і ў гэты момант рэвальвер выляцеў з рук бандыта. Ваня крутнуўся, паправіўся, падхапіў ворага другой рукой і, моцным рыўком, кінуў яго ў ваду. Потым, на ўсякі „пажарны“ выпадак, падняўшы з зямлі наган, ускочыў на рысака і птушкай паляцеў да свайго камандзіра...

Пасля выявілася, што ў сяло ў тую-ж ноч уступіла банда „бацькі Махно“ з усім сваім штабам і абозамі, лікам у некалькі тысяч. Разбітыя нашымі часткамі на Херсоншчыне, яны цэлыя суткі ўцякалі без бою, куды папала. І коні, і людзі выбіліся з сіл. Толькі пасля поўначы, калі і нашы стаміліся, яны адыйшлі, як ім паказалася, даволі далёка і сталі размяшчацца ў тым самым сяле, дзе спыніліся і мы, толькі з другога боку Дняпра. Але на тым баку не хапіла кватэр для такой „аравы“ і некалькі чалавек з авангарду перабраліся паромам на наш бок і занялі крайнія ад рэчкі хаты, зусім не падазраючы, што тут могуць быць чырвоныя.

Далей усё вядома.

Ваня падляцеў да хаты, дзе стаяў камандзір і, не злазячы з каня, закрычаў як мог мацней.

— Таварыш камандзір! Таварыш камандзір, банда на пароме!..

Гэтым было сказана ўсё. Колькі раз на нас нападалі розныя дробныя банды і мы заўсёды разганялі іх. Камандзір падаў каманду:

— Па ко-о-н-ня-я-х!

Ваня паскакаў далей па вуліцы, перадаючы каманду „па конях“ чырвонаармейцам.

Праз пяць-дзесяць мінут, як раз тады, калі першы паром бандытаў набліжаўся да берага, наша частка ў складзе аднаго коннага ўзвода з кулямётам на рэсорнай тачанцы і адной гаспадарчай павозкай, як заўсёды, весела імчалася да рэчкі. Убачыўшы бандытаў, кулямётчык павярнуў рулю кулямёта на ворага і пачаў страчыць па ім. Коннікі, схапіўшы ў рукі клінкі, з крыкам: „ура!“ пад камандай камандзіра кінуліся ў атаку. Хутка тых, што былі на пароме, не стала. Некаторыя з іх плылі па вадзе. Але зараз-жа з таго боку пачалі страляць другія. Завязаўся бой!

У гэты час нашы часткі, на якіх была ўскладзена задача знішчэння банды Махно, пачуўшы стрэлы, падыйшлі да сяла з другога боку і нечаканай атакай ударылі ворагу ў тыл. Пачалася паніка. Для тых, хто трымаў у сваіх руках пераправу, справа была ясная: вораг перабіраўся на іх бок і трэба было абараняцца. Але для махноўцаў было інакш. Ім здалося, што яны абкружаны і ратунку больш няма. Кідаючы стрэльбы і коней, адны ўцякалі, куды папала, другія кідаліся з коньмі ў ваду з надзеяй прабіцца ўперад і толькі нямногія захоўвалі спакой і не пакідалі сваіх радоў. Там і тут чуліся крыкі: „ура“! Сваіх у тумане прыймалі за чужых. Ашалелыя ад страху, махноўцы секлі сваіх толькі для таго, каб ачысціць дарогу да адступлення, выратоўваючы сваю скуру.

Ваня, махаючы шабляй налева і направа, ляцеў наперадзе і крычаў:

— Брацішкі, сюды!

Чырвонаармейцы былі захоплены поспехам і не лічыліся з небяспекай. Тым часам, з таго боку Дняпра махноўцаў прыбывала ўсё больш і больш. Наш кулямётчык не паспяваў іх абстрэльваць. Хутка кулямёт зусім спыніў стральбу: у ім закіпела вада і не было зусім патронаў. Услед за тым махноўцы пачалі страляць злева, справа, вакол нашых конных утвараўся круг. Раптам Ваня ўрэзаўся ў гушчу махноўцаў. У той-жа час да яго кінуліся два махноўцы. Мінута была напружаная: адзін момант і вострая шабля раскрыша чэрап Ваню. Раптам, аднекуль, рызыкуючы жыццём, да яго падскочыў Сеня. Разагнаўшы каня, ён урэзаўся проста ў варожы натоўп. Конь падняўся на дыбкі. Але гэта не перашкодзіла Сеню падняцца на стрэмях і рубануць махноўца поперак твару. Той абвіс на шыю каню. І ў гэты-ж момант абвіс з сядла і Ваня. Сеня паспеў падхапіць свайго таварыша на рукі.

Камандзір аглянуўся і закрычаў:

— Назад! Таварышы, назад!

І яны вырваліся ад агня і адступілі ў поле...

IV

Ваня быў ранен у бядро. Варожая куля прайшла навылёт, раскрышыўшы на дробныя часткі косць. Рана была вялікая, страшэнная. Ваня ўвесь час цяжка стагнаў, крычаў і прасіў, каб яго „прыкончылі“.

— Ох, дапамажыце! Дапамажыце! Усёроўна я больш на гэтым свеце не жыхар.

У нас не было ні ваты, ні бінта, каб зрабіць перавязку, і кроў, выцякаючы з раны, запякалася чорнай плямай на прыліпшых да раны ватных штанах. Ад гэтага Ваню рабілася ўсё горш і горш.

Ён ляжаў тварам у гору і глядзеў сваімі карымі, добрымі вачмі на пакрытае хмарамі неба. Часамі ён паварачваў сваю віхрыстую, з мягкімі русымі валасамі і „пеўнікам“ на макаўцы, галаву і трызніў.

Было цяжка глядзець на яго пакуты. Але дапамагчы мы нічым не маглі. Разы два мы натыкаліся на варожыя часці, патронаў у нас не было, мы ўцякалі, заблудзіліся і доўга блукалі па голаму халоднаму стэпу.

Настала ноч! Ваня быў непакойны. Ён мацней стагнаў і крычаў і часцей забываўся.

Раптам ён паклікаў да сябе Сеню. Мы чакалі, што будзе. Ваня палез рукой пад бурку, пад якой ён ляжаў, і выняў наган.

— Вось!—сказаў ён ціха-ціха, нібы скрозь сон.—Перадаю табе маю зброю! Вазьмі і...—Ваня закрыў вочы.

— Што ты, Ваня! А ты? А ты?

Але Ваня слаба падняў руку, нібы яна была пудовая, і памалу адпіхнуў ад сябе таварыша.

— Друг! Ваня!

І голас чырвонаармейца задрыжэў. І перад ім паўстала дзяцінства, юнацтва, пыльная вуліца станіцы з гульнёй у гарадкі, шырокі стэп. Ціхі, зарослы чаротамі і пакрыты ілам чорны Дон, і схаваныя сярод стэпу балкі. І ўсюды ён быў з ім, быў неразлучны, шчыры

таварыш. І вось!? Сеня не мог стрымацца, каб не заплакаць. Ён стаяў каля павозкі з наганам у руках і не ведаў, што рабіць. У гэты час пад'ехаў камандзір.

— Спыніце павозку!—сказаў ён ціха, але таксама усхвалявана.— Дадзім чалавеку хоць спакойна памерці!

І ён асвягліў павозку ліхтарыкам. Ваня ляжаў ужо нерухома. Твар яго быў мёртвы, зялёны. Вочы шклом блішчэлі з-пад густых насупленых брывей. Рот быў крыху адкрыты і віднеліся здаровыя роўныя зубы. Камандзір узяў Ваню за руку. Яна была халодная.

Мы паехалі далей. Марасіў, нібы скрозь сіта, дробны дождж. Неба было чорнае, як наваксаваны бот. Яно нізка вісела над намі. І здавалася, што мы вось ужо колькі часу едзем пад нейкую павець і хутка павінна быць сцяна і нехта павінен сказаць: „стоп“! Але сцяны ўсё не было і не было і „стоп!“—ніхто не гаварыў.

Раптам, недзе далёка-далёка, замаячыў агеньчык. Мы ўзялі кірунак на яго. Ён яшчэ доўга нас вадзіў па гразкаму стэпу, то знікаючы за ўзгоркамі, то зноў мільгаючы ў далячыні. І нам хацелася есці, зусім не хацелася гаварыць. Схаваўшы рукі ў рукавы, а насы у каўняры шынеляў, мы сядзелі моўчкі на конях, ехалі ціхім крокам. Курцы моўчкі пакурвалі, хаваючы папіросы ў рукавах. Сеня ехаў ззаду ўсіх. Гаварыць нікому не хацелася таму, што цяжкім камянем у кожнага з нас на сэрцы ляжала туга па загінуўшым таварышу.

Урэшце, побач з агеньчыкам, паказаліся яшчэ агні і, услед за гэтым, з цемры выпаўзлі шэрыя будынкі. Уначы яны здаваліся нейкімі вялікімі і прыземістымі. Камандзір спыніў нас на дарозе і, загадаўшы быць „начаку“, паслаў у сяло разведку з двух чалавек. Але разам з двума знайшлося ахвотнікаў больш. Праз мінуты дзве-тры пасля таго, як ад'ехала ад нас разведка, адтуль з цемры, з-за будынкаў пачуўся вокліч.

— Хто?

— Свае.

— Пароль?

— Свае. Няма пароля. Мы...

— Стой!—пачуўся ўжо грозны крык і потым усё заціхла.

Мы насцярожыліся: зноў махноўцы! Не чакаючы, мы ўклалі ў вінтоўкі апошнія патроны і напружана пачалі глядзець у цемру. Але да нас пад'ехалі нашы разведчыкі і з імі былі два спешаных коннікі. Гэта быў дазор адной з нашых кавалерыйскіх брыгад, якая прымала ўдзел у бою разам з намі ў сяле на Дняпры.

Толькі тут мы канчаткова даведаліся аб той ролі, якую мы адыгралі ў справе з махноўцамі. Начальнік штаба нас сустрэў такімі словамі:

— Малайцы, хлопцы! Малайцы! Колькі вас усяго ёсць?

— Адзін узвод, таварыш начальнік!

— А вы ведаеце, што вы затрымалі, можна сказаць, цэлую армію? Канец махноўшчыне! Разграмілі амаль усю банду і сам бацька ледзь уцёк паранены! Гонар і слава вам, таварышы! Адзін узвод ваш зрабіў тое, што пад сілу толькі брыгадзе! Забітыя ёсць у вас?

— Адзін чалавек, таварыш начальнік, Ваня Асанаў.

Пахаванне Вані было назначана назаўтра.

Яма была выкапана на невялікім пясчаным узгорку, за вёскай. Выкінуты з ямы жоўты пясок паказваў яе здалёку. Над магілай пасадзілі маладую бярозку.

Вестка аб пахаванні абляцела хутка бліжэйшыя сёлы і вёскі. Дзень быў ясны. Сонца, што рэдка бывае ў гэту пару, грэла не пазімоваму і з самага рання да магілы сталі сходзіцца людзі суседніх вёсак, асабліва моладзь.

Труна была ўся чырвоная: знайшлася матэрыя, каб упрыгожыць апошні прытулак байца.

Тачанка з труной кранулася і паехала з вёскі. Услед паехалі мы. За намі іншыя кавалерыйскія часткі, потым загрукацела калёсамі і зарядными скрынкамі артылерыя. Чырвонаармейцы сціхлі. Аркестр музыкі заіграў пахавальны марш. І жалобныя гукі ўстрасянулі паветра, будзячы ў сэрцы тугу па таварышу.

Труну пачалі апускаць у магілу. Было цесна! Кругом стаялі людзі з непакрытымі галовамі. Вецер закручваў іх валасы. Прамені сонца клаліся на жоўты пясок і асобныя пясчынкі прамяніліся бляскам. Вецер сарваў апошні пажоўклы ліст з дрэўца над магілай і закружыў яго ў паветры.

Начальнік штаба праціснуўся ўперад і пачаў гаварыць прамову. Словы каменем клаліся на сэрца.

— Прашчай, таварыш! Спі спакойна!

Пачуліся апошнія гукі пахавальнага марша. І гэтыя гукі выклікалі ў сэрцы:

— Жыць! Жыць! Жыць! Або памерці так, як памёр Ваня!

Труну апусцілі ў яму і пачалі засыпаць пяском. Над магілай укапалі слуп з надпісам. Гэты слуп хутка аброс вянкамі і чырвонымі стужкамі. І стаіць гэты слуп і зараз і вянкоў на ім становіцца не менш, а ўсё больш і больш. І бярозка, якую пасадзілі тады над магілай, горда падымаецца ўсё вышэй, і вышэй! І штогод жаўцее лісцё на ёй... І вецер тчэ з іх дыван над магілай нашага друга!

1936 г.

---

А. Буза

## СМЕРЦЬ ПІЛОТА

Прыгожа цвітуць чарэшні,
Калышацца клён пукаты.
Зялёны аэрадром—
Такая краса, прастор.
І рэчка іскрыцца люстрам,
І песні пяюць дзяўчаты,
І звонкім вясновым рэхам
Спявае за рэчкай бор.

У чыстым высокім небе
Імкліва ляцяць самалёты,
Плыве пазалотай ранак,
Росы гараць на траве...
Як цяжка ісці за труною
Зусім маладога пілота,
Як цяжка і як балюча
Растацца з байцом навек.

Пад музыку сумных маршаў
Галовы сябры схілілі,
Нясмела ліюцца слёзы,
На ветры хістаецца сцяг.
Яму-бы лятаць над краем
У баявой эскадрыллі,
Пад шоўкавым парашутам
Ныраць у блакітны прасцяг.

Яму-бы гарэць маладосцю,
Усмешкі кідаць дзяўчатам...
Труп сына цалуе маці
І плача наўзрыд яна...
Спавіта труна вянкамі
З чарэмухі, бэзу і мяты,
З пахучых і яркіх кветак,
Чароўных нібы вясна.

На крыллях вялікай славы
Ён змерыў багата даляў—
Лятаў на далёкую поўнач,
У цёплы, зялёны Крым.
Яго шанавалі людзі
І кветкі яму дарылі,
І песні яму спявалі
Пра нашу вясну вятры.

Ён быў маім лепшым другам,
Расказваў мне пра палёты—
Высокі, бадзёры, смелы,
АддаНы жыццю чалавек...
Як цяжка ісці за труною
Зусім маладога пілота,
Як цяжка і як балюча
Растацца з байцом на век.

1936 г.

*Янка Шарахоўскі*

# Н. А. НЕКРАСАЎ

*(Да 115-годдзя з дня нараджэння)*

Сярод вялікіх імёнаў рускай літаратуры XIX ст., шчыльна звязаных з барацьбой народных мас за сваё вызваленне, пачэснае месца належыць Н. А. Некрасаву. Вялікі рэволюцыйны дэмакрат аддаў свой талент народу, пра народныя думы і спадзяванні спявала яго грамадзянская муза. Ён вучыўся грамадскаму служэнню ў Белінскага, Дабралюбава, Чэрнышэўскага. Не гледзячы на жорсткія праследванні, ён сабраў у сваёй паэзіі ўсё тое лепшае і светлае, чым жыла перадавая руская інтэлігенцыя і народныя масы на працягу 40—70 г.г. Будучы рэалістам ён паказваў не толькі ідэалы, але і агідныя справы эксплаататараў, але і цяжкае, паднявольнае жыццё працоўных мас. Усё гэта робіць яго імя дарагім і блізкім грамадству, будуючаму социялізм.

Н. А. Некрасаў нарадзіўся 4 снежня 1821 г. у сям'і памешчыка. Маленства яго прайшло ў маёнтку ў сяле Грэшнёве Яраслаўскай губерні. Ад дзіцячых год у яго на ўсё жыццё засталіся вельмі цяжкія ўспаміны. Жорсткае абыходжанне бацькі з сялянамі, п'янства і распуста з прыгоннымі палюбоўніцамі, здзекі з безабароннай маткі стварылі той комплекс цяжкіх уражанняў, які пасля знаходзіў сваё выражэнне амаль ва ўсіх вершах паэта, у якіх ён так ці інакш закранаў свае дзіцячыя гады. Зусім процілеглае ўражанне засталося ў яго ад сялянскіх дзяцей, з якімі яму дазваляла гуляць маці ў тыя часы, калі бацька быў на паляванні ці ў ад'ездзе, і пра якіх ён, ужо будучы вядомым паэтам, напісаў глыбока-прачуваны верш «Крестьянские дети». Некрасаў вучыўся ў Яраслаўскай гімназіі, але курса ў ёй не скончыў. Бацька хацеў, каб Некрасаў паступіў на ваенную службу. Некрасаў зрабіў выгляд, што згодзен паступіць у дваранскі полк (ваенна-навучальная ўстанова), паехаў у Пецербург (у 1838 г.) і паступіў вольным слухачом ва універсітэт. Гэта пазбавіла яго ўсякага падтрымання з боку бацькі—пачалося напоўгалоднае існаванне. Пра гэты час Некрасаў пазней успамінаў: «Даводзілася есці не толькі дрэнна, не толькі ўпрогаладзь, але і не кожны дзень. Не раз даходзіла да таго, што я ішоў у адзін рэстаран на Морскай, дзе дазвалялі чытаць газеты, хоць-бы нічога не заказаў-

шы сабе. Возьмеш, бывала, для выгляду газету, а сам падсунеш да сябе талерку з хлебам і ясі...»

У 1840 г. пад ініцыяламі Н. Н. выйшаў першы зборнік вершаў паэта, які выклікаў вельмі суровую ацэнку В. Г. Белінскага у «Отечественных записках». Вершы, змешчаныя ў зборніку, мелі пераважна пераймальны характар, у іх Некрасаў наследваў Жукоўскаму, ранняму Пушкіну, Бенедзіктаву і інш. У гэтым зборніку яшчэ не было пазнейшага Некрасава—паэта «мести и печали».

У 1842 г. Некрасаў зблізіўся з гуртком Белінскага і гэта збліжэнне зрабіла вялікі ўплыў на ідэйна-палітычную накіраванасць творчасці паэта. Белінскі высока ацаніў яго вершы «В дороге» і «Родина». Калі Некрасаў прачытаў яму верш «В дороге», Белінскі ўсклікнуў: «—Ды ці ведаеце вы, што вы паэт і паэт сапраўдны?» Белінскі ў гэты час прапаведваў ужо неабходнасць служэння літаратуры грамадскім інтарэсам, разумеючы яго ў дэмакратычным сэнсе і штурхаў на гэты шлях і Некрасава. Пра яго вершы «В дороге», «Колыбельная песня», «Пьяница», Белінскі пісаў: «... Яны прасякнуты думкаю, гэта не вершы да дзяўчыны або месяца, у іх шмат разумнага, талковага і сучаснага». Шлях, на які штурхаў Некрасава Белінскі, аказаўся сапраўдным шляхам вялікага паэта. Некрасаў як паэт знайшоў сябе ў пратэсце супроць нікалаеўскага рэжыма, у адмаўленні культуры дваранскіх гнёзд і прыгонніцтва, у сатырычным паказе буржуазна-дваранскага грамадства, у апяванні пакут і рэволюцыйных імкненняў народных мас.

З прыгонніцтвам Некрасаў парваў вельмі рана. Ён рэзка парывае з традыцыяй дваранска-ліберальнай літаратуры любавацца на «дваранскія гнёзды», рысуе іх не ў ідылічных фарбах, што, моў, прыгонныя сяляне вельмі любяць сваіх паноў і г. д. а ў плане іх рэалістычнага выкрыцця.

И вот они опять, знакомые места,
Где жизнь отцов моих, бесплодна и пуста,
Текла среди пиров, бессмысленного чванства,
Разврата грязного и мелкого тиранства;
Где рой подавленных и трепетных рабов
Завидовал житью последних барских псов...
(„Родина")

Памешчыкаў-прыгоннікаў Некрасаў паказвае як самадураў, людзей жорсткіх, у гэтым паказе няма ніякіх станоўчых рыс. Матыў аднаўлення прыгонніцтва, як бачым, ужо досыць моцна гучыць у яго вершы «Родина». Гэта адмаўленне, усё больш узмацняючыся, праходзіць праз усю паэзію Некрасава.

Калі Некрасаў пераехаў у Пецярбург, карціны памешчыцкай эксплаатацыі пачынаюць выцясняцца ў яго паэзіі аналагічнымі карцінамі, узятымі з гарадскога жыцця. На першы план выступае сатырычны паказ гарадскіх эксплаататараў, буйных чыноўнікаў, ліхвяроў, генералаў і г. д. і глыбокае спачуванне гарадской беднаце.

Пачатак 40-х гадоў быў вельмі цяжкім для Некрасава з матэрыяльнага боку. Ён вельмі многа займаўся ў гэты час чарнавой літаратурнай працай, пісаў для заробку—вадэвілі, рэцэнзіі, апавяданні, аповесці, вершы і г. д.

У 1847 г. Некрасаў робіцца арандатарам часопіса «Современник», дзе ў гэты час пачаў друкавацца і Белінскі. Скора вакол часопіса згуртаваліся ўсе лепшыя рускія літаратурныя сілы таго часу: І. С. Тургенеў, Л. Н. Талстой, Ф. М. Дастаеўскі, М. Е. Салтыкоў, Н. Г. Чэрнышэўскі, Н. А. Дабралюбаў і інш. Часопіс меў вялікі поспех і выхаваў не адно пакаленне ў дэмакратычным кірунку. Поспех часопіса палепшыў і матэрыяльнае становішча паэта.

У 1856 г. у Маскве выходзіць першы збор твораў паэта, які меў нябачаны для таго часу поспех. Атрыманыя ў Пецербургу 500 экземпляраў разышліся за два дні. У цэнтры ўвагі паэта ў гэты час няшчасныя, абяздоленыя людзі, людзі пецербургскіх куткоў. З вялікім гневам паэт нападае на вінавайцаў іх цяжкага становішча розных крывасосаў і прыгнятальнікаў. Некрасаў узнімаўся да разумення сапраўдных прычын класавага прыгнёту. «Ёсць нешчасліўцы,—пісаў Некрасаў,—якім няма месца нават на чардаках і ў сутарэннях, таму што ёсць шчасліўцы, якім цесны цэлыя дамы». Гэтую прычыну ён бачыў у тым, што ў адных усяго вельмі многа, а ў другіх няма нічога. Не гледзячы на цэнзурны прыгнёт, які быў асабліва моцным у перыяд 1848-1855 гг., у гэты час вялікае значэнне ў паэзіі Некрасава набывае жанр сатыры. У «Отрывках из путевых записок графа Гаранского» паэт пісаў:

Сатира действует и шире и смелей,
Как пуля, находить виновного умея.

Сатырычны струмень праходзіць праз усю паэзію Некрасава, пачынаючы ад «Ростовщика» (1844 г.) і канчаючы «Современниками» (1875 г.).

У сваіх сатырах паэт выкрывае буржуазнае накапіцельства. Вось, напрыклад, якім чынам стаў багатым ліхвяр:

Продал все, что было можно
Хоть за грош продать,
И деньжонки осторожно
Начал в рост пускать...

Для ліхвяра не патрэбны ў жыцці ні сумленне, ні сябры, ні пачуцці. Уся яго жыццёвая філасофія зводзіцца да таго, каб якімі-б там ні было шляхамі «наживать деньгу».

Ён пераконан:

Что подлец кто без копейки,
А не тот кто без души.

Сатыры Некрасава накіраваны і супроць чыноўніцтва. У гэтым сэнсе асабліва вызначаецца «Колыбельная песня», якая, выпадкова праскочыўшы ў друк, нарабіла перапалоху ў лагеры рэакцыянераў. Пасля Некрасаву ніяк не ўдавалася перадрукаваць гэты твор і на працягу дваццаці з лішнім год творы Некрасава выходзілі без гэтага верша.

Не менш жорстка б'е паэт і па памешчыках. Напрыклад, у «Нравственном человеке», ён паказвае «дабрачыннага» чалавека, які даводзіць да пагібелі жонку, сябра, селяніна і ўласную дачку. Ён робіць гэта «живя согласно с строгою моралью». У гэтым жа

плане паказаны памешчыкі у «Отрывках из записок графа Гаранского». Тут паэт нават падае прыклад народнай расправы з памешчыкам:

Тут славно мужички расправились с одним...
„А что?“ - Да сделали из барина то тесто,
„Как тесто?“—Да в куски живого изрубил
Один мужик...

У лірычных творах «Тройка» і «Огородник» жыццё вёскі таксама паказана ў плане рэзкага супроцьстаўлення жыцця памешчыкаў і сялянства. У «Тройцы» паэт апавядае пра лёс прыгожай дзяўчыны, маладой сялянкі. Галоўны ўпор ён робіць пры гэтым на бесправетнасці яе цяжкага жыцця і будучыні.

Да не то тебе пало на долю:
За неряху пойдешь мужика.
Завязавши подмышки передник,
Перетянешь уродливо грудь,
Будет бить тебя муж—привередник
И свекровь в три погибели гнуть.
От работы и черной и трудной
Отцветешь не успевши расцвесть:
Погрузишься ты в сон непробудный,
Будешь няньчить, работать и есть.

Вершам «Огородник» Некрасаў гаварыў чытачу, што: «Знать, любить не рука мужику-вахлаку да дворянскую дочь». Жыццё селяніна замкнёна ў кола бязвыходнасці і пакорлівай цярплівасці. У гэты час Некрасаў яшчэ значную ўвагу аддае рысам пасіўнасці сялянства, супроць чаго ён асабліва рэзка будзе выступаць у другі перыяд. Але і цяпер ён паказвае бунтарскі пачатак у сялянстве, што відаць хоць-бы з вышэйпададзенага прыкладу расправы з памешчыкам.

Некрасаў таксама паказвае, як жахлівае становішча гарадской беднаты штурхае яе на крадзёж, на прастытуцыю і г. д. У вершы «На вуліцы» паэт у такіх рысах паказвае злодзея:

Закушенный калач дрожал в его руке,
Он был без сапогов, в дырявом сюртуке,
Лицо являло след недавнего недуга,
Стыда, отчаянья, моленья и испуга.

Некрасаў разумее соцыяльныя прычыны беднасці, якія штурхаюць на злачынства. Сваім вершам Некрасаў хоча сказаць, што варта знішчыць беднасць і злачынствы значна зменшацца. У гэтым жа плане паказвае паэт і жанчын, вымушаных выйсці на вуліцу «на заработкі». У вершы «Еду ли ночью по улице темной» паэт глыбока спачувае такой жанчыне, якая цяжкімі абставінамі жыцця вымушана ісці «дорогой обычной» і гнеўна пратэстуе супроць двудушнасці буржуазнага грамадства і яго маралі.

Такім чынам, ужо ў 40 гады Некрасаў рэзка пратэстуе супроць прыгоннага ладу і супроць соцыяльных несправядлівасцей ў жыцці буржуазнага горада. Гэтыя рысы асабліва ўзмацняцца ў другі перыяд творчасці паэта, калі ён будзе выражаць не толькі настроі прыгонных сялян і гарадской беднаты, але зробіцца сапраўдным ідэолагам рэволюцыйнай дэмакратыі.

Пералом у творчасці Некрасава цесна звязаны з яго адносінамі да дваранска-ліберальнай літаратуры. Справа ў тым, што ў 40 гады лібералы працавалі разам з дэмакратамі, хоць і адрозніваліся ад іх сваімі ўстаноўкамі. Адзін час яны нават мелі перавагу ў «Современнике». Рэзкае разыходжанне пачалося значна пазней. Пачала выяўляцца розніца арыентацый. У той час, калі лібералы заклікалі да гуманных адносін да прыгоннага сялянства, не закранаючы асноў прыгоннага ладу, дэмакраты змагаліся супроць прыгонніцтва ў цэлым, за яго знішчэнне. Гэтыя разыходжанні пачынаюць выяўляцца і ў арыентацыі на чытача. Аднаго разу (у 1847 г.) Тургенеў і Боткін сказалі Некрасаву, што адна адукаваная свецкая жанчына не знаходзіць паэзіі ў вершы «Еду ли ночью по улице темной». На гэта Некрасаў заявіў, што ён піша не для свецкіх людзей. «Я вас яшчэ больш пацешу і здзіўлю,—сказаў Некрасаў,—калі выкажу вам сваю адкрытую думку, што маё аўтарскае самалюбства зусім было-б задаволена, каб хаця-б пасля маёй смерці рускі мужык чытаў бы мае вершы».

Што гэта заява не была выпадковай, паказвае хоць-бы той факт, што значна пазней паэму «Коробейники» ён прысвячае селяніну вёскі Шоды, Кастрамской губерні, Гаўрылу Якаўлевічу, што для таго часу гучэла палемічна.

Але доўгае і блізкае суседства з лібераламі пакінула свой след на паэзіі Некрасава, асабліва ранняга перыяда. У самога Некрасава часамі ўзнікалі ліберальныя ацэнкі рэчаіснасці, выяўляліся хістанні ў бок лібералізма, ён рабіў паводле выразу Леніна «либерально-угоднические грехи». Рэзка выступаючы супроць прыгонніцтва, Некрасаў часам вельмі прымірэнча ставіўся да прадстаўнікоў ліберальнага дваранства. На гэта паказвае, напрыклад, яго паэма «Саша», дзе ён, іранізуючы з памешчыка Агарына, няздольнага рабіць справу, прызнае яго станоўчую ролю ў сэнсе выхавання дэмакратычнай моладзі: «Сеет он все-таки доброе семя». Адносна гэтых хістанняў Ленін пісаў: «Некрасаў хістаўся, будучы асабіста слабым, паміж Чэрнышэўскім і лібераламі, але ўсе яго сімпатыі былі на баку Чэрнышэўскага. Некрасаў па той-жа асабістай слабасці грашыў ноткамі ліберальнага ўгодніцтва, але сам жа горка аплакваў свае «грахі» і публічна каяўся ў іх» (творы Леніна, т. XVI, стар. 132).

К канцу 50-х гадоў у Некрасава амаль зусім зніклі зрывы ў лібералізм і ён зрабіўся блізкім паплечнікам Чэрнышэўскага і Дабралюбава. Ён рэзка выступае супроць былых сяброў з ліберальнага лагера. Гэта можна бачыць у прыватнасці ў вершы «Тургеневу» (1861 г.).

На пылких юношей ворча,
Ты глохнешь год от года
И к свисту буйного бича
И к ропоту народа.

«Пылкие юноши»—гэта рэволюцыйна-дэмакратычная моладзь, якая мела мужнасць «ісці да канца». Некрасаў нападае на Тургенева за тое, што ён «задул свой факел», за ахоўныя тэндэнцыі і замыслы

супроць «ідучых да канца». У 1855 г. у вершы «Русскому писателю» ён выступае супроць дваранскага літаратурнага эстэцтва.

Служи не славе, не искусству,—
Для блага ближнего живи,
Свой гений подчиняя чувству
Все-обнимающей Любви.

Выклік балюча ўразіў дваранскую частку пісьменнікаў. І гэта натуральна, бо Некрасаў ніколі раней так акрэслена не выказваўся па гэтаму пытанню. У гэтым жа плане напісаны яго вершы «Белінскі» (1855 г.) і «Поэт и гражданин». Заслугу Белінскага Некрасаў бачыць «в могучем слове правды честной, в открытом обличеньи зла»... у пратэсце супроць «гнуснай расійскай рэчаіснасці», у выкрыцці і развянчанні прыслужнікаў самадзяржаўнага ладу.

И он пришел, плебей безвестной!
Не пощадил он ни льстецов,
Ни подлецов, ни идиотов,
Ни в маске жарких патриотов,
Благонамеренных воров!

У барацьбе з дваранскай эстэтыкай ствaралася новая рэвалюцыйна-дэмакратычная эстэтыка, якая бачыла галоўную задачу паэзіі ў служэнні народным інтарэсам, у развязванні сіл сялянскай рэвалюцыі. Некрасаў глыбока разумее сутнасць гэтай барацьбы: «Ці ёсць іншы—жывы і сумленны (кірунак—Я. Ш.), апрача асуджэння і пратэсту? Яго стварыў не Белінскі, а асяроддзе, таму ён і перажыў Белінскага, а зусім не таму, што «Современник» у асобе Чэрнышэўскага нібы наследуе Белінскаму». (Ліст Тургеневу за 30 снежня 1856 г.). У Некрасава к канцу 50-х гад. ужо было выразнае усведамленне сваёй дэмакратычнай пазіцыі ў літаратуры і паступова ён падыходзіў к усведамленню той вялікай соцыяльнай сілы, тых мас, на якія ён мог бы цвёрда і назаўсёды абаперціся ў сваіх рэвалюцыйных імкненнях.

У канцы 50-х гадоў па краіне праходзіць хваля сялянскіх бунтаў. Для заспакаення вёсак высылаліся войскі, якія жорстка распраўляліся з сялянамі.

У рэвалюцыйным сялянстве Некрасаў пачынае бачыць тую рэальную сілу, на якую можна абаперціся ў барацьбе супроць самадзяржаўя. Пісаць адкрыта ў літаратуры пра бунты не было ніякай магчымасці і таму ў паэзіі Некрасава яны адлюстраваны ў выглядзе асобных водгукаў. Такім водгукам, у прыватнасці з'яўляецца верш «Бунт» (1858 г.).

У гэтым жа годзе ён піша свой шырока вядомы твор «Размышления у парадного под'езда». З вялікім гневам і агідаю рысуе паэт у гэтым творы вобраз вельможы, які лічыць «жизнью завидною упоение лестью бесстыдною, волокитство, обжорство, игру»... І наадварот з глыбокім спачуваннем, з вялікім лірычным пафасам рысуе ён вобразы сялянскіх хадакоў, якіх прагналі ад параднага пад'езда вельможы.

Пакрыўджаныя, усё прап'юць яны ў «харчевне убогой» і пойдуць жабракамі і застогнуць... І паэту ўяўляецца, што гэта стогне ўся руская зямля, няма на ёй ніводнага кутка, дзе-б рускі мужык не стагнаў.

Стонет он по полям, по дорогам,
Стонет он по тюрьмам, по острогам,
В рудниках, на железной цепи;
Стонет он под овином, под стогом,
Под телегой, ночуя в степи;
Стонет в собственном бедном домишке,
Свету божьего солнца не рад;
Стонет в каждом глухом городишке,
У под'езда судов и палат.

У канцы гэтага знамянітага твору паэт, вуалюючы свае думкі у форму запытання па прынцыпу або-або і звяртаючыся да народу, пытаецца: «Ты проснешься, исполненный сил?» Ён хацеў бы бачыць абуджаны народ, грозны і велічны ў сваім гневе. Цяпер ён кліча народ да актыўнай барацьбы, выступае супроць цярплівасці і пакорлівасці селяніна. Ён хоча бачыць у ім актыўнага і свядомага барацьбіта. У «Песне Еремушке» возчык спявае дзіцяці:

Будешь редкое явление,
Чудо родины своей;
Не холопское терпение
Принесешь ты в жертву ей:
Необузданную, дикую
К угнетателям вражду
И доверенность великую
К бескорыстному труду.

Так калыханка ператвараецца ў натхнёны рэволюцыйны заклік. «Дикая вражда» да прыгнятальнікаў была тою рысай, якую не адважваліся пераступіць усе староннія, у тым ліку і дваранскія лібералы. За гэтай рысай пачыналася самае страшнае для адкрытых і завуаляваных прыслужнікаў царызма—народная рэволюцыя. Пра «даверанасць вялікую» да працы—не для сваіх эгаістычных выгад, а на карысць абяздоленых, Некрасаў гаварыў, як прадстаўнік працоўнага народу, які інстынктам паэта народных мас адчуваў, што праца і яе прадстаўнікі заклікаваны выратаваць чалавецтва. Але гэта недзе далёка ў будучым.

А покуль што вялікі рэволюцыйна- дэмакратычны паэт стварае незабыўныя вобразы паднявольнай працы. У 1860 г. ён піша твор пра раку «рабства і тугі», «На Волге». У гэтым творы ў бескалотныя вобразы дзяцінства, у мірныя карціны волжскіх берагоў раптам урываюцца рэзкім дысанансам іншыя вобразы і іншыя матывы.

Почти пригнувшись головой
К ногам, обвитым бичевой,
Обутым в лапти, вдоль реки
Ползли гурьбою бурлаки,
И был невыносимо дик
И страшно ясен в тишине
Их мерный пох ронный крик—
И сердце дрогнуло во мне.

Паэт доўга не можа забыць вобраз хворага бурлака, якога ён убачыў на беразе Волгі, упершыню пачуўшы іхны жудасны крык, не можа забыць яго «выражающий укор, спокойно безнадежный взор»... Паэт прасякнут вялікім гневам супроць тых, хто асуджвае абяздоленыя масы на такія жудасныя пакуты. Ён хацеў бы бачыць не «покорность без конца», а свядомых людзей, якія самі здольны завяваць сваё шчасце:

Чем хуже был бы твой удел,
Когда-б ты менее терпел?—

пытаецца паэт. Твор накіраван супроць пакорлівасці, супроць пасіўнасці, асноўны яго сэнс у заклiку да актыўных выступленняў супроць самадзяржаўя.

Абставіны, якія стварыліся ў пачатку 60-х гадоў, патрабавалі значна большага. Яны патрабавалі непасрэднага, практычнага ўдзелу ў сялянскім рэвалюцыйным руху, які шырока разгарнуўся ў гэты час. Глыбокае спачуванне народнаму гору і блізкасць да ідэйных правадыроў народнага руху Чэрнышэўскага і Дабралюбава абавязвалі, не гледзячы ні на што, ісці да канца. І вось Некрасаў адчувае сябе недастаткова моцным для гэтага. Ён адчувае сябе вінаватым, пакутуе... Гэты настрой з велізарнейшай паэтычнай сілай, з вялікай шчырасцю і без усякага замазвання сваіх слабасцей Некрасаў выразіў у вершы «Рыцарь на час». Паэта мучае сумленне, «совесть песню свою запевает», ён хацеў-бы змыць «все позорные пятна», ён хацеў бы вызваліцца ад «мелких помыслов, мелких страстей» і аддацца выключна рэвалюцыйнай барацьбе. Звяртаючыся да сваёй маці, ён гаворыць пра тое, што яна навучыла яго музу «не робеть перед правдой царицею», але ён усё-ж не адчувае сябе дастаткова моцным, каб парваць усе сувязі і пакінуць для сябе адно—рэвалюцыю. Ён звяртаецца да памяці маці, светлы вобраз якой жыве у яго сэрцы:

От ликующих, праздно болтающих,
Обагряющих руки в крови,
Уведи меня в стан погибающих
За великое дело любви.

Але паэт гэтым не абмяжоўваецца. Ён у рэальным, у практычным плане змывае «позорные пятна». Гэта ў прыватнасці выяўляецца ў яго разрыве з сваім былым сябрам па «Современнику» І. С. Тургеневым, паводле кірунку творчасці—дваранскім лібералам. Калі ў абвінаваўчым вершы «Тургеневу», ён піша: «До дна святую чашу пей, на дне ее—свабода!», то гэтым ён не толькі імкнецца пераканаць Тургенева ў правільнасці выбару дарогі, але і знайсці ў сабе сілу ісці да канца гэтаю дарогаю.

Да рэформы ў Некрасава былі некаторыя ілюзіі адносна вызвалення сялян. Паводле сведчання Чэрнышэўскага, Некрасава вельмі ўразіў маніфест аб «вызваленні» і паэт тут жа расказаў яму, што хаця ён нічога добрага не чакаў, але ўсё-ж не думаў, што так бязлітасна будзе абрабаван мужык. Пасля рэформы яго рэвалюцыйныя настроі не змяншаюцца, а наадварот узмацняюцца. Цяпер ён яшчэ больш выразна пачынае разумець, што ліберады, робячы выгляд,

што спачуваюць цяжкаму становішчу сялянства, клапаціліся толькі аб тым, каб прыгонніцкі прыгнёт замяніць капіталістычным. Ён добра разумеў усю глыбіню ашукання сялянства.

У «Железной дороге» (1864 г.) паэт паказвае, што становішча сялянства не палепшылася, змянілася толькі форма эксплаатацыі і яму адкрылася дарога для ператварэння ў пролетарыят. Паэт выразна бачыць эканамічную аснову пролетарызацыі:

В мире есть царь: этот царь беспощаден.
Голод названье ему.
Водит он армии, в море судами
Правит; в артели сгоняет людей,
Ходит за плугом, стоит за плечами
Каменотесцев, ткачей.
Он то согнал сюда массы народные.

Дарога будуецца ў жахлівых умовах працы, на народных касцях: «Прямо дороженька: насыпи узкие, столбики, рельсы, мосты, и по бокам то все косточки русские»... На пабудову дарогі ішлі з розных канцоў «государства великого», з Волхава, Волгі, Окі, Беларусі. У асобе беларуса паэт дае канкрэтны вобраз рабочага пабудовы чыгункі:

Видишь, стоит, изможден лихорадкою,
Высокорослый, больной белорусс.
Губы бескровные, веки упавшие,
Язвы на тощих руках,
Вечно в воде по колено стоявшие
Ноги опухли; колтун в волосах;
Ямою грудь, что на заступ старательно
Изо-дня в день налегала весь век...

Гэты вобраз гаворыць сам за сябе і не мае патрэбы ў каментарыях. Тут асабліва трэба адзначыць, што не гледзячы на тое, што ў гэтым творы паэт паказвае вельмі змрочныя факты, ён глыбока верыць у сілы рускага народу, у яго «пору прекрасную»—светлую будучыню. Гэтая вера падтрымлівала паэта ў цяжкія хвіліны, а іх было досыць, бо паэт жыў і працаваў у змрочны і цяжкі час.

У артыкуле «Л. Толстой, как зеркало русской революции» Ленін пісаў пра час, які паказваецца ў «Железной дороге»: «Патрыярхальная вёска, якая толькі ўчора вызвалілася ад прыгоннага права, аддадзена была літаральна на паток і разграбленне капіталу і фіску. Старыя ўстоі сялянскай гаспадаркі і сялянскага жыцця, устоі, якія сапраўды трымаліся на працягу вякоў, пайшліназлом з незвычайнай хуткасцю». (Зб. «Литература и искусство», складзены С. Дрэйдзенам, стар. 53).

Жорсткая барацьба, якую вяла рэволюцыйна-дэмакратычная інтэлігенцыя і сялянства супроць царызма, скончылася разгромам рэволюцыйных сіл. У 1861 г. памёр Дабралюбаў, Чэрнышэўскага арыштавалі, пасадзілі ў Петрапаўлаўку, а пасля саслалі ў Сібір. Арыштавалі таксама і другога дзеяча рэволюцыйна-дэмакратычнага руху М. І. Міхайлава. «Современник» быў закрыт за рэволюцыйную прапаганду ў 1866 г. пасля замаху Каракозава на Александра II. Застаўшыся цэлым сярод бязлітаснага разгрому рэволюцыйна-дэмакратычнай літаратуры, Некрасаў востра адчуў сваю

адзіноту і пачаў абвінавачваць сябе ў недастаткова моцных сувязях з народам. Праз два гады пасля закрыцця «Современника» Некрасаў узяў у арэнду «Отечественные записки», вакол якіх згуртаваліся літаратурныя сілы народніцтва. У часопісе бралі ўдзел А. Н. Астроўскі, Г. Успенскі, Н. Златаўратскі, М. Е. Салтыкоў, Н. К. Міхайлоўскі і інш.

Некрасаў, які прайшоў школу трох вялікіх рускіх крытыкаў Белінскага, Чэрнышэўскага і Дабралюбава, быў заходнікам, ён хаця і бачыў усе адмоўныя бакі, якія несла з сабой развязванне капіталістычных адносін (гэта у прыватнасці знайшло сваё адлюстраванне у «Железной дороге»), але трымаўся ў баку ад народніцкіх тэорый пра ролю сельскае абшчыны і г. д. і па ранейшаму застаўся паэтам рэволюцыйна-дэмакратычнага напрамку, паэтычным выразнікам ідэалаў сялянскай рэволюцыі. Праўда, некаторыя рысы народніцкай ідэалогіі знайшлі сваё адлюстраванне ў яго паэзіі (напр. у паказе дзейнасці Ерміла Гірына і інш.), але за гэтым не хавалася прызнанне паэтам народніцкіх установак.

Пачынаючы з 60-х гадоў Некрасаў вялікую ўвагу аддае жанру паэмы, разгорнутаму мастацкаму палатну. У гэты час талент Некрасава дасягае найбольшай мастацкай сталасці. З буйных паэм апошняга дзесяцігоддзя у сэнсе характарыстыкі яго ідэйна-мастацкіх пазіцый асабліва вызначаюцца «Декабристки» (1871-72 гг.), «Современники» і вялікая паэма, над якой паэт працаваў на працягу дзесяці год, амаль да самай сваёй смерці «Кому на Руси жить хорошо» (1865-1875 гг.).

«Декабристки»—гэта гістарычна-рэволюцыйная паэма. Малюючы вобразы барацьбітоў дзекабрызма, паэт звязвае іх ў многіх момантах з сучаснасцю, з вобразамі рэволюцыйных дэмакратаў—сваіх настаўнікаў, з эпохай 70-х гадоў. Скончыўшы паэму, Некрасаў вымушан быў яе скрэмзаць, каб мець магчымасць яе надрукаваць. У асобе дзекабрыстаў і дзекабрыстак паэт дае надзвычай моцнае апаэтызаванне палітычных ссыльных, ворагаў самадзяржаўя, апаэтызаванне пакут за рэволюцыйныя погляды і дзейнасць. Дзекабрысткам ставіліся розныя перашкоды, каб яны не ехалі да сваіх мужоў, але яны ўсё перамаглі, асталіся непахіснымі. Паэт рысуе іх як вялікіх герояў і зусім натуральна, што рэволюцыйна дэмакратычная моладзь убачыла ў паэме прыклад вялікай адданасці справе, мужнасці «ісці да канца». Прасякнутая найглыбейшым лірызмам, паэма даходзіла да сэрцаў многіх і многіх. З незвычайнай лірычнай сілай апісана спатканне Валконскай з мужам у сібірскіх рудніках:

> И я подбежала... И душу мою
> Наполнило чувство святое.
> Я только теперь, в руднике роковом,
> Услышав ужасные звуки,
> Увидев оковы на муже моем,
> Вполне поняла его муки.

Яна: «Прежде чем мужа обнять, оковы к губам приложила!» Дзекабрысткі ў паказе паэта былі не толькі адданымі да канца жонкамі, не, яны падзялялі перакананні сваіх мужоў. Яны разумеюць, што яны пакутуюць за высокую справу. Самыя такія адносіны да

кайданаў, іх апаэтызаванне для эпохі 70-х гадоў гучала рэвалюцыйна, захапляла рэвалюцыйна настроеную моладзь, якая «ішла ў народ», і рызыкавала ўбачыць тыя-ж кайданы на сваіх руках і нагах. Па настрою паэма была вельмі блізкай семідзесятнікам. У паэме адлюстраваліся рысы народніцкіх адносін да сялянства. Гэта рабіла яе яшчэ больш блізкай рэвалюцыйна-народніцкай моладзі 70-х гадоў. Вельмі адмоўна рысуючы ў паэме царскіх прыслужнікаў, паэт услаўляе народ. Толькі ён прыязна ставіўся да дзекабрыстаў, толькі ён спачуваў іхным пакутам:

Народ! Я бодрее с тобою несла
Мое непосильное бремя.

Пры ўсёй сваёй вялікай нянавісці да эксплаатацыі, сатырычна паказваючы розных яе прадстаўнікоў, Некрасаў не мог прайсці і міма кулацкай эксплаатацыі. У «Горе старого Наума» паэт рысуе кулака тымі-ж рысамі, якімі ён раней рысаваў ліхвяра. Метады нажывання багацця ў іх адны і тыя-ж—праз драпежную эксплаатацыю іншых:

Задаром сняв клочек земли,
Крестьянину с охотой
В нужде ссужает он рубли,
А тот плати работой,
ВТак обращен нагой пустырь
В картофельное поле.

Сімпатыі паэта цалкам на баку эксплаатуемых, кулака ён паказвае, як ворага працоўных. Паэт рэзка выступаў супроць эксплаатацыі і ў горадзе (асабліва ў «Железной дороге» і «Современниках») і на вёсцы. Шмат старонак прысвечана паэтам выкрыццю кулацкай эксплаатацыі і ў яго вялікай паэме «Кому на Руси жить хорошо», над якой ён працаваў на працягу дзесяці год. У ёй паказваецца як сем мужыкоў:

Подтянутой губернии,
Уезда Терпигорева,
Пустопорожней волости,
Из смежных деревень—
Заплатова, Дырявина,
Разутова, Знобишина,
Горелова, Неелова,
Неурожайка тожь,
Сошлися и заспорили:
Кому живется весело,
Вольготно на Руси?

Гэта шырока разгорнутае паэтычнае палатно, у якім паказваецца паслярэформенная вясковая рэчаіснасць. Паэт разгортвае ў ёй карціны жахлівага становішча сялянства, пасля скасавання прыгону. У яркіх мастацкіх вобразах паэт усебакова паказвае паднявольнае жыццё сялянства пасля «вызвалення». Ленін пісаў пра гэта жыццё: «Ні ў адной краіне ў свеце сялянства не перажывала пасля «вызвалення» такога разарэння, такога жабрацтва, такіх прыніжэнняў і такой надругі, як у Расіі». (Збор твораў, т. XV, стар. 109).

У паэме паэт дае цэлую галерэю сялянскіх тыпаў, пачынаючы ад волата Савелія, змагальніка за сялянскія інтарэсы, па ініцыя-

тыве якога сяляне кінулі ў калодзежную яму свайго ненавіснага эксплаататара і канчаючы вобразам «холопа примерного—Якова верного». Падзеі паэмы паказваюцца на фоне жорсткай эксплаатацыі і жабрацтва мас. Паэт паказвае як семера сялян шукаюць «избыткова села», шукаюць шчаслівага жыцця і нідзе не могуць яго знайсці. У гэтай паэме мастацкі талент Некрасава дасягае свайго поўнага развіцця. Некрасаў быў рэвалюцыйным дэмакратам, барацьбітом за ідэалы сялянскай рэвалюцыі, паэтычным выразнікам рэвалюцыйных імкненняў сялянскіх мас. Ён выражаў пункт гледжання селяніна, які быў прыгнечаны прыгонніцтвам і развіваючымся капіталізмам. Адсюль у паэзіі Некрасава шуканні «избыткова села» («кому на Руси жить хорошо»), перад тварам жабрацтва мас—мары пра ўзняцце іхнага жыццёвага узроўню.

Гэта азначае, што Некрасаў па сутнасці змагаўся за амерыканска-фермерскі шлях развіцця Расіі. Найбольш акрэслена фермерскія ідэалы Некрасава выявіліся ў «Дедушке». У гэтым творы дзекабрыст, які вярнуўся з Сібіры, расказвае пра багатае жыццё ў Тарбагатае рускіх ссыльных. Ім далі «зямлю і волю» і гэтага аказалася дастатковым, каб зрабіць іх шчаслівымі.

Как там возделаны нивы.
Как там обильны стада!
Высокорослы, красивы,
Жители бодры всегда,
Видно—ведется копейка!
Бабу там холит мужик:
В праздник на ней душегрейка—
Из соболей воротник!..
Сыты там кони—то сыты,
Каждый там сыто живет,
Тесом там избы то крыты,
Ну уж зато и народ.
Взросшие в нравах суровых
Сами творят они суд,
Рекрутов ставят здоровых,
Трезво и честно живут,
Подати платят до срока,
Только ты им не мешай.

Зусім зразумела, што гэта—ідэальны малюнак, накіраваны на рэволюцыянізаванне мас, на ўзняцце іх на барацьбу за «зямлю і волю», за ідэалы сялянскай рэволюцыі.

Мы бачылі, як рашуча выступіў Некрасаў супроць эксплаатацыі і ў тым ліку і кулацкай эксплаатацыі. Але Некрасаў, як сялянскі дэмакрат, не бачыў таго факту, што «довольство вокруг», заможнасць на фермерскай, прыватнаўласніцкай аснове немагчыма без эксплаатацыі, немагчыма, як заможнасць, шчаслівае жыццё ўсіх. Інакш кажучы, уяўленні Некрасава ў гэтым сэнсе утапічныя, і гэта утапічнасць абумоўлена не няведаннем паэтам сапраўднага жыцця сялянства,—ён яго добра ведаў,—а абмежаванасцю самой рэволюцыйна-дэмакратычнай ідэалогіі, у якой адлюстроўваецца ўнутрана-супярэчлівае класавае становішча асноўных мас сялянства—з аднаго боку чалавек працы і з другога—уласнік, дробны вытворца. Ленін у «Аграрнай праграме соцыял-дэмакратыі» пісаў, што

«сялянская гаспадарка таксама эвалюцыяніруе капіталістычна». (Збор твораў, т. XI, стар. 350). У 1877 г. вышаў апошні зборнік вершаў Некрасава «Последние песни». З гэтага зборніка чытачы даведаліся пра цяжкую хваробу паэта (рак) і з усіх канцоў Расіі да яго пачалі прыходзіць лісты і тэлеграмы з выражэннем спачування. Чуткі пра хваробу Некрасава дайшлі і да Чэрнышэўскага, які быў у гэты час у Сібіры. У лісце да Пыніна А. Н. Чэрнышэўскі пісаў: «Калі, як ты атрымаеш мой ліст, Некрасаў яшчэ будзе працягваць дыхаць, скажы яму, што я горача любіў яго як чалавека, што я дзякую яму за добрыя адносіны да мяне, што я цалую яго, што я пераконан: яго слава будзе бессмяротнай, што будзе вечнай любоў Расіі да яго, геніяльнейшага і благароднейшага з усіх рускіх паэтаў. Я рыдаю па ім. Ён сапраўды быў чалавек вялікага розуму. І як паэт ён, вядома, вышэй за ўсіх рускіх паэтаў». Некрасаў прасіў Пыпіна перадаць Чэрнышэўскаму, што яму яго словы даражэй за ўсіх. 27 снежня 1877 г. ён памёр. У яго пахаванні бралі ўдзел рэволюцыйныя арганізацыі «Зямлі і волі» і паўднёвых «бунтароў», якія ўсклалі на яго магілу вянок з надпісам: «Ад соцыялістаў».

Некрасаў, як ніхто з рускіх паэтаў XIX ст., зброяй мастацкага слова змагаўся супроць эксплаататараў, за інтарэсы народу. Тым самым ён зрабіў сваё імя бессмяротным. Яго імя сярод вялікіх імён рэволюцыйных дэмакратаў—папярэднікаў марксіцкай думкі ў Расіі—Белінскага, Чэрнышэўскага, Дабралюбава.

---

*Я. Я. Доўгі*

# Н. Я. МАРР І НОВАЕ ВУЧЭННЕ АБ МОВЕ (ЯФЕТЫЧНАЯ ТЭОРЫЯ)

*Да 2-й гадавіны з дня смерці Н. Я. Марра.*

20 снежня 1934 г. памёр выдатнейшы лінгвіст сучаснасці акадэмік Нікалай Якаўлевіч Марр—творца яфетычнай тэорыі, якая ў сваім развіцці ад доследу яфетычных моў перайшла да распрацоўкі праблем агульнага мовазнаўства, перарасла ў новае вучэнне аб мове.

За 45 год сваёй навуковай дзейнасці Н. Я. Марр прайшоў складаны шлях развіцця ад нацыяналістычна настроенага каўказаведа, пратэстуючага супроць вялікадзяржаўнай навукі, да вучонага комуніста, будуючага сваю тэорыю на асновах марксізма-ленінізма.

Трэба адзначыць, што толькі ў паслякастрычніцкі перыяд яго вучэнне дасягнула найбольшага росквіту, толькі ў гэты перыяд Н. Я. Марр, узброены метадам дыялектычнага матэрыялізма, змог зрабіць рэволюцыю ў мовазнаўстве.

Яфетычная тэорыя, якая зарадзілася ў нетрах буржуазнай лінгвістыкі як яе антытэза, была спачатку толькі праяўленнем стыхійнага матэрыялізма і тады яшчэ не магла вырашыць цэлага раду актуальных праблем лінгвістыкі. Але вучоны рэволюцыянер у непрымірымай барацьбе супроць індаеўрапеістыкі—буржуазнага вучэння аб мове, паступова тварыў сваю новую тэорыю, набліжаючыся да марксізма-ленінізма.

Н. Я. Марр не з'яўляецца толькі лінгвістам у вузкім сэнсе гэтага слова. Яго тэорыя знаходзіцца ў шчыльнай сувязі з гісторыяй матэрыяльнай культуры, археалогіяй, этнаграфіяй, антрапалогіяй, гісторыяй і іншымі грамадазнаўчымі навукамі, якія ў новым вучэнні аб мове знаходзяць багата глыбокіх думак і палажэнняў.

«У яфетычнага вучэння аб мове, агульнага вучэння,—пісаў Н. Я. Марр,—ёсць арганічная ўвязка з гісторыяй матэрыяльнай культуры, такім чынам, з гаспадаркай і эканомікай; ёсць такая-ж увязка з гісторыяй грамадскіх форм, такім чынам, з соцыялогіяй і ў шырокім і ў вузкім сэнсе слова; зусім зразумела, што пры такой арганічнай увязцы з гісторыяй матэрыяльнай культуры і з гісторыяй грамадскіх форм, без яе ў сваіх навуковых доследах не можа абыйсціся ні адзін этнолаг, ні адзін гісторык мастацтва, ні адзін

славеснік, літаратуразнаўца, заняты ён гісторыяй пісьмовай літаратуры, дагэтуль, класавай, ці народнай, народным эпасам і фальклорам, адлажэннямі таксама класавых, але перажытых класавых культур, вывучае ён паходжанне культурных сюжэтаў ці мастацкіх вобразаў і форм».*

Шматлікія і рознастайныя па свайму зместу работы Н. Я. Марра паказваюць, што гэта яго сцверджанне не толькі дэкларацыя. Прыгадаем яго выдатныя археалагічныя раскопкі сярэдневяковай армянскай сталіцы горада Ані, яго магістэрскую дысертацыю «Зборнік прытч Вардана»—матэрыялы для гісторыі сярэдневяковай армянскай літаратуры, успомнім безупынныя безгрунтоўныя папрокі буржуазных вучоных у тым, што Н. Я. Марр змешвае мовазнаўства з этнаграфіяй «(Jespersen)». Але не гледзячы на ўключэнне ў кола сваіх навуковых доследаў цэлага раду сумежных дысцыплін, Н. Я. Марр у асноўным усё-ж такі з'яўляецца лінгвістам. Зусім правільна адзначае акадэмік І. І. Мешчанінаў, што асновапаложнік яфетычнай тэорыі «выходзіць за рамкі філалогіі і лінгвістыкі, становячыся і археолагам, і этнографам, і фальклярыстам, правільней сказаць прыцягвае і археалогію, і этнаграфію, і фальклор для асвятлення гістарычнага працэса па даным сваёй асноўнай спецыяльнасці—лінгвістыкі. Застаючыся па сваёй спецыяльнасці лінгвістам, Марр тым самым высоўвае лінгвістыку на агульную гістарычную арэну, пераўтварае моўны матэрыял у гістарычную крыніцу, якая пралівае святло на пройдзеныя і ідучыя этапы гісторыі развіцця чалавечага грамадства».**)

Геніяльны вучоны, які дасканала ведаў некалькі дзесяткаў моў, які напісаў больш пяцісот навуковых работ, Н. Я. Марр пасля Кастрычніка праяўляе сябе як арганізатар і буйны грамадскі дзеяч. Ён прымае непасрэдны ўдзел у рэарганізацыі вышэйшых школ, вядзе падрыхтоўчыя работы па ўтварэнню Акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры, кіраўніком якой выбіраецца ў 1919 годзе і застаецца да сваёй смерці; становіцца на чале Яфетычнага інстытута пры Акадэміі навук СССР, які пасля быў пераіменаваны ў Інстытут мовы і мыслення імя Н. Я. Марра. У 1923 г. першым Усесаюзным з'ездам навуковых работнікаў выбіраецца старшынёй Цэнтральнага совета секцыі навуковых работнікаў. Выбіраецца членам ВЦСПС, членам ЦВК Чувашскай рэспублікі, членам Ленінградскага совета, членам Комуністычнай акадэміі, членам Беларускай акадэміі навук.

У 1929 годзе выбіраецца кандыдатам у члены ЦВК СССР, а ў 1931 г. членам ВЦВК. З 1930 г. Н. Я. Марр член ВКП(б).

У 1928 г. ён за выдатную навуковую дзейнасць атрымлівае прэмію імя В. І. Леніна, а ў 1933 г. у сувязі з 45-годдзем яго навуковай і грамадскай дзейнасці ўзнагароджан ордэнам Леніна і званнем заслужанага дзеяча навукі.

Смерць Н. Я. Марра—вялікая страта для совецкай грамад-

---

*) Н. Я. Марр—„Яфетическая теория“. Баку, 1928 стр. 17.

**) И. И. Мещанинов—Н. Я. Марр, „Советская этнография“, 1935 г., I, стр. 10.

скасці і навукі. Тэорыя Н. Я. Марра развіваецца і будзе далей развівацца яго вучнямі, сярод якіх выдатнейшым з'яўляецца акадэмік І. І. Мешчанінаў. У 1932 годзе Н. Я. Марр пісаў:

«... чалавек, паміраючы індывідуальна саматычнай смерцю, не паміраe ў грамадзе, а пераліваецца сваімі паводзінамі і творчасцю ў жывое акружэнне, грамадскасць. Ён жыве сярод тых, хто застаецца ў жывых, калі жыў пры жыцці, а не быў мёртвым. І калектыў жывых уваскрашае мёртвых».

* * *

Буржуазнае мовазнаўства як навука існуе з першай паловы XIX стагоддзя. У першы перыяд свайго існавання яно з'яўляецца пратэстам супроць метафізічных мовазнаўчых схем XVIII стаг. і адбівае прагрэсіўныя імкненні тагочаснай буржуазіі. Але, накапіўшы вялізную колькасць моўных фактаў, буржуазныя лінгвісты не здолелі высвятліць ні праблемы паходжання мовы, ні законаў яе развіцця. Праблема паходжання мовы многімі з іх нават не лічыцца навуковай. Ужо ў 1866 годзе заснавальнікі так званага «Парыжскага таварыства лінгвістаў» у другім параграфе свайго статута адмовіліся ад вырашэння пытанняў паходжання мовы і мовы будучага.

Буржуазныя лінгвісты ў асобе так званай соцыялагічнай школы (Мейе, Соссюр і інш.) спрабуюць часам факты мовы ўвязаць з жыццём грамады, але ўвесь іх «соцыялагізм» не выходзіць за рамкі разумення мовы як катэгорыі псіха-фізіялагічнай. Відавочныя змены ў галіне мовы буржуазныя лінгвісты тлумачаць не як вынік грамадскага развіцця, а галоўным чынам, як вынік запазычання адным народам моўных форм у другога народа, або ўплывам адной мовы на другую. Пры гэтым мовы менш культурных народаў абавязкова «запазычваюць» і «падлягаюць уплыву». Канцэпцыя гэта знаходзіцца ў шчыльнай сувязі з расавай тэорыяй—ідэалагічнай зброяй фашызма.

У сучасны перыяд абвостранай класавай барацьбы і нарастання нацыянальна-вызваленчага руху ў каланіяльных і паўкаланіяльных краінах, некаторыя буржуазныя мовазнаўцы, у мэтах класавай маскіроўкі, на словах адмаўляюцца ад сувязі сваіх доследаў з расавай тэорыяй. На справе-ж сувязь гэта з'яўляецца зусім відавочнай.

Расавая тэорыя падзяляе народы свету на «вышэйшыя» і «ніжэйшыя» расы і ў адпаведнасці з гэтым на «здольныя» і «няздольныя» да культурнай творчасці і развіцця. Згодна гэтай тэорыі так званыя «арыйцы», «белакурыя з блакітнымі вачыма», належаць да «вышэйшай» расы, якая дасягнула высокай ступені культурнага развіцця толькі нібы дзякуючы сваім расавым якасцям. «Ніжэйшыя-ж» расы, да якіх у першую чаргу залічаюцца каланіяльныя і поўкаланіяльныя народы, па сваёй прыродзе нібыта няздольны да культурнага развіцця, яны павінны выміраць, быць перагноем для «вышэйшых» рас.

Нямецкі вучоны Р. Лепсіус, яшчэ ў 19 стагоддзі у сваёй «Нубійскай граматыцы» даволі шчыра выказваўся аб сутнасці расавай тэорыі. Ён заяўляе:

«Што датычыцца да гісторыі, дык я толькі адзначаю, што з усіх народаў зямлі толькі гэтыя тры роды (тры галіны белай расы— індаеўрапейская, семіцкая і хаміцкая—Я. Д.) вылучаюцца як маючыя унутраную сілу стварыць гісторыю чалавецтва і яе прагрэсіўнае развіццё ад пачатку да цяперашняга часу, а таксама, як відаць, на ўсе далейшыя часы звязаць з сабой. Усе-ж іншыя народы і расы, якія знаходзіліся, або яшчэ знаходзяцца да або каля гэтай новай тройчай крыніцы народаў, належаць да таго дагістарычнага перагною народаў, які пазбаўлены свайго святла і цяпла, толькі гэтымі гістарычнымі народамі асвятляецца, саграваецца і скарыстоўваецца».*)

Зусім відавочным з'яўляецца класавы сэнс расавай тэорыі. З дапамогай яе буржуазія імкнецца тэарэтычна «абгрунтаваць» сваю імперыялістычную экспансію, вынікам якой з'яўляецца падняволенне ў першую чаргу каланіяльных і паўкаланіяльных народаў.

У адпаведнасці з расавай тэорыяй буржуазныя лінгвісты мовы свету падзяляюць на асобныя моўныя сем'і, кожная з якіх нібы-та развіваецца па толькі ёй уласцівым законам. Тая, або іншая ступень развітасці мовы тлумачыцца належнасцю яе да пэўнай сям'і і расы. Характэрным з'яўляецца тое, што буржуазная навука аб мове не ведае да якіх сямей аднесці цэлы рад моў: кітайскую, баскскую, каўказскія мовы і інш.

Спачатку, калі Н. Я. Марр распрацоўваў асновы яфетычнай тэорыі, ён не быў марксістам, але і не быў прававерным паслядоўнікам буржуазнага індаеўрапеізма. Гэта быў дысыдэнт, які некаторымі сваімі вывадамі парушаў устаноўленыя нормы буржуазнага мовазнаўства.

У першай сваёй навуковай рабоце «Прырода і характар грузінскай мовы», якая была надрукавана ў грузінскай газеце «Іверыя» 26 сакавіка 1888 г., № 86, студэнт Н. Я. Марр даводзіў, што грузінская мова мае шмат агульнага з сямітычнай сям'ёй моў. Гэты вывад маладога вучонага тагачасныя буржуазныя лінгвісты лічылі антынавуковым і нават ерэтычным, бо гэтым устанаўлівалася сувязь моў прыгнечаных народаў Каўказа з іншымі сем'ямі моў, што не адпавядала класавым мэтам пануючай буржуазіі.

«Грузінская мова,—пісаў Н. Я. Марр,—па плоці і духу г. зн. у адносінах карнеслова і граматычнай структуры, радня семітычнай сям'і моў, аднак сувязь яе з памянутымі мовамі не такая шчыльная, як сувязь гэтых апошніх паміж сабой. Як відаць, грузінская мова (уласна кажучы грузінская, мегрэла-чанская і сванская) паходзяць з аднэй першамовы, якая амаль так падобна была на семіцкія мовы, як семіцкія падобны адна на другую».**)

У гэтай сваёй першай навуковай рабоце Н. Я. Марр толькі часткова супярэчыць палажэнням буржуазнага мовазнаўства, у асноўным-жа ён яшчэ стаіць на глебе буржуазнага мовазнаўства з яго падзелам моў на паасобныя сем'і, у аснове якіх нібыта знаходзіцца

---

*) Цытую па кнізе В. Б. Аптэкара „Н. Я. Марр и новое учение о языке" Москва. 1934 г., стар. 55.

**) Н. Я. Марр. „Природа и особенности грузинского языка". Избранные работы т. I, изд. ГАИМК, Ленинград. 1933 г., стр. 15.

першамова, з яго фармальна-параўнаўчым метадам, адносна якога яшчэ Гегель казаў наступнае:

« ... Мы не толькі павінны заўважыць, што вучоныя заходзілі надта далёка, думаючы, што гэты параўнаўчы метад можна прымяняць з аднолькавым поспехам ва ўсіх галінах пазнання, але павінны асабліва яшчэ, акрамя таго, падкрэсліць, што адно толькі параўнанне не можа даць поўнага здавальнення навуковай патрэбы і што... дасягнутыя гэтым метадам вынікі павінны разглядацца толькі як хаця і неабходныя, але ўсё-ж такі падрыхтоўчыя работы для сапраўднага пазнання».*)

Не мала прыйшлося Н. Я. Марру затраціць сіл, каб у непрымірымай барацьбе з буржуазнай лінгвістыкай моцна стаць на пазіцыі марксізма-ленінізма і аўладаць метадам дыялектычнага матэрыялізма. І гэта зусім зразумела, бо:

«Яфетычнае мовазнаўства ні ў якім разе не вылятала падобна Афіне Палладзе з галавы Зеўса: яно зарадзілася ў тым-жа буржуазна складзеным і скроеным навуковым асяооддзі, больш таго—зачалося, зразумела, як антытэза ў нормах індаеўрапеістскай лінгвістыкі, без якой яго не было-б»...**)

Пераходзячы ад вывучэння мовы грузінскай і армянскай да вывучэння іншых моў Каўказа, Н. Я. Марр знайшоў, што яны маюць цэлы рад характэрных асаблівасцей і вылучыў іх у паасобную групу, якую назваў «яфетычнымі мовамі» ***)

Н. Я. Маррам было высветлена, што няма чыстых моўных масіваў, што кожная мова скрыжавана з цэлым радам іншых моў. Гэтая акалічнасць прымусіла Н. Я. Марра выйсці з вузкіх рамак Каўказа і ўключыць у кола сваіх навуковых доследаў і не яфетычныя мовы. Аказалася, што яфетычныя мовы ёсць не толькі на Каўказе, але і далёка за яго межамі. Напрыклад, мова баскаў, якія жывуць на поўначы Іспаніі і на поўдні Францыі, этруская мова дагістарычнай Італіі, мова вершыкаў на Паміры. Паўстала пытанне аб межах распаўсюджання яфетычных моў, аб прычынах іх такой раскіданасці па Еўропе і Азіі.

У сваёй рабоце 1920 года пад назвай—«Яфетычны Каўказ і трэці этнічны элемент у ўтварэнні міжземнаморскай культуры» Н. Я. Марр высунуў гіпотэзу аб тым, што яфетыды ў свой час перасяляліся з Каўказа на ўзбярэжжа Міжземнага мора, куды таксама перасяліліся і індаеўрапейскія плямёны. Але ад гэтай міграцыйнай (перасяленчай) гіпотэзы прыйшлося ў хуткім часе адмовіцца, бо дадзеныя, атрыманыя ў выніку вывучэння геаграфічных назваў

*) Гегель „Энциклопедия философских наук", ч. I-я, Логика ГИЗ, 1929 г. стр. 200—201.

**) Предисловие к „Классифицированному перечню печатных работ по яфетидологии". Н. Я. Марр, „Избранные работы", т. I. Ленинград, 1933 г стр. 222.

***) Тэрмін „яфетычны" узят Н. Я Маррам на першым этапе яго навуковай дзейнасці з біблії. Імёнамі сыноў біблейскага Ноя—Сіма і Хама былі названы буржуазнымі лінгвістамі дзве сям'і моў Семіцкая і Хаміцкая. Заставалася нескарыстаным імя трэцяга сына—Яфета, якім Н. Я. Марр назваў групу каўказскіх моў. У сучасны момант гэты тэрмін не адпавядае сутнасці вучэння Н. Я. Марра, якое лепей называць новым вучэннем аб мове.

Французы, паказвалі, што перасяленне магло ісці ў адваротным кірунку.

Далейшыя доследы Н. Я. Марра над індаеўрапейскімі мовамі выявілі, што мовы гэтыя не складаюць асобнай індаеўрапейскай сям'і, а ёсць толькі далейшы этап у развіцці тых жа яфетычных моў, што індаеўрапейцы ніадкуль у Еўропу не прыходзілі, а ўтварыліся тут-жа ў Еўропе з яфетыдаў шляхам трансфармацыі і што моўныя сем'і, у аснове якіх нібы ляжыць першамова, ёсць нішто іншае, як саслужыўшая сваю службу навуковая фікцыя. У невялічкім дакладзе, зробленым у Акадэміі навук СССР 21 лістапада 1923 г. пад назвай «Індаеўрапейскія мовы Міжземнамор'я» Н. Я. Марр сцісла фармулюе новы свой погляд на моватворчы працэс, погляд, які з'яўляецца вельмі важным паваротам у развіцці яфетычнай тэорыі, пасля якога яфетыдалогія з вузкай каўказаведнай дысцыпліны ператвараецца ў новае вучэнне аб мове.

«Сцвярджаю,—кажа Н. Я. Марр,—што індаеўрапейскай сям'і моў расава асобнай не існуе. Індаеўрапейскія мовы Міжземнамор'я ніколі і ніадкуль не з'яўляліся ні з якім асобным моўным матэрыялам, які ішоў-бы з якой колечы расава асобнай сям'і моў, ці тым менш, узыходзіў да якой колечы расава асобнай першамовы. Да рэчы, спачатку была не адна, а мноства плямённых моў, адзіная першамова ёсць саслужыўшая сваю службу навуковая фікцыя».*)

Гэтая работа выкрывае сутнасць расавай тэорыі, на базе якой будуецца буржуазнае мовазнаўства, дае зусім новае разуменне моватворчага працэсу.

Замест буржуазнага вучэння аб паасобных моўных сем'ях, кожная з якіх нібыта развіваецца па толькі ёй уласцівых законах, новае вучэнне Н. Я. Марра высоўвае адзінства глатаганічнага (моватворчага) працэса, сутнасць якога заключаецца ў тым, што ўсе мовы свету знаходзяцца ва ўзаемнай сувязі, што яны маюць агульныя законы моўнага развіцця і што гэтыя законы не іманентны, а абумоўлены развіццём грамады. У аснове адзінства глатаганічнага працэса знаходзіцца адзінства працэса гістарычнага. Думка гэтая абгрунтавана К. Марксам у яго рабоце «Да крытыкі палітычнай эканоміі», дзе ён кажа:

«В ы т в о р ч а с ц ь  н а о г у л, гэта—абстракцыя, але абстракцыя разумная, паколькі яна сапраўды падкрэслівае агульнае, фіксіруе яго і пазбаўляе нас такім чынам ад паўтарэнняў. Між тым гэтае ў с е а г у л ь н а е або выдзеленае шляхам параўнання агульнае само ёсць нешта, многаразова расчлянёнае, і выражаецца ў розных азначэннях. Сёе тое з гэтага належыць усім эпохам, другое—агульна толькі некаторым. (Некаторыя) азначэнні агульны як для навейшай, так і для старажытнейшай эпохі. Без іх нямысліма ніякая вытворчасць; аднак, хоць н а й б о л ь ш  р а з в і т ы я  м о в ы  м а ю ц ь  з а к о н ы  і  а з н а ч э н н і,  а г у л ь н ы я  з  н а й м е н ш  р а з в і т ы м і,  а л е  і м е н н а  а д р о з н е н н е  а д  г э т а г а  ў с е-

*) Н. Я. Марр, „Избранные работы", т. I. Ленинград, 1933 г. стр. 185.

агульнага і агульнага ёсць тое, што састаўляе іх развіццё». *) (Падкрэслена мною—Я. Д.).

Канкрэтызаваўшы гэтае палажэнне К. Маркса на велізарным моўным матэрыяле, Н. Я. Марр зусім па новаму ставіць праблему класіфікацыі моў. Мовы падзяляюцца не па лінгвістычных сем'ях і не па марфалагічных адзнаках, а па ступенях стадыяльнага развіцця глатаганічнага працэса. Пераход ад аднэй лінгвістычнай стадыі да другой адбываецца скачкамі ў выніку зрухаў у матэрыяльным базісе. Кожная стадыя характарызуецца пэўным тыпам мыслення, пэўнымі семантычнымі, марфалагічнымі і сінтаксічнымі нормамі і фанетычнымі асаблівасцямі.

Вучэнне Н. Я. Марра аб стадыяльным развіцці моў і аб адзінстве моватворчага працэса накіравана супроць фашысцкай расавай тэорыі, а таксама і супроць нацдэмаўскай тэорыі самабытнасці, згодна якой беларуская мова і культура развіваюцца па сваім асабістым самабытным шляхам, нічога агульнага не маючы з шляхамі развіцця культур і моў іншых народаў.

У буржуазным мовазнаўстве галоўная ўвага аддаецца фанетыцы—гукаваму боку мовы, а марфалогія і вучэнне аб значэнні слоў—семасіялогія, з'яўляюцца толькі дадаткам да фанетыкі, фармальнаапісаўчым з'яўляецца і сінтакс. Мова вывучаецца фармальна, адарвана ад свайго зместу і грамады. У новым жа вучэнні Н. Я. Марра падкрэсліваецца сэнсавы бок мовы, шчыльная сувязь мовы з мысленнем, з гісторыяй матэрыяльнай культуры. Разуменне адзінства мовы і мыслення Н. Я. Марр канкрэтызаваў на велізарным моўным матэрыяле. Ён пераканаўча давёў, што самыя рознастайныя лінгвістычныя з'явы прайшлі праз усведамленне, што няма мовы без мыслення і мыслення без мовы.

«Мова твор калектыва ў вытворчасці,—кажа ён,—няма ніводнага слова, ніводнай формы, ніводнага гуку, ніводнай лінгвістычнай з'явы, якая не прайшла-б праз усведамленне, створанае і нарміраванае калектыўнай, у далейшым масавай вытворчасцю». **)

Адной з важнейшых праблем у мовазнаўстве з'яўляецца праблема паходжання мовы, якая мае глыбокае прынцыповае метадалагічнае значэнне, бо для таго, каб правільна зразумець гісторыю мовы неабходна ведаць як яна ўзнікла. Гэтая акалічнасць падкрэслена Энгельсам у кнізе «Анты-Дзюрынг», дзе ён кажа:

«Матэрыя і форма роднай мовы толькі тады могуць быць зразуметы, калі прасочваюць яе ўзнікненне і паступовае развіццё, а гэта немагчыма, калі пакінуць без увагі, па-першае, яе ўласныя амярцвеўшыя формы і, па-другое, родсценыя жывыя і мёртвыя мовы».

Буржуазныя мовазнаўцы стварылі цэлы рад тэорый паходжання мовы, найбольш ранняй з якіх з'яўляецца бажэсцвеная тэорыя, згодна якой мова ёсць дар бога і даецца людзям у гатовым выглядзе. Гэтая папоўская ўстаноўка паасобнымі буржуазнымі лінгві-

*) Карл Маркс „Да крытыкі палітычнай эканоміі", Белпартвыдавецтва ЦК КП(б)Б.

**) Н Я. Марр „К семантической палеантологии в языках неяфетических систем", Известия ГАИМК, 1931 г., стр. 37 г.

стамі некалькі мадэрнізуецца і бог замяняецца духам, як, напрыклад, у Вільгельма фон Гумбольта, але гэта па сутнасці нікольні не мяняе справы. Бажэсценай тэорыі паходжання мовы найбольш прагрэсіўныя буржуазныя ідэолагі Вялікай французскай рэвалюцыі супроцьставілі таксама ідэалістычную тэорыю, згодна якой мова ўзнікла ў выніку грамадскага дагавора. Але паўстае пытанне: як маглі людзі дагаварыцца наконт сваёй мовы, калі ў іх яшчэ не было мовы? Трэба яшчэ адзначыць гукапераймальную тэорыю і тэорыю афектыўных выгукаў, недахопы якіх заключаюцца ў тым, што яны не разумеюць адзінства мовы і мыслення, не разумеюць яе сацыяльнай прыроды, не разумеюць мовы як ідэалагічную надбудову, якая ўзнікла на пэўнай ступені развіцця прадукцыйных сіл. Не вытрымлівае сур'ёзнай крытыкі і найбольш распрацаваная буржуазная тэорыя паходжання мовы Людвіга Нуарэ, якая ўзнікненне мовы спрабуе ўвязаць з афектыўнымі выгукамі, узнікаючымі ў чалавека ў часе яго працы.

Ненавуковасць сваіх тэорый паходжання мовы вымушаны прызнаваць самі буржуазныя лінгвісты. У апошні час яны адмаўляюцца ад вырашэння праблемы паходжання мовы і лічаць нават саму гэтую праблему ненавуковай. Гэтым самым яны распісваюцца ў сваёй метадалагічнай бездапаможнасці.

Праблема паходжання мовы правільна ставіцца і вырашаецца класікамі марксізма, якія ўзнікненне мовы ўвязваюць з працай, бо толькі праца стварыла чалавека і яго мову.

«Панаванне чалавека над прыродай, якое пачыналася разам з развіццём рукі і працы, пашырала з кожным новым крокам кругагляд чалавека. У прадметах прыроды ён заўсёды знаходзіў новыя, да таго невядомыя ўласцівасці. З другога боку, развіццё працы па неабходнасці спрыяла больш шчыльнаму яднанню членаў грамады, бо дзякуючы ёй больш частымі сталі выпадкі ўзаемнай падтрымкі, сумеснай дзейнасці, і стала ясней карысць гэтай сумеснай дзейнасці для кожнага асобнага члена. Каротка кажучы, фарміруючыся, людзі прыйшлі да таго, што ў іх з'явілася патрэба штосьці сказаць адзін другому. Спачатку праца, а пасля і побач з ёй членападзельная мова з'явіліся самымі галоўнымі стымуламі, пад уплывам якіх мозг малп змог паступова ператварыцца ў чалавечы мозг». *)

Яшчэ не будучы знаёмым з вучэннем Энгельса аб паходжанні мовы Н. Я. Марр высунуў сваю тэорыю паходжання гукавой мовы, якая шмат у чым супадала з вучэннем Энгельса, але незнаёмства Н. Я. Марра ў той час з вучэннем класікаў марксізма прывяло яго да некаторых памылак, сутнасць якіх зводзіцца да пераацэнкі ролі першабытнай магіі і прызнання гукавой мовы з самага яе пачатку класавай. Але не гледзячы на гэтыя памылкі роля Н. Я. Марра ў распрацоўцы гэтай праблемы вялікая, бо сваё матэрыялістычнае разуменне паходжання мовы ён заўсёды абгрунтоўваў глыбока пра-

---

*) Ф. Энгельс. „Роль труда в процессе очеловечивания обезьяны", Партиздат. 1932 г., стр. 4—5.

аналізаваным моўным матэрыялам. Новае, што ўнёс Н. Я. Марр у праблему паходжання мовы, заключаецца ў тым, што да гукавой мовы была мова кінетычная, ручная. Гэтае палажэнне Н. Я. Марра пацвярджаюць як этнаграфічныя дадзеныя, якія сведчаць аб тым, што перажыткі кінетычнай мовы захаваліся ў шмат якіх плямён Аўстраліі, Амерыкі і нават сярод некаторых народаў Каўказа, а таксама і археалагічна-антрапалагічныя дадзеныя, якія паказваюць, што будова чэрапа ў так-званага гейдэльбергскага і неандэртальскага чалавека была такая, што гэты чалавек не мог карыстацца гукавой мовай. Акрамя таго, факт існавання кінетычнай мовы да гукавой пераканаўча даводзіцца Н. Я. Маррам на вялікім моўным матэрыяле.

Наяўнасць кінетычнай мовы ў каланіяльных плямён канстатавалася і буржуазнымі вучонымі, якія сабралі не мала матэрыялаў на гэтай мове. Але буржуазныя вучоныя не разумелі і зараз не могуць правільна зразумець сутнасць ручной мовы.

«Ручная мова і разам з ёй ручное мысленне,—кажа Н. Я. Марр,—наглядаліся даўно. Але дзе? як? І з якімі вынікамі хаця-б для навукі? Ручная мова, ды і мысленне наглядалася ў далёкіх каланіяльных краінах, у «чырвонаскурых», «чорнаскурых», «жоўтатварых» і г. д. прадстаўнікоў не чалавецтва, а адверbegжаных істот, ні то жывёл, ні то на рубяжы з жывёламі, як гэта раскласіфіцыравала «каланіяльны» свет вучоная Еўропа, уласна кажучы—буржуазны клас Еўропы, стварыўшы для гэтага так-званую этналогію, вельмі сумнявальны сурагат соцыялогіі. Ручная мова ў гэтым асяроддзі з'яўляецца для адных цікавым кур'ёзам, для другіх больш дапытлівых розумаў—матэрыял для агульных разважанняў і безадказных выказванняў аб прымітыўным мысленні, для дзе-каго—лішні довад, што гэтых адсталых прадстаўнікоў «каланіяльных» народаў сапраўды можна атоежсаміць з жывёлай... Натуральна, для старай навукі аб мове ручная мова зусім і не існуе».*)

Заслуга Н. Я. Марра заключаецца ў тым, што ён падышоў да ручной мовы з гістарычнага пункту гледжання, знайшоў яе гістарычнае месца і давёў, што гэтая мова не якая-небудзь там уласцівасць каланіяльных плямён, а этап у развіцці адзінага моватворчага працэсу. Але кінетычная мова мела свае недахопы. Гэтай мовай нельга было карыстацца ўначы, а таксама і на пэўнай адлегласці асабліва ў лесе. З развіццём прадукцыйных сіл і чалавечага мыслення ручная мова не магла задаволіць першабытнага чалавека. Паступова пачаўся пераход на гукавую мову.

Першапачатковая гукавая мова мела вельмі мала дыферэнцыраваныя гукі, якія Н. Я. Марр назваў дыфузнымі гукамі; на першым этапе гэта былі нешматлікія гукавыя комплексы, бо маларазвіты артыкуляцыйны апарат не мог вымаўляць тых гукаў—фанем, якія маюцца ў нашых сучасных мовах. Але пераход на гукавую мову быў зроблен і, як кажа Энгельс, «патрэба стварыла сабе орган: неразвітая глотка малпы ператварылася паступова, але няўхільна, шляхам

*) Н. Я. Марр „Язык и мышление“., 1931 г., стр. 34—35.

паступова ўзмацняемых мадуляцый, і органы роту паступова навучыліся вымаўляць адзін члена-падзельны гук за другім».*)

Першыя словы гукавой мовы былі вельмі кароткія і простыя. Тут не было яшчэ граматычных катэгорый у нашым разуменні гэтага слова, не было ні скланення, ні спражэння. Ды само слова не было словам у нашым разуменні, а гукавым комплексам, які выражаў цэлую думку. Эмпірычным шляхам Н. Я. Марр устанавіў, што такіх комплексаў у першапачатковай гукавой мове было ўсяго на ўсяго толькі чатыры, якія ён назваў лінгвістычнымі элементамі і ўмоўна абазначыў першымі літарамі лацінскага алфавіта А. В. С. Д. Чаму гэтых элементаў было іменна чатыры, Н. Я. Маррам канчаткова высветлена не было. Была спроба шукаць тлумачэння колькасці гэтых элементаў ва ўмовах таго працоўнага працэсу, у час якога яны ўзніклі. Аднак гэтыя элементы ў новым вучэнні аб мове адыгрываюць вялікую ролю ў справе лінгвістычнага аналізу.

Буржуазнае мовазнаўства ведае два спосабы лінгвістычнага аналізу: аналіз марфалагічны, калі слова расчляняецца на паасобныя часціны—марфемы і аналіз фанетычны, калі слова дзеліцца на паасобныя гукі, так званыя фанемы. Недахоп гэтых спосабаў заключаецца ў тым, што слова разбіваецца не на тыя элементы, з якіх яно ўтваралася гістарычна, а на элементы ўжо склаўшайся мовы, якія вывучаюцца ў іх статыцы. Выдатнейшы прадстаўнік сучаснага буржуазнага мовазнаўства А. Мейе, які стаіць на чале так-званай «социялагічнай школы», для навуковага вывучэння мовы высоўвае наступныя патрабаванні:

1) Каб мова ўваходзіла ў моўную сям'ю, а не была ізалявана.
2) Каб мела марфалогію,
3) Каб мела пісьмовыя крыніцы, на падставе якіх можна было б параўноўваць сучасныя факты мовы з мінулымі.

Вывучаючы адну сям'ю моў, вы, згодна буржуазнай метадалогіі, не можаце браць моўныя факты з другой сям'і, бо кожная моўная сям'я, як кажуць лінгвісты індаеўрапеісты, развіваецца па сваіх законах.

Атрымліваецца, што цэлы рад моў, згодна гэтых патрабаванняў, пазбаўляецца права на навуковае вывучэнне. Так, напрыклад, кітайская мова і інш., якія не маюць марфалогіі, шматлікія мовы каланіяльных народаў і нацыянальных меншасцяў, якія не маюць пісьменнасці і не ўваходзяць у штучна створаныя буржуазнымі вучонымі моўныя сем'і.

Новае вучэнне аб мове фармальна-параўнаўчаму метаду буржуазнай лінгвістыкі супроцьставіць свой спосаб аналізу лінгвістычнага матэрыяла, палеанталагічны аналіз, пры якім словы разбіваюцца не на марфемы, і фанемы, а на лінгвістычныя элементы, якія ляжаць у аснове усякай гукавой мовы і дапамагаюць стварыць сапраўдную гісторыю мовы і мыслення. Не толькі ў пісьмовых помніках, але і ў нашай вуснай мове і яе дыялектах у якасці перажыткаў захаваліся адзнакі даўно пройдзеных этапаў чалавечага мыслення, зразумець

*) Ф. Энгельс „Роль труда в процессе очеловечивания обезьяны". стр. 4.

якія якраз і дапамагае палеанталагічны аналіз. Толькі на аснове лінгвістычнага аналізу па элементах мы можам на лінгвістычным матэрыяле прасачыць адзінства моватворчага працэса і разбурыць тыя штучныя кітайскія муры між фіктыўнымі моўнымі сем'ямі, якія ў сваіх класавых мэтах стварыла буржуазная лінгвістыка.

Найбольшыя дасягненні новае вучэнне аб мове мае ў семантыцы, якая вывучае значэнне слоў. Н. Я. Марр устанавіў, што першыя словы чалавечай гукавой мовы характарызуюцца многазначымасцю, або палісемантызмам, зразумець які можна толькі разумеючы тып мыслення першабытнага чалавека. Мысленне гэтага чалавека не патрабавала строгай дыферэнцыяцыі тых прадметаў, якія выконвалі адну і тую-ж гаспадарчую функцыю. Так, напрыклад, птушка, алень, мядзведзь і іншыя жывёлы маглі абазначацца адным і тым-жа словам, паколькі ўсе яны з'яўляліся аб'ектам палявання і мелі адну, або прыблізна адну і тую-ж гаспадарчую функцыю.

Разам з гэтым Н. Я. Марр устанавіў, што існуе закон функцыянальнай семантыкі, сутнасць якога заключаецца ў тым, што з развіццём вытворчых сіл старыя тэрміны пераносяцца на новыя прадметы, якія выконваюць функцыю ранейшых. У гістарычнай перспектыве ўтвараюцца цэлыя рады значэнняў, семантычныя рады, па тэрміналогіі Н. Я. Марра. Так, напрыклад, для перавозак спачатку скарыстоўваўся сабака, пасля алень і конь, таму і тэрмін, якім абазначалася функцыя перавозкі, пераходзіў з сабакі на аленя, а пасля на каня. Прыладай працы спачатку была няўзброеная рука, пасля камень, а яшчэ пазней бронза, медзь, жалеза. У выніку маем семантычны рад: рука—камень—бронза—медзь—жалеза і г. д. Такім жа чынам была высветлена паслядоўнасць у змене сродкаў харчавання—жалудоў, хлеба і інш.

Некаторыя лінгвістычныя факты, маючыя дачыненне да закона функцыянальнай семантыкі, заўважаліся ўжо і лінгвістамі—індаеўрапеістамі. Імі адзначалася, што грэчаскае kamelos—вярблюд і лацінскае caballus—конь адно і тое-ж слова, або што гоцкае ulbandus—вярблюд і грэчаскае elephas—слон належыць да аднаго і таго-ж кораня. Але гэтыя і іншыя падобныя лінгвістычныя факты не знайшлі грамадска-гістарычнага абгрунтавання ў буржуазным мовазнаўстве.

З пункту гледжання Н. Я. Марра ўсе гэтыя факты сведчаць не толькі аб змене значэнняў слоў, але і аб зменах, якія адбываліся ў гаспадарцы, калі пэўную функцыю адных хатніх жывёл пачалі выконваць другія. Адсюль зусім зразумелымі з'яўляюцца сугучныя словы ў розных мовах як напрыклад:

| | |
|---|---|
| рускае кобель | —сабака. |
| лацінскае kaballus | —конь |
| яўрэйскае gamal | —вярблюд |
| латышскае kumelis | —жарабок |
| грэчаскае kamelos | —вярблюд |
| або: | |
| чувашскае teve | —вярблюд |
| латышскае keve | —кабыла |
| турэцкае deve | —вярблюд і інш. |

З работ Н. Я. Марра, у якіх найбольш грунтоўна распрацаваны закон функцыянальнай семантыкі, трэба адзначыць «Средства передвижения, орудия самозащиты и производства в доисгории», выдан. 1926 г. Закон функцыянальнай семантыкі, абгрунтаваны Н. Я. Маррам на лігвістычным матэрыяле, знайшоў падмацаванне і ў археалогіі.

« ... У 1919 годзе, у часе раскопак курганнага пахавання ўрочышча Позырк на Улаганскім пласкагор'і і Усходняга Алтая, знойдзена некалькі коней, маскіраваных рагамі пауночнага аленя. Рэлігія патрабавала пахавання нябожчыка разам з везшым яго ў магілу аленем, якога змяніў у гаспадарцы конь. Культавы кансерватызм перанёс на апошняга вонкавы выгляд яго папярэдніка, па той жа функцыі. Канфлікт рэлігіі з рэчаіснасцю перамагаўся шляхам маскіроўкі». *)

Функцыянальныя семантычныя рады, выяўленыя на моўным матэрыяле, сведчаць аб тых зрухах, якія адбываліся ў гаспадарчым жыцці. Такім чынам мова пры палеанталагічным аналізе робіцца каштоўнейшай гістарычнай крыніцай. Яна асвятляе такія глыбіні гісторыі, якія часам недаступны ні гісторыку, скарыстоўваючаму пераважна пісьмовыя помнікі, ні археолагу.

Н. Я. Марр устанавіў, што ў мове існуе дыялектычны закон расшчаплення адзінага на супроцьлегласці.

«Адно і тое-ж слова на адным баку, п а к і н у т ы м (падкрэслена Н. Я. Маррам—Я. Д.) баку, азначае галава ды пачатак, а на новым, заваяваным, зразумела, барацьбой у працэсе развіцця вытворства і вытворчых адносін, азначае—хвост, канец, на адным баку слова агонь, на другім—вада, на адным баку дзень, белы, на другім—ноч, чорны; на адным баку верх, на другім—ніз. Г. зн. свет пры такіх зрухах пераварачваецца верхам уніз ці, правільней кажучы, нізам уверх»... **)

Прычын расшчаплення аднаго паняцця на яго супроцьлегласці трэба шукаць ва ўмовах развіцця вытворчых сіл і дыферэнцыяцыі самой грамады.

«Узнікнуўшы раз, супроцьлеглыя значэнні доўгі час захоўваюцца за адным агульным словам, у далейшым жа іх супроцьлегласць афармляецца замацаваннем за двума рознымі словамі. Прыкладам непасрэднага ўплыву дыферэнцыяцыі грамады на працэс развіцця з аднаго паняцця двух супроцьлеглых з'яўляецца ўяўленне аб загробным жыцці, аб месцы яго і аб расшчапленні гэтага ўяўлення на два розных—рай і пекла. Да пэўнай ступені ў развіцці дыферэнцыяцыі грамады існавала ўяўленне аб адзіным месцы ўпакаення душ. Такім быў, напрыклад, першапачатковы грэчаскі «гадэс» або «аід», г. зн. пекла. У яго «змяшчаўся» ўсякі нябожчык. З расслаеннем грамады выпрацоўвалася уяўленне аб двух пеклах.

*) Сообщение ГАИМК (Госуд. Акад. Истории материальной культуры). 1932 г., № 1—2, стр. 9.

**) Н. Я. Марр „Язык и мышление“ стр. 14.

Адно прызначалася для вышэйшага слоя старэйшын, другое для масы племені». *)

Гэтая з'ява расшчаплення адзінага паняцця на супроцьлегласці, аб якой кажа Н. Я. Марр, ёсць нішто іншае, як канкрэтызацыя на матэрыяле мовы закона марксісцка-ленінскай дыялектыкі аб раздваенні адзінага на супярэчлівыя часці. Новае вучэнне аб мове, створанае акадэмікам Н. Я. Маррам, мае вялікія дасягненні ў розных раздзелах мовазнаўства, мае выключны інтарэс для цэлага раду грамадазнаўчых дысцыплін. Але значымасць тэарэтычных дасягненняў той або іншай навукі мы расцэньваем з пункту гледжання прымянімасці іх у практыцы нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Пытанні мовы, па новаму распрацаваныя Н. Я. Маррам, маюць велізарнае практычнае значэнне.

«Хто асмеліўся-б сцвярджаць,—кажа Н. Я. Марр,—што мова ў нас, у Саюзе, абстрактная матэрыя? Што мысленне, без чаго мы ўжо не ўлічваем мовы, у нас у гэтыя іменна яркія, бязлітасным да сябе напружаннем сіл перажываемыя дні соцыялістычнага будаўніцтва, не ўяўляе выключнай каштоўнасці? Нашы мыслі, наша чоткая дыялектыка—матэрыялістычна завостранае мысленне і робіць тое, што мова наша набывае нічым незамянімую значымасць адначасова на ўсіх франтах разгортваючайся на нашых вачах жорсткай класавай барацьбы. Мова па свайму паходжанню наогул, а гукавая мова асабліва, таму і з'яўляецца «магутным вагаром культурнага ўздыму», што яна—незамянімая зброя класавай барацьбы». **)

Пытанні ленінскай нацыянальнай палітыкі, пытанні культурнай рэволюцыі, якія паспяхова вырашаюцца ў нашай многамоўнай соцыялістычнай краіне, маюць непасрэднае дачыненне да цэлага раду практычных мерапрыемстваў, якія праводзяцца нашай партыяй і ўрадам у галіне мовы, у першую чаргу ў галіне моў нацыянальных меншасцяў. Стварэнне алфавітаў для народаў, якія яго не мелі да Кастрычніцкай рэволюцыі, стварэнне літаратурных моў і тэрміналогіі, упарадкаванне арфаграфіі, перакладная і слоўнікавая работа—усе гэтыя і іншыя практычныя мерапрыемствы нельга праводзіць без грунтоўнай навуковай распрацоўкі моў нацменшасцяў, без тых дасягненняў, якія маюцца ў новым вучэнні аб мове. Гэтае вучэнне, як кажа Н. Я. Марр:

«...арганічна зацікаўлена ў выяўленні асаблівасцей мовы аднолькава кожнай народнасці, незалежна ад таго, старапісьменная яна, новапісьменная, або наогул без пісьменнасці, далучана да сучаснай культуры ў поўнай меры ці вельмі слаба»... ***)

Тэорыя Н. Я. Марра з яе гістарычным падыходам да моўных з'яў, у тым ліку і да граматычных катэгорый, мае вялікае значэнне для выкладання мовы ў школе. Аб тым, што неабходна ўзмацніць элементы гістарызма ў школьных праграмах, у тым ліку і ў праграме

*) С. Н. Быковский—„Н. Я. Марр и его теория", 1933 г., стр. 61.

**) Н. Я. Марр „Язык и мышление" стр. 4.

***) „Вопросы языка в освещении яфетической теории". Избранные отрывки из работ акад. Н. Я. Марра. Сост. В. Б. Аптекарь, Ленинград, 1933 г. стр. 474.

па мове, адзначана ў пастанове ЦК ВКП(б) ад 25 жніўня 1932 г. «Аб вучэбных праграмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе».

Тэорыя Н. Я. Марра шчыльна ўвязваецца з практыкай нашага сацыялістычнага будаўніцтва, у першую чаргу будаўніцтва ў галіне мовы, яна павінна быць вядома сярод шырокіх працоўных мас, бо, як казаў тав. СТАЛІН на канферэнцыі аграрнікаў—марксістаў: «Тэорыя, калі яна з'яўляецца сапраўднай тэорыяй, дае практыкам сілу арыентыроўкі, яснасць перспектывы, упэўненасць у рабоце, веру ў перамогу нашай справы. Усё гэта мае—і не можа не мець—вялікае значэнне ў справе нашага сацыялістычнага будаўніцтва».

---

ЦК ВКП(б) з глыбокім жалем паведамляе аб смерці члена ВКП(б), таленавітага пісьменніка-ордэнаносца

**Нікалая Аляксеевіча ОСТРОЎСКАГА**

ЦК ВКП(б)

ЦК КП(б)У і ўрад Украіны з жалем паведамляюць аб заўчаснай смерці выдатнага маладога пісьменніка Украіны, аўтара вядомага рамана „Як гартавалася сталь“, комсамольца-ордэнаносца

ТАВАРЫША **Н. А. ОСТРОЎСКАГА**

Урад Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі і ЦК КП(б)Б глыбока засмучаны па поваду смерці члена ВКП(б), горача любімага, таленавітага пісьменніка - ордэнаносца

**Нікалая Аляксеевіча ОСТРОЎСКАГА,**

аддаўшага ўсё сваё слаўнае жыццё справе рабочага класа, справе партыі Леніна—Сталіна.

*ЦВК БССР*
*СНК БССР*
*ЦК КП(б) Беларусі*

# НІКАЛАЙ АЛЯКСЕЕВІЧ ОСТРОЎСКІ

## ЛЮБІМЫ СЫН УКРАІНСКАГА НАРОДУ

Памёр беззаветны баец за справу пралетарскай рэвалюцыі, таленавіты пісьменнік, адзін з лепшых сыноў слаўнага комсамольскага племя, ордэнаносец Нікалай Аляксеевіч Остроўскі.

Партыя і комсамол, усе працоўныя краіны Советаў панеслі вялікую страту, страту большэвіцкай душы, страту загартаванага, як сталь, большэвіка, высокай маральнай асобы.

Нягледзячы на цяжкую прагрэсуючую хваробу, якая высушыла яго арганізм, сляпы, ён нястомна тварыў, ствараў, далёка і глыбока бачыў новае, кіпучае, радаснае жыццё краіны ўрачыствуючага соцыялізма.

Які вялікі быў у Остроўскім агонь большэвіцкай душы! Якая вялікая была ў ім сіла творчай энергіі, якая вялікая была ў яго любоў да партыі, да таварыша Сталіна і комсамола, якая вялікая была ў яго нянавісць да ўсіх ворагаў рабочых і сялян!

Колькі жывіцельнай сілы, сапраўднага аптымізму, здзіўляючага ўсіх, было ў гэтага выдатнага чалавека!

Ен увесь гарэў жаданнем ствараць. Смерць застала яго на баявым пасту, у росквіце творчых сіл.

Адыйшоў дарагі, любімы сын украінскага народу Нікалай Аляксеевіч Остроўскі. Яго яскравае, выдатнае жыццё будзе натхняць моладзь на гераічную барацьбу супроць класавых ворагаў, за ўрачыстасць комунізма. Слаўная памяць аб ім не згасне ў сэрцах працоўных мас.

*Старшыня ЦВК СССР і ЦВК УССР*
*І. ПЕТРОЎСКІ.*

# НІКАЛАЙ АЛЯКСЕЕВІЧ ОСТРОЎСКІ

(*Біяграфія*)

Нікалай Аляксеевіч Остроўскі нарадзіўся ў 1904 годзе ў мястэчку Шэпетоўка, Ізяслаўскага павета, Валынскай губерні, у сям'і чыгуначнага рабочага. У раннім узросце ён страціў бацьку. З таго часу сям'я так-сяк існавала на заработак маці і старэйшага брата—слесара чыгуначнага дэпо.

У 1915 годзе, калі 11-гадовага хлопчыка Нікалая Остроўскага выгналі з царкоўна-прыходскай школы за пастаянныя нелады з папом, ён з вялікімі цяжкасцямі ўстроіўся на работу ў станцыйным буфеце. З гэтага часу пачалося яго працоўнае жыццё. Ён працуе кубаўшчыком, рабочым на складзе, падручным качагара на электрастанцыі.

У 1919 годзе Нікалай Остроўскі ўступае ў комсамол і становіцца ў рады адважных байцоў за вызваленне Украіны ад нямецкіх і польскіх акупантаў. Ён прымае ўдзел у грамадзянскай вайне ў конных часцях Катоўскага і Будзённага. Пад Львовам Н. А. Остроўскі атрымлівае цяжкае раненне. Але гэта толькі на час выводзіць са строю мужнага барацьбіта. Ён дэмабілізуецца толькі пасля сканчэння грамадзянскай вайны.

У 1921 годзе Н. А. Остроўскі працуе ў Кіеве, у галоўных чыгуначных майстэрнях, а ў 1922 г. на ўдарным будаўніцтве чыгуначнай веткі. Тут ён захварэў тыфам. Цяжкая хвароба выклікае ўскладненне. Пасля выздараўлення Н. А. Остроўскі накіроўваецца камісарам батальёна войск унутранай аховы ў пагранічным Берэздоўскім раёне.

Пачынаючы з 1924 года, калі Н. А. Остроўскі ўступіў у рады большэвіцкай партыі, ён на працягу некалькіх год знаходзіўся на кіруючай комсамольскай рабоце.

У 1927 годзе ЦК комсамола Украіны прымае ўсе меры, каб аднавіць моцна падарванае здароўе Н. А. Остроўскага і даць яму магчымасць з новымі сіламі прыняцца за работу. У поўнай меры гэта не ўдаецца. Н. А. Остроўскі працуе прапагандыстам, вядзе марксісцка-ленінскія гурткі. Увесь вольны час ён аддае ўзмоцненай рабоце над сабой.

Паходы, напружаная арганізатарская і прапагандысцкая работа, вынікі старой раны і тыфа выклікаюць цяжкае захворванне, у рэзультаце якога Н. А. Остроўскі пазбаўляецца зроку.

Але бадзёрасць духу і кіпучая энергія ні на мінуту не пакідаюць слаўнага барацьбіта за соцыялізм. У 1928 годзе пачынаецца літаратурная дзейнасць Н. А. Остроўскага.

„Фізычна страціў амаль усё, засталася толькі непатухаючая энергія маладосці і страснае жаданне быць чым-небудзь карысным сваёй партыі і свайму класу“,—піша Н. А. Остроўскі ў сваёй аўтабія-

графіі. Свае сілы ён аддае стварэнню рамана „Як гартавалася сталь“, якi выходзiць у 1932 годзе. Яго першы раман, высока ацэнены ўсёй працоўнай моладдзю Совецкага Саюза, партыяй і ўрадам, хутка стаў адной з любімейшых кніг у нашай краіне. Ён перакладзен на многія мовы народаў СССР, а таксама і на замежныя мовы.

1 кастрычніка 1935 года Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюза ССР узнагародзіў Н. А. Остроўскага ордэнам Леніна. Высокая ўзнагарода ўраду дала пісьменніку новыя сілы для далейшай работы.

Герой грамадзянскай вайны, страціўшы здароўе ў барацьбе за совецкую ўладу, Н. А. Остроўскі, будучы хворым, ні на мінуту не спыняў змагацца за соцыялізм зброяй мастацкага слова. Да апошняга моманту ён быў заняты творчай работай над новым раманам „Рожденные бурей“.

Нікалай Остроўскі аддаў усе лепшыя гады свайго жыцця беззаветнай барацьбе за соцыялізм. Дастойны сын сваёй вялікай соцыялістычнай радзімы, ён быў бязмежна адданы справе партыі Леніна—Сталіна.

## БЫВАЙ, ДАРАГІ НІКАЛАЙ АЛЯКСЕЕВІЧ

Совецкая літаратура панесла вялікую страту. Памёр Нікалай Аляксеевіч Остроўскі, таленавіты мастак-большэвік, верны сын вялікай соцыялістычнай радзімы, чыё жыццё—цудоўны прыклад мужнага рэволюцыянера-пісьменніка.

Нікалай Аляксеевіч першай кнігай аб совецкай моладзі, раманам „Як гартавалася сталь“ стаў любімым аўтарам усіх народаў Совецкага Саюза. На героях яго рамана совецкая моладзь вучыцца і будзе вучыцца змаганню за комунізм, ягонае жыццё—узор для маладых барацьбітоў нашага вялікага часу.

Бязлітасная хвароба прыкавала Нікалая Аляксеевіча да ложка. Але большэвіцкая воля і мужнасць не пакідалі яго да апошняга часу. Будучы вельмі хворым, ён напружваў усе свае сілы, каб багата працаваць для нашай соцыялістычнай эпохі. Змяніўшы вінтоўку, якую ён мужна трымаў у грамадзянскую вайну, на пяро пісьменніка-большэвіка, ён быў у першых шэрагах пісьменнікаў рэволюцыянераў, ён стварыў незабыўныя творы, якія заўсёды будуць клікаць на барацьбу, якія клічуць да радаснага шчаслівага жыцця ў наш вялікі час.

Смерць літаратара-ордэнаносца Н. А. Остроўскага—вялікая страта для літаратур усіх народаў Совецкага Саюза. Беларускія совецкія пісьменнікі схіляюць галовы перад сваім таварышом, слаўным пісьменнікам-большэвіком. Беларускія совецкія пісьменнікі назаўсёды захаваюць у памяці светлы вобраз Нікалая Аляксеевіча, як прыклад страснага рэволюцыянера, мастака большэвіцкага слова.

Бывай, дарагі Нікалай Аляксеевіч!

*Агульны сход*
*Пісьменнікаў БССР.*

# ХРОНІКА

## ЯНКА КУПАЛА, ЯКУБ КОЛАС і АНДРЭЙ АЛЕКСАНДРОВІЧ ДЭЛЕГАТЫ VIII-га З'ЕЗДА СОВЕТАЎ

У ліку дэлегатаў—лепшых людзей нашай радзімы—на Надзвычайны VIII З'езд Советаў былі абраны на Ўсебеларускім З'ездзе Советаў народныя паэты рэспублікі **Янка Купала, Якуб Колас** і паэт **Андрэй Александровіч**.

7-га снежня на адкрытым партыйна-комсамольскім сходзе ў Доме пісьменніка дэлегаты выступілі з сваімі ўражаннямі аб гістарычным з'ездзе, які зацвердзіў вялікую сталінскую Канстытуцыю.

— Гэта былі незабыўныя хвіліны,— гаворыць **Андрэй Александровіч.**—Калі узышлі на трыбуну члены Палітбюро і таварыш Сталін, уся зала загрымела бурай воплескаў, воклічамі „ура" ў гонар вялікага правадыра і яго таварышоў. Мы не зводзілі вачэй з таварыша Сталіна. Даклад таварыша Сталіна слухалі не толькі ў Крэмлёўскай зале, а і па ўсім Совецкім саюзе. Я быў надзвычай рады і шчаслівы, што разам з любімым правадыром народаў таварышам Сталіным удзельнічаў у рэдакцыйнай камісіі па выпрацоўцы канчатковага тэкста новай канстытуцыі СССР.

З вялікім напружаннем слухалі пісьменнікі ўсхваляваныя словы дэлегатаў, словы радасці і шчасця пра даклад таварыша Сталіна, пра работу з'езда. Народны паэт рэспублікі **Якуб Колас** расказаў аб выступленнях на з'ездзе лепшых прадстаўнікоў народу, знатных людзей нашай соцыялістычнай радзімы, а таксама абмяняўся ўражаннямі аб вечары кіргізскай паэзіі, наладжаным у маскоўскім Доме пісьменнікаў.

— У ліку сваіх лепшых прадстаўнікоў беларускі народ паслаў трох пісьменнікаў на Надзвычайны VIII З'езд Советаў,— сказаў народны паэт рэспублікі **Янка Купала.**—Я вельмі шчаслівы і рады, што ўдзельнічаў у работах Надзвычайнага з'езда, што разам з любімым Сталіным, яго баявымі саратнікамі і ўсімі лепшымі пасланцамі народаў Совецкага Саюза быў на такім гістарычным з'ездзе, які прыняў і зацвердзіў вялікую Сталінскую Канстытуцыю.

## УСЕБЕЛАРУСКАЯ МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА

У Менску ў Доме мастака адкрылася ўсебеларуская выстаўка жывапісі, скульптуры і графікі. На выстаўцы прадстаўлена больш 300 работ, якія сведчаць пра творчы рост совецкіх мастакоў, асабліва маладога пакалення.

Тэматыка карцін у асноўным прысвечана шчасліваму і радаснаму жыццю совецкага народу. Больш шырока як на ранейшых выстаўках адлюстравана жыццё і вучоба нашай слаўнай Чырвонай арміі, праца і адпачынак у калгасе.

## ВЕЧАР КІРГІЗСКАЙ ПАЭЗІІ

Праўленне саюза совецкіх пісьменнікаў, Дом совецкага пісьменніка і „Дзяржлітвыдат" наладзілі 2-га снежня вечар кіргізскай паэзіі. Гэты вечар ператварыўся ў гарачую братэрскую сустрэчу абраннікаў кіргізскага, таджыкскага і узбекскага народаў—дэлегатаў надзвычайнага VIII Усесаюзнага з'езда Советаў, а таксама кіргізскіх паэтаў і артыстаў з пісьменніцкай грамадскасцю Масквы.

На вечары прысутнічалі сакратар ЦК КП(б) Узбекістана тав **Ікрамаў**, старшыня СНК Казахскай АССР тав. **Ісаеў**. Разам з імі былі абраны ў прэзідыум сакратар Саюза совецкіх пісьменнікаў **Лахуці**, народныя паэты Беларусі **Янка Купала, Якуб Колас**, госць СССР балгарскі пісьменнік **Людміл Стаянаў, Вс. Вішнеўскі, А. Даўжэнко** і інш.

З прывітальнай прамовай на вечары выступіў тав. Лахуці.

Старшыня саюза савецкіх пісьменнікаў Кіргізіі **Алы Токамбаеў** з вялікім уздымам прачытаў сваю паэму „Сталін“, пераклады яго яркіх вершаў прачыталі Азербайджанскі паэт—ордэнаносец **Самед Вургун** і заслужаная артыстка РСФСР **Е. Н. Голева**. Цёпла быў сустрэты малады кіргізскі паэт **Толен Шамшыеў** і заслужаны артыст Кіргізскай АССР **Баталіеў**, які выканаў вакальныя ўрыўкі з кіргізскіх п'ес.

## ПАДРЫХТОЎКА ДА ПУШКІНСКІХ ДЗЁН

○ **Выстаўку твораў А. С. Пушкіна** арганізавала барысаўская бібліятэка. Задача выстаўкі—папулярызацыя творчасці вялікага рускага паэта. Бібліятэкай зроблен альбом газетных выразак пра Пушкіна; у альбоме заметкі Максіма Горкага да лекцыі „Пра Пушкіна“, нарыс Верасаева „жыццё Пушкіна“ і інш.

У першы дзень работы выстаўкі 6 чытачоў бібліятэкі ўзялі для чытання творы А. С. Пушкіна.

○ **Пушкінская выстаўка** адкрываецца ў Менскай Дзяржаўнай бібліятэцы імя Леніна ў палове студзеня 1937 года. Матэрыялы для выстаўкі атрыманы ад усесаюзнай пушкінскай выстаўкі.

Адзін аддзел выстаўкі прысвечаны Пушкіну, як творцу рускай літаратурнай мовы, пачынальніку новай рускай літаратуры. У другім аддзеле, пад назвай „Лёс мастацкай спадчыны паэта“ будуць паказаны дакументы пра ўплыў Пушкіна на творчасць паэтаў і пісьменнікаў СССР, пра вялікую любоў да свайго геніяльнага паэта ўсіх працоўных нашай краіны.

У аддзеле „Пушкін—вялікі паэт народаў СССР“ бібліятэкай сабрана шмат літаратуры пра творчасць і жыццё Пушкіна, яго творы на ўсіх мовах народаў Савецкага Саюза, яго творы ў перакладзе на беларускую, яўрэйскую, польскую, літоўскую і інш. мовы.

○ **Пушкін у Грузіі.** Пушкінская юбілейная камісія Акадэміі Навук СССР зацвердзіла план выдання зборніка „Пушкін у Грузіі“, пададзены на ўхваленне грузінскім філіялам Акадэміі.

Камісія прызнала неабходным уключыць у зборнік артыкулы пушкінаведаў, якія тычацца перыяду пражывання А. С. Пушкіна на Каўказе. Зборнік будзе выдадзены на рускай мове ў Маскве і на грузінскай у Тбілісі.

○ **Зборнік пра творчасць А. С. Пушкіна.** Смаленскі педагагічны інстытут імя Карла Маркса рыхтуе да друку зборнік пра творчасць вялікага рускага паэта А. С. Пушкіна. У зборнік увойдуць артыкулы прафесара літаратуры тав. **Собалева** аб пушкінскіх перакладах сербскіх песень і прафесара тав. **Чысцякова** „як чытаць Пушкіна“. Будуць таксама змешчаны артыкулы дацэнтаў тт. Сагарэва, Смоліна, Сарокіна і Фёдарава.

Зборнік выйдзе да стогадовага юбілея з дня смерці Пушкіна.

○ **Падрыхтоўка да пушкінскіх дзён у Казахстане.** Союз савецкіх пісьменнікаў Казахстана дзейна рыхтуецца да стагоддзя з дня смерці вялікага рускага паэта А. С. Пушкіна.

Зараз праводзіцца вялікая работа па складанню другога тома твораў А. С. Пушкіна на казахскай мове. Апрача „Еўгенія Онегіна“ (пераклады Ільяса Джансугурава і Абая) у гэты том будуць уключаны творы паэта: „Капітанская дачка“, „Дуброўскі“ (пераклад Тайчынава) і інш.

Апрача перакладаў казахскія паэты пішуць свае творы, прысвечаныя вялікаму паэту.

## КНІЖНЫЯ НАВІНЫ

○ **Тарас Шэўчэнка на грузінскай мове.** Сахелгамі рыхтуе да выдання зборнік твораў вялікага украінскага паэта Тараса Шэўчэнкі ў перакладзе грузінскіх паэтаў **С. Чыковані, П. Яшвілі, К. Чычынадзе, В. Гапрындашвілі, К. Лордкіпанідзе, К. Каладзе** і інш.

У зборніку будуць змешчаны артыкулы: **С. Чыкавані**—„Паэзія Шэўчэнкі на грузінскай мове“, украінскага пісьменніка **Хвылі**—„Творчасць Тараса Шэўчэнкі“ і бібліяграфія пра Тараса Шэўчэнку ў перакладзе на грузінскую мову **І. Грышашвілі.**

○ **Грузінскія пісьменнікі пра Беларусь.** Вясной 1935 г. брыгада грузінскіх пісьменнікаў на працягу 3-х месяцаў была ў творчай камандыроўцы ў БССР. Пісьменнікі падрабязна азнаёміліся з культурай і эканомікай братэрскай рэспублікі, наведалі асноўныя прамысловыя і гаспадарчыя раёны, вывучалі гісторыю беларускай літаратуры.

Брыгадай грузінскіх пісьменнікаў у выніку гэтай паездкі напісаны апавяданні, вершы і нарысы, якія паказваюць мінулае і сучаснае Савецкай Беларусі. Усе гэтыя творы ўвайшлі ў кнігу пра БССР, якая хутка будзе выдадзена на грузінскай мове Дзяржаўным выдавецтвам Гру-

зii. Потым гэтая кніга будза перакладзена на рускую і беларускую мовы.

○ **Паэма Н. Асеева пра Маякоўскага.** Нікалай Асееў у Маскоўскім Доме друку прачытаў сваю новую паэму „Маякоўскі пачынаецца". Гэта — паэтычная аповесць, якая апавядае пра жыццё і паэтычную дзейнасць лепшага, таленавіцейшага паэта совецкай эпохі. Сем раздзелаў аповесці, прачытаныя Н. Асеевым, былі ўхвальна сустрэты аўдыторыяй.

○ **Творы А. Н. Астроўскага.** Дзяржлітвыдат выпусціў кнігу выбраных твораў выдатнага рускага драматурга А. Н. Астроўскага. У кнігу ўвайшлі п'есы „Граза", „Лес", „Ваўкі і авечкі", „Беспасажніца" і інш.

○ **„Віцязь у тыгравай скуры" на украінскай мове.** Украінскі пісьменнік Нікалай Бажан нядаўна скончыў пераклад паэмы вялікага грузінскага паэта Шота Руставелі „Віцязь у тыгравай скуры". Чатыры тысячы радкоў пераклада здадзены ў друк. Упяршыню на украінскай мове загучаць словы вялікаснай паэмы, якую вось ужо больш як семсот год з захапленнем чытае ўвесь Усход.

○ **Другі том збору твораў (чатырохтомнага) В. Маякоўскага** выпусціў Дзяржлітвыдат. У кнізе — вершы і паэмы 1921—1925 г. г. Дзяржлітвыдат выпускае кнігу вядомага рамана Н. Ляшко „Салодкая катарга" — „Крушэнне салодкай катаргі".

## ЧАТЫРЫ МІЛЬЁНЫ КНІГ НЕКРАСАВА

Чыноўнікі царскай Расіі добра ўлічвалі рэволюцыйнае значэнне паэзіі Н. А. Некрасава і прымалі ўсе захады, каб яго творчасць не трапляла ў шырокія народныя масы. Пра гэта сведчаць дарэвалюцыйныя тыражы твораў Некрасава. Да рэволюцыі за восем год было выпушчана толькі чатыры выданні тыражом у 45 тысяч экземпляраў.

Толькі пасля Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі творчасць Некрасава, як і ўсіх рускіх класікаў, зрабілася даступнай для шырокіх народных мас Совецкага Саюза. З 1917 да 1935 года выдадзена 94 назвы твораў паэта тыражом у 3 мільёны 683 тысячы. За 1936 год выпушчана 7 выданняў тыражом у 290 тысяч. Апрача таго шэраг выданняў знаходзіцца ў друку. На мовах народаў СССР за гэтыя гады вышла 10я выданняў.

## ЗБОРНІК ПРА Н. Я. МАРРА

У адзнаку другой гадавіны з дня смерці акадэміка Н. Я. Марра (19-га снежня) Акадэмія навук выдае два вялікія зборнікі, якія асвятляюць навукова-лінгвістычныя праблемы, над якімі працаваў нябожчык-вучоны. Вялікі, больш за 50 друкаваных аркушаў, зборнік складаецца з артыкулаў 50 аўтароў—акадэмікаў; **І. І. Мешчанінава, А. Н. Самайловіча, Ю. М. Ляпунова** і інш.

Рознастайныя навуковыя пытанні, якія асвятляюцца ў зборніку, сведчаць пра незвычайную шырыню навуковага інтарэсу Марра—лінгвіста, літаратуразнаўцы, фальклярыста, гісторыка, археолога.

## ТВОРЫ А. М. ГОРКАГА НА ЛІТОЎСКАЙ МОВЕ

На літоўскай мове выдадзена ў Каўнасе кніга М. Горкага „Мае універсітэты". Пераклад зроблены пісьменнікам Антанасам Венцловы. Перакладзены таксама раман „Маці" (пераклад М. Монтвіла) і „Казкі пра Італію" (пераклад П. Байчунаса).

## ІСПАНСКАЯ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА

Дзяржлітвыдат выпускае рад твораў іспанскай мастацкай літаратуры. У першую чаргу выйдзе кніга нарысаў Вальдэса—„Астурыя". Пасля будуць выдадзены: раман Арконда „Падзел зямлі", новы раман Рамона Сендэра—„Містэр Уітт у Кантоне" (з часоў паўстання 1873 года) і рад класічных твораў іспанскай літаратуры („Залаты фантан" Перэса Вальдэса і інш.).

## УСЕСАЮЗНАЯ НАРАДА ПА ДЗІЦЯЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ

У ЦК ВЛКСМ з 27 па 30 снежня адбылася другая ўсесаюзная нарада па дзіцячай літаратуры. У нарадзе прымалі ўдзел 105 пісьменнікаў.

Нарада абмеркавала вынікі работы Дзіцячага выдавецтва за 1936 год, план працы на 1937 год і заслухала даклад намесніка наркамасветы тав. Воліна аб новым рэкамендацыйным спісе кніг для дзіцячых бібліятэк.

## ПЕРШЫ З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ І АШУГАЎ АДЫГЕІ

У Майкопе адбыўся першы з'езд пісьменнікаў і ашугаў Адыгейскай вобласці. На з'ездзе прысутнічала 130 дэлегатаў.

У сваіх выступленнях па дакладах аб нацыянальнай культуры, літаратуры і паэзіі дэлегаты адзначылі вялізныя магчымасці, якія дала новая сталінская Канстытуцыя для далейшага росквіту адыгейскай культуры.

На заключным паседжанні з'езд зацвердліў склад праўлення адыгейскага аддзялення саюза савецкіх пісьменнікаў.

## ЛІОН ФЕЙХТВАНГЕР У МАСКВЕ

1 снежня ў Маскву прыехаў вядомы нямецкі антыфашысцкі пісьменнік Ліон Фейхтвангер, аўтар папулярных у нашай краіне раманаў „Яўрэй Зюс", „Поспех" і „Сям'я Опенгейм".






АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *А. Александровіч, Я. Бранштэйн, М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 68. Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

# ЗМЕСТ

